# Змест

**ПЕРАКЛАДЫ**



**КРЫТЫКА ПУБЛІЦЫСТЫКА ЭСЭ**

# ВЕРАСЕНЬ
# ПАЭЗІЯ

ната драздова янка каліноўскі
кацярына глухоўская анхела эспіноса руіс
марына ількевіч уладзімір шыпіла
лізавета дамініка панамарова
алесь мацулевіч дар’я дарошка
васіль дэбіш мікола ляшчун



# Ната Драздова

паэтка. Вучаніца 11 класа Магілёўскага дзяржаўнага ліцэя № 3. Сябра літаратурнага клуба «Святліца». Друкавалася ў газетах «Веснік Магілёва» і «Вечерний Могилев». Нарадзілася ў 2003 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Попел ад вогнішча

***

Я ніколі не ведаў, ці прыйдзе вясна,
ці зробяць мне падарунак,
каб перажыць халодную зіму.
Але заўсёды чакаў і баяўся:
а раптам калі-небудзь
не прачнуся пасля яе?

Кожны шукае месца, снежную гурбу,
каб схаваць сваё сэрца,
хаця б яго маленькую частачку.
Мне шкада свайго сэрца.
Для мяне зіма — гэта магіла маіх думак...
Прэч з маёй галавы! Прэч!

***

Мой адзіны абавязак —
быць чалавекам.
Калі сум агорне душу —
трэба ўсміхнуцца і крочыць далей.
Калі вецер надломіць крылы —
склеіць іх празрыстай стужкай,
каб ніхто не ўбачыў.
А калі ўбачыць — то скажа:
— Хто ж такі гэты чалавек,
і з якога каменю ён зроблены?

***

За марамі сочыць толькі маўчанне,
нібы насміхаецца.
Засынай, маё мілае вогнішча,
мы пакінем толькі попел, калі прачнемся.
А пакуль — памаўчым,
бо хутка нас разбудзяць.



# Янка Каліноўскі

(Яна Нікіфарава) паэтка. Выпускніца Мінскай гімназіі № 1. Аўтар паэтычнага зборніка «Падслуханае сценамі шматпавярховак». Друкавалася ў часопісе «Маладосць» і тыднёвіку «ЛіМ». Лаўрэат літаратурнай прэміі «Залатая літара» (2018 г.). Нарадзілася ў 2002 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Дотык да сэрца

***

Начныя гутаркі:
словы прамаўляюцца шэптам.
Іх чуюць не вушы —
шэпт-ледзь адчувальны
дотык да сэрца.
Твая далонь дакранецца
ціхім «Дабранач»
да сонных плеч,
я адгукнуся
толькі подыхам.
Шэпт-ветрык,
што растрапаў
непаслухмяныя валасы;
ты такі чароўны
з ускудлачанымі...
Усё цішэй галасы —
баімся
          спалохаць
                    ноч.

## Паэзія — сон?

«Стань адметным паэтам
каб спаць, колькі заўгодна»(с)
Калі-небудзь я стану
і буду спаць
...ніколі.
Я напоўнюся болем
за ўсіх;
«сціх» — дзеяслоў,
Верш — адсутнасць сну.
Лыжку кавы не адну
і не дзве буду класці ў кубак,
ноччу
буду крочыць
па вершах,
як па разбітым шкле,

па рассыпанай каве;
і словы падбіраць —
не каб паяскравей,
а каб пранізліва,
як пяць лыжак кавы...
Калі-небудзь
я сыграю ролю
паэта,
я буду спаць
ніколі.

***

шэпт асфальту і бетонныя лесвіцы,
халоднае сонца над сцішаным горадам.
дзве пальчаткі — кепскі ратунак ад холаду,
калі яны на дваіх.
за штрыхам штрых
вымалёўваюцца шэрыя офісы
пад запыленым небам.
мы бесклапотна грэбуем
справамі, часам і голадам —
сёння мы насычаемся горадам,
мы слухаем шэпт асфальту
у адказ на нашыя крокі:
нетаропкая гутарка з Менскам.
сонечна-шэры шпацыр утраіх
(калі трэці — не перашкода):
ты,
я
і горад...
не знайшлося трэцяй пальчаткі.

***

Адзінота —
гэта гутарка з Кёртысам
як адзінае невядомае pleasure.
Адзінота згушчае і рэжа
паветра ў тваім пакоі,
яна апранае маску спакою
і напаўняе цябе трывогай;

адзінота сцеліць падлогу
пылам, як чырвонай дарожкай,
і паважна ходзіць па ім — акторка —
дэкламуючы Бадлера і Гарсіа Лорку.
Яна добра гуляе сяброўку,
а сама выводзіць на пыле:
«Чалавек памножыць на думкі
роўна гарбаце розных гатункаў
і блытанай гутарцы з Кёр
ты
сам»...
...дазволіў знаёмаму тэмбру
цябе паглынуць.
Позірк у цемру,
а ў ім — каламуць.

***

*Імправізацыя на тэму «Байцоўскага клуба»*

песня ператворыцца ў крык
вада ператворыцца ў Крык
(адзіна магчымае цуда сучаснасці)
падарвецца твая ўласнасць
падарвецца светаўспрыманне
і імгненне станецца дасканалым
тайлер дэрдэн па ўсіх каналах
тваёй свядомасці, што прагне вэрхалу
прагне першабытнай распусты
а боль
усё адно не адпусціць
прымусіць швэндацца па алкагольным
аддзеле
абіраючы таннае піва
сонца згасае занадта імкліва
ты паміраеш занадта павольна
(трэба паскорыць непазбежны працэс)
няма веры ў прагрэс
ёсць любоў, надзея і вера
(на халеру іх)
збітыя бязглуздыя словы
тайлер дэрдэн прыдумаў новае

прыдумаў імгненне без надзеі
на будучыню
тут і цяпер
я — звер
пачвара без намёку на сэрца
частка цела
ўсемагутнага тайлера
бязглузда смелы
ў імгненне
калі спеў сарвецца на крык
калі вадаператворыцца ў Крык
калі тайлер дэрдэн стрэліць у скронь
згіне ў прорве, патоне
і нарэшце ў сутонні
цябе не стане
і іншы ты сустрэнеш світанне
часткай цела непахіснага тайлера.

***

i'm Jim Morrison and i'm dead.
я ламаю хрыбет,
падаючы з Парнаса;
цяпер я сам-насам
з брудам і бензінам у лужынах.
я разгублены,
я раз'юшаны,
я збіраю сябе па кавалках
і станаўлюся вершам;
мяне паглынае the end —
я — Джым Морысан,
*меня нет*
*I'm dead*
я бачу свет
у бензінавай лужыне,
і гэты свет мне служыць.
я ў ім адзін
*/a stranger/*
і нават здымаючы грым,
я Джым
Морысан
і я памёр.



# Кацярына Глухоўская

паэтка, празаік. Закончыла аддзяленне медыцынскай псіхалогіі БДУ. Аўтар паэтычнага зборніка «Калі дрэвы растуць з галавы». Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Татэмны шэпт

## Музыка

Ува сне ў гэту ноч бог буслоў за мной
Прылятаў, клекатаў над калыскай войн,
Шкадаваў і хацеў нарадзіць назад.
Я сказала: «Не варта, адзіны ляд:
Тая самая варта, той самы плот,
Гэтаксама між прыцемкаў ёсць святло.
Толькі тут застаецца спадзеў на спеў.
Чуеш рытм яго сэрца?» — калі паспееў
Парадніцца з мелодыяй гарадоў,
*Рэ* ракі і дамоў шматактаўным *до*,
*Мі* мілосці, фацэтных фантанаў *фа*,
Салідарнасці *соллю*, твая страфа
Лёгкім *ля* лашчыць неба, сівее ў *сі*.
Павуцінне жыццёвых шляхоў дасі.
Лёс шляхетны не мой, і не ўвысь ляцець.
Толькі птушкамі можна з вачніц глядзець
На лясы і на горы, на цемрашал,
На пыхлівыя зоры, на ўвесь абшар,
На імхі, карані, на слупы ды брук
І на парасткі з крылля юнацкіх рук.

*25.08.2018*

## Гатальскі

Горны каўказскі крышталь і вялікія крабы —
Болей за рукі дзіцячыя — з Чорнага мора,
Пенныя крабы, дзядулева пеннае сэрца.
Стэп, поўны кветак, жытнёвае поле і лапы
Чорнае коткі — завостраным кіпцем угору.
Кіпень у імбрыку. Посвіст, што можна сагрэцца.
Гэта дзяцінства. Мы ўзімку заносім з ім дровы,
Кожнай вясною чакаем на святы і птушак,
Лета жывем паміж морам і бульбай з жукамі,
Восень — лясная, скрыпічная — час папяровы
З кнігамі, сшыткамі, нотамі, смыкам драўляным,
З жоўтым альбомам раслін, гадавым шамаценнем
Лісця, якому адведзены год — і не болей.

Пушча жыцця ды нядолі — шукаю паляну,
Дзе мой дзядуля чакае. Смяротныя цені
Чорных галін не крануць гэта месца ніколі.
Сонца адбітае ў горнай расе з паралюшам —
Крохкай і цвёрда застылай, скаванай праменнем.
З шахматнай дошкай і кіпай красвордаў газетных,
Між крышталёвых прагалін пушчанскае гушчы,
Сеў на прымятай траве, як па скончанай змене,
Паліць цыгарку ці дыхае проста. «Гэй, дзеда!» —
Гэта гукаю між зарасцяў дзікай шыпшыны.
Ці адгукнецца?.. Куванне зязюлі за спінай.

*3.02.2019*

***

Жыццё наскрозь — дзіцячая гульня,
І дым-рака плыве па калідоры
Прароцтвам Дэльфаў: вось ідуць Цюдоры,
Ім цуды дораць мінакі штодня
На двор высокі. Вось Луксора бляск
Ад слепаты саслізгвае, бяздумны,
І пакідае вечнасці мармур.
Вось шэпт татэмны гоніць сон у чум.
І гуны гул пад сценамі сцінаюць.

Жыццё наскрозь — дзіцячая гульня.
Памёрлыя тут не пакінуць дома.
І прамінаюць пухаўкі ад стомы
Галовы іх — наш цяжар унутры.

Жыццё наскрозь — дзіцячая гульня.
І плач, і стогн над выцятым каленам —
Нам больш нішто так моцна не балела.
І з бойкі першай крыўды не разняць.

Жыццё наскрозь, не вырасці далей.
Далечыня нас вабіць па-дзіцячы.
І кліча ключ, хаця ў нас лоб гарачы,
За дзверы выйсці. Не ў школу, так, але
Туды, дзе веды ў дрэвах і палетках,
У кожнай хмары, хвалі, харастве
Няіснага ды існага. Індзейцы
З індусамі сплятаюць нам вянкі.

І на павекі холадам рукі
Вякі кладуцца. А ў вачах мы дзеці —
Цяжэй расплюшчыць і цяжэй прадзерці
На раніцу. Гняздо хавае вецце,
А зрок хавае час
І кон ад нас.

*11.10.2018*

***

Тут ліхтары сплятаюцца ў сузор'і
Ды, пэўна, бачыш злых і неспакойных
Жывёл у пысах велічных машын.
Ты ведаў складнікі атруты Гойі,
Ты б здолеў Трою захапіць без коняў,
Спаконны свет пазбавіўшы мяжы.
А вочы ў вочы нам няма ні слова,
Адна рака змяіцца ў берагі,
Змяняюцца то целы, то прасторы,
Прастуе час ад сэрца да звышновы,
Высновы пазбаўляючы тугі,
Вымаючы ад запаветаў сорам.

## Снамоўца

Няма вялікай розніцы паміж
Маўленнем маляняці на самоце
Ці мовамі анёльскімі ўва сне,
Ці першамовай існасці мелодый.
Падобна да таго, як мае ўсё
На гэтым свеце зорныя часціны
Ад павуціння або багны з цінай
Да гнёздаў рыб і поўні за лісцём
Схаваных дрэў для сэрцаў невідушчых,
Знікае ўсё: ад рук, якія душаць,
Да дотыкаў ласкавых цёплых рук —
І знічак хараство вачэй і веяў,
Распромненых над памяццю завеяў —
Блікучы след для позірку ўгару,
Імгненны шнар на небе ды на целе,
Калі пустэча можа раны мецаь,
Калі яна сама не з ран суцэльна.

*17.07.2018*

***

Хваля да мора коціцца,
Маркоціцца пенай бялюткай.
І лёд растае ў мілосць.
Дзе сонца ў тумане родзіцца,
Таіцца святло ціхутка,
Мы ёсць.
Зямлі разаранай раны — то мы.
Зарана народжаныя звяры, тамы
Песні песень, занатаванай
Нотамі, словамі, колерамі. Нірвана
Старанна аддаленая ад гэтай краіны,
Ад кожнай расінкі на павуцінні, пярліны,
Ад месяцаў-спінаў, занураных над раллёй.
Ад роляў, ласкава дадзеных нам на ёй.
І толькі на глебе аголенай дотык целаў
Стварае такую музыку, такі цэлы
Канцэрт, што не мае завершанасці
Ў вяршынях,
А толькі бясконцасць верша несці
Магчыма —
Нібыта дзіця на шыі,
Як кветкі на галаве.
То сноў лавец
Цябе захапіў за момант да світання.
Танюткія ніткі саткалі дотык-спатканне
І сувязь між скурай і сэрцамі — ад павей.
Адповедзь якую маем, каб быць жывей?

*30.01.2019*

***

Кожную плямку радзімую, кропку мапы
Цела твайго зацалоўвалі пілігрымы —
Вусны дзявочыя. Пальцы кранапі злёгку,
Драпалі кіпцюрамі свае імёны.
Як дакрануцца цяпер да твае святыні?
Дзе будзе месца жывое, не пыл стагоддзяў?
Дзе між мінулага можна цябе пабачыць
Сёння і зараз, без іншых часоў і твараў?
Я абяцаю бяследную пілігрымку,
І не святыням паходню — вандроўку ў бездань,

У невядомае, у несвядомы пошук
Чыстай і дзікай крыніцы жывой вады.
Хвалі крынічныя не дасягаюць Леты,
Летам на вадапой прылятаюць рыбы,
Птушкі плывуць, змеі крочаць, паўзуць звяры,
А чалавек прачынаецца ля вытокаў,
І захлынаецца насмерць адным паветрам,
І ажывае нанова на самым дне.

Там, пад вадой, твае рукі з мяне здымаюць
Памяць і веру, і вопратку ўсіх расстанняў.
Ты разважанні загойваеш так, што шнары
Ціха знікаюць і больш не смыляць уночы,
І не муляюць адкрытыя насцеж вочы.
Можна глядзець і гладзіць, і цалаваць.

Гонім мы лёс, нашы думкі, сумневы, стому
На вадапой да крыніцы ўнутры. Далёка.
Толькі каханне трымае святло, і толькі...
Толькі любоў абумовіла шлях яму.
Што з намі стане? З табой ды са мной, не сёння.
Там, дзе крыніца знікае ў садах шалёных,
Радасцяў, задавальненняў, пацех бясконцых,
Там, дзе мы побач у бездань ляцім і высь,
Там, дзе блакіт выбівае твае калені
І працінае ключыцы мае спакусай,
Кветам валошак, мятлушкамі ды спакоем,
Сотнямі пацалункаў для ўсіх, для ўсіх.

*01.06.2018*

## Поцяг

Колькі можа змясціцца любові
На агаленым крохкім плячы?
Колькі птушак на ліпеньскім полі,
Колькі шнараў, бы кветак ад болю,
І вяснянак, якіх не злічыць.
Стануць пылам самлелыя вусны,
Пацалункаў злятуць матылькі,
Твае пальцы зламаюцца, лусне
Чэрап мой. І не будзе спакусней
Біцца сэрца — зямлі камякі.

Чалавек, апантаны натхненнем,
Аджывае ў люстэрках і снах.
Хараства не становіцца меней,
Не знікае каханне, мацнее,
Як агмень цьмее, быццам бы рак
Запаўняе прасторы і целы,
Не спыняецца плынню ракі.
Ломіць грудзі, каб нешта хацела
Тое ў нас, што становіцца цэлым
З розных светаў праз дотык рукі.
Голас знікне да шэпту ды стогну,
Салаўя зменіць песняй жаўрук.
Тут жыццё падаецца нам догмай,
А адсутнасць яго — гэткім домам,
Дзе ніхто не чакае твой грук...
Подых, пот, юр, туман па-над ярам,
Дзе муралы растуць праз муры,
І маяк на далёкае мары,
Мора пах, водар солю ды гару,
Горад ранішні з дахаў старых.

***

Сны ўвішных вішняў,
Аслеплыя вочы дрэў —
Што яшчэ трэба
Залішняму чалавеку?
Раніца выйшла
І захад калі згарэў,
Чорнае неба
Зарніц адхіне павекі —
Прывідна-белы
Закінуты бачны сад:
Немыя кветкі,
Няма да каго схіліцца.
Сэрца знямела,
Як скура каля ляза —
Б'ецца так рэдка,
Што лепей зусім спыніцца.

Сны дзікіх яблынь
І дотык жывых галін —

Можна прачнуцца,
А можна працягнуць шэсце.
Беднаму д'яблу
Мо, хочацца слова «Сын».
Ведаеш, мкнуцца
Ў шлях тыя, хто мог бы весці.
Рукі, якія трымаюць
Нясмелы плён,
Рукі, якія забралі
Ў палон бяссмерце —
То чалавечае. Гаю
Зямны заслон.
Вернецца сталлю
Ў раллі чорнай слова: «Верце».

***

Пясчаную буру
Вядуць бедуіны.
Сярод іх я бачу цябе:
Ідзеш па пустэльні —
Белая хустка, кучаравыя валасы.
І вочы твае — адзіны луг,
Якога так не хапае.
Няма ў вачах тваіх болю.
Няма яго квету ў пакоі мрой.
За табою
Ідуць бедуіны.
І вусны твае перасохлі да слодычу.
У мёдзе іх — ні кроплі вады.
А ўвечары вы разаб'еце шатры.
І, пакуль яны моляцца,
Пашлі да мяне пчалу.
Хай вуха маё ўва сне
Джаліць каханнем.
Хай кроплі атруты яе
Тлумяць галаву.

*25.07.2018*



# Анхела Эспіноса Руіс

паэтка, перакладчыца. Аўтар паэтычных зборнікаў «Раяль ля мора» (2015 г.), «Pomme de ciel» (2017 г.), «Колер крылаў» (2019 г.), перакладчыца двухмоўнага зборніка выбраных вершаў М. Багдановіча на іспанскую мову «Згукі маёй бацькаўшчыны / Ecos de mi tierra» (2017 г.). Фіналістка конкурсу «Экслібрыс» імя Р. Барадуліна (2015), прэміі «Дэбют» імя М. Багдановіча (2016 г.). Лаўрэатка Конкурсу сучаснай паэзіі фонду Роберта Боша (2017 г.), Міжнароднага конкурсу маладых літаратараў «Першацвет» (2019 г.), прэміі імя М. Стральцова (2019 г.). Нарадзілася ў 1993 годзе ў Малазе (Іспанія). Жыве ў Мадрыдзе.

# Душы дзьмухавец

***

Толькі ты:
Больш нікога няма (й не было),
Даўні боль, паўзабыты мой грэх,
Што пастукаў у шыбы, як леташні снег,
Толькі ты — і світання святло.
Падалося, прайшло,
Але зноў,
Толькі ты:
Толькі цемра, маўчанне, любоў,
Як трава з-пад асфальту,
Як дым залаты,
Гэта ты — толькі ты — ты прыйшоў!
Сэрца шэпча мне ў вушка,
Ратуй — толькі ты,
Успамін пад падушкай, як сон.
Толькі ты, сіні вецер мінулай вясны.
Пралятае душа дзьмухаўцом.
Толькі ты
Сярод шэрых, прыгнечаных мас.
Толькі ты, тваё слова — люблю.
Ты вярнуўся, хоць зоркі былі супраць нас:
Твае вусны цалуюць зямлю.
Толькі ты:
Ты пяшчота,
Дарога,
Туман,
Я хачу цалаваць твае ногі,
Толькі ты:
Ты самота,
Паветра,
Турма,
Дзе ты быў? Я спытаюся ў Бога.
Толькі ты:
Ты мой вырай,
Мой край,
І цяпло,

Не ўцякай, не пужайся, мой мілы...
Толькі ты:
Больш нікога няма (й не было),
Толькі ты й твае белыя крылы.

***

Я хачу напісаць табе верш пра любоў...
Напісаць
Хоць слупок,
Хоць радочак.
Я хачу напісаць тваю зімнюю ноч,
У старонках
Тваіх
Пераночыць.
Я хачу напісаць твой палёт да нябёс,
Дзьмухаўцом
Навагодняй
Душы.
Я хачу напісаць сабе дом — цэлы дом,
Дзе жывуць
Толькі птушкі,
І ты.
Я хачу напісаць для цябе каляндар:
Напісаць
Твае крокі
І дні.
Я хачу напісаць табе верш — ды без слоў:
Толькі рэха
Святой
Цішыні.
Я хачу напісаць табе неба й зямлю:
Першабытны,
Магічны
Твой свет.
Я хачу напісаць табе грэх і жыццё:
Занядбаны,
Стары
Запавет.
Я хачу напісаць табе зоркамі верш:
Слова ў слова

Святлом
Уздымаць.
Я хачу напісаць пацалунак табе,
Хачу рыфмай
Цябе
Пакахаць.
Я хачу напісаць табе верш пра любоў,
Маляваць
Сваёй думкай
У сне.
Але страчаным часам,
Пяском,
Ты цячэш.
Я хачу напісаць табе верш...

***

Ніхто не заўважыў, а раптам вясна
Адкрыла ўсе кветкі міндаля.
У белі пялёсткаў сядзела яна,
Міндаль калыхаў мройнай хваляй.

Ніхто не заўважыў, квітнеў і міндаль,
І сны, летуценні ды мары,
Лагодна дзьмуў вецер у ціхую даль,
Знікалі ўспаміны пра хмары.

Ніхто не заўважыў, а ластаўкі зноў
Накрылі нябёсы цямнотай,
Паўсюль панавалі прырода й любоў:
Ніхто не заўважыў самоты.

Ніхто не заўважыў, а зранку прыйшла,
На свеце настала надзея.
Між кветак міндаля хадзіла адна,
Маленькая, добрая фея.

Ніхто не заўважыў — яе не было,
Яе засмучала пагода.
Са спіны няўзнак вырастала крыло:
Крылатыя прагнуць прыгодаў.

Ніхто не заўважыў — трымалася ледзь,
Душа пакідала ўжо цела.
З самога маленства хацела ўзляцець...
І ўзляцела.

***

Прывыкаю любіць у маўчанні, міжволі, здалёку,
Абмінаю знарок ажно ў слоўніку слова "каханне",
Хоць і не вымаўляла, відаць, усё на відавоку:
Прывыкаю любіць у блуканні.

Прывыкаю любіць я здалёк, у маўчанні, міжволі,
Пачынаю глядзець толькі ўдол, забываць твае вочы,
Прывыкаю да слёзаў, да нерваў, да лёсу й нядолі,
Прывыкаю любіць толькі ноччу.

Прывыкаю міжволі любіць, і здалёк, у маўчанні,
Вінавачу сябе ў шкляных келіхах болю й віна,
Прывыкаю ўсміхацца, хлусіць "усё добра" ў растанні,
Выпіваць свае думкі да дна.

Прывыкаю любіць у маўчанні, міжволі, здалёку,
Прывыкаю прыкідвацца шчодрай, жывою між мрояў,
А дарога праводзіць мяне да апошняга кроку:
Прывыкаю сябе ратаваць без лірычных герояў.

***

Ці помніш, як хадзілі мы з табою,
Рука ў руцэ, прыдуманым сусветам?
Ці помніш, як цякла любоў ракою,
Вечнаблакітным, мімалётным летам?

Ці помніш ты, як лёгка пакахалі?
Ці помніш ты і ласку й цеплыню?
Ці помніш ты? Мы не глядзелі далей,
Спявалі гімны вечнасці й агню.

Цяпер баляць абдымкі, словы, думкі,
Баляць і сны, і слёзы пад падушкай.
Ці помніш ты жывыя пацалункі?
Ці помніш ты, як лёталі, бы птушкі?

Ці помніш ты мяне? А я знікаю,
Раблюся я нябачнай цішынёй,
Раблюся я прызнаннем — не кахаю,
Раблюся позняй, шэраю вясной.

Я не забыла — не магу, не ўмею,
І ты ўзгадай салодкую турму...
Не забірай апошнюю надзею,
Пакліч мяне, чакай — і я прыйду.



# Марына Ількевіч

паэтка. Скончыла Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Нарадзілася ў 1991 годзе ў вёсцы Шылавічы на Вілейшчыне. Жыве ў Вілейцы.

# Што такое Радзіма?..

## Краіна белых хмараў

Краіна ніў і белых хмараў,
Блакітных рэчак і азёр,
Дрымотных восеньскіх туманаў
І срэбразорных вечароў.
Маёй калыскаю ты стала,
Заўжды была паўсюль са мной,
Пяшчотным ветрыкам люляла,
Спявала пошумам дуброў.
Твой дзіўны водар я адчула
З глытком паветра немаўлём,
І колькі б часу не мінула
Жытнёвы помню пах палёў.
З табой душою акрылёнай
Да дзён апошніх застануся...
Дзе б ні была я, аніколі
Сваёй Радзімы не зракуся...

## Вясновым ранкам

На небасхіле гаснуць зоркі,
І гасне ў соннай вышыні
Адбітак месячыка тонкі
Сярод світальнай цішыні.

Знікае ноч у лесе золкім
між дрэў, як прывідаў сівых,
І рассыпае росаў кроплі
Туман на травах маладых...

А дзесь у небе песню звонка
Спяваюць хорам жураўлі
І абуджаюць нетаропка
Лугі, дубровы і палі.

Пачуе спеў іх гожы сонца,
Кранецца промнямі зямлі,
І заўсміхаецца пяшчотна
яна вясновай цеплыні.

## Душа застаецца...

Душа застаецца
у месцах,
Дзе вочы раскрыў немаўлём,
Дзе слухаў матуліны песні
І вусцішны крык жураўлёў.
Душа застаецца
у месцах,
Дзе дахі бацькоўскіх хацін,
Дзе золак ласкавым праменнем
у родныя вокны свяціў...
Душа застаецца
у месцах,
Дзе казкі бабуль і дзядоў,
Дзе сонца з нябёс напрадвесні
Нырае ў блакіт ручаёў.
Душа застаецца...
у месцах,
Дзе трапіў у першы палон
Кахання свайго летуценнага,
Як казачны ранішні сон.
Душа застаецца
у месцах,
Дзе шчасце спазнала яна.
Душа застаецца
у месцах,
Дзе здрада і страта была...
Душа застаецца
заўсёды
З людзьмі, што былі каля нас,
З каханымі нашымі, роднымі
На ўвесь ёй адпушчаны час...

## Што такое Радзіма?

Што такое Радзіма?
Гэта пах верасоў
Між дубраваў цяністых
І бясконцых лясоў.
Гэта мора блакіту
Над палеткамі льноў,

Хараство аксаміту
Жоўтых ніў і палёў.
Што такое Радзіма?
Гэта крык жураўлёў
У бялёсым тумане
Задуменных палёў.
Гэта ціхая песня,
Што ліецца без слоў,
Нібы клёкату пошчак
Белакрылых буслоў.
Што такое Радзіма?
Гэта квецень садоў
І дураслівы вецер
веснавых вечароў,
Гэта шэрыя хмаркі
Па-над жоўтым жнівом
і старыя фальваркі
З даўніны хараством,
Гэта нашы ўспаміны,
Што скрозь повязь часоў
Вернуць нас да Радзімы
З самых розных шляхоў...



# Уладзімір Шыпіла

паэт, палеаантраполаг. Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў», «Литературный объектИФФ», «Справа». Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Наваполацку. Жыве ў Мінску.

# Антрэ

## Не прагматычны

Сцежкай начной серабрыстай па целе
Доўжыцца-ўецца самоты навэла.
Вольны з адценнямі новых світанняў
Колер вачэй, бы пярлінкі міндалю.

Ранішніх вуліц, даўгіх, скрыжаванні,
Аранжыроўкі машыннага «грання».
Мы, бы з каменнай цяпліцы расліны,
Што карнявішчам звязаны адзіным.

У адмаўленні далейшых раскладаў,
Быць не жадаем слухмянай прыладай.
Сеціва слэнгу — куток суцяшальны,
Як караваны бясконцыя жальбы.

Доўжацца рэкі твайго вершавання,
Нібы люстэркі, што далей... чаканне?
Зноў забыццё у пакоі замкнёным
У хараство безнадзейна ўлюблёным.

Мэта пазбегне штодзённых рэалій,
Бо яны далей глядзець не пушчалі...
Сэрца агорнецца, бы аксамітам,
Марамі ўсіх гераінь знакамітых.

*Кастрычнік, 2013*

## Антрэ

**І**

Разгарнулася завеса!
Чарадою лебядзінай
Пачыналася імпрэза,
Нібы казачнае дзіва.

І пяшчотай ледзь прыкметнай,
Мілавідныя танцоркі
Выраслі, быццам кветкі,
Ці бязмоўнае сузор'е.

Калыхаліся бутоны
На бялюткіх тонкіх станах.
Так аблічча бездакорна
З мілатой было саткана.

Вусны — спелыя суніцы
І суквецці іх усмешак
Так прыцягвалі скарыцца
Пачуццю, як сон, бязмежным.

Угару сцяблінкі-рукі
Стромка ўзнесліся ў фінале,
І ў паветры пацалункі
Расплыліся ў змроку залы.

**II**
Паважным крокам ганарлівых птушак,
Дасяжных толькі для адных вачэй,
Стан лебядзіны позіркі узрушыў,
Раптоўна злева стала гарачэй.

Ад кончыкаў пуантаў і да вуснаў,
Сыходзіў бляск праз строяў аксаміт,
Нібы суквеццем вытанчаных густаў,
Падкрэсліваў ён танцавальны спрыт.

Настрой з аблiччам зліўся непаўторна,
І мармур цел, што на вачах ажыў,
З'явіў у танцы зменлівасць узораў
І грацыю, і ўскрылены парыў .

Убранне трапяткое, як калоссе, —
Феерыя, жаноцкасці акцэнт.
А сэрца ад танцорак у аблозе,
У кожнай погляд — быццам дыямент.

У лёгкіх строях — да сэрцакружэння —
Міналіся хвіліны мілаты.
У воплесках, бы ў возеры вячэрнім,
Купаўся рой красуняў маладых...

### III

Суцішыліся пляскання далоняў,
Змяніліся абрысы дэкарацый.
І постаццю асветленай, чароўнай
Танцорка вынікла князёўнаю з палаца.

Прыбраная ў празрыстую тканіну,
Што хвалямі у танцы трапятала,
У рухах куртуазных ды імклівых
Саму Красу сусвету выяўляла...

На вытанчаным яснавокім твары
Ні жарсці не было, ні спакушэння.
Іскрынкі ледзьве заўважальнай мары —
Скарыць замілаваннем спусташэнне.

Няспешна паварочвалася злёгку,
Бы да сябе паветра прыціскала.
Здавалася, душа у целе крохкім
Не вытрымае позіркаў навалу.

Змагаліся ўвесь час святло і цені
На формах цела, слаба прыхаваных,
Падкрэсленых карункамі адзення,
У глыбіні сцэнічнага туману.

Мужчынскай постаці раптоўнае з'яўленне —
Дзявочы стан ў абдымках грацыёзных,
Нібы таемны момант нараджэння
Кахання з рухаў велічна-узнёслых.

*Красавік-травень, 2017*

## Variety

Пранесліся імкліва танцаўніцы
Імпэтна, з несхаванаю блазнотай,
як бура з навальнічнай бліскавіцай
І парасткамі выспелай пяшчоты.

Між целамі і строямі кантрасты —
Адкрытыя празрыстыя тунікі,

Што мелі выгляд палымяна-жарсны
З падтэкстава-спакуслівым разлікам...

А валасы, схаваныя уборам...
Стылізаваны шлем легіянера
Падкрэсліваў адметнасці дэкору
І спалучаўся з целам неймаверна.

Высокія антычныя сандалі,
Аздобленыя залацістай стужкай,
Так вытанчана ногі аплята́лі
Зіхоткімі арнаментамі дужак.

Два шэрагі танцоркі утварылі,
А у руках іх ружы пунсавелі.
І кветкамі, і дзеяннем імклівым
Пра шмат чаго сказаць яны хацелі...

Праз калідор пяшчоты і натхнення
Ішоў хлапец, ступаў замілавана,
Ля дзеўчын прыпыняўся на імгненне
І ўдар шыпом у сэрца нечакана

Атрымліваў ад кожнай танцаўніцы
З двух шэрагаў бязлітасна-няўмольных.
А хараство, нібыта бліскавіца,
Так моцна сэрца працінала болем.

Ён вытрымана шэрагі пракрочыў,
Тырчалі з ранаў ружы, нібы стрэлы,
І ўпаў, забіты помстаю дзявочай,
Нібы Каханню помнік скамянелы...



# Лізавета Дамініка Панамарова

паэтка, музыка. Друкавалася ў часопісах «Верасень» і «Дзеяслоў». Нарадзілася ў 1988 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Травеньская завея

## Як я цябе пазнаю?

А як я цябе пазнаю
на тым свеце,
пасля смерці?

Давай можа я зайграю,
як зоры свецяць,
як гудзе вецер...

А ты зазвані званамі,
калі той вецер
сарве квецень.

І мы ізноў станем намі
пасля смерці
на тым свеце.

Ці можа лепш ты пажартуеш
пра такое нешта,
каб стала смешна?

Мой смех ты адразу пачуеш,
такі свежы,
як дзень снежны.

Як жа баюся згубіцца
за тым кардонам —
апошнім звонам.

Ты пакладзі са мной спеўнік,
Мой самы лепшы.
Калі ты сыдзеш
не першы.

***

Ты, як цень, шкляны або кардонны
Можна глянуць «скрозь» і глянуць «на»

Ты без напаўнення, быццам сонны,
Ты пусты, але не маеш дна.
Так празрысты або прыхаваны?
Плоскі шчыт, захова ад бяды?
Або паўната? Ты хто, каханы?
За цябе магу я заступіць,
Ад штодзённай марнасці схавацца,
Або увайсці, нырнуць, паплыць,
Вывучаць, здзіўляцца, паляпшацца?
Ці то галаграма «на і скрозь»,
Ці то цэлы свет мне на спазнанне?
Забірай жа маю маладосць
За адказ на гэтае пытанне.

***

Я вырашыла нырнуць да самага дна.
Я доўга ўсміхалася, патанала.
Аднойчы я праплачу давідна,
Прамовіўшы «нарэшце адшукала».

Ах вось ты, чорнабездань-глыбіня!
Прымай маю засмучаную сутнасць.
Я застануся ля твайго агня,
Мне трэба назапасіць, адпакутваць.

Мне трэба набрыняць тваім нутром,
Каб з сэрца майго адышла надзея,
Каб самым найглыбокім чорным дном
Мне сталася ў травені завея.

Я тут, каб адзіноту адшукаць
У багне слоў пустых і абяцанняў.
І адшукаўшы, лягу паміраць
У парасткі нясмелых пачынанняў.

## Плён

Я недзе ў глыбінях сябе адшукала
Да паху трускалак прыпала
Міжволі мой розум забраў ён

Я ў марыве гэтым даўно прабываю
Я ў ім прачынаюся і засынаю
Квіток на цягнік — сон
І я вызначаюся ў гэтым прагненні
Яно адкрывае мяне ў дачыненні,
Што з гэтага можа быць плён.




# Алесь Мацулевіч

**паэт. Скончыў Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.С. Пушкіна. Друкаваўся ў «Лідскай газеце» і «Верасні». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Лідзе. Жыве ў Лідзе.**

# А ў нашай памяці — жыве...

## Акопы ў Лужках

*У паўднёва-заходняй частцы Лідскага раёна, паміж вёскамі Восава і Лазяны, ёсць месца, якое з часоў вайны 1812 года называюць Акопамі...*

Закруціўшы доўгі вус
(крокі можна мерацъ ім),
трактам наступаў француз
Жалудоцка-Беліцкім.

Пыл дзясяткамі клубоў
па дарозе сцелецца.
Стаў француз каля Лужкоў,
затрымаўся ў Беліцы.

Ля Лужкоў тых азярцо
ды для коней паша —
гордых палкавых персон
вочы тое бачаць.

Развярнулі войскі ўбок —
у Лужкі — асобы,
раскватаравалі полк,
узвялі акопы.

Пашы рада, азярцу
коней чарада ўся...
Быў разгромлены француз,
а акоп — застаўся...

Складці сёння аб Лужках
вырашыў я строфы.
След французскага палка —
у Лужках Акопы.

## Запіскі паручніка Розена

*У 1821-1822 гг. пад Лідай, у Беліцы, жыў паручнік Фінляндскага гвардзейскага палка Розен, будучы дзекабрыст.*

Эх, прастор мяцеліцы!
Нам — кватэрка цесная.
На пастоі ў Беліцы
наша часць гвардзейская.

Святамі, нядзелямі
ў Лідзе балі ладзяцца,
дзе мундзіры цэлыя
ночы кружаць плацціцы.

Сум накоціць хвалямі,
іншае пакажа мне —
не развеяць балямі
сумныя мне ўражанні.

Панства пухлагубае
мною так апішацца:
перад бедным — грубае,
да багатых — ліжацца.

Да сялян — цынічныя,
строгія, як вожыкі.
Панства — паляўнічыя,
п'яныя карцёжнікі.

Селянін — у беднасці.
Селянін — у невуцтве.
І за півам пеністым
хочацца мне гневацца.

Гнеў бярэ да костачак,
як гляджу на гумны я.
Статкі, пашы, вёсачкі —
краявіды сумныя.

Эх, сяляне! Цёмныя,
бедныя занадта вы.
Правяць бессаромныя
вамі арандатары.

Эх, сялянства шэрае!
Уздыхаю часта я.
Эх, Літва мізэрная,
сапраўды няшчасная!

## Крыж на камені

*У памяць аб Адаме Міцкевічы і Марыі Путкамер (Верашчацы)*

*Мясціны, дзе гулялі мы з табою,*
*Дзе нашы мроі, слёз святло пад вязам,*
*Да скону дзён застануцца са мною,*
*Бо толькі там з табой навек мы разам.*

Адам Міцкевіч, «Да М***»

*Паблізу вёскі Бальценікі Воранаўскага раёна ёсць камень-валун, на якім можна заўважыць выбіты крыж. Гэты крыж у знак вечнай вернасці выцiснулі на камені закаханыя Адам Міцкевіч і Марыя Путкамер (Верашчака), якія тайком ад графа Путкамера сустракаліся ў бальценікскім гаі. Адам і Марыля дамовіліся, што той з іх, хто застанецца жыць пасля смерці другога, паглыбіць знак на камені долатам. Марыля перажыла Адама на восем гадоў.*

«Палянка ў бальценікскім гаі.
Ля каменя. Пятніца. Пяць»...
Прыходзіць Адам, ёй ківае
і моцна імкнецца абняць.

Графіня Марыя Путкамер —
багіня ды муза яго.
І птушкі, і дрэвы, і камень —
як сведкі кахання таго.

Блакітныя вочы Марылі
заслоняць прыроды красу.
Марыля, Адам гаварылі
пра кнігі, пускалі слязу

і памятаць шэптам кляліся
заўсёды адно аднаго,
і словы той клятвы ліліся
гарачай і ціхай ракой.

«Кахаю да пасмы сівенькай». —
«Кахаю да смерці пары».

У доказ адданасці вечнай
на камені выціснуць крыж.

І вось абяцанне даецца
ў гаі ва ўрачыстых танах:
«Хто з нас у жывых застанецца,
паглыбіць той долатам знак».

Давалі яны абяцанне
быць вернымі, помніць, кахаць...
Спаткання таго апісанне,
натхнёны, я вырашыў даць.

## Смерць Нарбута

*Да 150-годдзя паўстання 1863 г.*

*Карціна мастака Эльвіра Андрыёлі «Смерць Нарбута» прысвечана памяці Людвіка Нарбута — вайсковага начальніка Лідскага павета ў час паўстання 1863 г.*

На палатно я пазіраю —
шукаю словы для радкоў.
На палатне ён памірае
ад кулі карнікаў-стралкоў...

Ля возера Пелясы Нарбут
прымае свой апошні бой.
Б'юць карнікі паўстанцаў карту.
Страшэнны паражэння боль!

Камусьці карнік рукі круціць.
Каму свінец у цела ўлез.
Паранены ў нагу і грудзі
сам Нарбут — несці трэба ў лес.

Секунды над зямлёю ў травах
ягонай зорцы зіхацець.
У шыю галаве атрада
трапляе куля — і канец.
Свістала з Людвікавай шыі

кроў на траву ды на сяброў.
«Сканаў наш Людвік», — гаварылі
сябры, і кожны хмурыў броў.

І мастака ў баі параняць,
што з Нарбутам быў заадно...
Перанясе мастак-паўстанец
смерць Нарбута на палатно...

Ды з памяці не забірае
ні смерць, ні час, які плыве.
На палатне ён памірае,
а ў нашай памяці — жыве.

## Смерць ксяндза Адама Фалькоўскага

*У памяць аб падзеях 1863 г.*

*Ксёндз Адам Фалькоўскі, пробашч парафіі ў Ішчолне Лідскага павета, быў расстраляны 24 чэрвеня 1863 года за тое, што ў час імшы зачытаў маніфест Народнага ўрада і заклікаў прыхаджан да ўдзелу ў паўстанні. Сёння на тым месцы, дзе пахаваны ксёндз (тэрыторыя сучаснага парку культуры і адпачынку ў Лідзе), знаходзіцца памятны знак.*

Чытаем — і ўяўляем мы,
як раніцаю ранняй
вядуць Фалькоўскага з турмы
да месца пакарання.

Святар, што заклікаў людзей —
у час імшы — да бітвы,
сканцэнтраваны ўвесь, ідзе,
чытаючы малітвы.

І бочка з вапнаю стаіць,
і выкапалі яму,
і ад ксяндза не аддаліць
з касой худую даму.

Ксяндзу Адаму прыгавор
зачытваюць смяротны.
Ксёндз, слухаючы, рукавом
лоб выцірае потны.

І прывязалі да слупа,
і завязалі вочы,
і на ксяндза нібыта ўпаў
змрок непрагляднай ночы.

І громам летнім грымнуў залп
з казацкіх карабінаў,
і дама-смерць касцямі лап
Адама абхапіла.

І дух пад стрэлаў перуны
плоць тленную пакінуў...
Адама цела — без труны —
укінулі ў магілу.

Нібыта гасячы агонь
з царом вайны самое,
залілі вапнаю яго,
засыпалі зямлёю.

На рэзвых конях казакі
магілкі след зацёрлі...
Канец Фалькоўскага такі —
пакутніцкі ды горкі.

Паўстанцы гінулі ў свінца
смяротным моцным градзе.
Пакутніцкая смерць ксяндза —
у гэтых смерцяў радзе.

## Панна Даравінская ў Шаўрах

*У аснову адной з першых публікацый беларускага і польскага этнографа XIX стагоддзя Амеліі Даравінскай (Біруты) пакладзены абрад дажынак у вёсцы Шаўры Лідскага павета.*

Занатоўвае дажынкі
Даравінская ў Шаўрах.
Жней, касцоў вядзе сцяжынка
з ёй да панскага двара.

Бачыць: жнейка апранае
залаты вянок, пяе.
Песня жніўная кранае,
зачароўвае яе.

Занатоўваць песню стане,
што пяецца дапазна:
«Мы дажалі жыта, пане.
Нас па голасе пазнай...»

Бачыць: выйшаў пан на ганак,
шмат пачуўшы галасоў.
Вось вянком віншуюць пана.
Грошы наўзамен, хлеб-соль.

Танцы бачыць, пачастункі.
Бачыць шчодрыя сталы.
Сэрца з радасці — у стукі:
нарыс будзе немалы!

Этнас у нататкі-скрынкі
панне хочацца сабраць...
У часопісе дажынкі,
што пабачыла ў Шаўрах!

## Прыезд пана Дамбавецкага ў Бердаўку

*У канцы XIX-пачатку XX стагоддзя маёнткам Бердаўка Лідскага павета валодаў Аляксандр Дамбавецкі, вядомая на той час асоба ў царскай Расіі, пэўны час быў магілёўскім губернатарам, членам Сената.*

Зноў з мяшочкам, а не з мехам
ледзянцоў, салодкіх надта,
пан у Бердаўку прыехаў,
магілёўскі губернатар.

Выкраіў заняты пан час
у маёнтку пабываць.
Бердаўскія дзеткі танчаць,
каб ласункі атрымаць.

Дамбавецкі ім бадзёра
кажа: «Брава! Малайцы!»
Для маленькіх для танцораў
ёсць у пана ледзянцы.

Дзякуюць малыя пану,
смокчуць пеўнікаў цукровых.
Позіркам на дзетак глянуў
ён пяшчотным — не суровым.

Як апошнюю цукерку
сунула дзіцятка ў рот,
заглянуў пан у цагельню,
заглянуў на спіртзавод.

Бачыць ён, што працы вір тут
не спыняе віраваць —
цешаць пана рэчкі спірту,
што ў цагляных берагах.

## Зарачанская карчма

*У свой час паселішча Зарэчча (раён сучаснай вуліцы Калініна ў Лідзе) славілася сваёй карчмой, а зарачанцы мелі дурную славу п'яніц і забіяк.*

Да Зарэчча дзеўкі, хлопцы
прыкіпелі нездарма:
пры дарожаньцы, на горцы, —
зарачанская карчма.

Па нядзелях і па святах
шмат збіраецца сялян
у карчме. П'янчуг заўзятых
музыканты весяляць.

Выкладаюць, хто што мае,
за гарэлку, за віно —
гаспадар Арон прымае
грошы, збожжа, палатно.

Гаспадарскія сыночкі —
цымбаліст са скрыпачом —
граюць, каб да позняй ночкі
люд па хатках не пайшоў.

Весела ды мнагалюдна.
Шмат шчаслівых мужыкоў.
Пакладзі быка на блюда —
справяцца і з тым быком.

Напівацца, наядацца
люд прыходзіць, п'е ды есць —
і п'янчужку зарачанца
не цікавіць свет увесь.

У карчму крадзецца мышкай
зарачанка з палатном,
каб гарэлку піць з кілішка
з мужычкамі заадно.

П'юць і мужыкі, і бабы —
зарачанцы п'юць усе:
хітры змей зялёны, мабыць,
ім і сябар, і сусед.



# Дар'я Дарошка

паэтка, бард. Аўтар кніг паэзіі: «Не наступайте птице на крыло», «В Начале», «Маяк», «Птицы сновидений», «Альтанка». Лаўрэат шматлікіх паэтычных і песенных конкурсаў. Нарадзілася ў 1977 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Бярозавы гон

## Да сонца

І травень зусім не травень.
Па сонцу сумуюць вочы.
А можа, па пожнях Наві
Смуга з туманамі крочыць?
Ступае па мёрзлай глебе,
Рагоча дзікунскім ротам,
Замову на горкім хлебе
Мацуе вядзьмарскім потам.
Кідае пад ногі лету
Пыхлівую злую замець...
Ах, сонечка, сонца, дзе ж ты?
Прыйдзі, бо гібее памяць...
І нават у самым сэрцы
Не можа Сусвет сагрэцца!
Прыйдзі!

*10.05.2017*

## Бярозавы гон

Вясновы вецер прыцемкі люляе,
Разносіць пах расчуленых бяроз,
Што быццам бы на дыбачках ад гаю
Бягуць у новы, сакавіцкі лёс.
А родны гай хвалюецца, шуміць,
Адчайна іх воронамі гукае.
Але і дрэвы ўвесну хочуць жыць
Напоўніцу, наводліў і да краю!
Іх цягне ў свет жаночая туга,
Адвечная дзявочая гуллівасць.
І дрэвы пакідаюць сонны гай,
Забыўшыся на розум і цнатлівасць.
Як быццам бы ўзлятаюць на адхон,
Сыходзяць сокам, водарам і жарсцю.
Напэўна, і ў бяроз бывае гон —
Вянчанне з сонцам, радасцю і шчасцем.

*7.04.2017*

## Хлебны

Ну чаго табе трэба, хлопец? Хлеба?
Ды няма ў мяне яго для цябе, ці чуеш?
А мо трэба табе зорак, што месяц пасвіць у бяздонні неба?
Не? «Хлеба!, — скуголіш, енчыш, — хлеба!..»
Ды навошта табе гэты хлеб майго натхнення?
Нашто табе мае словы з крыніцы маіх сноў і майго жыцця?
У цябе ж таксама ёсць і жыццё, і сны, не?
«Не тое», — кажаш, — «зусім не тыя яны!»...
Ну што ж, трымай тады каравай маіх нябёсаў, частуйся маім сном...
*25.04.2017*

## Цуд

Зорачкі-зярняткі прараслі ў нябёсах
І Птушыным шляхам расквітнелі ў цемры.
Срэбраным вяночкам патанулі ў росах
І ўпляліся ў косы Любы, Надзі, Веры...

Казачнае проса, зорачкі-зярняткі
Светлых сноў Любові, Веры і Надзеі,
Хтосьці сонны сее ды пячэ аладкі,
Каб пачаўся ранак з добрае падзеі.
*9-10.12.2017*

* * *

Баязлівы вужака жыве ў кожным сэрцы,
На патэльні сумлення і хлусіць, і скача.
Спадзяецца адвеку, што сонца паверыць;
Што свядомасць махлярства і штучнасць не ўбачыць;
Не заўважыць ягоных крыўлянняў прастора...
Недарэчныя мары, пустая надзея!
Бо імкнецца сумленнае сэрца да зорак!
Бо вядзе пуцяводная нітка Тэзея.
*1.06.2017*

## Чаромхавы кактэйль

Пяшчота чаромхавых кветак
Навобмацак — быццам натхненне.

Так-так, менавіта натхненне,
І водар малочнай ракі!

З чаромхаю бавіцца ветрык,
Ласкавы паэт-летуценнік —
Такі ж, як і я, летуценнік —
З чаромхі ўзбівае вяршкі!

*1.05.2018*

## Кавуновы

Чырвоны кавун у белай місе.
— Нацюрморт?
— Яшчэ не.
Чырвонае злёгку прыснежана белым, салодкім,
Пяшчотным і вельмі-вельмі смачным!
І такім прывабным для восаў!
Ды і мяне, чаго ўжо тут!
Ну вось, кавун. Чырвоны, Міса белая.
І аса, бы на снезе.
— Нацюрморт?
— Не, чакай, зараз! Дзе ж той рушнік?
Ага!.. Ну вось, цяпер — нацюрморт.
Смачна маляваць!

*20.08.2018*

## Каханне

Якое прыгожае слова «каханне»!
Нашмат прыгажэй за «любоў».
Яно патыхае няўлоўным спатканнем
Душы з чараўніцтвам замоў.
Яно — таямніца ад краю да краю,
Бясконцая бездань жыцця,
Дзе лёсы, як птушкі, з гнязда, пазіраюць.
Чакаючы страў і піцця.
У празе ўвасобіцца ў сонечнам свеце
Яны нецярпліва крычаць.
«Каханне!» — як рэха ўсіх слоў на планеце,
Што лёсы люляе ўвесь час.

*11.02.2018*

## Патрэбы

Анічога мне не трэба,
Акрамя ў карунках неба,
Мною ж купленага хлеба,
Водару зімовых дзён.

Так, амаль што анічога —
Бегла б да цябе дарога,
Бегла б да мяне дарога,
Аж клаксоны ва ўнісон!

Анічога нам не трэба,
Толькі б ласцілася неба
Да жывой вясновай глебы,
Як яна і ён.

*3.09.2018*

## Блёкат

*(Іранічна-філалагічны вершык-жарт)*

Паміж намі прабегла англійская котка.
Так, англійская вечнаблакітная котка.
Яе клічуць у спрэчках, імя яе Блёкат..,
І нахабствам гарыць яе жоўтае вока.
Маляваць яе фарбаў не хопіць у свеце,
Бо адценняў шаленства вялізная прорва!
З ёй знаёмыя ўсе, ну, хіба толькі дзеці...
Людзям котка ўгрызаецца ў самае горла,
Дастае да пячонак, высмоктвае мозг!
Руйнаваць прымушае стасункі і мост.
І калі прабяжыць яна між двух людзей,
То пазбавяцца людзі апошніх надзей
На сяброўства былое, на мост ці на лодку...
Вось такая яна, тая сіняя котка!

*12.09.2018*

## Восеньскія восы

Ну няўжо ж нарэшце восень?
А ў мяне лятаюць восы!

Штосьці вабіць іх у хату:
Вечная вясна гарбаты?
Ну, а мо духмяны водар
Вечаровай асалоды?
Восы, марачы пра лета,
Перакульваюць планету!
З ног на голаў клімат ставяць,
Зумкаюць спякоце «Ave!»

*25.10.2018*



# Васіль Дэбіш

паэт. Аўтар паэтычных кніг: «Белыя птахі» (1993 г.), «Лісты да Марыі» (1996 г.), «Праз дождж» (2012 г.), «Чуйнар» (2015 г.). Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка на Гродзеншчыне. Жыве ў Брэсце.

# Кругаверць

***

Хісткі туман задрамаў ля ракі.
Месяца твар адбіваецца ў лужах.
Над галавою, нібы матылькі,
Ціха сняжыначкі падаюць, кружаць.

Кветкаю белай — агромісты стог.
І адусюль льюцца свежасці пахі.
Снежны, з нябеснага гляка тварог
Усцяж абляпіў і падворкі, і дахі.

Воран усеўся, як князь, на раллю
І па разоры, бы ў лодцы, вяслуе.
У прыгаршчы лоўка сняжынкі лаўлю,
Мрою, як іх я табе прэзентую.

Можа па пошце іх вышлю калі...
Глупства. З усмешкай далоні расшыру.
Белыя, як па вясне матылі,
Дзіва-сняжыначкі выпушчу ў вырай.

## Аднойчы летам

Аднойчы летам,
калі мяне усё дастала:
работа, сям'я, мізэрная зарплата,
паехаў я на вёску да брата.

Днямі
бадзяўся па лугах і лясах,
піў са студні
неба,
плаваў па моры
кветак і траў.

Страсаў з высяў
зоры
і клаў іх у кішэні,

нібыта цукеркі,
вудзіў у рэчцы
сонца.

Усю нядзелю маладзік ткаў
золата ў маіх вачах,
а жнівень ліў
крамяны пах яблык,
што выспевалі ў казачным садзе.

Яшчэ і сёння
мае рукі цвітуць
рамонкамі,
а ў галаве калыхаюцца
ружовыя туманы.

## Кругаверць

Жыхар пушчанскі, неўтаймоўны,
Як бусел — далікатны птах—
Паіўся з траў, расою поўных,
І зёлкамі наскрозь прапах.

Я жыў — не дбаў пра апранахі,
Па лузе крочыў басанож,
Карміў з далоняў дзікіх птахаў
І не трымаў за спінай нож.

Спаў у буслянцы, ці не дзіва.
Чуў матылькоў бязгучны смех.
З маланкай хуткаю, шчаслівы,
Было, навыперадкі бег.

Мне сонейка на даляглядзе
Дзівоснай кветкаю цвіло.
Сягоння я у іншым садзе,
Дзе ўсё панікла, адцвіло.

Жыцця бесконцая пагоня,
Яго распад і кругаверць.

Угледзеў час другі — у сконе.
Яго другое дзіва — смерць.

Час стаў ляцець шпарчэй з гадамі.
Сябе парой не пазнаем.
Не спіцца. Чую я начамі,
Як лісце падае, гніе.

Як плачуць мне ў акно туманы,
І травы жухнуць навакол.
Як час, на часткі разарваны,
Лье ноч, нібыта малако.

## Восень

Хмараў лёткая пагоня.
Сцірты пачарнелых хат.
Вераснёвай меддзю звоніць
Крамяны, духмяны сад.

На стале з грыбамі кошык.
Пасівелі чараты.
Пахне зёлкамі пакоша.
Ніжа травы дождж густы.

Вецер на руках гарачых
Лісцяў золата нясе.
І тваю я восень бачу, —
У асмужанай красе.

## Воран

Вечарэе. За воранам я назіраю:
Чорнай кропкай-зданню ён у небе кружляе.
Бліскавіцамі зіркае хмара варожа,
І ляціць над зямлёю крык птушкі трывожны.
Хмара грозная нікне, за лесам знікае.
Змрок ахутаў зямлю і, яго вымяраюць
Кажаны, шолах крылаў чуцён на падворку...

Воран крылы стуліў, стаў самотнаю зоркай.

## Сутарга часу

Ноч абрынулася на мяне
зорным дажджом.
Узіраюся ў яе бязмежжа:
яно ляціць насустрач мне —
вокамгненна.
Круцяцца зоркі,
бы колы перакуленай тачкі,
згасаюць у непаразуменні часу.
Небакрай усё больш святлее, усё хутчэй.
Выспелы, зацвітае дзень
вішняю белай.
Бачу: цені лістамі павіслі.
Чую, як павольны чарвяк
падгрызае дрэва карэнне...

## Гавару з небам

Кідаю позірк на неба,
што ракою празрыстай цячэ.
Нада мною кружыць туманны павеў аблокаў.
Там, далёка-высока,
шэптам балючым,
ціха дзень спее.

## Восеньскі сад

Сад восеньскі. Звініць галін арган.
То сцішацца нябёсы, а то ўспеняць.
Ляціць лістоў пажоўклых караван,
Сплятаецца ў клубкі ў агні асеннім.

Сад зажурэў. Чуцён сарокі крык.
Гурт ліп узняў высока ў неба рукі.
З-за хмар падранкам выплыў маладзік.
Аскепак поўні коціцца па бруку.

Парвала неба цемры кайданы.
Як прывід, хмара за ракой дыміцца.
І, здзіўленае, ў бляску галізны,
Гуляе неба сполахам зарніцаў.

## Ода сену

Поўдзень, і ранішняй прахалодзе
Спёка прыйшла на змену.
Едзе праз вёску падвода
З жоўта-зялёным сенам.
Лета. Пара сенакосу і ўборкі.
Сялянская праца стамляе,
Ды пахне яно, саладжавата-горкае,
Тонка, аж дух займае.
Ах, гэты водар даспелага сена,
Непаўторны, як любай жанчыны.
Ён увесь двор запаўняе імгненна —
Зёлкі п'яняць і канюшына.
Пах сена.
Нязменна мне пахне яно
Прасторам, блакітам і летам.
Без стомы я п'ю яго водар нагбом
І цешуся: здорава гэтак.
Шчаслівы, не ведаю скону пару
У свеце, дзе ўсё стане тленам.
О, людзі!
Калі я раптоўна памру,
Набіце падушку мне сенам...

***

За вакном дажджом зацвікаваны
Краявід і шэраю смугой.
І кіпяць хмар чорныя вулканы,
Выклікаюць сонца на двубой.

Сутаргава плачуць ці смяюцца
Прывіды бяздомных за вакном,
І адчайна ў шкло нямое б'юцца
Рэшткі дня аслеплым кажаном.

## Лёд

Лёд на наша каханне лёг стомай — халодны.
Нікнуць водбліскі светлых надзеяў і згадак.
Стала мне ты чужой, я табе ўжо — не родны,
Не квітнеюць больш радасцяў нашых прысады.

Цягнуць дрэвы да сонца згалелыя рукі,
Толькі сонца няма, яго хмара закрыла.
А душа, як скала,— ані слова, ні гуку.
Россып сцежак на небе — зіхотлівым пылам.

Ціш цяпер, дзе мы слухалі дрэў шапаценне,
Дзе між шатаў спявалі нам птушкі ласкава.
Змрок блакітны гусцее, і стынуць ў зняменні
Туманы, што ляглі на пажухлыя травы.

***

Калісьці прагнуў я кахання.
Але даўно мінуў той час,
Як птушкай чуйнай на спатканне
Ляцеў я, мілая, да Вас.

Парыў мой згас. Больш ураганам
Пачуцці сэрца не крануць.
І што калісь было жаданым,
Больш не хвалюе анічуць.

Не цешыць птушак спеў вясёлы
І бомаў залацісты звон.
Няўцешна пазіраць наўкола
І бачыць след мінулых дзён.

Блукаць па сцежках, дзе хадзілі
Ў час маладосці я і ты.
І сніць былога шчасця хвілі
Між немачы і пустаты.

***

Цемрай стаў дрымотны, волкі вечар.
Прэч развагі змрочныя ганю.
Дзікі холад працінае плечы,
Хоць агмень з'ядае галаўню.

Комін стогне і гудзе — ад гулу.
Мутарна і прыкра на душы.
Дзе знайсці мне на зямлі прытулак?..
Зоркі ў небе, нібы ледзяшы.

Вецер ятрыцца, штоміг мацнее.
Б'ецца ў вокны, нібы птах, крылом.
Ці твае, каханая, сагрэе
Плечы ноч праз ледзяное шкло?

Мо ідзеш праз змрок цалінны пешшу,
Слёзы выціраючы з вачэй.
Хто цябе, гаротная, суцешыць,
Захіне ад холаду начэй?

У пакоі свечка дагарае,
І агмень пагас, як не было...
Адагрэю зоркі, пазбіраю
Для цябе іх добрае святло.

## Першае каханне

Чакаў так доўга... Дні лічыў, імгненні.
А перастаў чакаць — яно прыйшло,
Ярчэйшае за сонейка праменні,
Іскрыстае, чароўнае святло.

І ад яго я абудзіўся ззяння.
Жыццё, што мне здавалася пустым,
Напоўніла таемнасцю каханне,
І сэнсам існавання залатым.

Ніколі не было такім высокім
Ні неба, ані яскі нада мной,
Што радасна гайдаліся ў паўзмроку.
О, Божа існы! — ты была маёй.

Адзіная! Падораная Богам.
Купаліся ў грахоўнай мы рацэ.
Ды плыў па небе месячык двурогі
З навостранаю брытваю ў руцэ.

***

Знямелая ў нябёсах поўня
Свяціла так, бы звар'яцела.

І слоў і думак невымоўнасць.
Рук паяднанне, сэрцаў, целаў.

Дрыжэлі ва ўтрапенні вусны
Абуджанай ракой вірлівай.
Твой позірк хцівы і распусны
Высочваў нібыта спажыву.

І час знікаў, і кантыненты
Палалі, як сухія дровы.
І, выпітая, ты дашчэнту
Зноў нараджалася нанова.

Ружовы ранак праз аконца
Дзівіўся ўпотай таямніцы,
Як з губ тваіх сасмяглых сонца
Я піў, не ў змозе наталіцца.

***

Ты ўвайшла у мой пакой
паходкаю мяккай, ціхмяна,
як котка.
Промнем бліснула
і на канапу прысела,
чароўна пахкая, пяшчотная,
як летні дождж. Ад вуснаў тваіх
вясны
пахі плылі...
Карыя вочы праменілі
залатымі іскрамі.
А на шчаках,
бы ў сотах,
спелі пацалункі.
Вусны вільготныя, цёплыя,
бы ліпеньская ноч,
вабілі пасмакаваць
іх мёд салодкі.

Ты ўвайшла,
і я затрымцеў,
як расінка на ветры.

Ад жару твайго цела
на вакне ўспыхнула
свечка.
І ў воблачка
ўвабралася вада са шклянкі,
з якой я піў.

Кахаю! — як нож працяло мазгі.

І я ўдыхнуў цябе,
як вязень удыхае
свежае паветра...

Пешчу цябе —
і мне здаецца, што я абдымаю Сусвет.

***

Крычалі вусны ўслед Вам: ненавіджу!
Кахаю — сэрца енчыла ў той час.
Вы думалі без Вас загіну — выжыў.
Як тую стрэмку, вырваў з сэрца Вас.

Цяпер кахання болей не баюся.
І быць са мною побач не малю.
Калі ж сустрэну — ў вочы рассмяюся,
А Вам няўцям, што я яшчэ люблю.

## Выбар

Вакол разлад і зло да долу гне.
І ты — святла прамень у свеце гэтым —
Рукой цнатлівай ліст даслала мне:
«Як любіш волю, то — ідзі да мэты.

Дзеля людзей, не думай пра мяне!..»
Я з дому выйшаў — сумятня і крыкі.
І кожны пхнецца ўверх і іншых пхне.
Падумаў я: «Іх, Цэзараў, без ліку!

Зямля вакол — Гамора і Садом!
Не пасяліць мне праўды ў свеце гэтым.

Ды і ці варта? Большым пачуццём —
Тваім каханнем светлым я сагрэты.

Дух дзёрскі з ім не параўнаю свой.
Што слава? — склеп халодны, мармуровы!..
Перад тваёй пяшчотнаю рукой
Укленчваю — ты мой вянок цярновы.

## У гонар цяжарнай

Схіліўшы галаву, сядзіш самотна.
Глядзіш у сад, аціхлы, наліўны.
Дождж-грыбасей на шкле накрэсліў ноты,
Каб вецер мог іграць накцюрн жніўны.

Час выспявання плоду сакаўнога.
Высокі дзень над сцежкаю застыў,
Над чарнаслівам, яблыкам пунсовым!..
Сад грузны да краёў, да ламаты.

Глядзіш гадзінамі, пра нешта разважаеш,
Захутаўшыся ў думы як глыбей.
Гуллівы вецер спевы пачынае —
Моц набірае музыка ў табе.

## Ніяк

Сяджу ў пачатку лета
З вінам для дваіх.
А ты — у вясне затрымалася.
Як заўжды спазняешся.
Ніяк мы не можам сустрэцца.

***

У кавярні начной адшукаў я нарэшце прытулак.
Тут, у прыцемку шэрым, схаваю самоту сваю,
Дзе іграе скрыпач непрымушана гэтак і чула.
І мулаткі дзябёлыя ў шклянку бальзаму нальюць.

Пасвятлее душа... Буду слухаць я час і прастору,
Што мелодыяй дзіўнай цячэ. І пітво смакаваць.

Не хачу, не вярнуся ў наш ложак астылы, ва «ўчора»
І да раніцы буду па Брэсту начному гуляць.

Я забуду пра боль — растваруся ў нябеснай сінечы
І як верш нікудышні, нанова ўсё перапішу...
Белай птушкаю ранак узляціць на шырокія плечы,
Зазвініць, запяе. А дождж цёплы абмые душу.

## Склеп

Як быў малы, я так баяўся склепа,
Што аж дрыжаў, калі туды ішоў.
Сырую цемру ненавідзеў слепа
І прывідную велічнасць муроў.

Быў склеп маўклівым і заўжды панурым
І чорным, нібы хворага нутро.
Там пацукі хаваліся пад мурам,
Рудыя, нават бурыя, як кроў...

Поўсць дыбам, ненажэрныя утробы,
Яны гаспадарамі тут былі.
Баяўся, як прыступак, як хваробы,
Што ўніз, у бездань цемрадзі вялі.

Куды ні глянь, паўсюль хады і норы.
І зыркаў злосна тлустай жабай змрок.
На слоікі гуркоў і памідораў
Пах гнілі са збуцвелых бэлек цёк.

Затрымлівацца не было ахвоты.
Кастрыцай пахла, бульбаю гнілой.
Пішчалі, помню, пацукі страхотна,
Бы паквітацца прагнулі са мной.

Затым яны з заплеснявелых спратаў
Паўзлі наверх і неслі страх з сабой.
І я стаяў, бы ў чымсьці вінаваты...
Ты нібы склеп, гаротны краю мой.

## Дзве стыхіі

Ад жыццёвага тлуму, мітусні і няўзгодаў,
Адзінота, лячу я ў тваю прахалоду.
Дзе пр асторна душы, надарванай, збалелай,
Дзе смяяцца і плакаць дазволена смела.
Тут, нарэшце, засну, бы ў халоднай магіле,
Апустошаны, вялы, без думкі, ў знясіллі.
Ды вясна не мінае і гэтай краіны:
Промні сонца пальюцца з нябеснае сіні
І ажывяць мяне. І абудзяцца думы.
Зноў захочацца шчасця людскога і тлуму,
Недасяжнасцей даляў, планетаў далёкіх —
І намацвае зорку ў Галактыцы вока...
Каб шукаць адзіноты пасля і адхлання.
Так і гіну, зямлі і нябёсаў выгнаннік.

## Воўк

Мне радзяць: «Трэба жыць, браток, іначай.
Прагнуцца ўмець, а калі б'юць — маўчаць!»
Я — воўк! І маю нораў не сабачы.
Не ем я з рук, — іх не прывык лізаць.

Я — воўк. Няхай жыву ў загонах,
Ды больш за ўсё я вольніцу люблю.
Пабораў непамысных, гвалту, згону
І здзеку, што гняце так, не цярплю.

Ва ўсіх, мне кажуць, бедах вінаваты.
Я — «пятая калона», прызнаю.
Я ненавіджу вышкаленых катаў,
І тых, хто гнобіць спадчыну сваю.

Жыць невыносна. Горла енкам сцята.
Дыктату — ганьба! Ўзведзены курок...
Кроў на сумленні. Хто падлічыць страты?..
І шэрыя шарэнгі засцяць зрок.

Да гоняў родных я бягу праз поле,
Начнымі сцежкамі, праз хмызнякі.

Пакорнай кудлай мне не стаць ніколі.
Я — воўк. І ўсе сябры мае — ваўкі.

## Захад

На вуліцы гарачыня такая...
А людзі поўзаюць, як мурашы.
Туды-сюды, перад вачмі, мільгаюць,
Нібы мурашнік хтось разварушыў.

Рука да лба — у далеч пазірае,
Як і належыць быць гаспадару,
Ці беларус раскосы, ці кітаец —
Іх процьма тут, — ніяк не разбяру.

Сядзяць на лаве некалькі «шляхцянак» —
Прадажныя, свой папраўляюць строй.
Міліцыянт ідзе насустрач п'яны,
Пустою пагражае кабурой.

Гуляе моладзь «з помпаю», з размахам.
Шык і галеча — прывідны хаўрус.
Нічога тут не скажаш — гэта захад.
І не паробіш — гэта Беларусь!



# Мікола Ляшчун

паэт, празаік, перакладчык. Аўтар паэтычных кніг «Палескія сны» і «Белая завея». Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Губарэвічы на Хойнікшчыне. Жыве ў Лагойску.

# Дарога да Бога...

## Роднае

Калі зусім марнеў я духам,
І несла проста ў бездань дум,
Я песні маміныя слухаў
І не зважаў на дробны тлум.

Калі жыццё было няміла,
І беглі вочы на клады,
Я браў у роднай мовы сілы,
Каб ратавацца ад нуды.

Яна мяне ж і ўратавала,
Калі я падаў у адчай.
Калі мне моцы не хапала,
Я песні пеў пра родны край.

Калі не стала моцы болей,
І лёс ірваў з грудзей душу,
Я крочыў, бег у лес ці ў поле
На спавядальную імшу.

Вось так і выжыў, і не здаўся,
І адалеў няўмольны лёс.
Я на сваім шляху застаўся
І крыж свой годнасна пранёс.

## У Міколаў Дзень

А нам яшчэ далей тут жыць
І душы агаляць да донца,
Але не так, як набяжыць,
А годна жыць, бясконца..

Няўстрым ісці насустрач ветру,
Які б сцюдзёны ён ні быў,
І тым надыхацца паветрам,
Што без адчаю і журбы.

Жыць так, каб вера не ўмірала,
Каб пазнавалі нас здаля,
І пад нагамі не стагнала
Ад хлусаў родная зямля.

## Дахаты

Дадому ірвецца душа...
Надзея да жылак запала,
Што там, дзе віецца шаша,
Прывеціць усмешкаю мама.

Я поплавам волкім ступлю
На сцежку маленства святога
І сэрцам адчую зямлю,
Спрадвек дараваную Богам.

Дахаты... Дадому... Ізноў
Чаканае цешыць спатканне
З імшарамі, шырай лугоў
І пахам каляндры ўранні.

Таполі ківаюць здалёк,
Як колісь ля веснічак мама,
А вяз, нібы бацькаў кіёк,
Пільнуе старэнькую браму...

## Ад вёскі ўсё

Ад вёскі,
больш за ўсё ад вёскі
радзімы
нашай адгалоскі,
дзе — пуні, свіраны і кросны,
дзе — ранак ядраны і росны,
дзе водар вабіць меданосны,
дзе падымаюць неба сосны,
дзе — незапамятныя вёсны,
дзе — бульбы сеянай палоскі,
Дзе нашай памяці узнёскі...
Ад вёскі ўсё

і ўсе ад вёскі
Радзімы
нашай
адгалоскі!

***

Я часта пішу пра адвечнае,
Што сэрцу з маленства мілей,
Пра простае і чалавечнае,
Як песні тужлівыя жней.

Пра спечаны бохан хлеба
Матуляй у злыбядзе,
Пра наша і сонца, і неба,
Якія не ўбачыш нідзе.

Пра водар лугоў аксамітных
І ветрык вандроўны з ракі,
І позірк валошак блакітных —
Нідзе непаўторны такі.

Пішу, покуль вольна пагляду
Для шчырай, таемнай імшы
Ад досвітку — да зарападу,
Пра ўсё, што важней для душы.

## На золку

Баюся штосьці не паспець,
Таму ўстаю на самым золку,
Каб небу ў вочы паглядзець,
Як сыпле знічкамі спрасонку.

Занатаваць саснёны верш,
Калі не ўвесь, дык хоць пачатак,
Душы мелодыю найперш,
А словы лягуць у дадатак..

У кронах хвояў векавых
Натхнення пашукаю просінь.
Бо колькі там імгненняў тых
Мне для пачуццяў засталося...

## Ноччу

Жыцця уздым, жыцця апад —
Скрозь ад народзінаў да скону.
Вачэй надломлены пагляд
На старажытную ікону.

Душу ўстрывожыў успамін,
Мне так, што сэрца рвецца вонкі,
І б'ецца памяць аб бурштын
На непадораным пярсцёнку.

Такі расклад, такі настрой...
Ці ёсць канец у пакаяння?
Пытанняў рой і думак рой,
А гэтак блізка да світання!

***

Памрэм усе калісьці —
Хоць бiся аб заклад,
Як абрывае лісце
Увосень лістапад.

Баімся азірнуцца,
Каб палічыць грахі,
Ды з лёсам размінуцца
Не ўдасца ўсё ж такі.

Калі ўжо адпяваюць
Жывога — як сцярпець?!
Жыццё тады бывае
Страшнейшае за смерць.

## Позна зрэшты

Хоць позна зрэшты зразумеў
Святую ісціну я з болем,
Што ўдосталь часу на распеў
Нам лёс не дорыць аніколі.

Не возьмеш сходу ноту ля,
І кужаль лёгка не саўецца.
Валун шліфую спакваля
І нараджаю песні сэрцам.

Каб прачытаць калісьці змог
На камені магільным словы
Мой праўнук і далей збярог
Любоў да матчынае мовы.

Жыццё, як спрынтарскі забег.
Жыццё — сусветнае імгненне.
Ніколі не пішу наспех,
З любоўю кідаю насенне...

## Дарога да Бога

Да Бога доўгая дарога.
Надыдзе кожнаму свой час.
У Бога не бывае многа,
Але ўсяго стае для нас.

Ўсё ж адчуваем незямное,
Калі ў святы прыходзім храм
Заўсёды з грэшнаю душою,
Калі бывае цяжка нам.

Гасподзь дакорліва з іконаў
Нам адпускае ўсякі грэх
За неабдумныя праклёны,
І за няўрымслівасць уцех.

Усё жыццё ідзем да Бога,
Хоць дай нам нават два жыцці,
Да Бога доўгая дарога.
Да Бога трэба дарасці.



# Мікола Адам

празаік, паэт. Аўтар празаічных кніг: «Шоўк», «Прывітанне, Даша!», «Гульня ўяўлення», «Інтанацыі», «Свае і чужыя», паэтычнага зборніка «Калыханка для каханай». Нарадзіўся ў 1978 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне. Да 1992 г. жыў у Казахстане (г. Шахцінск Карагандзінскай вобласці). Зараз жыве ў вёсцы Мікалаеўшчына.

# Тэнтэк

Тэнтэк — рабочы пасёлак, які ўзнік у 1955 годзе ў сувязі з засваеннем Тэнтэкскага месцанараджэння высокаякаснага каксуючагася вугаля, адкрыццё залежаў якога адбылося ў 1949 годзе геолагамі Фішманам і Думглерам у раёне рэчкі Тэнтэк на глыбіні 250 метраў. У 1961 годзе пасёлак перайменавалі ў горад і назвалі яго Шахцінскам, які паступова набыў статус райцэнтра. Акрамя чатырох шахт — Казахстанскай, Шахцінскай, Тэнтэкскай і імя Леніна, размешчаных вакол горада, у ім меліся Домабудаўнічы камбінат, Пасажырскае аўтатранспартнае прадпрыемства, два будаўнічых камбінаты бытавога абслугоўвання, Электрамеханічны завод, Завод сінтэтычна-мыючых сродкаў (СМС), тэхналагічны і горна-індустрыяльны тэхнікумы, тры кінатэатры, тэатр, Дом культуры гарнякоў, зразумела, бібліятэкі, бальніца, палікліhікі, школы і дзіцячыя сады.

Падзелены на кварталы і мікрараёны, Шахцінск ветліва ўсміхаўся кожнаму жыхару высокімі новабудоўлямі, гасціннымі крамамі, чыстымі тратуарамі, вялікімі і багатымі дзіцячымі пляцоўкамі ў дварах. Ад Караганды Шахцінск аддзялялі пяцьдзясят кіламетраў па ўсходне-заходняму накірунку, ад бліжэйшай чыгуначнай станцыі Карабас — дваццаць восем кіламетраў на захад. У склад горада ўваходзіла таксама чатыры населеных пункты: Шахан, Новадолінскі, Долінка і Паўночна-Заходні.

Бацьку тут спадабалася ўсё з першага позірку, асабліва шматнацыянальнае насельніцтва. Яму нават падалося, што Шахцінск — сэрца Савецкага Саюза, бо ў горадзе жылі прадстаўнікі ўсіх савецкіх рэспублік, больш за тое — народнасцяў. Побач адзін з адным суіснавалі чачэнцы і рускія, абхазцы і грузіны, немцы і беларусы, казахі і карэйцы, яўрэі і арабы, армяне і таджыкі, казакі і татары, украінцы і малдаване, мардвіны і ненцы, дагестанцы і чувашы... І яны не варагавалі паміж сабой, не дзялілі тэрыторыю і не падстаўлялі, злараднічаючы за спінай.

Гэты горад падаваўся адзіным дружным, згуртаваным калектывам. Усе дапамагалі адзін аднаму, кагалам спраўлялі вяселлі, дні нараджэння і дзяржаўныя святы, тым жа складам памерлых праводзілі ў апошні шлях. Незнаёмы хвіліну таму чалавек тут праз колькі секунд размовы рабіўся лепшым сябрам да канца жыцця.

Бацька адчуваў сябе нібы нанова народжаным. Да таго ж цётка Груня з дзядзькам Жэнем прынялі яго, як роднага сына, і шчыра паўдзельнічалі ў далейшым лёсе пляменніка.

Дзядзька Жэня працаваў шафёрам на аўтабазе, ведаў патрэбных людзей, і тыя ведалі яго. Па пятніцах у ягоным гаражы часта абмывалі ўдалы працоўны тыдзень бутэлечным, а калі-нікалі разліўным бачкавым півам. У адну з такіх пятніц ён пазнаёміў пляменніка з сябрам, які быў не апошнім чалавекам на Шахцінскай шахце, і той узяў бацьку да сябе ў брыгаду. Але спачатку баць-

ка адвучыўся тры месяцы на слесара-мантажніка. Ад шахты выдзелілі пакой у інтэрнаце, і ён перабраўся туды, хаця цётка Груня з дзядзькам Жэнем не супраць былі, каб пляменнік жыў у іх. Бацька б застаўся, але адчуваў сябе няёмка ў двухпакаёвай кватэры, дзе жылі, акрамя цёткі з дзядзькам, яшчэ іх два сыны-старшакласнікі. Зразумела, яму ніхто нічога не шкадаваў і любілі яго не ў пазыку, а ўсё ж, атрымаўшы інтэрнат, уздыхнуў з палёгкай. Самастойна жыць — яно заўсёды лепш. Канечне, бацька не забываўся на цётку з дзядзькам, наведваў часта, цётка Груня ж і накорміць, і напоіць, а сталоўская ежа не ішла на карысць і выклікала пякотку.

Нярэдка цётка Груня адмыслова запрашала бацьку ў госці і знаёміла з якой-небудзь абавязкова незвычайнай, разумнай і працавітай красуняй. То немку прапануе — перспектыўнага хірурга з млявым позіркам, то бібліятэкарку з раскосымі вачыма і безліччу доўгіх касічак да пояса, то лейтэнанта з дзіцячага пакоя міліцыі — рыхтык здобную булачку, а то гімнастку-аматарку з мясцовага тэатра — гутаперчавую і рудавалосую. Бацьку ўвесь час здавалася, што канца-краю не будзе гэтым знаёмствам, а цётка Груня, мабыць, перакanана і напрамкі пёрла, як танк, на рэкорд па перавыкананні плана зводніцтва. Неяк бацька не вытрымаў і папытаўся ў цёткі, навошта яна гэта робіць.

— Шчасця табе хачу, — не разгубілася цётка Груня. — Дзяўчаты ўсе правераныя...

— Кім правераныя? — незалюбіў бацька.

— Часам правераныя, — зноў не разгубілася цётка Груня. — Чалавек не павінен быць адзін...

— Я не адзін, — запярэчыў бацька.

— У глабальным сэнсе, канечне, не адзін, — падтрымала цётка Груня, але збіць, як кеглю, з дыстанцыі яе разлічаны на вынік манеўр па ачалавечванні пляменніка было немагчыма. — Ты малады прыгожы мужчына, — працягвала яна, — які павінен мець чароўны тыл у вобразе прывабнай жанчыны знешне і гейшы ў пасцелі.

— Каго? — не зразумеў бацька.

— Да таго ж, адукаваны ў патрэбных месцах, — дадала цётка.

— І ўсе яны, выбраныя вамі, мне падыходзяць? — зрабіў выгляд, што задумаўся, бацька.

— Без выключэння, — пераможліва ўсміхнулася цётка Груня.

— Але выбраны яны не мной, — цвёрда сказаў бацька тады. — Не трэба, цётка, больш мяне ні з кім знаёміць! Няхай яны хоць будуць нават каралевамі Мазамбіка! Я сам знайду сабе нявесту. Мо памылюся, але гэта будзе мая памылка. Маё шчасце — справа маіх рук, а не вашых, хай сабе і такіх родных і блізкіх.

Цётка Груня ледзь не праслязілася ад бацькавых слоў.

— Разумнееш на вачах, — прамовіла яна. — Як працуецца? — пацікавілася, імгненна пераключыўшыся на іншае, быццам тэлевізар, цётка Груня.

— Добра, — усміхнуўся бацька.

Яму падабалася на шахце, асабліва заробак. У Вёсцы яму б давялося ўкалваць, як валу, паўгода, каб зарабіць тую суму, якую ён зарабіў на шахце за месяц, стоячы на расслабоне на люках. І гэта ён яшчэ ў забой не хадзіў. Адзіная прыкрасць — шахта мокрая, шмат грунтовай вады.

Першы заробак бацька не ведаў куды падзець. Ніколі раней ён не трымаў столькі грошай у руках. Думкі пра тое, на што іх патраціць, лёталі, абганяючы адна адну, быццам мухі. Карцела купіць усё і адразу, аднак без канкрэтнай мэтанакіраванай упадабанасці. Складзеныя напалам і раскладзеныя па кішэнях рублі, траякі, пяцёркі, чырвонцы і дваццацьпяткі выпукла вытыркаліся, патрабуючы ўвагі да сябе, і балюча джалілі, бы тыя восы, калі дакранаўся да іх, сунуўшы рукі ў кішэні, як у гнёзды з небяспечнымі насякомымі. Тады аддзёргваў рукі нават з міжвольным ускрыкам, бо фантомны боль нічым не адрозніваўся ад сапраўднага.

Каля крамы з адзеннем бацька затрымаўся, пакурыў і зайшоў унутр. Выйшаў адтуль з новым чорным касцюмам, дарэчы, першым у яго жыцці, новымі вастраносымі скуранымі туфлямі і новай кашуляй — белай у чорныя плямкі картачных пік. Грошай паменела, але тыя, што засталіся, літаральна апякалі цела праз тканіну кішэняў.

Бацька вярнуўся ў інтэрнат, пераапрануўся ў наўё. Паглядзеўшыся ў люстэрка, спадабаўся самому сабе. Касцюм на ім сядзеў, як на спеваку Лешчанку, ён быццам нарадзіўся ў гэтым касцюме.

Удалую пакупку не перашкодзіла б абмыць, каб зносу не было. Напрыклад, з суседам па пакоі — інжынерам з Тэнтэкскай шахты. Заадно больш-менш пазнаёмяцца па-чалавечы. Але той так рэдка з'яўляўся ў інтэрнаце, што чакаць яго не мела сэнсу, да таго ж суботні кастрычніцкі дзень, быццам лісты шчасця, шчодра раздаваў апошняе цяпло.

Адлічыўшы некалькі купюр, каб праставіцца на працы, і схаваўшы іх пад электрабрытву «Харкіў» у футаляры, абабітым сінім аксамітам, бацька вырашыў пайсці ў кабак. Пра тое, што мо лепш было б накіравацца да цёткі Груні з дзядзькам Жэнем і з імі адзначыць першы шахцёрскі заробак, не падумаў і на секунду.

Ён ніколі не быў яшчэ ў піцейных установах, але ведаў, дзе знаходзілася найлепшая, таму ногі самі прывялі яго да рэстарана, што падпіраў сваімі шклянымі сценамі кінатэатр «Юнацтва» па Ленінскай вуліцы.

Рэстаран бацьку расчараваў. У ім было досыць ціха, шэра і будзённа. Са сцяны без вокнаў на наведвальнікаў сумна пазіраў Ленін (вялікае пано з адлюстраваннем правадыра спускалася кілімам ад столі да падлогі), перажываючы, відаць, за пераводы прадуктаў і фінансаў, якія ў любым выпадку ператвараліся ў нішто. Суседства з Леніным наўрад ці садзейнічала весялосці ці з'яўленню весялосці, напрыклад, у вобразе Снягуркі і дзеда Мароза. Але ж не сыходзіць, калі ўжо прыйшоў.

Бацька марудна, быццам у чаканні, што хто-небудзь раптам пакліча яго і выцягне з рэстарана, нібы з пасткі, рушыў да найаддаленага круглага століка, засланага аранжавым з махрамі дастарханам. Паркетная падлога пры гэтым рыпела пад нагамі, як добра нагуталіненыя кірзавыя боты. Спыніўся каля століка, паклаў руку на спінку крэсла — металічнай канструкцыі ў выглядзе трона без падлакотнікаў, абабітага карычневым дзермацінам, і разгублена агледзеўся на нешматлікіх прысутных. Ніхто з іх не звярнуў на яго ўвагі, акрамя маладой афіцыянткі ўсходняй знешнасці. Не спяшаючыся, яна падышла да бацькі, трымаючы ў руках скураную чорную тэчку з меню.

— Тут заўсёды так? — міжволі запытаў ён у дзяўчыны.

— Як калі, — паціснула вуглаватымі плячыма афіцыянтка і працягнула бацьку меню. — Яшчэ рана для асноўнага наплыву, — дадала, памуляўшы вуснамі.

— Тады, — устрапянуўся бацька, абнадзеяны яе словамі, — можа, я пазней зайду? — І паглядзеў на дзяўчыну так, нібы дазволу прасіў сысці.

— Як хочаце, — абыякава аднеслася афіцыянтка.

— Пайду я, — прамовіў бацька і ледзь не бегма кінуўся да выхаду з установы.

Калі апынуўся на вуліцы, адчуў, што нават дыхаць стала лягчэй, чым у памяшканні рэстарана.

Ён закурыў. Да яго падышлі трое маладых людзей (казахаў) і адна дзяўчына, якія выйшлі з рэстарана следам за ім. Адзін папрасіў прыкурыць.

— Сумуеш? — спытаў затым бацьку. — Кампанія патрэбна? Можам і дзяўчыну для цябе знайсці, калі хочаш. Тут, — паказаў рукой на рэстаран, — мёртвае месца, не для рабочай моладзі, кшталту цябе, не крыўдуй толькі.

— Ведаеш, дзе маё месца? — незалюбіў бацька.

— Ціха-ціха-ціха-ціха! — паміж імі ўклінілася дзяўчына, што падышла з казахамі. — Лепш за прыроду месцаў не прыдумалі, — ветліва ўсміхнулася яна бацьку.

— Намякаеш, што ў мяне грошай не хопіць на гэты пафасны фасад? — позірк у бок рэстарана.

Дзяўчына паціснула плячыма, працягваючы ўсміхацца. Яна не належала да казахскай нацыянальнасці, але і рускай назваць яе было цяжка.

— Не хвалюйся, хопіць! — паляпаў бацька рукамі па кішэнях, звяртаючыся, аднак, толькі да дзяўчыны.

— Тады тым больш прырода падыходзіць, — адзначыла яна. — Калі, вядома, ты нікога не чакаеш, — пранíклівы пагляд на бацьку. І той паплыў ад яго.

Дзяўчына здавалася прыгожай і зацікаўленай ім. Ледзь прыкметная картавінка рабіла яе сапраўднай. Трое спадарожнікаў дзяўчыны бацьку не палохалі, наадварот, радавалі яго. Ён жыў цяпер у Казахстане, а выпадку пазнаёміцца, а тым больш пасябраваць, з карэннымі насельнікамі краіны да сённяшняга

дня не выпадала. Гэта ж шанец наладзіць прыватныя міжнацыянальныя стасункі.

— І дзе тая прырода? — расплыўся ва ўсмешцы бацька.

— Зусім блізенька, — усміхнулася дзяўчына яму ў адказ. — Рухайся за намі, і не пашкадуеш, — абяцала ці не рай. Зноў рай? Бацька спадзяваўся, што дзяўчына мела не райскае імя. Адной яму ўжо хапіла.

Яна назвалася Зарынай. І бацька з палёгкай уздыхнуў.

Раніцай яго знайшоў вартаўнік будоўлі новай высоткі ў бетоннай трубе. У адных трусах, майцы і шкарпэтках бацька ляжаў нерухома, нібы труп, за які вартаўнік — пажылых гадоў, але яшчэ не стары мужчына — яго і палічыў. Ён аж падскочыў, спалохаўшыся, калі бацька тагасветна прабубніў, што змерз. Вартаўнік перажагнаўся, выцягнуў бацьку з трубы і зацягнуў у сваю бытоўку, дзе раскатурхаў і напаіў гарбатай.

З апрытомненнем з'явіўся і нясцерпны боль у галаве. У чэрап, здавалася, малацілі, не шкадуючы высілкаў, нібы ў званы, кувадламі. Бацька не ведаў, дзе ён, і не памятаў, як трапіў у трубу.

Па логіцы, было зразумела, што яго апаілі і абрабавалі. Ён успомніў Зарыну і таго казаха, які з ім загаварыў. Зарына называла яго Агайдарам. І гэта ўсё. Бацька разумеў, што ён з імі некуды паехаў ці пайшоў, алі нічога не памятаў. І як ні намагаўся, як ні напружваўся прымусіць памяць працаваць — не атрымоўвалася. Каб падкруціць гайку якім слясарным ключом — гэта, калі ласка. Памяць жа — рэч складанейшая і далікатная. Ёй так проста гайкі не падкруціш, калі яна дала збой.

Упэўнены, што на памяць спадзявацца няварта, бацька папрасіў вартаўніка патэлефанаваць дзядзьку Жэню і прадыктаваў нумар яго хатняга тэлефона. Дзядзька Жэня неўзабаве прыехаў за пляменнікам на машыне, аддзячыў вартаўніка трохлітровым слоікам піва і паехаў у гараж. Дамоў не павёз, каб не хваляваць жонку.

Кораценька бацька распавёў дзядзьку Жэню пра свае прыгоды, пагадзіўся з тым, што вінаваты ва ўсім сам, і паабяцаў, што разбярэцца адзін з рабаўнікамі, бо дзядзька ўжо прапаноўваў дапамогу і сваю, і міліцэйскую.

Ну сам дык сам. Бацька заўсёды ўсе свае праблемы вырашаў самастойна. Як Чак Норыс, пра якога, зразумела, у той час ніхто ведаць не ведаў.

Адмыслова ён не шукаў Зарыну і Агайдара, але часта задумваўся, што з імі зробіць, калі знойдзе. Не ў міліцыю ж павалачэ. А вось яны могуць кінуць на бацьку заяву, калі той іх адлупцуе, і пасадзяць за мілую душу. Чамусьці ў гэтым бацька не сумняваўся. Тым не менш, прыходзіў па выходных да рэстарана, прагульваўся каля дзвярэй хвілін пятнаццаць, але ўнутр не заходзіў, курыў і сыходзіў.

Толькі пад самы Новы год, і тое выпадкова, ён сутыкнуўся нос да носа з Зарынай у грамадскім транспарце. Ён вяртаўся з працы маршрутным аўтобусам і стаяў каля акна, калі на адным з прыпынкаў пасажырскай хваляй да яго

грудзей вынесла дзяўчыну, прыціснула, а выхад спрэсавала. Зарына апынулася ў пастцы, якая схапіла яе і трымала мёртвай хваткай. Дзяўчына адразу пазнала бацьку, ён убачыў гэта па яе вачах, аднак не спалохалася, а калі спалохалася, то на імгненне. Адчайна, куражліва засмяялася яму ў твар. Бацька раптам узяў і пацалаваў яе ў вусны, што знаходзіліся акурат насупраць ягоных. Яны былі халоднымі з марозу і салодкімі, як марожанае.

— Дурань! — прашаптала яна.

Яны не размаўлялі і больш не цалаваліся. Зарына ліхаманкава шукала выйсця з пасткі. Бацька бачыў гэта па яе вачах. Яны ўвесь час бегалі, быццам ваверкі: шмыг у адзін бок, шмыг — у другі, уверх, уніз. Спадзявалася, мабыць, больш за ўсё, што яе вынесе з аўтобуса гэтак жа, як занесла. Але бацька сачыў за кожным яе рухам, і проста так ёй не ўцячы.

Нарэшце Зарына дачакалася патрэбнай хвалі. Яна падхапіла б дзяўчыну нават у тым выпадку, калі б тая супраціўлялася. Зарына пераможліва азірнулася на бацьку, але той таксама трапіў у паток, што выкульваўся з аўтобуса.

Яна пабегла, як толькі кранулася нагамі заснежанай зямлі, ды высокія шпількі зімовых ботаў тармазілі ейны імпэт. Бацька лёгка дагнаў дзяўчыну, схапіў за пухнаты каўнер прыталенага футэрка. Ліхтары і вочы людзей, што праходзілі міма, памылкова прымалі іх за закаханую пару і ўміляліся.

— Дзе ён?

— Хто?

— Ты ведаеш, хто!

— Не ведаю я нічога! Пусці! Ты робіш мне балюча!

— Яшчэ не тое будзе.

— Я закрычу! Паклічу міліцыянтаў!

— Крычы. Раскажаш ім, як абрабавалі мяне і кінулі паміраць.

— Ты нічога не дакажаш!

— А ты правер.

— Мне паверань больш.

— Добра. Тады хадзем проста зараз у міліцыю.

— Нікуды я з табой не пайду!

— Ты ж так ірвалася туды. Ужо не хочаш?

— Я перадумала.

— Што так?

— Ды хто ты такі, каб указваць мне?!

— Ніхто.

— Тады пусці і гуляй, Вася, пакуль цэлы!

— Ты мне пагражаеш?

— Папярэджваю.

— Агайдара нацкуеш на мяне?

— Ты не разумееш!

— Што я павінен зразумець?
— Што ты хочаш ад мяне?
— Адвядзі да Агайдара.
— Гэта дрэнная ідэя.
— Не, геніяльная. У мяне на марозе заўсёды ўзнікаюць геніяльныя ідэі.
— Яму не спадабаецца.
— Мне пляваць. Я за справядлівасць.
— У кожнага яна свая. Лоха абуць таксама справядліва для некага.
— Для цябе? Ці для Агайдара?
— Ты яму нічога не зробіш.
— Паглядзім.
— Тут і глядзець няма чаго.
— Тады я цябе заб'ю.
— Цябе пасадзяць.
— А цябе закапаюць. Каму з нас будзе лепей?
— Ты не здатны на злачынства, фраер.
— Гэта яшчэ чаму?
— Вочы добрыя.
— Памыляешся.
— Наадварот, разбіраюся ў людзях. Так што пусці і адчальвай! Лічы, што табе пашанцавала не сустрэцца другі раз з Агайдарам.

Бацька ніколі не біў жанчын. Удар, які ён нанёс Зарыне кулаком у жывот, быў першым у ягоным жыцці. Ён не бачыў іншага выйсця. Зарына павалілася ў сумёт, схапіўшыся за жывот рукамі. Яе твар перакрывіла сутарга болю. Вочы зашкліла здзіўленнем, як шыбы марозам.

— Падымайся! — пацягнуў бацька дзяўчыну за каўнер.

Яна паслухмяна ўстала на ногі.

— Грошы ёсць? — запытала раптам.

— З якой мэтай цікавішся? — адказаў пытаннем на пытанне бацька.

— Таксоўку трэба лавіць, — асуджана памуляла вуснамі Зарына, — каб даехаць да Паўночна-Заходняга, — дадала.

— Не перажывай, — прамовіў бацька. — У мяне грошы ёсць заўсёды.

— Шкада, — сумна адгукнулася Зарына.

Бацька нічога больш не сказаў, узяў дзяўчыну за руку, разам з ёй выйшаў да праезджай часткі, спыніўся на крайку тратуара і загадаў галасаваць. Зарына выцягнула руку, адтапырыўшы вялікі палец, каб спыніць машыну. Неўзабаве каля іх прытармазіла жоўтая «Волга» з чашачкамі на даху, і яны селі ў салон на задняе сядзенне. Зарына назвала кіроўцу адрас і адвярнулася да акна. Бацька ўзяў яе руку і прасунуў пад сваю, для надзейнасці. Зарына павярнула твар да яго, узнагародзіла недарэчнай усмешкай і зноў утаропілася ў акно.

У Паўночна-Заходнім бацьку раней бываць не даводзілася. Ён ведаў, што там на ФАПе працавала цётка Груня, і ўсё на гэтым. Пройдуць гады, і яму

прыйдзецца вазіць мяне, хворага трохлетку, у Паўночна-Заходні, дзе размешчаны абласны тубдыспансер, глытаць таблеткі, што лекавалі ад палачкі Коха, якую знойдуць у маім маленькім рахіцічным цельцы. Таблеткі тыя будуць выдавацца пад асабісты бацькаў подпіс. Я буду абавязаны піць іх у памяшканні тубдыспансера, і, пакуль не праглыну, нас не выпусцяць. Затое, калі праглыну, атрымаю ў пачастунак вітамінку — маленечкі жоўценькі салодкакіслы кругляшок. Медсястра, што будзе выдаваць таблеткі, прыкіпіць да мяне сэрцам (нашыя з бацькам паездкі ў тубдыспансер расцягнуцца на паўгода па два дні на тыдзень), пашкадуе, што бацька жанаты, усур'ёз ці жартам папросіць пакінуць мяне ёй, бо я такі прыгожы, такі паслухмяны, такі разумны, з такімі вялікімі сінімі вачыма і доўгімі, як у дзяўчынкі, павекамі... Вочы пасля, быццам хамелеоны, зменяць сінь валошак на колеры джунгляў і мяча, якія паміж сабой наладзяць спаборніцтва за месца пад сонцам і з пераменным поспехам, у прыватнасці ад настрою, кожны паасобку адсвяткуе перамогу, пакуль ім не здрадзіць зрок. Тады яны паблякнуць і назаўжды згубяць цікавасць да змагання, збітыя, нібы птушкі на ўзлёце, нечаканай і неспадзяванай здрадаю таго, хто без бою пакорыцца, быццам рыцар чароўнай даме, слепаце. А прыгажосць... Прыгажосць, мабыць, так і застанецца ў дзяцінстве, там, дзе ёй найбольш утульна жылося.

Зразумела, нічога гэтага бацька не ведаў, калі ехаў з Зарынай у Паўночна-Заходні, не планаваў і думаць не мог. Усе яго думкі былі заняты тым, што ён зробіць, калі апынецца сам-насам з Агайдарам. Міжнацыянальныя адносіны яго больш не цікавілі, затое кіпела кроў у жылах, патрабуючы рашучых дзеянняў. Бацька ўяўляў, як размажа Агайдара па сценцы, адно толькі дабярэцца да яго. Ён наяве бачыў шыю вераломнага казаха, якую зварочвае, як кураняці...

— Прыехалі, — парушыў бацькаў думкафільм кіроўца таксі і агучыў кошт за праезд.

Бацька разлічыўся і разам з Зарынай выйшаў з машыны. «Волга», буксануўшы пару разоў пры развароце ў сумёце, чмыхнула выхлапным дымам і павіхляла адгэтуль.

Тут ліхтароў не было. Іх нават не планавалі паставіць. Затое шчодрае на зоркі навісала залацістае неба, падобнае ўзорамі на нацыянальныя дываны. Ды снег бялеў навагодняй ватаю. Тым не менш шэрыя дамы за шэрымі платамі паабапал дарогі заставаліся такімі ж шэрымі. У іх гарэлі вокны, многія аздобленыя навагодняй мішурой і гірляндамі, але адчуванне свята пры позірку на іх не ўзнікала.

Недзе здалёку пачуўся сабачы брэх. Яму ляніва пачалі адказваць з розных бакоў тым самым, нагадваючы нязладжаны аматарскі хор з нейкага мультфільма.

Зарына штурханула брамку, каля якой стаяла, і, не азіраючыся, пайшла ў двор. Ведала, што бацька не адстане.

Атынкаваны, але ўжо месцамі аблуплены, як варанае яйка, дом негасцінна зарыпеў уваходнымі жалезнымі дзвярыма. Адразу ж, як увайшлі ў памяшканне, абдало цяплом і пахам плова, шумнымі галасамі і тытунёвым дымам. Затрымаліся ў вітальні. Зарына паглядзелася ў люстэрка на сцяне, падмазала чырвонай памадай вусны.

У вітальню з агульнага пакоя вылецеў, хутка і злосна нешта балбочучы паказахску, Агайдар. Валасы яго былі ўскудлачаныя, кашуля расшпіленая, на вузкай плоскай грудзіне ружавеў нажавы непрыгожы шнар, вочы чырванелі набухлыя крывёю.

— Якія людзі ў Галівудзе! — зачапіўшыся аб задраны краёк пасланага на падлозе саламянага кілімчыка, выгукнуў ён і пазіраў то на Зарыну, то на бацьку. — Ну, праходзьце, калі прыйшлі! — запрасіў у агульны пакой неспадзяваных гасцей і, не чакаючы тых, вярнуўся туды, адкуль выскачыў.

Бацька разгубіўся. Яму раптам захацелася сысці адгэтуль і ніколі больш не вяртацца! Што і каму ён дакажа? Каго пакарае? Вінаваціць у першую чаргу трэба было сябе. Ведаў жа, што піць з незнаёмымі нельга, тым больш ехаць з імі кудысьці. Зарына скінула футра, узяла бацьку за руку і павяла за сабой, тым самым прагнала яго думкі, як зграю галодных, але нерашучых ваўкоў ці, хутчэй, сабак. Бацька паслухмяна пайшоў за ёю, дакладней, за завіткамі яе валасоў на шыі, такіх жа, як у Раі. Да іх карцела дакрануцца, а яшчэ — схапіць дзяўчыну ў абдымкі і бегчы адсюль на злом галавы ў краіну шчасця, дзе б тая ні знаходзілася.

Ён затрымаўся ў дзвярным праёме. Пасярэдзіне пакоя стаяў вялікі стол (багата сервіраваны гароднінай, садавінай, мясам і алкаголем, асобна выдзяляўся казан з пловам), абсаджаны рознакалібернымі таварышамі Агайдара, таксама прадстаўнікамі казахскай нацыянальнасці, гундзеўшымі па-свойму. У левым куце працаваў каляровы тэлевізар, экран якога адлюстроўваў шэрыя будні савецкага крымінальнага вышуку ў асобе Яўгена Жарыкава. На канапах каля правай і левай сценак было паскідана гарой верхняе адзенне прысутных. Да адной з канап наблізілася Зарына, ззяючы бліскучай сукенкай, падобнай на рыбную луску, села, закінула нага за нагу, утапіла локаць у горцы атласнакветкавых падушак.

Агайдар наліў дзве шклянкі гарэлкі да краёў і падышоў да бацькі.

— Вып'ем міравую, брат! — працягнуў адну шклянку яму, прыязна ўсміхаючыся. — Мой дом — твой дом, — працягваў ён, калі бацька ўзяў шклянку. — Еж, пі, колькі хочаш! Плоў, бешбармак, Зарына, усё тваё. Забудзем крыўды, будзем сябрамі!..

Апошнюю фразу Агайдар вымавіў для сябрукоў за сталом, каб тыя яго падтрымалі.

Бацька кіўнуў, згаджаючыся, зрабіў вялікі глыток, злавіў на сабе зацікаўлены позірк Зарыны, а потым узяў і выліў тое, што засталося ў шклянцы, Агайдару ў твар.

— Не брат ты мне, — працадзіў скрозь зубы, — нават не мар.

Зарына закрыла вочы рукамі ў прадчуванні чагосьці дрэннага.

Агайдар паставіў сваю шклянку на стол і абцёр твар рукавом.

Бацька павярнуўся да яго спінай і рушыў да выхаду.

Агайдар схапіў пляшку са стала, ірвануўся за бацькам і ўдарыў з усяе сілы бацьку па галаве...

— Уставай! Ну ўставай жа! — намагалася сцягнуць Зарына бацьку з чыгуначных рэек, на якіх той нерухома ляжаў упоперак. На галаве, на твары яго запяклася кроў і выглядала звычайнай фарбай, у якую той неасцярожна выпацкаўся. Снег, быццам мяккі пух, які вытрасала залаціста-сіняе неба, павольна падаў на разбітыя бацькавы вусны і раставаў на іх, нібыта лякуючы. — Уставай! — плакала Зарына ад бяссілля зварухнуць непад'ёмнае для яе бацькава цела. — Уставай, Чакан Валіханаў хераў, Амангельды Іманаў беларускага разліву! — у адчаі запляскала яна па бацькавым твары далонькамі. Той замукаў нешта неразборлівае, паморшчыўся. — Уставай! Ну ўставай, калі ласка! — узмалілася Зарына. Яна пачула набліжэнне цягніка, зазвінелі рэйкі, затым пачуўся гудок паравоза, і аддалены грукат колаў разрэзаў цішыню напалам. — Уставай зараз жа! — спалохана закрычала дзяўчына на бацьку. Нейкім невытлумачальным чынам, мабыць са страху, ёй удалося нарэшце прыўзняць нямоглага за плечы, наваліцца ўсім целам на яго і перакуліцца разам з ім з рэек у снег. Праз некалькі секунд міма прагрукатаў цягнік.

Бацька не апрытомнеў і ніяк не мог дапамагчы Зарыне ратаваць сябе. Ёй давялося ўсё рабіць самой. Напружвацца да знямогі, да цемры ў вачах, да разрыву аорты і селязёнкі, але цягнуць бацьку ў бяспечнае месца праз снег, правальваючыся ў яго па калені за крокам крок, і буран, што наляцеў неўзабаве і кідаўся на дзяўчыну раз'ятраным каршуком. Так некалі выцягвалі на сабе параненых з поля бою маладзенькія кволыя на выгляд санітаркі, маючы за плячыма ўсяго сямнаццаць ці васямнаццаць гадкоў.

Чаго яна паперлася за ім? Хто ён ёй такі, каб рызыкаваць сваім жыццём дзеля яго? Вось іменна — ніхто! Але ён так адчайна біўся, як сапраўдны леў, з Агайдарам і сябрукамі Агайдара, што міжволі выклікаў захапленне і павагу Зарыны, якая цаніла ў мужчынах менавіта звярыны пачатак і характар. У бацьку яна разгледзела сапраўдны мужчынскі характар. Нехта ў тым, што зрабіў мой бацька, убачыць глупства, нелагічнасць і дурную браваду. Зарына ж убачыла мужчыну, які мужчынам не прытвараўся, як амаль усе, каго яна ведала. На жаль, такія доўга не жывуць.

Колькі яму? Дваццаць, дваццаць тры гады? Максімум дваццаць пяць? Агайдар старэйшы за яго ў любым выпадку, як і сябрукі ягоныя. Зарына не магла адвесці вачэй ад бацькі, які сапраўды нагадваў ёй ільва, атакаванага зграяй шакалаў...

Хэпі-энд, аднак, бывае толькі ў амерыканскіх фільмах. У савецкай рэчаіснасці заўсёды перамагае кагал. Бацьку калектыўна загасілі, забралі (зноў) усе

грошы, знялі з рукі гадзіннік, куплены зусім нядаўна, з металічным бранзалетам, хацелі распрануць, як у мінулы раз, усё адно прападзе дабро, але чамусьці передумалі. Завезлі ў багажніку Агайдаравага «запарожца» да чыгункі, якая праходзіла непадалёк ад Паўночна-Заходняга праз стэп па адмысловым насыпу, і паклалі на рэйкі. Спяшаючыся, забыліся пра Зарыну, якая таксама панеслася да чыгункі бегма. На вялікае шчасце для бацькі, паспела своечасова.

Яна валакла бацьку волакам, здавалася, цэлае жыццё да ФАПа — найбліжэйшага па дарозе будынка, да таго ж з тэлефонам. Адтуль выклікала «хуткую», папярэдне адамкнуўшы дзвярны замок шпількай. Пасля зацягнула бацьку ў памяшканне, села на падлогу каля дзвярэй, паклала бацькаву галаву сабе на калені і нешта заспявала па-казахску, шчымлівае і пяшчотнае, гладзячы далонямі ягоны твар.

У бальніцы бацька не затрымаўся. Апрытомнеўшы з дапамогай дзяжурнага ўрача і медсясцёр, падзякаваў і рушыў да выхаду. Яго хістала з боку ў бок, як матроса на караблі ў шторм, але на нагах ён устояў. Зарына раззлавалася на яго, калі пабачыла побач з сабой. Яна сядзела на кушэтцы ў вестыбюлі і чакала невядома чаго ці каго, хутчэй за ўсё таксі, якое выклікала незадоўга. Бацька плюхнуўся на кушэтку поруч з ёю. Дзяўчыне давялося везці яго да сябе.

У Зарыны бацька добра выспаўся, і сон замяніў усялякія лекі. Прачнуўшыся (а спаў цэлыя суткі і палову наступных прыхапіў), бацька адчуў страшэнны голад. Ён падмёў усё, што знайшоў у лядоўні на кухні. Потым сеў каля падаконніка, адчыніў фортку і закурыў, міжволі моршчыўся ад дотыку цыгарэты да пабітых вуснаў. Тое, што знаходзіўся ён адзін у чужой кватэры, яго не здзівіла. Бацька памятаў усё, што з ім адбылося. Больш непакоіла тое, што падумаюць пра яго на працы. Колькі паставяць прагулаў. А мо і вымову яшчэ ўлепяць, як пабачаць на вочы: фізіяномія яшчэ тая. Не, фінгалаў не было і ліхтароў замест вачэй таксама. Затое вусны нагадвалі грыбы і нос паходзіў на сліву. Бледна-ружовыя з жоўтым адценнем плямы на рэбрах, на спіне і на плячах сведчылі аб гематомах, аднак нявартых асаблівай увагі, як на бацькаву думку. Між тым выглядалі яны ўнушальна, і любы іншы чалавек занепакоіўся б. Але гэта не пра майго бацьку.

Пачуўшы нечаканае вуркатанне ключа ў замку па другі бок дзвярэй, бацька выйшаў у вітальню аднапакаёўкі сустрэць ратаўніцу, чым ледзь не напалохаў яе. Яна думала, што ён яшчэ ў ложку. Выскачыла ўсяго на хвілінку па хлеб і малако ў бліжэйшую краму.

— Прачнуўся, бачу, — працадзіла, разбуваючыся, — Амангельды ты наш недабіты...

— Хто? — не зразумеў бацька.

— Амангельды, — паўтарыла Зарына, — нацыянальны герой.

Яна прайшла на кухню, заўважыла бацькава гаспадарнічанне, але нічога яму не сказала, наадварот, усміхнулася куточкамі вуснаў. Недарэмна ўвіха-

лася за ім дзень і ноч. А ён глядзеў на яе і не ведаў, што рабіць далей і што казаць.

— Дзякуй табе, — нарэшце вымавіў.

— Няма за што, — адгукнулася дзяўчына. — Цяпер мы квіты. Я табе больш нічога не вінна. Вінны мне ты.

— Як гэта? — не зразумеў бацька.

— З-за цябе цяпер у мяне будуць праблемы, — удакладніла Зарына. — Ты павінен мне дапамагчы пазбегнуць гэтых праблем. Ты ж герой ці не? — падышла да яго блізка-блізка.

Бацька ўзяў яе за плечы і прытуліў да сябе. Яна прыўзняла галаву і пільна паглядзела ў яго вочы.

— Вырашэнне маіх праблем, — прамовіла Зарына, дакранулася пальцамі да бацькавых шчок, — знішчыць і магчымае ўзнікненне тваіх, — дадала.

— Агайдар? — дапетрыў бацька.

Дзяўчына кіўнула.

— Не забіць жа я яго павінен, — чамусьці прашаптаў ён.

— Не так радыкальна, Амангельды, — таксама шэптам супакоіла бацьку Зарына, асцярожна пацерлася носікам аб ягоны распухлы нос. — Але ход тваіх думак мне падабаецца, — усміхнулася.

— Хто ты яму?— пацікавіўся бацька, ведаючы, аднак, што яна не адкажа, і не памыліўся.

— Гэта не мая тайна, д'Артаньян, — працытавала Зарына Дзюма словамі яго персанажа Канстанцыі Бонасье. — Доўга расказваць і нецікава, — апусціла вочы.

Бацька і не настойваў на яе споведзі. Яму было добра. Проста вось так стаяць, абдымаць дзяўчыну і нічога больш не рабіць...

Не адразу, але бацька пагадзіўся дапамагчы. Зарына запэўніла яго, што пасля яны больш ніколі не пабачацца, і Агайдар таксама не патурбуе. Яна не пацікавілася, а ці хацеў бацька ніколі больш яе не бачыць, мабыць, нейкім чынам упэўнілася. Бацька ж, у сваю чаргу, не спытаў Зарыну, ці хацела б яна пабачыцца з ім ізноў. Тэму яны замялі, так і не развіўшы.

У Паўночна-Заходні гэтым разам ехалі аўтобусам. Выдаўся на дзіва сонечны бясснежны дзень. Пярэдадзень Новага года. Мінакі выглядалі заклапочанымі, але ўсё адно твары іх свяціліся святочным настроем і чаканнем нечага чароўнага, кшталту мандарынаў у авоськах. Асабліва радаваліся дзеці. Для іх Новы год — найлепшае свята ў жыцці. З-пад верхняй вопраткі, быццам адмыслова, напаказ вызіралі краёчкі маскарадных сукенак Прынцэсы, Феі, Чырвонага каптурыка, Сняжынкі ў дзяўчынак, чые мамы ўсю ноч абшывалі казачныя ўборы бліскучай мішурой, каб іх дочкі былі самымі прыгожымі; у хлопцаў тырчэлі чарціныя хвасты, а пад носам казыталі скуру намаляваныя гуашшу ці касметычным алоўкам старэйшых сясцёр вусы і бародкі мушкецёраў, піратаў і гусар. Яны вярталіся з ранішнікаў, хто з бацькамі, хто з братам ці з сястрой,

хто сам па сабе, але кожны з падарункам ад Дзеда Мароза і Снягуркі ў руках і цукеркамі ў шыкоўным кілаграмовым пакунку з малюнкам зайца і ваўка з любімага мультфільма.

Шчаслівая дзятва абнадзейвала, што ўсё да лепшага.

Дом, у які, на колькі памятаў бацька, прыводзіла яго Зарына, прамільгнуў за акном аўтобуса, як кінакадр, але дзяўчына нават не паварушылася. Бацька мог і памыліцца, бо дамы амаль не адрозніваліся адзін ад другога і нагадвалі каменныя баракі, дзе пабеленыя вапнай, даўно пакрытай пылам, дзе проста атынкаваныя, але таксама шэрыя. Вылучаўся сярод іх толькі дом, пабудаваны з бярвенняў, каля якога Зарына з бацькам выйшлі з аўтобуса. Аднак, і ён сувора захоўваў вернасць шэраму колеру.

Яны паспелі якраз да абеду. За накрытым сталом сядзелі Агайдар, яго старэйшы брат, які літаральна ўчора вярнуўся з турмы, дзе паўгода правёў за хуліганства (выратаваў дзяўчыну ад гвалтаўнікоў, сярод якіх апынуўся сын старшыні гаркама, адпраўлены «злачынцам» у рэанімацыю), маці і бацька — строгі, вытрыманы, упэўнены ў сабе, можна сказаць, самурай, вельмі падобны знешне на амерыкана-японскага кінаакцёра Хіраюкі Тагаву. У свой час ён узначальваў Долінскі карлаг, зараз кіраваў Тэнтэкскай шахтай, абедаць заўсёды прыязджаў дамоў, што б ні здарылася. Між іншым, менавіта дзякуючы яго сувязям старэйшы сын не атрымаў па максімуме, хоць быў і не вінаваты. У іх нават прыслуга мелася з былых сасланых немцаў...

Хутчэй за ўсё Зарына ведала, што застане ўсю сям'ю Агайдара разам, больш за тое, разлічвала на гэта, бо на выпадковасць падобнае мала паходзіла. Яна хацела раз і назаўсёды пазбавіцца ад Агайдаравага ўплыву, скампраметаваць таго перад сям'ёй, зганьбіць яго на вачах сваякоў праз майго бацьку, тым самым засцерагчы і сябе, і бацьку. І ёй задуманае ўдалося, а бацька быў жывым пацверджаннем цёмных спраў іх сынка. Старэйшы брат, проста ў гасцёўні, побач з абедзенным сталом, на вачах ва ўсіх прысутных «пагаманіў» з Агайдарам, ператварыўшы яго твар у крывавую кашу. Пасля загадаў вярнуць бацьку ўсё, што адняў, і вымятацца з хаты. Сваякі ад Агайдара адракліся.

Больш Зарыну бацька ніколі не бачыў, як і Агайдара.

Ён угледзеў яе смяшлівы твар і вушы, падобныя на эльфійскія, зусім выпадкова, падчас пахавання дзеда, амаль праз пятнаццаць гадоў. Ні кроплі не змяніўшыся, яна какетліва пазірала на бацьку з фотаздымка надмагільнага помніка. Сэрца Зарыны перастала біцца праз тры дні пасля таго, як яна разам з бацькам прыціснула Агайдара.

# «Першацвет»

Мая настаўніца па беларускай мове і літаратуры называла першы літаратурны часопіс для моладзі і пра моладзь, аналагаў якому не было нідзе ва ўсім

свеце, «пустацветам» і гідліва моршчылася, беручы яго ў рукі, асабліва тады, калі на старонках часопіса надрукавалі мае вершы. Маімі ж вершамі яна мяне абражала перад усім класам. Зачытвала асобныя радкі і здзекавалася над імі, як над недасканалымі малькамі-галавасцікамі, знішчаючы і іх, і мяне разам з імі. Не сумняваюся, што асалоду ў тыя моманты настаўніца атрымлівала неземную. А клас рагатаў, бы заведзены, над кожным яе словам, адрасаваным у мой бок разрыўнымі кулямі. Такім чынам мяне намагаліся паставіць на месца, не ўдаваць з сябе Паэта і не вытыркацца, бо я такі ж звычайны доўбень, як астатнія, калі не горш. Да таго ж сын свайго бацькі, які таксама вучыўся ў гэтай настаўніцы. Яна яму ставіла двойкі, не задумваючыся, бо ведала, што ні на адно пытанне па літаратуры ён не адкажа. Бацька не хацеў вучыцца, таму пасля восьмага класа пайшоў працаваць. Вярнуцца ў школу яго прымусіў дырэктар, і вяртанне бацькава, відаць, настаўніцу белліту так узбясіла, што яна нават не лічыла патрэбным прыхоўваць адмоўнае стаўленне да вучня. Фанатычна адданая свайму прадмету і справе ўсяго жыцця жанчына лічыла бацьку скончаным чалавекам і не жадала валандацца з ім. Бацьку ў сваю чаргу надакучылі штодзённыя двойкі ад яе, і ён аднойчы не стрымаўся.

— Што вы хочаце мне даказаць гэтымі двойкамі? — выйшаў з-за парты і запытаў у настаўніцы. Тая разгубілася і не ведала пэўны час, што яму адказаць. — Думаеце, мне падабаецца сюды хадзіць і слухаць усю тую ахінею, што вы несяце пра купалаў і коласаў? — працягваў. Настаўніца, быццам робат, механічна залыпала вочкамі. Ад абурэння пачутага ў яе падскочыў ціск, які мог справакаваць мікраінфаркт, але бацька не заўважаў стану жанчыны. — Мне яны на хер не здаліся! — бязлітасна прамаўляў далей. — Я не па ўласным жаданні кінуў працу, патрэбную мне ўтрая больш за сумніўную тут адукацыю. Мяне папрасілі. Не з працы папрасілі, а давучыцца. Толькі вучоба гэтая адзін пшык. Асабліва ваша літаратура. Я хачу пражыць сваё жыццё без удзелу ў ёй вас і вашых кніг, дзе няма ні слова праўды, бо праўда на паверхні і ў паветры, а не на старонках прыдуманых хворым розумам неўротыкаў, ныцікаў, сіфілітыкаў і іншых няздараў чужых жыццяў. Ім не хапіла пораху пражыць наяве тое, што яны панапісвалі, але гэта іх праблемы, не мае. Дык чаму я павінен прыслухоўвацца да тых, хто не пражыў ні дня так, як хацеў, але вучыць іншых жыццю, якое не пражыў, га? Сваё жыццё я пражыву па-свойму, аднак у ім не будзе кніжных глупстваў, якімі вы так захапляецеся!

— Што ты вярзеш, боўдзіла! — нарэшце прарвала настаўніцу. Яе трэсла, бы ў прыпадку, ад гневу. Яна б ударыла бацьку, каб была смялейшаю ці безразважлівейшаю. Аднак мусіла перамагчы сябе і ў чарговы раз упэўніцца, што мела рацыю наконт бацькі і не памылілася ў тым, што ён бескарысны чалавек.

Гэтаксама настаўніца адносілася і да мяне, ва ўсялякім разе тады, калі я вучыўся ў школе. Маё захапленне творчасцю яна лічыла бязглуздым заняткам, нявартым, каб на яго траціць час і нервы. «Усё роўна ў цябе нічога не атрымаецца, — казала жанчына. — Каб пісаць вершы, патрэбен талент ад

Бога, а ты сын свайго бацькі. Які ў цябе можа быць талент? Хіба што запал неяк выдзеліцца, што для твайго ўзросту цалкам уласціва. І ўсё на гэтым. Не крэмзай дарэмна паперу, не гвалтуй ні яе, ні сябе. Яна ніколі не адкажа табе ўзаемнасцю. Бо каб пісаць — патрэбна пакліканне. А хто цябе пакліча? Ты ў нас без году тыдзень. Гэта не твая зямля, а значыць, не твой шлях. Але не перажывай. Знойдзеш сябе ў іншай галіне. Прафесій на свеце шмат...»

Мне б паслухаць яе, магчыма, быў бы шчаслівейшым, і ў жыцці ўсё склалася б. Жыў бы, як усе мае сваякі, і ў вус не дзьмуў. Пілаваў бы дровы на пілараме, бухаў па пятніцах, жаніўся б неўзабаве на якой-небудзь вясковай мадонне, а яна нарадзіла б тузін маленькіх лапавухенькіх адамчыкаў дзеля пагашэння шматлікіх крэдытаў, якія б мы ўзялі, каб узвесці родавы замак каля лесу на беразе Нёмана. Жыві — не хачу. Вось яно жыццё, якое павінна быць, а не тое, што выпала мне, нібы мячык з кішэні, і закацілася пад ложак у кватэры Муз. Ці бачыў я хаця б адну з-пад ложка?..

А я быў упартым, як бацька, і не слухаўся дарослых. Спрачаўся з настаўніцай амаль на кожным уроку па справе і без. І яна штораз упэўнівалася, што не памылілася і на мой конт, як некалі на бацькаў. Бо яблык ад яблыні, як той казаў...

Часопіс «Першацвет» узнік у 1992 годзе (выпаўз, выпрастаўся, як першы парастак, пасля суровай зімы шэрых савецкіх будняў і пацягнуўся да сонца ўсім сваім кволым на першы позірк рахіцічным цельцам) з літаб'яднання пры газеце «Чырвоная змена». Тым літаб'яднаннем кіраваў пісьменнік Алесь Масарэнка, ён і ўзначаліў новы часопіс. Зрэшты, ні ён, так абавязкова знайшоўся б іншы, бо як стварэнне, так і ўзнікненне часопіса падобнага кшталту было заканамерным. І толькі ў Беларусі. Да таго ж пры часопісе Алесь Масарэнка «адкрыў» школу маладога пісьменніка, якую сціпла назваў літаб'яднаннем, на якім кожны панядзелак збіралася творчая моладзь з усіх куткоў краіны. Разбуджаныя і пакліканыя юнакі і дзяўчаты імкнуліся на тыя панядзелкі, бо сустракалі там падобных да сябе, з кім тут жа знаходзілі агульныя інтарэсы і нават закохваліся, чаго не адбывалася там, дзе яны жылі.

Грамадства, найперш дзіцячае ці, лепш, моладзевае, на той час падзялілася на два лагеры: жлаб'ё і ідэалістаў.

Першых цікавіла прыгожае жыццё ў прымітыўным уяўленні пра яго: багацце, грошы, машыны, шмоткі, смачная ежа, магчымасць беспакарана красці і адпачываць дзе-небудзь за мяжой, а яшчэ лепш за мяжой і застацца.

Другіх — духоўны свет і свой след у гісторыі краіны, творчасць і самавыражэнне праз яе. І калі першы лагер налічваў абсалютную большасць, то ў другі траплялі, на думку большасці, няздары і дэгенератыўныя летуценнікі, каму не было месца ў дзяржаве жлаб'я, бо жлаб'ё не цікавілі кнігі і ўвогуле культура, тым больш беларуская мова, на якой, часцей за ўсё, прадстаўнікі варожага для іх лагера кантактавалі паміж сабой і з светам. «Першацвет» і літаб'яданне пры часопісе сталіся аддушынай для так званых дэгенератыўных летуценні-

каў па версіі прасунутых жлабоў. Што ж, краіна мела патрэбу і ў тых, і ў тых. Натуральна, дзеля балансу.

Алесь Масарэнка, між тым, выконваў не проста функцыі наглядчыка за парадкам на паседжаннях па панядзелках, якія маглі зацягнуцца да глыбокага вечара, і галоўнага рэдактара часопіса, але праводзіў выхаваўчую работу з моладдзю, што зляталася да яго, быццам матылі на агеньчык. Ім было цікава, яны не прыхоўвалі сваёй цікаўнасці, упітвалі кожнае пачутае слова ў сябе, быццам зерне, кінутае ў зямлю, што чакае паліўкі. Не менш цікава з імі было і Алесю Герасімавічу. Ён радаваўся кожнаму новаму маладому чалавеку ці дзяўчыне, як дзіця, кожнага ведаў па імені і распытваў пра яго жыццё і захапленні, чым падкупліваў раз і назаўжды. Асабліва ганарыўся тым, што ўмеў ненавязліва перакانаць рускамоўнага юнага творцу пісаць і размаўляць па-беларуску, а таксама з годнасцю адносіцца да роднай мовы і краіны, бо кожны грамадзянін Беларусі апрыёры павінен ведаць, як мінімум, мову, калі ён, канечне, чалавек, а не жлоб.

Гэта быў час пошукаў і памылак, адзіноты і белых варон, прагі нажывы і ведаў. Бацькам асабліва не было калі займацца сваімі дзецьмі: яны дбалі пра тое, як ім выжыць, і працавалі, бы праклятыя. Моладзь гуртавалася тым часам у бандыты і паэты. Алесь Масарэнка апошніх ратаваў, клікаў іх са старонак часопіса, з газет, радыё, актыўных выступаў у бібліятэках і школах. Пры гэтым нікога не падманваў, вартых друкаваў. У кожным нумары заўжды з'яўляліся па шэсць-сем новых імёнаў. Таму, каму не шанцавала на друк адразу, Алесь Герасімавіч казаў расці і раіў пабольш чытаць, бо толькі чытанне садзейнічае творчасці і працы мозгу.

Я даведаўся пра «Першацвет» ад мамы. Яна выпадкова пачула радыёінтэрв'ю з Алесем Масарэнкам, у якім ён распавядаў пра часопіс, пра літаб'яднанне, а напрыканцы назваў адрас, куды можна і нават варта альбо напісаць ліст, альбо прыйсці ці прыехаць. Адрас той мама запісала на ўсялякі выпадак і неяк пры размове паведаміла мне. Я тут жа загарэўся ідэяй з'ездзіць у Мінск, у гэты цуда-«Першацвет», прапанаваць свае шматлікія геніяльныя вершы, якія абавязкова надрукуюць, бо яны ж геніяльныя, хоць па аб'ёме кожны займаў, запісаны нечытэльным почыркам, старонкі тры ў школьным сшытку, каб даказаць усім вакол, што я нечага варты, а не проста так...

У перадапошні тыдзень лета мама выкраіла час, каб з'ездзіць у Мінск: і па сваіх, і па маіх справах. Зразумела, узяла мяне з сабой. Перш-наперш, апынуўшыся ў сталіцы, мы рушылі па адрасе, указаным Алесем Масарэнкам, які мама запісала ў сваім нататніку. Я тады слаба арыентаваўся ў вялікім горадзе, бо апынуўся ў ім другі ці трэці раз за ўсё жыццё, губляўся ў падземных пераходах і метро, але мама ўпэўнена і рашуча крочыла паперадзе мяне, і я за ёй не адставаў, хоць і матляў галавой у розныя бакі з-за цікаўнасці і разнастайнасці таго, што бачылі мае вочы, за якімі не паспяваў, нібы за сабакамі, што вырываліся з ланцуга, імкнучыся да волі. На «Плошчы Перамогі»

выйшлі з метро, падняліся па ўсходах да хлебнай крамы «Каравай» і шапіка белсаюздруку побач з ёй. Наперадзе маячыла брама ўваходу ў парк Горкага. Паўсюль былі людзі, якія абганялі адзін аднаго, як машыны на праезджай частцы дарогі. У нейкага мінака мама спытала, дзе тут Дом літаратара. Той не адказаў, не зразумеўшы, мабыць, пытання, адно паціснуў плячыма. Не магла нам падказаць і жанчына, што выгульвала лысага пудзелька. Тады мама пачала называць адрас «Фрунзэ, 5», і, нарэшце, нам пашанцавала. Маладыя людзі, відаць, закаханая парачка, з бел-чырвона-белымі стужкамі ў валасах і на запясцях, нават праводзілі нас да жаданага месца. Мы падняліся на трэці паверх, спыніліся каля дзвярэй з лічбай 301. Мама засталася каля трумо ля парэнчаў, у пакой я зайшоў адзін. Алесь Герасімавіч Масарэнка — тоўсты вусаты дзядзька — сядзеў каля акна за вялізным драўляным лакаваным сталом. Убачыўшы мяне, падняўся, пацікавіўся, хто я, адкуль і чаго завітаў. Я, стоячы на парозе, нясмела сказаў, ці не заікаючыся, што прынёс вершы, і тут жа выцягнуў важкі стос сшыткаў, каб Масарэнка не сумняваўся ў праўдзівасці маіх слоў. Той параіў лепш прыйсці ў панядзелак і перапісаць вершы на аркушы фармату А4 ці надрукаваць іх на пішучай машынцы. Я згодна кіўнуў і шуснуў да мамы, зачыніўшы за сабой дзверы. Мяне трэсла, бы ў ліхаманцы, ад напружанасці і хвалявання. Як мага хутчэй я мусіў выбегчы на вуліцу і закурыць, каб пазбавіцца нервавання. З таго моманту я нецярпліва чакаў панядзелка.

Мама купіла пачак паперы ў ГУМе, і, як толькі мы вярнуліся дамоў, я сеў за стол перапісваць вершы з сшыткаў на паперу. Перапісванне мне падабалася, бо гэта ж былі мае вершы, якія таксама падабаліся. Больш за тое, я іх абагаўляў і лічыў, што ў хуткім часе да маіх вершаў падобным чынам будзе ставіцца не толькі Масарэнка, але ўся Беларусь. Цалкам сур'ёзна я быў упэўнены ў магутнасці сваіх вершаў, якія перакуляць дагары ўяўленне пра літаратуру. Падсвядома я адчуваў, што недарэмна пачаў складаць вершы яшчэ ў Шахцінску, да таго ж па-беларуску (не ў Шахцінску, зразумела), чым вельмі ганарыўся. Паэзію з мяне прарвала, як дамбу, пасля навагодніх святаў, дзякуючы Алене, з якой мы разам удзельнічалі ў школьнай самадзейнасці. Я быў Рэмбо, Ясеніным, Пушкіным, Байранам і Багдановічам у адной асобе і нічым іншым, акрамя складання вершаў, займацца ў будучым не хацеў. Дакладней, Вёска нашаптала, што Літаратура мае ўва мне патрэбу, бо мала проста любіць яе і чытаць кнігі. Яна прагла майго кахання і безадказнага служэння ёй, абяцаючы незвычайнай па шчырасці ўзнагароды. Да таго ж, працягвала Вёска, зусім невыпадкова яна пасяліла нас у хаце па вуліцы Якуба Коласа. То бок я быў абраны загадзя Літаратурай, і яна проста чакала зручнага выпадку, каб аб'явіць мне сваё пакліканне. І ў гэта хацелася верыць, хацелася думаць, што Вёска не падманвала і не здзекавалася, як заўжды нада мной, а шчыра ўказвала далейшы шлях. Яна нават пацалавала мяне на ўдачу, калі ў апошні панядзелак лета я першым ранішнім рэйсам сядаў у аўтобус да Райцэнтра, каб адтуль перасесці на электрычку, што адвязе ў Мінск.

А дзясятай гадзіне я сышоў з электрычкі на чыгуначным сталічным вакзале. Сонца шчодра дзялілася сваім цяплом, здавалася, з усім светам. Прывакзальная плошча кішэла людзьмі, махлярамі і вераб'ямі. Паабапал яе падпіралі таксоўкі. У кутах марнавалі час пустыя жоўтыя бочкі з-пад квасу. Яны чакалі, калі іх напоўняць, пад разгалістымі, быццам дрэвы, парасонамі. Побач з імі абмахваліся газетамі тоўстыя, як правіла, прадавачкі квасу. З камерцыйных шапікаў, што, нібы гірлянды, абвешалі вакзал, даносілася музыка, між іншым, у кожнага свая. У адным плакала Таня Буланава, звяртаючыся, тым не менш, да некага ці да сябе: «Не плач». У суседнім камандаваў эскадронам «мыслей шальных» Алег Газманаў. Далей скавытаў Вадзім Казачэнка пра тое, што яму больна; у сінім тумане губляўся Дабрынін; прыкідвалася варонай Лінда; курылі цыгарэты з ментолам «Нэнсі»; абзываў кагосьці гадзюкай Чумакоў; з Чыа-Чыа-Санам хацелі быць разам «Кар-Мэн»; да нейкай Лізы звяртаўся Губін, а Белавусаў клікаў, каб да яго прыходзіла толькі яна адна... Але гучней за ўсіх пра Уладзімірскі цэнтрал гундосіў Круг, і не ў адным месцы. Напарстачнікі разводзілі даверлівы народ на грошы, прычым да іх, напарстачнікаў, чарга жадаючых пазбавіцца ад лішніх, відаць, сум не памяншалася, а з кожнай гадзінай павялічвалася. Там прадавалі марожанае, тут хот-догі, далей піражкі ці чабурэкі, а яшчэ беляшы, кукурузу, салодкія трубачкі, кока-колу, каву, смажню, шашлык, піва, нават «мярзаўчыкі», якімі не грэбавалі, нягледзячы на спёку і пачатак дня.

Я ненадоўга затрымаўся каля напарстачнікаў. Няголены, каўказскай знешнасці з шнарам праз усю правую шчаку ўмелец падміргнуў мне і пасміхнуўся, бліснуўшы фіксай. Яго сябар ці, можа, брат, бо падобныя адзін на другога яны былі дужа, заклікаў не праходзіць міма і паспытаць на ўдачу лёс. Усяго-та і патрабуецца ўгадаць наяўнасць шарыка пад адным з трох напарсткаў. Быццам заваражаны, я пазіраў за рухамі каўказца з шнарам на шчацэ. Ён здаваўся мне чараўніком. Я б таксама хацеў быць чараўніком, але не дзеля банальнай нажывы, а дзеля мастацтва.

На той час я яшчэ не прачытаў «Страчаныя ілюзіі» Бальзака, затое некалькі разоў праглынуў «Мушкецёраў» і адчуваў сябе сучасным д'Артаньянам, перад якім гэты свет раскрыліць свае абдоймы, быццам прыўкрасная жанчына, і прыме за доўгачаканага каханага. Гэтак жа, як і д'Артаньян, які з'явіўся ў Парыжы з трыма экю, я меў у кішэні тры рублі і не сумняваўся, што мне іх хопіць, каб уразіць усіх вакол.

Да літаб'яднання было яшчэ далёка, таму я, карыстаючыся вольным часам, знаёміўся з Мінскам. Пабываў каля Чырвонага касцёла, прайшоўся пешшу да Траецкага, паблукаў там, вярнуўся на праспект, перайшоў дарогу, пахадзіў па Панякоўцы, пакурыў побач з Купалаўскім тэатрам, спусціўся, мінаючы танк, да парка Горкага, затрымаўся каля цырка, паназіраў на мастку за качкамі ў Свіслачы, па ходзе, між іншым, не прапусціў ніводнай кнігарні, разглядаючы і гартаючы кнігі беларускіх, у асноўным, аўтараў, бо не сумня-

ваўся, што ў хуткім часе нехта, падобны на мяне, будзе таксама вось так разглядаць і гартаць мае кнігі.

Недзе пасля шаснаццатай гадзіны рушыў у бок Дома літаратара. Падняўся на трэці паверх. Акрамя Алеся Герасімавіча, які ветліва працягнуў мне руку для вітання, у памяшканні 301 знаходзіліся Алесь Пашкевіч, Слава Корбут і Юлія Алесьніна — супрацоўнікі часопіса. Масарэнка прапанаваў аддаць вершы, калі я іх падрыхтаваў, Корбуту, бо той адказваў, як я зразумеў за паэзію ў часопісе, што я неадкладна і зрабіў. Пасля мне прапанавалі гарбаты і печыва, і я з вялікім задавальненнем згадзіўся крыху падсілкавацца, бо, калі шчыра, нічога за ўвесь дзень не з'еў. Можна сказаць, што нават забыўся пад'есці, ураджаны праменадам па Мінску.

Неўзабаве пачалі збірацца юныя таленты. Яны прыходзілі звычайна па адным, рассаджваліся па крэслах, якіх у памяшканні хапала. Для кожнага Алесь Герасімавіч знаходзіў словы вітання і разумення таго, што яго прыход вельмі важны і патрэбны, як для «Першацвета», так і для краіны ў цэлым.

У той панядзелак упершыню да «Першацвета» завіталі Віктар Жыбуль, Наталля Дзівіна, Наталля Шкурдзе і Мар'яна Касцялецкая, каб стаць не проста гасцямі часопіса і літаб'яднання, а неад'емнай часткай літпрацэсу і пастаяннымі аўтарамі найлепшага выдання краіны.

Нягледзячы на тое, што, прачытаўшы мае вершы, Слава Корбут пакінуў у кожным з іх па адным радку, а ўсё астатняе выкрасліў, бо яно не з'яўлялася паэзіяй і не мела да паэзіі ніякага дачынення, я не засмуціўся. Не, засмуціўся, зразумела, але не паказаў гэтага нікому, тым больш, Славу. Усміхаўся, як дурань, гледзячы яму ў вочы, і глытаў слёзныя камякі, быццам хлебныя. Пры гэтым спадзяваўся, што мяне не званітуе ад крыўды проста ў Славаў твар. Ён, канечне, тлумачыў, чаму так бязлітасна пакрэсліў усе мае аркушы, але я не слухаў. Свет хістаўся пад маімі нагамі, як зэдлік пад вісельнікам, які вось-вось павісне чарвяком над безданню паміж пеклам і раем. Я забраў свае вершы, дакладней, тое, што ад іх засталося, і выйшаў на вуліцу. Мне неабходна было пакурыць. У адчаі я парваў усё, што вярнуў мне Корбут, і накарміў шматкамі сметніцу, што сумавала поруч. Дый што такога жудаснага ці непапраўнага здарылася? Жыццё ж не скончылася, яно толькі пачыналася. І літаб'яднанне, якое ўзначальваў Масарэнка, казала аб тым жа, вучыла, як быць Паэтам і як быць Чалавекам адначасова. Яно замяніла мне школу, з'яўляючыся, па сутнасці, школай лепшай за тую, у якой я вучыўся. Увесь перыяд навучання ў адзінаццатым класе я не прапусціў ніводнага панядзелка ў «Першацвеце», за што мяне хацелі выключыць з агульнаадукацыйнай школы, матывуючы сваё рашэнне маімі сістэматычнымі прагуламі без уважлівых прычын, бо я і сапраўды кожныя панядзелак і аўторак адсутнічаў на ўроках. Першым рэйсам на Райцэнтр з'язджаў з Вёскі ў панядзелак, начаваў у бацькавай цёткі Соні, якая жыла ў аднапакаёўцы на Матусевіча, апошнім рэйсам у аўторак вяртаўся дамоў. «Першацвет» я лічыў сваёй школай, дзе да мяне адносіліся з павагай,

прыхільнасцю, нават любоўю. Там я рэальна пачуваўся чалавекам, знаёміўся з выдатнейшымі людзьмі, сімпатызаваў ім і закохваўся ў іх.

Хто б ні прыходзіў у «Першацвет» — выпадковым ён не быў і выпраменьваў святло. Святло душы, якая прагнула разумення і прыняцця такой, як ёсць, аднадумцаў і сяброў. І «Першацвет» нікога не расчароўваў. Сяргей Патаранскі, Зміцер Вішнёў, Серж Мінскевіч, Віктар Жыбуль, Ганна Ціханава, Вальжына Морт, Наталля Кузьміч, Ірына Шаўлякова, Усевалад Гарачка, Наталля Кучмель, Наталля Капа, Ілона Сцяцко, Валеры Пазнякевіч, Мікола Віч, Людміла Шчэрба, Віктар Слінко, Віталь Пятроўскі, Алесь Пашкевіч, Аксана Данільчык, Таццяна Барысюк, Таццяна Будовіч, Наталля Дзівіна, Алена Ільюкевіч, Алесь Бычкоўскі, Андрэй Паўлухін, Анжаліка Дубасава, Аксана Бязлепкіна, Таццяна Сівец, Вольга Драздова, Наталля Шкурдзе, Мар'яна Касцялецкая, Вольга Дубовік, Янка Лайкоў, Павал Гаспадыніч, Алесь Нінько, Вольга Базылёва, Марыя Мажар, Алекс По, Георгій Барташ, Алесь Спіцын, Любоў Тарайкевіч, Марыля Лагодзіч, Ярына Дашына, Ксенія Брэчка, Марыя Шуваева, Сяргей Брылёў, Анатоль Брусевіч, Васіль Барысюк, Руслан Баёк, Ірына Жукава, Надзея Сінькевіч, Зміцер Арцюх, Аксана Спрынчан, Аксана Камінская, Святлана Кухарэвіч, Алесь Хворы, Віктар Лупасін, Алёна Баршчэўская, Вольга Гапеева, Арцём Кавалеўскі, Алесь Дуброўскі... — анёлы і дэманы будучыні беларускай літаратуры. Усіх іх узгадаваў «Першацвет». Анатоль Сыс, Андрэй Федарэнка, Вітаўт Чаропка, Сяргей Вераціла — тыя, хто падтрымліваў першацветаўцаў нараўне з Масарэнкам. Дзякуючы ім анёлы і дэманы не ператварыліся ў пыл брудных дарог.

Да мяне не было б ніякіх прэтэнзій з боку школьнай адміністрацыі, калі б я прапускаў заняткі па прычыне хваробы ці нейкай іншай трасцы, пацверджанай дакументальна, то бок пры наяўнасці спраўкі, выдадзенай медустановай альбо нейкай іншай, чыё ўмяшанне ў жыццё школьніка дазволена на дзяржаўным узроўні. Але «Першацвет» лічыўся, як райана, так і школай, забаўкай, капрызам няўраўнаважанага, схільнага да непрымальнага адукацыйнымі структурамі ўплыву юнака, якога неабходна было ратаваць, пакуль не позна, як душэўнахворага. Маю прагу да вершаскладання і апантанасць творчасцю, а таксама жаданне знаходзіцца разам з тымі, каго цікавілі аднолькавыя з маімі захапленні, успрынялі за ненармальнасць і непавагу да ўсяго педагагічнага складу школы і нават райцэнтра ў цэлым. Дырэктар школы не ведаў, што яму рабіць са мною. Ад райана, калі зачапілі пытанне па маёй справе, ён адбіўся, спаслаўшыся на тое, што я не мясцовы, што мне цяжка адаптавацца ў тых абставінах, у якія трапіў, таму шукаю асяродак па душы там, дзе мне дыхаецца найлягчэй. Ён адбрэхваўся, як мог, злуючыся ў думках на тых ці тую, хто пра мае прагулы стукануў у вышэйстаячую інстанцыю праз яго галаву. У райана катэгарычна патрабавалі майго выключэння з умовай, аднак, залічэння ў той жа клас на наступны год, але перадумалі, калі пабачылі атэстат паспяховасці злоснага парушальніка дысцыпліны. Дырэктар адмыслова падсунуў ім яго,

каб і яны ламалі галаву напоўніцу над тым, што рабіць са мной папраўдзе. У мяне не было ніводнай чацвёркі. Я альбо ведаў прадмет, альбо не, і не хацеў ведаць. Па ўсіх гуманітарных дысцыплінах настаўнікі з задавальненнем, хоць і не кожны, але ставілі мне пяцёркі і не ніжэй. Матэматыку і іншыя яе прыдаткі я ненавідзеў, таму і адзнакі былі суадносныя, не двойкі, зразумела, але траякі. Да таго ж, выпадкова ўзгадалі, што я ездзіў ад раёна на абласную алімпіяду па рускай мове, дзе заняў першае месца з канца. Гэта таму, што ў мяне не наўме былі практыкаванні і рашэнні тых практыкаванняў з-за знянацку апанаваўшага мяне разладжання страўніка. Я марыў пра прыбіральню і стульчак ці нават дзірку ў падлозе, а не пра рускую мову. Дырэктару школы тады даручылі правесці са мной раз'ясняльную размову пра тое, як можна рабіць, а як нельга, і ўляпіць строгую вымову з занясеннем у асабістую справу. З бацькамі, як зразумелі ў райана, гутарыць ўсё адно безвынікова.

— Навошта гэта табе? — дзівіўся на мяне дырэктар, калі я, выкліканы ім з нейкага ўрока, стаяў у кабінеце дырэктара, рыхтык злодзей на допыце перад следчым.

— Навошта што? — не разумеў я пытання.

— Вершыкі гэтыя, прычым беларускамоўныя, — патлумачыў дырэктар.

— Не вершыкі, — незалюбіў я.

— Не мае істотнай розніцы, — стаяў на сваім дырэктар. — Ты ж чужы тут, — нечакана прамовіў. — Бацька твой, — працягваў, — наколькі я ведаю, увогуле не цікавіўся літаратурай, дый вучобай цалкам. А ў цябе такая прага да беларускасці...

— Забыліся, што ваша школа беларускамоўная? — заўважыў я.

— Вось іменна, — падхапіў, як пас, дырэктар, — беларускамоўная. А ты ў рускамоўны Мінск прэшся.

— Да такіх, як я, — удакладніў я.

— Хто таксама ўрокі прагульвае? — пасміхнуўся дырэктар.

— Не ведаю, — паціснуў я плячыма.

— І чым вы там займаецеся?

— Вам сапраўды цікава?

Дырэктар кіўнуў, згаджаючыся, але я яму не паверыў.

— Вершыкі, як вы кажаце, чытаем, — усё ж адказаў, — абмяркоўваем, вучымся.

— Два дні запар?

— Не, па некалькі гадзін у панядзелак вечарам.

— Чаму ж тады ты прапускаеш урокі кожныя два дні на тыдні?

— З-за дарогі туды і назад. Адсюль — туды, і адтуль...

— І, што, так мова падабаецца? — нібыта шчыра папытаўся дырэктар.

— Вы, Вёска і школа павінны ганарыцца, — адказаў я, — мной, што я, па сутнасці, чужы вам, вывучыў мову і хачу развівацца далей разам з мовай, хачу стаць вялікім беларускім паэтам, не ніжэйшым за Якуба Коласа, але вы мне

нічым не дапамагаеце, дык не перашкаджайце гэта рабіць «Першацвету».

Дырэктар ледзь з крэсла не зваліўся, пачуўшы такую маю тыраду. Ён тут жа махнуў рукой, маўляў, гэць адсюль, і я накіраваўся да дзвярэй.

— Тваё жаданне пахвальнае, — каля дзвярэй дагнаў мяне голас дырэктара, але я не павярнуўся да яго. — Не думаў, што ў Мішкі Адама народзіцца такі сын, — працягнуў ён і замоўк. І незразумела было, ці камплімент ён адвесіў, ці засмуціўся.

На выпускным іспыце па беларускай літаратуры ў школе прысутнічалі прадстаўнікі з райана. Іх не было ні відаць, ні чуваць, пакуль адказвалі на пытанні па выцягнутых білетах мае аднакласнікі, якім нават дадатковых пытанняў ніхто не задаваў. Калі надышла чарга адказваць мне — ажывіліся ўсе вакол. Адказ па білецы слухалі ўважліва і не перапынялі. Затое потым дадатковыя пытанні застракаталі кулямётнымі чэргамі з усіх бакоў. Здавалася, што мяне расстрэльвалі імі, ды так, каб я ўжо не падняўся. І настаўнікаў, і прадстаўнікоў райана раздражнялі мае трапныя і правільныя адказы на кожнае пытанне. Што-што, а літаратуру я ведаў больш, чым патрабавала ад вучняў школьная праграма, тым больш, беларускую. Бо я чытаў, у адрозненне ад аднакласнікаў і тых жа настаўнікаў, і кожны прачытаны твор аналізаваў самастойна. Крытыка ў хрэстаматыі мяне не цікавіла і толькі перашкаджала ўспрыняццю і засваенню матэрыялу ў памяці. Я адказваў не на пяць, а на дваццаць пяць балаў. Затым, калі пытанні задаваць стаміліся ці выдыхліся, бо не ведалі, пра што яшчэ ў мяне запытаць, дырэктар прапанаваў прачытаць мне свае вершы шаноўным экзаменатарам. Гэтая прапанова мяне абурыла, а не ўзрадавала, як, напэўна, палічылі прысутныя. Я ўспрыняў яе за здзек і катэгарычна адмовіўся.

— Твая адмова, — сказала тады настаўніца беларускай мовы і літаратуры, — азначае толькі тое, што ты нас не паважаеш. Мы, я лічу, больш заслугоўваем увагі да сябе, чым той «пустацвет», у якім ты, думаю, не грэбуеш дзяліцца сваёй творчасцю з людзьмі, што, пакуль, нічога з сябе не ўяўляюць...

— Што?! — я так разгубіўся ад пачутага, што не здолеў вымавіць нічога лепшага.

— Мы старэйшыя, — працягвала настаўніца, — да таго ж у тым, што ты пішаш, ёсць і наша заслуга...

— Гэта вы не паважаеце мяне і сотні юнакоў і дзяўчат, а таксама «Першацвет», які замяніў ім вас і вашу гнілую сістэму! — выгукнуў я, нарэшце справіўшыся з унутраным хваляваннем. — Я вам не клоун, якога вы зараз робіце з мяне, дзеля забавы, каб пасмяяцца, жадаючы паслухаць тое, чаго не разумееце...

— Так, — падняўся старшыня экзаменацыйнай камісіі і прыпыніў спрэчкі, — мы тут не ў бірулькі гуляем. Хопіць! Выстаўляем адзнаку.

Яны паставілі мне чатыры. Я спытаўся: за што і чаму? Мае аднакласнікі кулямі выляталі адзін за адным з іспыту, які для кожнага з іх доўжыўся не больш за дзесяць-пятнаццаць хвілін, з чацвёркамі і пяцёркамі. Мяне дапытвалі амаль

гадзіну, і распавёў я на шмат болей, чым патрабавалася на гэтым іспыце, і мне чацвёрка?..

Старшыня экзаменацыйнай камісіі патлумачыў рашэнне па маёй адзнацы тым, што я не праявіў патрэбнай павагі да настаўнікаў і школы. Ён казаў нешта яшчэ, але я больш не слухаў. Я паслаў іх усіх на хер і выйшаў з кабінета, бразнуўшы дзвярыма. Я і на выпускны вечар не хацеў ісці. Але грошы на яго з маіх бацькоў былі ўзяты загадзя, дый Філ з Окаракам і Б'ётам прыйшлі пасля ўрачыстай цырымоніі, на якой я не прысутнічаў, да нас дамоў з дакладным загадам класнай без мяне і без маіх бацькоў не вяртацца.

Бацька сказаў, што я ўвесь у яго і што ён нібы перажывае дэжа вю. Калі ён быў у маім узросце, яму таксама іспыт завалілі, які пераздаваць ён не пайшоў прынцыпова, як не пайшоў і на выпускны, але за ім прыйшлі сябрукі і выцягнулі з хаты.



# Сяргей Календа

празаік. Аўтар кніг прозы: «Помнік атручаным людзям» (2009 г.), «Іржавы пакой з белымі шпалерамі» (2011 г.), «Трохлітровая проза» (2012 г.), «Усё Ўлічана. All Inclusive» (2015 г.), «Падарожжа на край ложка» (2016 г.), «Часам панкі паміраюць» (2018 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Капылі. Жыве ў Мінску.

# HAVET INUTI[1]

На адной выспе, аточанай халодным морам, жыла Юста, дзяўчына, якая не хацела быць сабою, усяго баялася, трымцела ад кожнай думкі, трывожылася за сваё здароўе і жыццё, хвалявалася за мінакоў, прыроду, лёсы сваякоў і суседзяў. І гэтая трывога працінала яе і не давала дыхаць, спаць, жыць.

Вось яна ўсхвалявана падумала, што вецер з мора дзьме надзвычай халодны, і гэта кепска, бо можа застудзіць птушак, — і ў адначассе перад ёй на траву ўпаў замерзлы птах. Альбо яна пачне турбавацца за беспрытульных котак, і паўсюль ёй на вочы трапляюцца збітыя машынамі коцікі.

Каб пазбегчы кепскіх здарэнняў, Юста прыдумляла сабе процьму гісторыяў — смешных, бязглуздых. Яна любіла знікаць у фантазіях, якія былі для яе рэальнейшыя за навакольнае жыццё, былі асабістым морам, у якім Юста, нібы карабель, рухалася на хвалях, як на арэлях, — уверх і ўніз, і адразу ўверх і потым уніз.

Вось яна гуляе ўздоўж старога гарадскога мура, які ў сярэднявечча быў абарончай сцяною з боку порта. Гуляе, і з'яўляюцца трывожныя думкі, што зараз мур можа абрушыцца, бо вельмі стары, паўсюль расколіны, і вунь гуляе мужчына з сабакам — каб жа на іх нічога не звалілася са сцяны. І на яе вачах каля сабакі падае камень з вышыні. І Юста хутка прыдумляе сабе гісторыю пра тое, як смешна было б, калі б гэты скасабочаны мур, расцягнуты на дзесяць кіламетраў, ператварыўся ў зефірны... Каб кожная цаглінка і камяні зрабіліся самымі сапраўднымі зефіркамі ў шакаладзе, мяккімі ды смачнымі.

Праходзіць Юста паўз мужчыну з сабачкам, і ўсміхаецца, і нічога благога не адбываецца.

У горадзе ёсць велічэзны закінуты касцёл, дах якога абрынуўся пяцьдзясят гадоў таму, і ўнутры пасяліліся марскія чайкі, маёўкі, клушы і бакланы. І калі раптам які гук іх спужае, можна бачыць, як з нетраў касцёла падымаецца шэра-белае воблака птушак, яны крычаць — пранізліва, нібыта кагосьці клічуць, з болем і смуткам. Юста дужа баіцца нават набліжацца да касцёла з птушкамі, не тое што міма праходзіць, але штораз, калі ідзе паркам са школы, яна адзначае, што ўсё бліжэй і бліжэй мінае вусцішны касцёл.

Горад, у якім жыве дзяўчына, вельмі стары — настолькі, што палова яго дамоў паспаўзала да ўзбярэжжа, і яны ледзь чапляюцца, каб не зваліцца ў ваду.

Сапраўды, не тое месца для нараджэння выбрала дзяўчына — але такі быў сляпы лёс, бо яе бацькі нарадзіліся ў гэтым халодным і самотным горадзе, на выспе, якая прадзімаецца з усіх бакоў, і дзядуля, і бабуля нарадзіліся тут, і

[1] Мора ўнутры (шведск.).

бацькі іхніх бацькоў — таксама. І тое сведчыць, што Юста не магла нарадзіцца ў іншым горадзе, ёй было наканавана, такой далікатнай, з'явіцца на свет менавіта тут і цяпер.

Аднойчы, калі Юста вярталася са школы праз стары, парослы елкамі, соснамі ды хмызняком парк, яна заўважыла пад мостам, што быў зусім побач са страшным птушыным касцёлам, чырвоную шкарпэтку. Не тое каб Юста звяртала ўвагу на згубленыя ў горадзе рэчы, але гэтая шкарпэтка была яркая, чырвоная, і чамусьці дзяўчыне дужа захацелася падняць яе — хаця б дзеля таго, каб павесіць на кусты, каб мінакі бачылі, і каб шкарпэтку заўважыў той, хто яе згубіў і мусіць шукае. Але як можна было згубіць шкарпэтку позняй восенню, калі вятрыска лёгка забіраецца  не толькі пад шалікі, шапкі і паліто, а нават у абутак і шкарпэткі?

Гэтак атрымалася, што Юста, занураная ў свае думкі, нават не заўважыла, як апынулася пад мостам і падняла шкарпэтку, і неяк задуменна сунула яе ў кішэню паліто, і пабегла дадому.

Усё б нічога, Юста нават забылася пра знаходку, як раптам наступным ранкам, на тым жа шляху ў парку, па дарозе ў школу, яна знайшла непадалёк ад моста яшчэ адну чырвоную шкарпэтку.

Калі б дзяўчына не была такая турботная і гэтак часта не трывожылася пра ўсё на свеце, яна б і першай шкарпэткі не падняла б. Але гэта была Юста, яна ўхапіла і другую шкарпэтку, бо падумала, што пара шкарпэтак абавязкова знойдзе свайго гаспадара.

На трэці дзень Юста зноў знайшла каля моста чырвоную шкарпэтку, і гэтак пяць дзён запар яна штораз знаходзіла каля моста чырвоную шкарпэтку, і хай бы шкарпэткі траплялiся парамі, альбо розных колераў, але ж не — кожны раз Юста знаходзіла чырвоную шкарпэтку — такую самую, простую, прыкладна саракавога памеру, шчыльнай вязкі, самаробную. Юсце ўжо і не так боязна было мінаць вусцішны касцёл, і нават стала цікава адшукваць шкарпэткі пад мостам, і яна амаль забылася на свае страхі.

Дзяўчына назбірала пяць шкарпэтак, і не ведаючы, што з імі рабіць, прыдумала наступнае: Юста сфатаграфавала шкарпэткі, раздрукавала абвесткі пра знаходку ды пайшла ў парк іх расклеіць.

Парк, як звычайна, быў цёмны і халодны, сапраўдны казачны, шэры лесапарк, жыхары называюць яго Svart Park[2].

Юста ішла сцяжынкамі, выкладзенымі з брукаванкі, ды імкнулася наступаць толькі на каменьчыкі — галоўнае не хібіць, бо гэта будзе паразай у гульні. Думкамі яна была далёка, і сама не заўважыла, як дайшла да таго самага моста.

Яна агледзелася, зняла заплечнік, каб наклеіць на дрэва абвестку пра шкарпэткі, усхвалявалася, што дарогаю аніводнай абвесткі не наляпіла, як раптам з-пад моста нехта ціхенька яе паклікаў.

[2] Чорны парк (шведск.).

— Дзяўчынка, дзяўчынка, хадзі сюды, не бойся... Ты ж пэўна ўсе мае шкарпэткі сабрала... — галасок быў тонкі, амаль дзіцячы, але ноткі ў гэтым голасе насцярожвалі, і Юста здранцвела, не ведаючы, што рабіць, бо ісці пад мост яна не хацела. Але ж яна напраўду сабрала ўсе шкарпэткі, і гэта дакладна іх гаспадар яе клікаў...

— Хто там? Хто ты?

— Гэта мае шкарпэткі, даражэнькая, але нічога больш табе не скажу, пакуль ты не пакажашся мне тут, пад мостам.

— Добра, але майце на ўвазе, шкарпэтак у мяне цяпер няма, і я ведаю каратэ.

— Не бяды, нічога не бойся.

Юста спусцілася да самых прыступак моста, які лучыў дзве паловы чорнага парку і пад якім цякла вузкая рачулка, парослая чаротам. У цені хаваўся чалавечак — дзяўчына падумала, што гэта ліліпут, а мо і хобіт, бо шкарпэткі ж вялікія. Але хобітаў не бывае, а ліліпуты існуюць — прынамсі яна дастаткова дарослая, каб ведаць пра гэта. Яна падбадзёрыла сябе і падышла бліжэй да малога чалавека.

— Вітаю-вітаю, дзяўчынка. Не бойся, не бойся мяне. Я добры Бэйбіс Фут, майстар на ўсе рукі ды ногі.

— Добры вечар, я — Юста, люблю прыдумляць смешныя гісторыі. Калі вам патрэбныя вашы шкарпэткі, — і дзяўчо заўважыла, што Бэйбіс Фут абуты ў вялікія скураныя боты, — то я магу вам іх з дому прынесці.

— Не-не-не, Юста, я хачу прапанаваць табе адну важную ўгоду. Для мяне і цябе, разумееш. — І малы чалавечак усміхнуўся гэтак шчыра і па-дзіцячы міла, што кожны згадзіўся б на якую заўгодна ўгоду з гэтым прыўкрасным ліліпутам. — Я ведаю, ты шмат чаго баішся ў гэтым свеце, і што ў табе зашмат трывогі, якая замінае жыць і спаць. Я магу забраць усе твае страхі, і ты зробішся нечувана паспяховай маладой жанчынай, якая дасягне вяршыняў.

— А скажыце, Бэйбіс Фут, што дзеля гэтага трэба зрабіць? Я часам гутару са школьным псіхолагам, і мне гэта дапамагае. Ці гэта лічыцца?

— Усё лічыцца, і ўсё можа залічыцца ў гэтым свеце, Юста. Твой, як ты кажаш, псіхолаг — гэта добра, але я магуператварыць цябе ў сапраўдную супердзяўчыну.

— Ого, і што я мушу зрабіць?

— Ты мусіш прыйсці дадому і пашыць са шкарпэтак ляльку, якая будзе цябе ахоўваць. Лялька можа быць кім заўгодна — мышанём, мядзведзікам, птушкай. Галоўнае, што ты яе сама пашыеш і тройчы прамовіш маё імя, і ўсе твае страхі знікнуць, а лялька будзе ўсё жыццё тваім абярэгам, каб яны не вярнуліся.

— Ага, а хто яны — страхі? І што вам трэба ўзамен? Колькі гэта каштуе? Можа, у мяне не хопіць грошай?

— Не хвалюйся, дзяўчынка, разлічымся пазней. Калі захачу з табою разлічыцца, я сам цябе знайду, — прамовіў Бэйбіс Фут, і ўміг пераскочыў на другі бок маленькай, сціснутай лёдам, рэчкі. — Да заўтра, Юста, мушу бегчы!

І чалавечак знік.

Ужо дома Юста зразумела, што зусім не ўмее шыць — дакладней, яна, як сумленная дзяўчынка, можа нешта зацыраваць, але пашыць ляльку — рэч складаная, таму яна звярнулася па дапамогу да маці.

— А ты хіба хочаш сабе ляльку з гэтых шкарпэтак? Ты ж думала адшукаць гаспадара, абвестку друкавала.

— Гаспадар мне дазволіў, сказаў, яму яны не патрэбныя, таму і губляў іх кожны дзень, бо хацеў, каб яны зніклі.

— Што ты кажаш, летуценніца. Добра, нясі з шафы маю машынку. Зараз мы зробім выкрайку.

— Дзякуй, мама, я хачу, каб гэта быў дракон, з крыламі — чырвоны такі дракон. І зваць яго будуць, як танец: Кракавяк, бо я люблю танчыць.

— А я ўжо падумала, што ты хочаш каб твой дракон кракаў, нібы качка. Згода, нешта прыдумаем.

Увесь вечар маці і дачка шылі ляльку, якая атрымалася не надта і страшным драконам — хутчэй помесь сабакі, бычка і птушкі, якую звалі Кракавяк.

Юста вельмі хутка палюбіла ляльку, а праз пару дзён у яе з'явілася жаданне навучыцца плаваць, а потым нарэшце і катацца на каньках, а можа і каратэ яна вывучыць і не будзе проста так казаць, што ўмее біцца, як каратыстка. Юста, як і абяцаў ёй дзіўны чалавечак, згубіла страх, аддала яго Кракавяку.

Дзяўчына цяпер займела смеласць да ўсяго новага, прыгоды і доўгія падарожжы яе больш не палохалі. Юста пачала хутка расці ды заваёўваць месца ў свеце, і ніводнага дня не было, каб яна не згадала пра свайго чырвонага дракона, дзякуючы якому, была гатовая нават у горы ісці ды абляцець свет на велізарным самалёце.

Час мінаў, Юста вырасла ў прыгожую жанчыну, маці траіх сыноў. Яна паступіла ва ўніверсітэт вельмі далёка ад дому, бо хацела памяняць асяродак, і родны горад ёй здаваўся замалым для яе планаў, і зусім не страшным, як раней...

Мінула пятнаццаць гадоў, як яна жыве ва ўласным доме, гадуе дзетак і займаецца любімай працай, — здымае перадачы пра незвычайных людзей: аквалангістаў, пілотаў, баксёраў і падарожнікаў, скалалазаў і вайскоўцаў у гарачых кропках. Здавалася, што можа быць лепш, і якая яшчэ сям'я шчаслівейшая за яе сям'ю, як аднойчы ў дзверы пазванілі, і калі Юста адамкнула, яна пабачыла на парозе малога чалавечка.

— Вітаю-вітаю, дзяўчынка. А куды падзелася лялька, твой Кракавяк? Можа, хтосьці на яго забыўся, ці нават згубіў?

— Эээ... Бэйбіс Фут? Як ты? Увогуле? Знайшоў мяне? Ты пра Кракавяка? Майго шкарпэткавага дракона?!

— Ой-ой-ой, каб адшукаць майго даўжніка, мне дастаткова панюхаць паветра, — і чалавечак крануў указальным пальцам свой вялікі нос. — Як бачыш, я не маладзею і прыйшоў да цябе па аплату. Ты добра пажыла, смела, і прыгожа! Надышоў час дзяліцца. Сёння я забяру ў цябе пяць гадоў жыцця, ну і крыху маладосці, — абвясціў Бэйбіс Фут і дробна затупаў нязграбнымі ножкамі, на якіх цяпер не было абутку, толькі запэцканыя ў бруд чырвоныя шкарпэткі.

*Сакавік — ліпень, 2017*
*Вісбю, Готланд, Швецыя / Кракаў, Польшча*



# Юльяна Пятрэнка

празаік. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Полымя», «Нёман», «Дзеяслоў»; у літаратурных альманахах «Літаратурны Гомель», «Палац», газетах «Літаратурная Беларусь», «Гомельская праўда». Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Кірылы Тураўскага — 2017 у намінацыі «Адкрыццё года». Нарадзілася ў 1981 годзе ў вёсцы Жгунь Добрушскага раёна на Гомельшчыне. Жыве ў Гомелі.

# Знішчальнік Вульф Мессершміт і Доўбень Алжырскі

Птушак Ладзік не любіў з самага дзяцінства. Ніякіх (апрача смажаных у смятане глушцоў ды маладзенькіх пеўняў у крупніку). А за што, уласна кажучы, іх любіць?

Нахабныя вераб'і штогод аб'ядаюць у садзе вішні. Сарокі-грубіянкі ды бесцырымонныя шпакі зерне ў курыных кармушках пакрадуць, яшчэ і лямант узнімуць. Ліхадзейкі-ластаўкі з-пад страхі ўвесь надворак загадзяць, і аканіцы, і свежапафарбаваную сцяну хаты. Узімку бессаромныя снегіры з сініцамі кусты спелай каліны растрыбушаць і ў шыбу грукаюць — дабаўкі просяць. Салаўі — і тыя спаць не даюць, асабліва на золку, калі самы салодкі сон падкрадваецца. Нават жаўрукоў лічыў Ладзік надакучлівымі бескарыснымі птахамі. Пасе, бывала, вясковы статак, як чарга падыдзе, толькі прысядзе ў цянёчку, вочы прыкрые, зморaную спёкай галаву да бярозкі прытуліць — а жаўрук тут як тут. Ідзі разбяры, ці тое птушка ў аблоках звініць, ці тое званочак на шыі пярэстай шкодніцы, якая ў калгаснае жыта ўлезла, заліваецца.

На курапатак сілкі сам ставіў, бо нечага людзям ячмень таптаць, хованкі сабе будаваць.

Пра варон і казаць не трэба — самыя, бадай, подлыя: садзіш за хатай набрынялыя зярняткі кукурузы, гарбузоў ці сланечнікаў, а чорныя разбойніцы па пятах ідуць, адразу выкапваюць і з'ядаюць, каб ім неладна стала.

У мінулым годзе ў скверыку, каля помніка загінуўшым воінам, варон развялося столькі, што прайсці немагчыма было, каб незапэцканым застацца. Лямант узнімалі такі, што ў суседніх хатах радыё заглушалі. Ладзік скардзіцца ўмеў, куды трэба паперку даслаў.

Прыехалі ў сяло пажарныя. Паставілі машыну сярод сквера. Стаялі моўчкі, курылі. Вясна, травень, у гнёздах малеча. А Ладзік — хлопец адважны, сам вызваўся з вадамётаў гнёзды збіваць — няўжо чакаць, пакуль зграя паболее? Зменшылася зграя. Хто жывы застаўся — лясок за могілкі перабраўся.

Аднавяскоўцы не аддзячылі — нават рукі ніхто не паціснуў і чаркі не наліў. Э-э-э, няўдзячны народ... Яшчэ і мянушку дзед Ігнат даў — Знішчальнік Вульф Мессершміт — у гонар захопленага ў вайну фашысцкага самалёта, у якім яму пасядзець давялося.

Ці вось яшчэ выпадак быў — панадзіўся каршун з надворка бабы Досі куранят цягаць. Тут стрэльба дзедава Ладзіку і спатрэбілася — не ўсё ж з ёй на рабчыкаў ды глушцоў хадзіць.

Зязюлю ўвогуле ненавідзеў, за тое што Ладзікавай матулі мала жыць наканавала. Так і здарылася: ні на што ніколі маці не скардзілася, не хварэла, а тут злягла і за два дні згасла.

Праклятая птушка...

Карацей, не любіў Ладзік птушак горш за камароў, хрушчоў, кратоў ды гадзюк разам узятых.

Пудзілаў ды трашчотак на гародзе панатыкваў, над сваім надворкам сеткі рыбацкія нацягнуў, ды на градах адмысловага зерня парасклaдаў, якім зазвычай мышэй ды пацукоў са свету зводзяць.

І ўсё б нічога, можна было б святкаваць перамогу чалавечай велічы над птушыным прыстасаванствам, калі б не нахабныя буслы. І як з усіх слупоў і дрэў яны выбралі Ладзікаву гузаватую зламаную грушу — аднаму чорту вядома. Але ж прачнуўся Ладзік вясновай раніцай, зірнуў у акенца, ці хутка траўка вясенняя прарасце, бо малако ў каровы ад сена задужа горкім зрабілася, вызірнуў і знямеў: разлеглося на старой грушы гняздо вялікае, а на ім пара даўгалыгіх буслоў стаіць, клякоча. А каб жа вас!

Забыўся Ладзік на траву і кароўку, босым на двор выбег, дзеркачом у птушак шыбнуў. Дзяркач на грушы вісець застаўся, а буслы галовы задралі, засмяяліся. Ды яшчэ баба Дося, якая паўз двор праходзіла, рот разявіла, пастаяла і вымавіла:

— Спаляць табе хату, як Ігнату калісь — тут і да знахаркі не хадзі.

Хату не спалілі. З часам гняздо разраслося, у ліпені запішчалі ў ім тры маленькіх дзюбы. Штодзень вымятаў Ладзік з-пад грушы дохлых жабак з вужакамі, яшчарак і горы смецця.

На зерне атручанае буслы не глядзелі, камянёў, дубцоў, трашчотак і Ладзікавага крыку не баяліся. Хоць бяры і грушу падсякай — усё адно пладоў не дачакаешся. Але ж цень дае, каб сонца раніцай не сляпіла...

Усё лета вяскоўцы назіралі, як Ладзік змагаўся з бусламі, а тыя смяяліся.

Надышлі першыя жнівеньскія ночы — сырыя і прахалодныя. Буслы доўга не думалі: узняліся з гнязда ды і пакінулі паўз сенажаці вёску. Жыві і радуйся. Пакінуць — пакінулі, а птушаня забылі, самага худога ды нягеглага, які так і не зразумеў, што лётаць яму наканавана — ні разу ў неба не ўзняўся. Пішчаў і пішчаў. І ўдзень, і ноччу.

— А каб цябе пранцы з'елі! — лаяўся ў бок грушы Ладзік, выганяючы на золку карову.

— А каб цябе бура панесла! — уздыхаў увечары, заганяючы кароўку ў сарай.

Наступнай раніцай бусла ў гняздзе не было.

— Зляцеў нарэшце, паскуднік, — уздыхнуў з палёгкай Ладзік.

Аж бачыць: заварушылася пад дрэвам бела-чорнае птушаня, узнялося на худыя нясkладныя ногі, крылы растапырыла і бяжыць насустрач, як кура галодная да гаспадара. Кожны дзень Ладзіка бачыў ды голас ягоны чуў — амаль роднымі сталі.

— Здурэў? — адступіў Ладзік, рукамі замахаў. — Ідзі, ідзі прэч, акаянец! Каб табе моль пяты пабіла! — і нырнуў у двор.

А бусел вечара дачакаўся ды праз шчыліну за ім і прашмыгнуў. Карыта з вадой абярнуў, ката напужаў і клумбу з вяргінямі перарыў.

Выйшаў Ладзік на ганак, стрэльбу ўзняў:

— Нельга тут, разумееш? Давай, ляці зімаваць у свой Алжыр, як у кніжках напісана... Псік! Псік, кажу! Кыш!

Бусел моўчкі дзяўбаў смаўжа.

— Цьху! Доўбень... — Ладзік апусціў стрэльбу і схаваўся ў хаце.

Наступным днём Ладзік вучыў бусла лётаць: залазіў разам з ім на лесвіцу, што стаяла ля яблыні, садзіў Доўбня на галіну, паказваў, як трэба крыламі махаць і дзе Поўдзень знаходзіцца.

Бусел міргаў вачыма-пацеркамі і шчоўкаў дзюбай. У Алжыр не збіраўся — Ладзікаў надворак падабаўся яму значна больш.

Вучыцца не хацеў, а еў за траіх: жукоў, чарвей, жабак, конікаў і нават мышэй — усіх, каго ў гародзе знойдзе. Жыў сабе ў куратніку ды ката ганяў.

Але ж і карысць была: падворак і гарод ад іншых птушак бараніў дбайна: пер'е распушыць, шыю выцягне і бяжыць на шкодніка, дзюбай шчоўкае. Нават вераб'і — і тыя баяліся праляцець, гэта вам не пудзіла, якое абмінуць можна.

І чужынцаў не любіў. Аднаго разу ўнука суседскага, які па грушы палез, за лытку ўшчыкнуў, другі раз на цыгана, што цвікоў хацеў пазычыць, накінуўся.

«З такім сябрам жыць можна», — вырашыў Ладзік. Прывык. Палюбіў. Больш за ката і менш за карову.

З людзьмі бачыцца перастаў. Бусла паўсюль з сабой браў: і сена грэбці, і бульбу капаць, і тэлевізар глядзець, і рыбу вудзіць.

Ды здарылася восеньскім днём бяда неспадзяваная: пабачыў Доўбень сваіх суродзічаў над сенажаццю, крыкнуў, крылы раскінуў, разбегся і ўзняўся ў неба. Нават на Ладзіка не абярнуўся...

Засмуціўся, кажуць, Ладзік — гаспадарку кінуў ды і з'ехаў з сяла. Адныя сцвярджаюць, што да самага галоўнага ў сталіцу падаўся, з паперкай, каб родныя «Клімукі» ў «Алжыр» перайменаваць. Іншыя прысягаюць, што недзе на Палессі ён буслінную ферму адчыніў і арганізацыю «Птушкі бацькаўшчыны» заснаваў. Дзед Ігнат сведчыць, што асабіста Вульфу Мессершміту рэкамендацыю ў лётнае вучылішча пісаў. А баба Дося сваімі ўласнымі вачыма бачыла, як бусел начамі ператвараўся ў незвычайнай прыгажосці панну. Па надворку, маўляў, яна гуляла, усе куты вымятала, ваду насіла, дровы складала ды палатно на кроснах ткала. А раз рукой махнула, Ладзіка ў бусла ператварыла ды замест сябе ў вырай і адправіла. Прадавачка Наталка слёзна клянецца, што ў райцэнтры Ладзіка сустракала. Сядзеў з доўгай барадой на галоўнай плошчы, люльку смярдзючую курыў ды вершы пра неба чытаў.

Ды плёткі ўсё гэта. Стаіць Ладзікава хата, як стаяла, толькі на старой грушы кола з'явілася — куды Доўбень з Алжырскага адпачынку штогод вяртаецца.

# Матыль

Тонкім, амаль празрыстым крыльцам было нялёгка супрацьстаяць хлёсткаму ветру, што так і намагаўся кінуць то ў адзін, то ў другі бок. Палёт матылька здаваўся першым — крывым і нязграбным.

Арыентавацца ў густой цемры было цяжка, збівалі з панталыку вострыя пахі зямлі, прэлага лісця і гаркаватай сасновай кары. Недзе наверсе ззялі халодныя зоркі, але выбрацца з-пад калматых пераплеценых галін і ўзняцца над гаем было няпроста.

Дзе?.. У якім баку знаходзіцца гэтае месца, такое роднае і блізкае некалі?..

Наўкола адно глухая восеньская цемра, якая цягнецца касцістымі рукамі з усіх бакоў, нібы жадаючы раздушыць, змяць белыя пяшчотныя крыльцы.

Наперадзе заззяла выратавальнае святло, і крылы самі панеслі на яго, абмінаючы вяршыні елак і не баючыся заблукаць. Ужо не заўважалася нічога навокал: ні тужлівая ноч, ні колкі шалёны вецер.

Толькі б даляцець, не збіцца са шляху, не згубіць з увагі прываблівы трапяткі агеньчык...

А вось і знаёмы хутар: стары дашчаты плот, хатка са спічастым дахам і цагляным комінам... Нічога не змянілася тут з мінулай восені.

Матыль кіраваў на надворак паўз старую яблыню, студню, ганак з высокімі рэзьбянымі парэнчамі на дрыготкае і таямнічае святло свечкі, якую трымаў малады гаспадар.

Такі знаёмы, да кожнай рысачкі, ён стаяў у накінутым на плечы кажуху на парозе адчыненых дзвярэй, з якіх веяла цяплом і ванілінам, і выразна шаптаў:

— Стаўры, Гаўры, гам! Міска з канунам гатовая, чарка на лаве мядовая — ідзі, мой дзедзе, па светлым следзе...[1]

# Пудраўка

На камодзе самотна ляжала ўпершыню забытая пудраўка. Нехта наўмысна ці выпадкова адважыўся ступіць за парог без яе. Ух, як жа рызыкаваў і пакутваў сёння гэты нехта!

Як жа цяпер, без каштоўнай пудры, надаць сабе выгляд хворага пакутніка і з сумленным тварам заявіць кіраўніцтву, што на працу спазнілася зусім не з-за інстаграма і фэйсбуку?! Гэта ж зуб, халера, прыхапіў — таму тэрмінова прыйшлося ехаць у паліклініку! І заторы, ведаеце, такія заторы!..

1 Стаўры, Гаўры, гам! — гэта заклік беларусаў на Дзяды да сваіх продкаў. Лічылася, што гэтыя словы адчыняюць, змяняюць прастору, дапамагаюць продкам пранікнуць у наш свет.

Што за бяда звалілася сёння на нечую няшчасную галаву! Хіба ж можна без чароўнай пудры паклясціся лепшай сяброўцы, што новая сукенка і «слівавы» колер валасоў вельмі пасуюць ёй?! І ўвогуле, яна зусім не тоўстая! І вернецца некалі яе мужчына, нагуляецца — і вернецца, хіба ж ад такіх сыходзяць? Авой! Яшчэ цяжэй запэўніць іншую — бо ты ж «ні кроплі не зайздросціш яе маладосці, прыгажосці, выдатнікам-дзецям і новай трохпакаёвай кватэры»!

Якім чынам, скажыце мне, без надзейнай пудраўкі паабяцаць дарослай дачцэ адпусціць яе на канцэрт у іншы горад, калі добра скончыць чвэрць?

Ды што там дачка! Без выратавальнай пудры немагчыма апраўдацца перад мужам, што мужчына, які толькі што тэлефанаваў, проста памыліўся нумарам!

Дарэчы, наконт мужчыны... У такіх выпадках пудраўка — рэч жыццёва неабходная. Не-не, як з ім добра — запэўніваць не прыходзіцца. Прыходзіцца запэўніваць, як добра і без яго. Дастала пухоўку, дзьмухнула — і раз-раз: «Квітнею, пахну. Праз месяц? Добра... Не-не, нармальна. Зусім не плачу...»

Усе, усе навокал пабачаць цябе сёння без ахоўнай пудры! Мама дарагая! Як страшна нават думаць пра гэта! Цябе, шчырую, сапраўдную, такую, як ёсць! З усімі тваімі хібамі, пачуццямі і эмоцыямі! Не ўцячэш і не схаваешся!

Ды што там казаць... Без дзівоснай пудраўкі ці рызыкнеш зазірнуць сабе ў вочы? Спытаць: хто я? Навошта? І чаго хачу? Паабяцаць сабе кінуць паліць, заняцца спортам, вярнуць суседу пазыку, ды нарэшце напісаць ліст маці...

І не дай вам Божа згубіць, забыцца на каштоўную пудраўку, якую кожны з нас штодзень носіць пры сабе. Ці вытрымаеце, ці пражывяце без гэтай маленькай і неабходнай рэчы? Ці атрымаецца?

# Лялька

У Насты дзень не задаўся з самага ранку — спачатку зламаўся ружовы алоўак, без якога немагчыма было размаляваць сукенку Папялушцы. Затым згубілася талерачка, з якой Наста штодзень карміла калматага плюшавага сабаку абскубленымі на вокнах бягоніямі і пахучай геранню. Акрамя таго, бабуля забараніла раскідваць па падлозе кубікі, нацягнула на ўнучку нелюбімую сукенку ў белы гарох, якую ні ў якім разе не дазвалялася пэцкаць, і балюча зацягнула русявыя коскі стужкамі. Дадалася яшчэ больш горшая і непапраўная бяда — зламалася самая найлепшая і прыгожая ў свеце лялька Віялета — вялікая, пышнавалосая, у карункавай сукенцы, з вішнёвай усмешкай і тонкімі пальчыкамі. Ляльку на дзень народзінаў падаравала хросная, і з таго дня Настачцы зайздросцілі ўсе без выключэння дзяўчынкі з двара (лялька ўмела пляскаць вочкамі і каўкаць дзіцячым галаском нешта падобнае да «ма-ма»).

Якім чынам гэта здарылася — аднаму Богу вядома. Яшчэ ўчора Наста ўклала сваю любімую ляльку ў фатэль, пажадала ёй дабранач і пачула ў ад-

каз лагоднае «ма-ма», а сёння з раніцы Віялета знямела. Перасталі какетліва пляскаць і шкляныя блакітныя вочкі з доўгімі вейкамі. Наста круціла ляльку і так і гэтак, але яна маўчала. Пачуўшы ў вітальні знаёмыя крокі і грукат дзвярэй, дзяўчынка выбегла насустрач.

— Та-та! — павісла яна на шыі чарнявага мужчыны. — Алоўкі мне завастры! А марозіва купіў? Хадзем вежу з кубікаў будаваць! — дачка пацягнула яго за руку. — І Віялета зламалася! Ты ж паправіш? Ведаю, паправіш!

— Пазней, — адмахнуўся тата і нават не ўзняў дачушку на рукі, не падкінуў да столі, як рабіў зазвычай. — Дзе твае сандалі? Паедзем маці з бальніцы забіраць.

Наста надзьмула вусны і патупала ў свой пакой. Ускараскалася з нагамі на ложак, узяла ў рукі прыгажуню-Віялету і пачала старанна расчэваць бабуліным грэбнем бялявыя косы.

— Настасся! — зазірнуў у пакой бацька. — Чакаць не буду!

Дачка дэманстратыўна адвярнулася, не перастаючы тузаць жорсткія лялечныя валасы.

Мужчына грукнуў дзвярыма і знік у калідоры. Хутка за акном зараўла яго зялёная, падобная да чамадана, машына.

Было прыкра. Ніколі яшчэ тата не паводзіў сябе гэтак халодна — нават калі вельмі спяшаўся. Што б не было — але дачушка заўсёды заставалася для яго на першым месцы...

У кватэры было горача, пахла карыцай і ванілінам. Зазірнуўшы ў кухню, дзе бабуля вымала з духоўкі пірагі, Наста шмарганула яе за спадніцу:

— Бабулечка, я гуляць хачу на вуліцы. Хадзем. І ровар мне вынесі.

— Заўтра, Настачка.

— Тады сама пайду.

— Ідзі, дзетачка, у свой пакой. Кніжку пачытай.

— Я з табой не дружу! — абурана выкрыкнула дзяўчынка.

Якімі ж брыдкімі і шкоднымі зрабіліся сёння ўсе дарослыя!

Неўзабаве вярнуўся бацька. Разам з ім увалілася ў вітальню маці, якая тыдзень ляжала ў бальніцы — румяная, у ярка-жоўтым сарафане — яна зусім не выглядала хворай. У руках маці трымала вялікі скрутак. Вакол іх замітусілася бабуля, прымаючы з рук маці скручаную коўдрачку, каб тая змагла зняць плеценыя басаножкі.

Наста ўзнялася на дыбачкі, пацалавала маці ў шчаку і з ялейнай усмешкай павярнулася да бацькі:

— Татачка, харошанькі, ты мне ляльку сёння паправіш ці заўтра? — не гледзячы на свае шэсць гадоў, Наста добра ўмела маніпуляваць бацькамі. — А яшчэ лепш, новую купі, у гэтай сукенка выцвіла, і косы зблыталіся.

— А мы табе брацiка купілі, — сказаў бацька, як вадой абліў.

— Што? — заляскала вачыма Наста. — Якога брацiка? Я прасіла? Я ляльку прасіла! Аддайце яго назад, туды, дзе ўзялі!

У сваім пакоі Наста раўла гучна, хоць слёз амаль не было. Крычала не Наста, крычалі Крыўда, Злосць, Расчараванне і Прыкрасць. Гэта як? Гэта што? Разам з лялькай зламаўся і той утульны сусвет, у якім існавала Наста, а ўсё круцілася вакол яе. Гэты свет заўсёды існаваў толькі для яе і дзеля яе! А цяпер з'явіўся гэты брыдкі брацік, і нейкая дзіўная сіла закруціла ўсіх вакол яго! Ні табе ровара, ні марозіва, ні новай лялькі! І нават ніхто не бяжыць у пакой, каб суцешыць бедную Настачку!

За дзвярыма нешта галёкнула. Наста размазала далонню адну-адзіную слязінку і задаволена бліснула вочкамі — ага, адрамантаваў усё ж!

Падаўшыся ў залу, дзяўчынка застыла на парозе: матуля перакладала ў шафе рэчы, а на шырокай канапе ляжала новая, дзіўная лялька ў блакітным касцюмчыку. Яна махала ў розныя бакі ручкамі і ножкамі і пацешна моршчыла маленькі, гузікам, носік.

Наста прысела побач, кранула рукой маленькую далоньку, і ружовыя пальчыкі адразу ўхапіліся за яе.

— Гэта брацік? — здзіўлена ўзняла вочы дзяўчынка.

— Ага, — кіўнула маці. — Падабаецца?

— Ну так... Нічога сабе, — згадзілася Наста. — А чаму ў яго так мала валасоў, што і расчэсваць няма чаго?

— Вырастуць.

— А адзежкі да яго далі? Штонікі там, сандалікі?

— Далі, — чамусьці рассмяялася маці. — І штонікі, і сандалікі, і нават кофтачкі з капялюшыкамі. Будзеш апранаць, як табе захочацца. І ў калясачцы катаць. Хочаш?

Наста прыжмурыла вочы і ўявіла, як будуць зайздросціць такому брацiку дзяўчынкі з двара.

— Згодна, — нарэшце кіўнула яна. — А зваць яго як?

— А як назавеш. Твой жа брацік.

— Добра, я падумаю. Да заўтрага. А яшчэ навучу яго ў ладкі гуляць і на ровары катацца...

З дальняга кута адным вокам незадаволена пазірала кінутая, паніклая Віялета...



# Наталля Бучынская

пpазаік. Аўтарка кніг «Прыгоды маленькай Машынкі», «Незабыўныя сустрэчы з авечкай Адэляй, або Adeljastar@tut.by» і «Атракцыёны для вадзянікоў». Асобныя казкі друкаваліся ў зборніках «Чароўныя пацеркі», «Вежа міру», «Залаты талер», «Блакітная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў», «Беларуская зіма» і інш. Нарадзілася ў 1970 годзе ў вёсцы Ідолта на Мёршчыне. Жыве ў Мінску.

# Adeljastar

*На сакавітым лужку непадалёк ад вялікага горада працуе авечка Адэля, гераіня кнігі* ***«Незабыўныя сустрэчы з авечкай Адэляй, або Adeljastar@tut.by»*** *Кім? Вядома ж, авечкай! У яе абавязках — гадаваць воўначку на прыгожыя швэдры, сукенкі і цёплыя валёнкі. Адэля гламурная і ўпартая асоба, любіць сваю працу. Яна мае выдатныя арганізатарскія здольнасці і заўсёды знаходзіць таго, хто ажыццявіць яе ідэі і вырашыць праблемы. Дзякуючы гэтаму я, аўтарка кнігі, Наталля Бучынская, неаднойчы трапляла з Адэляй у недарэчнае становішча. А ўсё таму, што мая гераіня прагне славы.*

*Нядаўна яе запрасілі працаваць па сумяшчальніцтве вядоўцай новага тэлепраекта пра пошукі жывёламі свайго прызначэння ў жыцці. Пачалася Адэліна зорная кар'ера. На тэлебачанні ўсе захапляюцца яе прыгажосцю і талентамі, цешацца самабытнай натурай, а выбрыкі тлумачаць арыгінальнасцю. Адэля там пачуваецца як рыба ў вадзе. Авечачка мае свой фан-клуб, ахвотна сустракаецца з прыхільнікамі і заўсёды напамінае ім: «Не забывайцеся: у мяне ёсць свая электронная скрыня! Пішыце!»*

## Казачная прыгажуня пад надзейнай ахowaй

Лета толькі-толькі пачалося! Цёплае і сонечнае. Якраз пра такое лета мы ўсе марым ужо колькі год. І вось нарэшце! Мы гулялі з авечкай Адэляй па ціхіх вуліцах. Адэля-то добра напесцілася пад ласкавым сонейкам за цэлы дзень, але ж трэба было мяне «выгуляць». Гэтае слоўца ў дачыненне да нашых пагулянак яна сама вынайшла і вельмі ім ганарылася.

— Ах, спадарыня Наталля! — мройліва ўздыхала яна. — Каб не ваша вечная праца за кампутарам, вы маглі б цэлымі днямі на лужку бавіць час. Пісаць пра мяне новыя захапляльныя гісторыі...

— Ага... Адэлька, ты ж памятаеш, я спрабавала прыходзіць на лужок з кампутарам. І што з гэтага выйшла? — крыху збянтэжана нагадвала я.

Адэля толькі пырскала ў капыток.

— Аняго ж! Такое забудзешся! Вы так разамлелі на сонцы, што ўжо хвілін праз трыццаць спалі як пшаніцу прадаўшы. Ды яшчэ і сонечны ўдар атрымалі.

Гэта была чыстая праўда. З тых пор на лужок я хадзіла толькі адпачывць, бо ў той дзень напісала хіба што паўстароначкі. Затое Адэля вырашыла, што павінна клапаціцца пра маё здароўе. Таму ледзь не кожны вечар авечка выводзіла мяне на шпацыр. Мы весела і бесклапотна абмяркоўвалі свае справы, дзяліліся ўражаннямі мінулага дня, як раптам...

Не! Такога відовішча я ў сваім жыцці не бачыла ніколі! Мы з Адэляй аслупянелі. Я праз хвіліну крыху ачомалася, на Адэлю ж быццам паляруш напаў. Проста перад намі ў звычайным гарадскім двары насупраць пошты стаяла МАШЫНКА! От дзіва, скажаце вы! Такога дабра ў горадзе — процьма. Не! Гэта МАШЫНКА была адзіная і непаўторная! Яна ззяла, на сонцы, нібы само

сонца. Ажно вачам было балюча! Як зачараваная, раскінуўшы ножкі, нібы для абдоймаў, Адэля пайшла на гэтае ззянне. Я — за ёй. Толькі ўявіце: уся МАШЫНКА была ўбраная бліскучымі стразамі. Праўда — УСЯ! Зверху да нізу. Ад крыла да крыла. Ад капота да багажніка. Ад пярэдняга бампера да задняга бампера. Ну, акрамя шкла, люстэрак і колцаў.

Я паспрабавала ачуціць Адэлю, тарганулўшы за пасмачку воўны. Дзе там! Гэты неверагодны бліскучы цуд прыцягваў авечачку да сябе мацней за магніт. Адэля наблізілася да МАШЫНКІ і пацягнулася капытком, каб дакрануцца...

— Стой! — з грозным воклічам напярэймы Адэлі кінуўся лысы вусаты дзядзька ў цёмных акулярах. Ён быў вялізны! І засланіў сабой ледзь не ўсю цуда-машынку. І адным сваім грозным выглядам напужаў бы каго заўгодна. Толькі не Адэлю.

— Куды лезеш? Гэта мая МАШЫНА. МАЯ прыгажунька. Мая ЛЯЛЕЧКА...

Ён пяшчотна гладзіў капот машыны.

— А дзядзечка! — голасам, які аж перарываўся ад хвалявання, запрасілася Адэля. — Дай пакратаць! Хоць адным капытком...

— Не лезь! — дзядзька павярнуўся да нас спіной, выцягнуў з кішэні мяккую анучку і ўзяўся націраць, начышчаць і паліраваць кожны стразік. Быццам магчыма было, каб яны ззялі яшчэ больш сляпуча.

— Дзя-я-я-дзечка! — умольна склала капыткі Адэлька.

Дзядзька як не чуў! Было відаць, што заняўся ён улюбёнай справай і ніхто і нішто не зможа адцягнуць яго ўвагу. Ясна! Ён нават пальчыкам не дасць дакрануцца да сваёй машынкі. Нікому і нізавошта! Ого! Такі вялізны і самавіты чалавек, а бліскучае любіць не менш чым мая гламурная прыяцелька.

Трэ было нешта рабіць з Адэляй. Я ледзь не сілком пацягнула яе падалей ад КАЗАЧНА ПРЫГОЖАЙ Машынкі. Адэля ўпіралася, сварылася на мяне.

— Пусціце! Куды вы мяне цягніце? Гвалт! — галасіла яна такім страшным голасам, што з вакон выторкваліся людзі і паглядалі на мяне ў асноўным вельмі няўхвальна. І толькі некаторыя — са спачуваннем.

А пасля пачаліся мае штодзённыя пакуты. Адэля кожны вечар рвалася ў двор, дзе стаяла цуда-прыгажунька. Яна спрабавала падкрасціся як мага бліжэй, каб хаця пакратаць... Безвынікова! Гаспадар быў заўсёды на месцы і ўвесь час паліраваў, націраў... Канешне, не толькі Адэля прыходзіла палюбавацца на машынку, цікаўных было мноства. Але праз некаторы час яны зразумелі, што наблізіцца да машынкі ніяк не выпадае, і перасталі ёй цікавіцца. А мы з Адэляй хадзілі ў той двор, як на дзяжурства! Не магла ж я кінуць прыяцельку ў стане такога душэўнага ўзрушэння. Хаця, па шчырасці, спробы былі.

— Адэля, пойдзем у парк гуляць? — прапаноўвала я змяніць маршрут.

— Які парк, спадарыня Наталля! Вы што, здзекуецеся? Трэба ж на ЛЯЛЕЧКУ хоць адным вочкам зірнуць!.. — і я зноў паныла цягнулася за Адэляй у двор, дзе стаяла «ЛЯЛЕЧКА». (Адэля падхапіла гэтае слоўца ад гаспадара МАШЫНКІ, і ўжо інакш пра яе не гаварыла).

Недзе праз тыдзень Адэля ўварвалася да мяне з амаль ваяўнічым воклічам:

— Спадарыня Наталля! Колькі ў вас там грошай на картцы?[1]

— Каля тысячы, — скоранька адказала я, бо не чакала ад Адэлі ніякага круцельства.

— Гэта вельмі мала! — катэгарычна заявіла Адэля. Я толькі плечуком паціснула: маўляў, мне досыць. А Адэля ў наступны раз прыцягнула з сабой прыгожую скарбонку ў выглядзе авечкі і ўрачыста паставіла яе на стол.

— Ну, пані Наталля, даставайце грошы, пойдзем ЛЯЛЕЧКУ купляць!

— Што ты, Адэлю! Ты ж збірала грошы на новыя бранзалеты і кліпсачкі!

— Якая розніца, на што збірала. Цяпер я дакладна ведаю, што мне патрэбна ЛЯЛЕЧКА і нічога больш! Нясіце інструмент!

— Адэля, у цябе не хопіць грошай, каб купіць такую цудоўную машыну.

— А мы вашых грошыкаў дабавім. Праўда, у вас іх таксама не вельмі многа... Пэўна ж, то прысмакі сабе купляеце, то ўборы. Не каб лішнюю капейчыну прыберагчы.

Нішто сабе! Адэля мяне ўжо нават эканоміць вучыць будзе. Я хацела абурыцца, ды, глянуўшы на яе змрочную міну, прамаўчала. Уздыхнула і пайшла за інструментам. Падобна, Адэля дайшла да адчаю. Нават разумеючы, што гаспадар нізавошта не прадасць сваю «лялечку», яна ўсё ж збіралася паспрабаваць. Але я крыху перабольшвала абыякавасць маёй прыяцелькі да ўсяго, што не тычылася «лялечкі». Варта было ўзняць над прынесенай скарбонкай малаток, як Адэля віхурай падскочыла і выхапіла яе літаральна з-пад маіх рук. Удар малатка ўсё ж абрынуўся. Не на скарбонку. На мой стол. Дзінь! — жаласна дзінькнула нешта ў гадзінніку, які стаяў побач.

— Што вы тут кувалдай махаеце? Я вас за чым пасылала?

— За інструментам, — пакорліва адазвалася я, урэшце скеміўшы, што скарбонку ў выглядзе авечкі Адэля разбіць не дазволіць.

— За інструментам — гэта значыць за пінцэтам! Бачыце, адтулінка якая вузкая. Грошыкі з такой адтулінкі толькі пінцэтам і выцягнеш!

Мы цягалі і цягалі пінцэтам праз вузкую шчылінку скарбонкі грошыкі. Іх сапраўды было не вельмі многа. На такую шыкоўную машыну дакладна не хопіць. Ды Адэля нават разважаць пра гэта не хацела. Сабраўшы ўвесь наш скарб, мы зноў накіраваліся ў запаветны двор. І, канечне ж, усё паўтарылася. Дзядзька нават не зірнуў на грошы. Думаю, каб мы з Адэляй знайшлі цэлую кадушку залатых манет і прыцягнулі б яе на тачцы, ён усё адно на нас нават не глянуў бы.

— Ну хаця б пакатацца! — галасіла Адэлька, умольна працягваючы дзядзьку грошы.

— Яшчэ чаго! Я нават сабе такое шчасце толькі па вялікіх святах дазваляю! — адрэзаў гаспадар ЛЯЛЕЧКІ.

Сітуацыя зайшла ў тупік. Асабліва для мяне. Бо Адэля, відаць, яшчэ спадзявалася на нейкі цуд.

---

[1] *Папярэджваю вас, мае дарагія чытачы: такога кшталту інфармацыю вы маеце поўнае права не расказваць нікому!*

## Безнадзейнасць ці кола фартуны?

Вы калі-небудзь чулі пра Фартуну? У старажытным Рыме так называлі багіню ўдачы. Выйшла так, што да нас з Адэляй гэта капрызлівая багіня таксама павярнулася тварам. Адразу зазначу, што ўдачу бывае вельмі цяжка распазнаць, бо не заўсёды зразумелыя шляхі, якімі яна набліжаецца... Ну во, хацела вам невялічкую філасофскую лекцыю падсунуць, аж тут зноў Адэля патрабуе, каб я ўсё кінула і ішла з ёй. Пайшлі. Ну, вядома, зноў да ЛЯЛЕЧКІ. Скажу шчыра, мне гэта добра апракудзіла. Я ішла і падбірала найбольш далікатныя словы, каб растлумачыць Адэлі, што сёння мы ідзём туды апошні раз, і што больш я не збіраюся марнаваць сваё жыццё, штовечар назіраючы, як мая прыяцелька падрывае сваю нервовую сістэму.

— Паслухай, Адэлька, — пачала я здалёк, — табе ўжо даўно пара заказаць сабе новы партрэт, ці запісацца на якія курсы...

— Ат, спадарыня Наталля! Не тлуміце галавы! Вы ж бачыце, мне цяпер ні да чаго няма справы. Я ледзь знаходжу сілы, каб умовы кантрактаў выконваць, працаваць і на ферме, і на студыі .

— Тым больш, Адэлю! Пара нам з табой перастаць бегаць штовечар да гэтай машынкі. Усё роўна яе гаспадар...

Тут Адэля як зашыкала на мяне! Як затупала ножкамі!

— Ні слова болей, спадарыня Наталля!

Адэля пакіравалася далей ледзь не подбегам. Што было рабіць? Я — за ёй.

Машынка яшчэ здалёк асляпіла нас сваім нясцерпным ззяннем. Але нешта было не так! Гаспадар — гэты вялізны грозны дзядзька — літаральна ляжаў на капоце, абхапіўшы машынку рукамі, быццам прыціскаючы да сэрца, і галасіў так, што ажно ў мяне па скуры мурашкі папаўзлі. Адэля на імгненне замёрла побач са мной, а пасля, кінуўшыся да машынкі, загаласіла яшчэ жудасней.

— А мая ты ЛЯЛЕЧКА! А мая ж ты родненькая! — выводзілі яны на два галасы. І было столькі любові і шкадобы ў іх галашэнні, што я ледзьве стрымалася, каб не падтрымаць іх.

...ЛЯЛЕЧКА была пабітая! Увесь левы бок ад пярэдняга бампера да задняга быў памяты! Напэўна, удар быў моцны, бо месцамі стразікі абсыпаліся цэлымі лапінамі. Гаспадар шчыра гараваў над пакалечанай ЛЯЛЕЧКАЙ, і ўжо нават не адганяў Адэлю, якая таксама трымала машынку ў сваіх абдоймах. Падумаць толькі: Адэля столькі дзён марыла хаця б дакрануцца да машынкі! «Я была б самай шчаслівай істотай у свеце!» — летуценна прымружыўшы вочы, марыла Адэля. І вось, маеш! Ніхто не ганяе, дакранайся колькі хочаш, а галосіць мая авечачка на пару з гаспадаром ад роспачы, а зусім не ад шчасця. Колькі часу прайшло, пакуль мне ўдалося ачуціць хаця б Адэлю. На дзядзьку часу пайшло разы ў два больш, але і не дзіва. Ён жа быў гаспадаром машынкі. Пасля ўсіх бясконцых абмахванняў, апрыскванняў, нашатыру пад нос і ўгавораў, з няшчаснага ўладальніка пакалечанай прыгажунькі ўрэшце ўдалося выціснуць, што за трагедыя адбылася з яго любіміцай.

Нейкі вадзіцель так спяшаўся патрапіць дамоў, што не звяртаў увагі на стому, што падступалася аж вельмі настойліва. І дарма! Ужо каля самага пад'езда, паркуючыся і засынаючы за рулём, чалавек не справіўся з кіраваннем і садануў сваёй машынай якраз у левы бок нашай красуньцы. Канешне, галасілі сігналізацыйныя сірэны. Канешне, знайшлося два-тры сведкі. Ды і сам вадзіцель не адмаўляў сваёй віны. Ён толькі збянтэжана паўтараў прадстаўнікам ДАІ, што яго моцна асляпіў бляск стразаў. А яшчэ бясконца прабачаўся перад гаспадаром пашкоджанай машыны, абяцаў усю магчымую дапамогу. Ды гаспадар быў несуцешны. Да моманту нашага з'яўлення ў двары ён ужо абзваніў усе без выключэння рамонтныя майстэрні ў горадзе. Паўсюль яго спагадліва выслухвалі, але, даведаўшыся, якой незвычайнай машыне неабходны рамонт, адказвалі: «Прабачце, мы вам нічым не дапаможам».

Вось такую сумную гісторыю давялося нам з Адэляй пачуць. Дарэчы, гаспадар машынкі прызнаўся: каб набыць сваю прыгажуньку, ён патраціў усе грошы, якія пашчасціла зарабіць у вельмі складанай і працяглай камандзіроўцы. Але ні хвілінкі пра гэта не пашкадаваў. ЛЯЛЕЧКА прыносіла яму столькі радасці, была праўдзянай марай яго жыцця!

Усхліпы і галашэнні аднавіліся. Бачылі б вы Адэлю! Яна так спачувала гаспадару машыны, што села побач з ім проста на асфальт, выцягнула з маёй сумачкі маю любімую насовачку і выцірала вялізныя слёзы, што градам каціліся з яго вачэй. Авечачка і сама не забывалася шчыра аплакваць лёс ЛЯЛЕЧКІ.

— Спадарыня Наталля, нечага румзаць, — заявіла мне Адэля пасля шматгадзіннага дуэтнага галашэння разам з гаспадаром. Хаця якраз я ні слязінкі не праліла, што, пэўна, гаворыць не на маю карысць. Але гэта праўда. Затое я зноў збегала ў краму па ваду і ў аптэку за супакойваючымі кроплямі. Мне таксама шкада было і машынку, і сплаканага дзядзьку, і няшчасную Адэльку. Але хто б іх ачуціў, каб і я далучылася да прыгалошванняў?

— Трэба нешта прыдумаць! — тузала мяне за рукаво авечачка.

— Што я магу прыдумаць, — здзівілася я. — Рамантаваць машыны не ўмею. Ды вунь нават славутыя майстэрні адмовіліся...

Адэліны вочкі, яшчэ поўныя слёз, бліснулі на мяне гнеўна і дакорліва.

— Якая вы бездапаможная! Трэба знайсці нейкае выйсце! Трэба ратаваць нашу ЛЯЛЕЧКУ!

Я ўзяла ў рукі мабільны і набрала нумар адказнай сакратаркі, з якой калісь ліставалася Адэля. Абмаляваўшы сітуацыю, папрасіла, каб у Вельмі Важнай Газеце, дзе працавала гэтая дзяўчына, далі аб'яву, што патрабуюцца адмысловыя майстры, якія могуць дапамагчы. Адказная сакратарка не была б адказнай, калі не рабіла б сваю справу выдатна. Ужо ў наступным нумары патрэбная нам аб'ява выйшла. І на апублікаваныя тэлефоны пазванілі некалькі майстроў. Гаспадар машыны на кожны званок адказваў з заміраннем сэрца. Але ўсё паўтаралася. Майстры прапаноўвалі памяняць пашкоджаныя крылы, выпрастаць памятыя дэталі. І ў адзін голас падкрэслівалі, што зноў убраць

машынку стразікамі не змогуць. Тады дзядзька хапаўся за сэрца, а Адэля вырывала з яго рук слухаўку і сварылася на майстроў.

— Няўмекі! Недавучкі! Халтуршчыкі! Вам такі гонар прапаноўваюць! Ды вы не здольныя нават дзіцячы ровар адрамантаваць!

Майстры гэткай нахабнасцю абураліся, на тым перамовы і заканчваліся.

Як вы ўжо заўважылі, Адэля з гаспадаром ЛЯЛЕЧКІ за гэты час паспелі стаць сябрамі. Кожны вечар яны садзіліся каля машынкі, дзядзька гартаў альбом з яе фотаздымкамі і расказваў, дзе і калі яны былі зробленыя, а Адэля толькі тужліва ўздыхала.

Прайшло некалькі дзён... Аднойчы гаспадар машынкі сустрэў нас яшчэ больш прыгнечаны. Ён урэшце атрымаў прызначэнне на пасаду, якога даўно чакаў і вымушаны ехаць працаваць за мяжу. Тут Адэля выразна ікнула. (Ад страху, патлумачыла яна мне пазней. Спужалася, што дзядзька ЛЯЛЕЧКУ забярэ, і яна ніколі больш яе не пабачыць). Для дзядзькі самая гаркота была ў тым, што ранейшы план — ехаць за мяжу на сваёй ЛЯЛЕЧЦЫ — цяпер спраўдзіцца не мог. Даводзілася кідаць любіміцу, але на каго? Цяжка ўздыхаючы, дзядзька паведаміў, што вырашыў прадаць машынку, бо іншага выйсця няма. І нібыта ўжо пакупнік знаходзіцца.

Адэля вынесці гэтага не магла...

Але ж напачатку гэтай гісторыі я абяцала расказаць, як Фартуна павярнулася да нас тварам. Ну, і дзе той паварот Фартуны, спытаецеся вы?

— Спадарыня Наталля, — зноў і зноў тузала мяне Адэля, — ЛЯЛЕЧКА не павінна трапіць у чужыя рукі! Гэта проста немагчыма! Трэба нешта рабіць! — Адэля ўзрушана бегала па маім пакойчыку, раз-пораз заскокваючы ў кухню, каб схапіць са стала што-небудзь смачненькае.

— Так! Думайце! Каго можна далучыць да вырашэння праблемы? У вас ёсць знаёмы банкір?

Я развяла рукамі.

— Хто б сумняваўся! А сярод нафтавых магнатаў?

Я адмоўна пакруціла галавой.

— А сярод гаспадароў аўтамабільных салонаў?

— Не.

— Якая вы непрадбачлівая асоба! Не, каб займець знаёмцаў сярод паважаных і ўплывовых людзей!

— Адэлю, затое мае сябры — цудоўныя і сардэчныя людзі. І паважаныя! Многія з іх маюць творчыя прафесіі.

— Так! Гэта думка! Хто ж там у вас? Мастакі? Не падыходзяць! Кнігавыдаўцы? Таксама. Паэты, пісьменнікі, настаўнікі, журналісты, рэдактары з тэлебачання... О! У вас ёсць сяброўка-рэжысёр! Званіце!

— Адэлька! — адбівалася я. — Так, сяброўка-рэжысёр ёсць, але яна займаецца толькі сацыяльна значнымі тэмамі!

— А... што гэта?

— Гэта значыць, яна здымае дакументальныя фільмы пра выхаванне мастацтвам, пра дзяцей-сірот, пра інвалідаў, пра праблемы адукацыі. Згадзіся, што гэтыя тэмы непараўнальна важнейшыя.

— Так! Дайце мне нумар, я сама з ёй пагавару!

Адэля літаральна выхапіла мабільны з маіх рук.

Амаль паўгадзіны Адэля ўпрошвала, тлумачылы, задабрывала, падпускала лёстачкі. Але мая сяброўка-рэжысёр заставалася непадкупнай! І не думайце, што ад абыякавасці. Проста Любачка была апантаная сур'ёзнымі ідэямі і здымала толькі сапраўды важныя сюжэты. Такая праца вымагае вялікіх намаганняў. Я-то выдатна разумела, што Любачцы не да Адэліных прыгалошванняў пра абдзёртыя стразікі. Але Адэля гэтага не разумела!

— Вы чэрствая і жорсткая асоба, спадарыня Любачка! — раздражнёна заявіла яна маёй сяброўцы, калі тая наадрэз адмовілася займацца ратаваннем ЛЯЛЕЧКІ. — Дарма пані Наталля запэўнівае, што насамрэч вы чулая і працавітая! Што ж, пачакайце! Калі-небудзь захочаце зрабіць сюжэт пра мяне, славутую авечку Адэлю, а я адмоўлю вам! Вось!

Адэля вярнула мне мабільны. Яна яшчэ колькі хвілін незадаволена сапла, а пасля з жалем прамовіла:

— Эх, шкада! Пагарачылася я. Па-праўдзе, чым бы магла памагчы ваша сяброўка-рэжысёрка? Нічым. Ну вось, так неаглядна сапсавала адносіны з чалавекам, які мог бы прыдасца ў будучым. Добра, няхай здымае пра што заўгодна, але вы павінны абяцаць, што дапаможаце наладзіць з ёй нармальныя стасункі.

— І як гэта зрабіць, Адэля? Ты толькі што абвінаваціла чалавека ў тым, што ён не кінуў сваю працу дзеля тваёй прыхамаці, нагаварыла непрыемнасцяў!

— Ат, спадарыня Наталля! Што-небудзь прыдумаем! Для пачатку падарыце ёй кнігу пра мяне! Абавязкова з нашымі аўтографамі. Яна прачытае, уразіцца маёй асобай і абавязкова захоча зняць сюжэт са мной!

— Адэлю! Што ты за Любачку ўчапілся? Павінен жа нехта працаваць над сур'ёзнымі сюжэтамі. Тым больш, што ў яе гэта вельмі добра выходзіць. А ты і без Любачкіных рэпартажаў ужо зорка тэлебачання!

Адэля ажно падскочыла.

— Во! Спадарыня Наталля, нарэшце светлай думкі ад вас дачакалася! Так, дзе мой нататнік? Тэрмінова званю на сваю студыю!

Перамовы з куратарам праекта, у якім удзельнічала Адэля, доўжыліся хвілін дзесяць, не больш. Адэля запэўнівала суразмоўцу, што для тэлебачання набыццё такой прыгожай, такой казачна незвычайнай, такой брутальнай машыны — жыццёва неабходны крок. Без гэтага тэлебачанне страціць для гледачоў усялякую прыцягальнасць... Карацей, я перастала прыслухоўвацца да таго, што пляце Адэлька, бо ні на шэлег не верыла ў поспех гэтых перамоў. І дарэмна! Спадар з тэлебачання абяцаў падумаць і даць адказ раніцай. Адэля паклала трубку і з палёгкай перавяла дух.

— Ну во, спадарыняя Наталля! Сэрцам чую — будзе толк! Але ж якіх нерваў мне гэта каштавала! Трэба падсілкавацца!

Адэля шмыгнула на кухню і вярнулася з вялізным бублікам і маленькай шаколадкай. (Большыя яна злызгала яшчэ раней).

— Усё, пані Наталля! Сёння апошні раз ем!

Я машынальна глянула на гадзіннік. Без пяці хвілін апоўначы.

— Так, Адэлька. Сёння ты і сапраўды не паспееш пад'есці яшчэ раз.

Адэля таксама зірнула на гадзіннік і згодна рассмяялася.

А вось вам і абяцаны паварот Фартуны!

Тэлебачанне выкупіла ЛЯЛЕЧКУ! Дзядзька, усцешаны тым, што яго красуню паабяцалі зняць адразу ў некалькіх модных серыялах і гламурных перадачах, з'ехаў у замежжа. Адэля ж, неверагодна задаволеная неабмежаваным доступам да машынкі, зноў і зноў нагадвала ўсім ахвотным паслухаць, што гэта яна так абачліва распарадзілася лёсам ЛЯЛЕЧКІ. І абавязкова падкрэслівала — ужо яна-то абавязкова паўдзельнічае ў здымках разам са сваёй ЛЯЛЕЧКАЙ. Канешне, уважаючы на памяты бок машынкі, здымалі яе толькі ў пэўных ракурсах, але на гэта ніхто не наракаў.



# Марыя Сцяфанава

**паэтка, празаік, драматург. Скончыла Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А.С.Пушкіна. Падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы. 29 гадоў працавала ў інспекцыі па справах непаўнагадовых Бярозаўскага РАУС. Нарадзілася ў 1954 годзе ў Мінску. Жыве ў Бярозе.**

# Вячэра

Пасля другой чаркі за сталом загуло, бы ў вуллі. Паспачуваўшы ўдаве, хтосьці спачатку трохі загаварыў пра Васіля, які, здаецца ж, каб і хварэць, то не хварэў. Ды й калі яму было болькі лічыць? Усё жыццё ў полі: то на трактары, то на камбайне. Так бедалага за рулём і скіпеў. А пабыў жа на пенсіі ўсяго нічога — і года не набярэцца. Але ж ад смерці, як кажуць, лекара няма.

Затое потым ужо на вячэры то й разышліся. Але ж хто пра што! І што цікава, пра што б ні загаварылі, усё роўна нейк усё зводзілася да грошай: угнаення не дакупіцца ( пра бензін ужо і не кажы!); дзяцей і ўнукаў вучыць — таксама грошыкі гані; у аптэцы на цэнніку зірнеш — інсульт на месцы. А яшчэ ж і естачкі хочацца.

— О-хо-хо! — крактануў дзед Лявон. — І як жа гэта будзе далей жыць, га? Чулі, кажуць цукар ізноў падаражае?

— Дык даляр жа (каб на яго ліха!) усё падымаецца, — з веданнем справы паведаміў Іван.

— А хто ж гэта, — абурыўся Лявон, — гэтак усё яго падымае? Ну, ніяк не ўцямлю!

— Ага, сапраўды. Вось, памятаю, — пачухаў патыліцу Сцяпан, — пры Саюзе бохан хлеба каштаваў васямнаццаць капеек. Прычым, і ў Маскве — васямнаццаць капеек, і ў нашым Забалоцці таксама васямнаццаць.

— Во-во! — паддакнуў Мікола. — А жулікаў, якія штосьці даражэй хацелі перапрадаць ды рукі сабе на гэтым нагрэць, называлі шпікулянтамі.

— Не «шпікулянтамі», а «спекулянтамі», — паправіла бібліятэкарка Ганна.

— А-а, якая розніца? Адзін чорт! Дык вось, за гэтую самую шпікуляцыю тады нават за краты садзілі. Во як! А цяпер што? Глядзі, у суседніх Міхалках алей каштуе дзевяць тысяч, а ў нашым магазіне за такую ж самую бутэльку дзяруць дванаццаць. Вось гэта як?

— От старэчы! — не вытрымала зноў Ганна. — Плецяце невядома што. Жыццё ж мяняецца! Ужо ж даўно няма ні вашага Саюза, ні спекуляцыі!

— А што ж тады ёсць? — не адступаўся Мікола.

— Бізнэс, мае даражэнькія. Адзін бізнэс.

— Ба-ач ты, слоў якіх мудрагелістых панавыдумлялі! — аж расчырванеўся Лявон. — А чаму ж тады з гэтым вашым бізнэсам, калі вы ўжо такія разумныя, жывецца не лепей, га? Вось мне, напрыклад, узімку, калі дажыву, восемдзясят стукне. Мне б ужо сядзець на печы ды грэць плечы. А я ўсё скаціну ў калгасе даглядаю. Тупаю, пакуль ногі хадзяць. А ўсё чаму? Бо дзецям, унукам ды праўнукам якуюсь яшчэ капейку зарабіць хочацца. Нам, старым, што? Нам усяго хапае. А вось маладым сёння цяжка.

— Не скуголь, Лявон! — перабіў Сцяпан. — У тым горадзе сёння ж як? Ледзь да пенсіі дарыпеў — і гэць! А нам жа на сяле яшчэ лафа: ніхто не гоніць. Бо рабіць няма каму. Так што, Лявоне, тупай, пакуль тупаецца.

— Так-то яно так. Але ж усё роўна нейк няправільна гэта. Трэба, каб маладыя добра зараблялі ды нам, старым, дапамагалі, а не наадварот. Эх, каб хоць напрыканцы жыцця ўздыхнуць трошачкі! А то што ж я, як і той Васіль, бачыў за сваё жыццё-быццё, га? Акрамя ж зямелькі, каровы, свіней ды гною — анічагусенькі!

— А каб гэтае свае жыццё не прафукаць, трэба ўмець планаваць свой адпачынак. Так-так! — бліснуўшы залатымі пярсцёнкамі, якія красаваліся амаль не на кожным пальцы (а на некаторых, дык ажно нават па два!), старшынёва жонка падбіла начэсаную грыўку і распачала сваю прамову. — Ці ж мала ў нас цікавых мясцін? У адным Санкт-Пецярбурзе, напрыклад, мы з мужыком былі ўжо разоў пяць, не меней. І што ж вы думаеце? Так усяго і не пабачылі. Там жа такая прыгажосць! Такая прыгажосць! А Эрмітаж!

— Што-што? — не зразумела баба Каця.

— Эр-мі-таж! Ці ж вы не чулі? Гэта ж буйнейшы ў нас музей, які калісьці належыў царам. А ведаеце, што абазначае слова «эрмітаж»?

Баба Каця адмоўна трасянула галавою.

— У перакладзе з французскага «эрмітаж» абазначае «самотны куток», — паведаміла старшыніха.

— Ну, і што ж там, у тым... як яго?.. армітражы? — зацікавіўся Мікола.

— Ой, многа чаго. А найбольш, дык карціны. Такая прывабнасць! Вялізныя залы — і ўсё карціны, карціны, карціны. Сотні карцін! Тысячы!

— Ого! — здзівіўся Іван. — І хто ж гэта, цікава, гэтулькі панамалёўваў, га?

— Раз карцін тысячы, значыцца, і мастакоў не меш. Ці ж іх усіх запомніш? Але ж найлепш, я вам скажу, адпачываць за мяжой. У Егіпце, напрыклад. Дарэчы, у апошні час нашыя менавіта ў Егіпет і Турцыю едуць. Таксама няблага і ў Тунісе, Італіі. Праўда, улетку я б не раіла туды ехаць — вельмі ж спякотна. Камфортней за ўсё там у верасні.

За сталом прыціхлі. Кожны думаў аб сваім. А старшыніха працягвала далей.

— Можна, канешне, і ў Еўропе адпачыць. У Польшчы, Германіі ці Францыі. У той жа Чэхіі, нарэшце. О! А каб вы бачылі, якія там магазіны! — пры гэтым старшыніха нават аж прыцмокнула. — Дарэчы, менавіта там, за мяжой, лепш апранацца. Гэта, я вам скажу, значна танней, чым у нас. Мы дык усёй сям'ёй апранаемся за кардонам, бо не такія ўжо мы багатыя, каб нашыя шмоткі купляць. Вось і зараз збіраемся ў круіз па Еўропе.

Старшчыніха так увайшла ў імпэт, што нават і яе доўгія з нейкімі бліскаўкамі пазногці на растапыраных пальцах пачалі вымалёўваць у паветры тую самую заморскую прыгажосць. З такімі кіпцямі ў агарод не пойдзеш. Факт! Забачыўшы такія кіпцюры, баба Каця нейк збянтэжылася і схавала свае патрэсканыя і пакручаныя ад работы рукі пад вышыты фартушок.

— Круіз...Італія...Божачка мой, і дзе ж гэта? — падумала старэнькая. — І колькі ж гэта грашаўні трэба, каб туды трапіць? А грошыкі ж не зелле — самі ў агародзе не нарастуць.

А старшынёва Жанна, паправіўшы пафарбаваныя ў два колеры валасы, ужо не спынялася:

— Трэба, я вам скажу, найперш любіць сябе!

Аўдавеўшая Вера, як і ўсе, і слухала, і не слухала балаболку. Людзі... Якія ж вы ўсе розныя! Але ж хто як жыве. І кожны — па-свойму. Вядома ж, век звекаваць — не пальцам паківаць. Вось і мы з Васілем жылі, як жылося. Сыночка, дзякуй Богу, выгадавалі, унукаў дачакаліся. Мо, і не так што было (бывае ж на вяку і сем лат на баку), але ж затое ніколі не было сорамна людзям у вочы глядзець. «Любіць сябе...» Можа, хто і не можа жыць без той Францыі. Але ж пры чым тут нейкая там Францыя разам з усёй Еўропай, калі няма яе Васіля?

Слухаў-слухаў Лявон старшыніхіны казкі, ды, нарэшце, не вытрымаў:

— Цябе, даражэнькая, і трасца не трасе, і ліха не бярэ. Але ж і мужык цябе любіць, і грошыкі цябе любяць. Дык ты яшчэ і сама сябе любіцьмеш? А ці не за тлуста будзе, га? Усяму ж канец бывае.

— Лявон, ну чаго ты прычапіўся? — усхапілася баба Каця. — Хай сабе Жаначка пагаворыць. А ты не хочаш — не слухай.

Але ж, крыху захмялеўшы, Лявон ужо разышоўся не на жарт.

— Куды-ы нам тут да некаторых?! Мы ж далей нашага Забалоцця нідзе не бываем. Хіба што ў райцэнтры. Ніякіх мы там Іта-аліяў і Чэ-эхіяў не бачылі. Не ведаю, якое ўжо там хараство, але ж у цябе, мая даражэнькая, за зеллем ужо хутка і плоту не будзе відаць. Вось гэта дык хараство-о! А то «Хра-анцыя!», — перадражніў Лявон.

Абразіўшыся, страшыніха падхапілася і, кінуўшы старому «цемра!», сіганула прэч. І тут пачалося! Адны сталі заступацца за Жаначку, бо яна хоць расказала ім пра тое замежжа, дзе ніхто з іх дагэтуль не быў і, напэўна, ніколі ўжо і не будзе. А найбольш дык абурыліся на Лявона:

— І чаго гэта ты, стары пень, тут сварку распачаў? Вядома ж, старшыніха як загаворыць, дык і сабаку не дасць слова прамовіць. Але ці ж цяжка было змоўчаць, га? Усе ж змоўчалі.

— Ох, мае вы людкі! — паднялася тут баба Каця. — Кожнаму ж свая доля. А сваю долю і на кані не аб'едзеш. Але ж ніхто свету не перабудзе. Давайце, людочкі, нальем па трэцяй чарцы і памянем нашага Васіля. Царства яму Нябеснае!

Вось туды дык, пэўна, ужо ўсе трапяць...

# Грэшніца

Даўнавата ўжо збіралася Анісся схадзіць у царкву. Нарэшце, выбралася — навяла марафет і пачухала.

Людзей на нядзельную службу перад Пасхай натаўклося парадкам. Але ж не была б то Анісся! Таранячы ўсіх сваімі сцёгнамі, ужо акурат праз нейкую хвіліну стаяла яна ля абраза Усявышняга. З палёгкай уздыхнуўшы, Анісся адразу ж пачала так дбайна хрысціцца, што ледзь не пазадзьмула свечкі.

— Даруй мне, Божа, маё саграшэнне! — заенчыла яна. — Не пайшла я, грэшніца, да сваёй лепшай суседкі Аўдоцці гной растрасаць, хоць і абяцала. Прызнаюся табе, Божухна, што не схацела. Хоць пайсці-то яно, мажа, і трэба было б, бо яна ж то мне дапамагала з гноем. Чаму ж я не пайшла, спытаеш? Скажу, як на духу. У гэтай жа Аўдоцці два сыны. І абодва ў горадзе шышкі там нейкія. А ў мяне ж, мой ты Божа, усяго толькі адзін сыночак. Дый і той, па праўдзе кажучы, — абармот.

Ведаеш, Уладыка Нябесны, як пабачыла я звечара гэтых Аўдоццевых сыноў, што на сваіх машынах панаехалі, дык, дальбог, у маім сэрцы адразу ж нешта бы зашкварчэла. «Не пайду!» — вырашыла я. От, думаю, хай гэтыя шышкі самі той гной і растрасаюць. Трасца іх не возьме! А Аўдоцці сказала, што ў мяне рука нешта адымаецца. Дык, мой Божа, тая дурніца мала таго, што мне паспачувала, дык яшчэ і націрання мне нейкага дала. Ага, ажно паўбутэлькі! Даруй жа мне, Госпадзі, — падманула я, саграшыла. Што праўда, то праўда.

Але ці ж я адна такая грэшніца? Глянь, Усявышні, вунь хаця б на Васіліну, што, закаціўшы вочы, слупом стаіць ля абраза Маці Боскай. Ба-ач, як моліцца! Моліцца, бо ведае: ёсць за што. Ды й усе ведаюць. Гэта ж праз яе, злыдню, Ганна (Царства ёй Нябеснае!) на той свет пайшла. Звяла, змяюка, свякруху, поедам з'ела.

А Таіса? Думаеш, яна ў Цябе верыць? Ага, як бы ні так! У яе ж (даруй, Божа!) адна толькі вера — курс даляра. Як жа! Старшынёва жонка! Носа не дастаць! Усе шмоткі з Польшчы цягне. Ну і дзе ж ёй (сам падумай!), гэтакай паненцы, у нашым сяле ўсімі гэтымі спадніцамі ды сукенкамі трэсці, га? Вось і шпацыруе гэтая пані сюды кожную нядзелю выхваляцца.

І Міхаліна, што ў рабой хустцы, не лепшая. У нас жа, мой ты Божа, кожны сабака ведае, што гэтая аторва без выгоды і кроку не ступіць. І чаго ж гэта яна ўсё каля нашага маладога бацюшкі завіхаецца, га? Але ж і ў хаце яго прыбіраецца, і зелле на ягоным агародзе поле, і сынкоў папоўскіх няньчыць. Не іначай, мой ты Божа, прыцэлілася па блату ў рай праціснуцца.

А Ульяна? Ба-ач, як паклоны б'е! Ажно ўпрэла, бедалага. А самой жа пальца ў рот не кладзі. І што цікава: заўсёды Ульяна пра ўсіх усё ведае. Яшчэ, мой ты Божа, не паспее нешта здзеецца, а яна ўжо ведае. От жа праныра!

А вазьмі вунь хоць бы нашага Фёдара, што з пеўчымі падвывае. Каб жа ты, Святы Айцец, толькі ведаў, колькі за свой век гэты прайдзісвет гарэлкі павысмактаў! А колькі сіротачак па свеце параскідаў!

Ох, мой ты Божа, ды тут палова такіх, як я. А мо і болей. Цікава мне толькі, што тут наша Стася робіць? Раней жа, здаецца, яна сюды і дарогі не ведала.

І дзе ж гэта наша Стася так награшыла, га? Ці, часам, не захварэла? Як бы там ні было, але ж не та-ак сабе яна сюды прычапала. Ой, не так сабе! Але ў каго б гэта дазнацца, га? О! Пайду-тка я дачакаюся Ульяну ля царквы. Тая ўжо напэўна-то ведае. Прабач, Усявышні, мне, грэшніцы!

Хуценька перахрасціўшыся, Анісся патаўклася да выхаду. Сапраўды, і чаго ж гэта Стася ў царкву прыйшла?



# Лявон Валасюк

паэт, празаік, мастак. Аўтар зборнікаў вершаў: «Блики дня» (1999 г.), «Краски души» (2000 г.), «Под знаком Стрельца» (2001 г.), «Леаніды» (2003 г.), «Чырвоная вежа» (2004 г.), «Познія сны» (2006 г.), «Знакі на валуне» (2010 г.); кніжак прозы: «Сцежкі да сядзібы» (2008 г.), «Вяртанне Берасцейскай Стралы» (2012 г.). Лаўрэат Берасцейскай абласной Мядовай літаратурнай прэміі (2008 г.). Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Песцяనькі на Кобрыншчыне. Жыве ў Брэсце.

# На Літвінскім полі

Пачынаўся апошні дзень старога года.

З узыходам сонца дзед Васіль пайшоў у хлеў да каровы: яго жонка, бабуля Ульяна, ужо колькі год як, паламаўшы правую руку, не магла ні даіць, ні карміць Зорку. Стары спраўляўся з гэтым сам. Прызвычаіўся. Часам абураўся, калі жонка «даставала» яго сваімі парадамі або папракала ў тым, што мала дапамагае. Найбольш цяжкую працу ўжо даўно рабілі гарадскія сыны і ўнукі, якія прыязджалі даволі часта, каб адпачыць душою і дапамагчы старым...

Гэтым марозным ранкам, усё было спраўна-ціха. Як волаты-вартаўнікі, з двух бакоў сядзібы стаялі ў серабрыстым інеі вязы і ліпы, якія павырасталі і пастарэлі за доўгія гады сумеснага жыцця Васіля і Ульяны. А яшчэ на мяжы з суседзямі ў свой час гаспадар з сынамі навазілі камянёў-валуноў, што спакойна спачывалі, грэючы бакі пад сонцам. Гэтую мяжу так проста ніхто ніколі не зрушыў бы, хіба толькі які бульдозер. Дзед Васіль і сам гэтага не дапусціў бы, бо і ў сталым узросце ён меў выгляд мацака.

Васіль адчыніў дзверы ў хлеў, даў карове сена, паставіў на зэдлік вядро, а сам выйшаў да гарода, глянуў на захад, куды клаліся на марозны снег промні ранішняга чырвонага сонца. Снег пакрыў тоўстым белым дываном вялікае поле, якое цягнулася ў бок Пушчы і ўпіралася ў зарослае кустоўем балота. Раптам старому падалося, што сонечная чырвань праклала цераз поле яркую дарогу-сцяжыну, нібыта ўказальнік у невядомае. Дзед нават закашляўся ад гэтага ранішняга дзіва, а пасля разважыў: шырокая ружавата-чырвоная палаcа кіравалася туды, дзе знаходзіўся вялікі горад, у якім жыў старэйшы сын з сям'ёй. У гэты час над снегам з'явілася шэра-блакітная чалавечая постаць, якая памалу рухалася ўздоўж поля, на якім некалі былі і дзедавы палоскі. На зямлі працаваў, з яе карміўся.

Вярнуўшыся ў хату, дзед Васіль расказаў старой пра ўбачанае.

— Ты ўжо зусім здурэў ад свайго курыва! — абурылася Ульяна. — Глядзі лепш за жывёлай! — адмахнулася яна, занятая сваім.

Дзень толькі пачынаўся, заглядваў у вокны старой хаты. Гаспадар прысеў на лаву ля акна, закурыў, паглыбіўся ў свае старэчыя думкі.

Па жыцці яму шмат чаго давялося перажыць і пабачыць. Бесклапотнае маленства перапынілася з пачаткам Першай сусветнай вайны, калі адправілі з падводаю рыць акопы пад Баранавічамі. На той час і бацька ўжо памёр ад невылечнай хваробы. Калі пачалася эвакуацыя на Усход, дачакаўся ў Баранавічах сваіх родных: бабулю, маці і малодшага брата Сцяпана. З імі ды тымі вяскоўцамі-землякамі, каго накіравалі ў бежанцы па вышэйшым загадзе, рушылі ў нязведаны край расійскіх стэпаў і лясоў...

Доўгім і цяжкім быў той шлях, а яшчэ цяжэйшым аказалася вяртанне...

***

Анатоль, студэнт будаўнічага ўніверсітэта, вырашыў сустрэць Новы год-Міленіум, які падаваўся загадкавым, незвычайным па сваёй лічбе, у вёсцы. Тут збіраліся быць сябры маленства, з якімі ўсё было абгаворана загадзя.

Папярэдзіў бацькоў, што на два дні едзе да дзеда з бабуляю. Паклаў пасля абеду патрэбныя рэчы ў паходную чорную сумку і накіраваўся на чыгуначны вакзал.

... Было ўжо цёмна, калі выйшаў на перон роднай станцыі. Амаль пяць кіламетраў дарогі да вёскі заўсёды здаваліся звычайнай прагулкай, таму і на гэты раз у добрым настроі прыспешыў па знаёмай дарозе.

Адразу за чыгункай пачыналася вёска, што запомнілася з маленства сваёй прыгажосцю і гасціннасцю: там жыла радня па бацьку і маці, жылі хлопцы, з якімі пасябраваў на доўгія гады...

Каляровымі агнямі свяціліся вокны: напярэдадні Новага года ў людзей быў святочны настрой. Шмат моладзі прыехала ў родныя хаты.

Адразу за вёскай з аднаго боку цямнеў невялічкі лес, з другога ляжала вялікае поле, роўна занесенае снегам. Далей ішло скрыжаванне са старой дарогай, уздоўж якой у свой час праклалі нафтапровад «Дружба». Калі гэта было... Так, прыгадваючы маленства, Анатоль выйшаў да вёсак, што стаялі непадалёк ад роднай.

Ён быў уражаны прыгажосцю лесу: дрэвы пад цяжарам снегу прыгнулі голле да самага нізу. Высокія гурбы выдзяляліся сярод соснаў уздоўж дарогі, пракладзенай днём калгаснай тэхнікай. І нават вецер на нейкі час перастаў залятаць сюды.

Дарога за лесам ледзь праглядалася ў цемры. Віднеліся толькі на даляглядзе цёмныя плямы хат з цьмяным агеньчыкам у акне крайняй з іх. Такі арыенцір здаваўся надзейным і прадказваў сустрэчу з цяплом і роднымі людзьмі...

Анатоль прыпыніўся перад полем, што аддзяляла яго ад вёскі. Пачаў узгадваць, у які бок накіравацца. Вырашыў узяць правей ад электрычных слупоў і памыліўся. Мала таго што снегу пад нагамі станавілася ўсё болей, дык да ўсяго ледзь не па шыю праваліўся ў нейкую яміну. Рукі ўскінуў уверх. У левай заставалася сумка, правай хапаўся за снег, але дарма: адчуваў як правальваецца ўсё глыбей, не адчуваючы аніякай апоры пад нагамі. У гэты момант узгадалася дзедава хата з натопленай печчу, паўсталі перад вачыма дзед з цыгарэтаю ля акна, бабуля ля печы.

«Яны мяне чакаюць, а я тут забуксаваў, нібы тая калгасная машына ў рове...» — падумалася раптоўна і адышло, бо трэба было нейкім чынам выбірацца з нечаканай снежнай пасткі.

«Што б гэта магло быць такое, чаго я раней не ведаў?» — падумалася хлопцу, які ўжо адчуў на сабе холад снегу і мароз зімовай ночы.

У нейкі момант зверху ў маўклівай цішы крыкнула нейкая птушка, ад чаго Анатоль уздрыгануў, ірвануўся ўлева, і ў гэты самы момант нечана адчуў моцны штуршок у падэшвы ног. Гэта дазволіла яму выбрацца.

Увесь у снезе, набраўшы яго за каўнер курткі, у чаравікі і пальчаткі, Анатоль напружана дыхаў марозным паветрам, адчуваючы, што яго ўсё яшчэ не пакідае страх. Здавалася, якая небяспека можа пагражаць табе на роўным месцы ўзімку, калі зямля скавана марозам, занесена снегам. Ды не, знойдзецца заўсёды месца невядомаму, чаго ніколі не чакаеш. Так і зараз. Аддыхаўшыся і агядзеўшыся, хлопец пабачыў цёмнае неба, цёмны сілуэт вёскі і сляды на снезе.

Анатоль абіў снег з адзежы і няспешна накіраваўся ў бок вёскі. Ён адчуў, як стаміўся за гэтыя хвіліны, што падаліся вечнасцю. Не стаў нават глядзець на гадзіннік. Дарога падалася доўгай і цяжкай, ды толькі агеньчык з хаты на краі вёскі свяціў па-ранейшаму весела і прыгожа, абяцаючы надзею на лепшае.

Анатоль мінуў поле і апынуўся ў вёсцы, што жыла апошнімі гадзінамі старога года. Агні ў вокнах, брэх сабак, рып дзвярэй, зрэдку чалавечыя галасы. Свяціліся экраны тэлевізараў, накрываліся сталы.

Нарэшце бліснула святло ў дзедавай хаце, дзе яго чакаюць кожны дзень і кожны час. Толькі прыязджай.

У хаце была толькі бабуля, якая адразу пасяшалася да печы, дастаючы каструльку са стравай.

— На, паеж з дарогі. Пэўна, прагаладаўся, пакуль дабраўся па такім снезе. Нешта задоўга сёння. Ці не здарылася што?

— Здарылася! — Анатоль, седзячы на канапе ля стала, паступова адыходзіў ад нечаканай прыгоды. — Праваліўся на полі ў нейкую яміну. Раней там нібыта нічога такога і не было. Крыху не той дарогай пайшоў. Добра што выбраўся з Божай дапамогай. Падалося, быццам нешта знізу падштурхнула.

— Гэта ты на Літоўскім полі апынуўся ў непатрэбным месце ў непатрэбны час! — выказала сваё меркаванне бабуля, перахрысціўшыся. — Там былі французскія магілкі, пакуль іх не разбурылі, не пазаворвалі. Людзям што? Далі загад — яны і рабілі непатрэбнае. А цяпер?.. Хто ведае, што там былі французскія магілкі?

— А чаму поле называецца Літвінскім? — запытаўся зацікаўлены Анатоль, падсоўваючыся бліжэй да стала.

— А як яму называцца? Літвінскае ды й годзе... — Бабуля ізноў перахрысцілася і прысела да печы. — Сябар твой Мікола нядаўна заходзіў, пра цябе пытаў. Зачакаліся, відаць. Так што перакусі з дарогі і ідзі.

— А дзед куды падзеўся, штосьці доўга яго няма? — пацікавіўся ўнук.

— У суседа Алёшкі затрымліваецца. Хутка прыйдзе, куды яму падзецца. Тут побач, недалёка. Карова целіцца, то паклікалі. Зноў будуць частаваць... — незадаволена прагаварыла бабуля.

***

Разыходзіцца пачалі пад самую раніцу, стаміўшыся ад застолля і танцаў. Надзею ў суседнюю вёску надумаў правесці Анатоль, хаця дзяўчына крыху і

ўпарцілася. Казала: «Я сама дарогу ведаю!» Але ноч ёсць ноч. І два кіламетры — таксама дарога.

Праўду сказаць, студэнту да спадобы была Надзея, хаця ніякіх сур'ёзных планаў наконт яе ён не меў. Так, зямлячка, сяброўка.

Анатоль з Надзеяй выйшлі праз гарод на загуменне, дзе дарога не так была занесена снегам. Праз поле і калгасны сад віднелася цёмная паласа суседняй, Надзеінай, вёскі. Варта сказаць, бацька дзяўчыны, як і Анатолеў, у гады вайны былі на фронце, больш таго, ваявалі ў адным падраздзяленні, пераможна дайшлі да Берліна, хаця вярнуліся дамоў зраненыя.

Анатолеў бацька вельмі хацеў, каб малодшы сын ажаніўся з дачкой сябра, але сэрцу не загадаеш. Затое таварыскія адносіны паміж хлопцам і дзяўчынай — скажам, забягаючы наперад, — падтрымліваліся да таго часу, пакуль Надзея не выйшла замуж і не пераехала ў сталіцу.

У небе зіхацелі зоркі, стаяла цішыня, толькі марознае паветра нагадвала аб пары года. Да Надзеінай вёскі было рукой падаць, ды толькі яны не спяшаліся, не было чаго.

— А што ты, Анатоль, так захацеў сустракаць Новы год з намі? Няўжо ў горадзе не цікава? — запыталася дзяўчына, прыгожа ўсміхаючыся блакітнымі вачыма. — Мо няма з кім?..

— Я студэнт. Дзяўчат хапае і ў групе, і на курсе. Ды толькі вось нешта пацягнула на радзіму. А што ты прыйдзеш, я не чакаў. Тым больш прыемна. Пабачыліся, паўспаміналі. Усё ж 2000-ы. — Анатоль гаварыў з дзяўчынаю як з сястрою.

— А ў мяне не склалася ў горадзе сустракаць Новы год: жаніх не змог. То я і махнула да бацькоў.

Неўзабаве апынуліся на пагорку, праз які дарога кіравалася да нізіны.

— Вось мы і на сярэдзіне Літвінскага поля, — Надзея прыпынілася, павярнулася ў бок лесу, да якога прытулілася частка поля. — Магчыма, на французскіх могілках. Думаю, і твае расказвалі. Бацька гаварыў, што, калі капалі зямлю пад сіласныя ямы, дык знаходзілі парэшткі салдат, прадметы вайсковай амуніцыі, побыту. Я цікавілася ў гісторыкаў: непадалёку адбылася бітва, у якой шмат страт панеслі абодва бакі... Дзяўчына прыціхла, нібыта на ўроку ў школе. — Вось далей вёска Літвінкі, дык гэтае поле, пэўна, і пачынаецца адтуль, як і рачулка. Так што зараз мы знаходзімся з табой у цэнтры гістарычнага месца.

Зусім нечакана на фоне цёмнага лесу паўстала высозная постаць ружовага колеру, завісла над полем нерухома і ціха.

Яна на вачах пашырылася, паўстала сцяной, якая раптам успыхнула яркім, як пры выбуху, святлом, пачала апускацца долу і рухацца па снезе ў напрамку Анатоля і Надзеі, у якіх сэрцы гатовыя былі выскачыць з грудзей...

Сярод поля ў цемры ночы з'явілася шырокая ружовая паласа. І хлопец з дзяўчынаю апынуліся на ёй як на ручніку, што пралёг сярод Літвінскага поля.

Яны знерухомелі, прыраслі да снегу так, што не маглі варухнуцца. Тое, што адбылося далей, ні Надзя ні Анатоль ужо не памяталі — абое страцілі прытомнасць. А калі яна пачала вяртацца, то скрозь туман убачылі сябе ці то ў дзіўным сне, ці то зусім у іншым часе.

***

*Малады вой са светлавалосай дзяўчынай стаялі на пагорку ля старых дубоў, што агіналі ўзвышша сярод вялікага поля, якое разыходзілася ва ўсе бакі, упіраючыся ў лес і балота... Непадалёк узвышалася драўляная царква, за якой, крыху далей, віднелася паселішча.*

*Густы туман нячутна плыў ад шырокай балотнай нізіны, блытаўся ў голлі дубоў і асядаў далей у лагчыне, дзе ў высокіх травах і хмызняках блішчэла цёплая ранішняя вада. Толькі-толькі пачало ўзыходзіць сонца, абвяшчаючы людзям, птушкам і раслінам пачатак новага дня.*

*Анатоль, так клікалі воя, моцна сціскаючы ў левай руцэ дзіду і лук, нахіліўся да дзяўчыны:*

*— Надзея, нешта вельмі ціха навокал... Гэта мяне палохае... Мо дарма ты адзела баявыя даспехі?.. Пад нашым сонцам хутка будзе спякотна.*

*Дзяўчына павярнула галаву, усміхнулася блакітнымі вачыма:*

*— Ты таксама не ў адной кашулі!.. Трэба, каб здалёк было відаць, што мы — не тутэйшыя сяляне, а — вої!.. — Дзяўчына з гонарам правяла далонёю правай рукі па даспехах, апусціла яе да шаблі на левым баку. Ружовыя сонечныя плямы бліснулі на метале.*

*Напярэдадні прыскакаў на кані баявы сябар Анатоля Мікіта, які паведаміў пра войска чужынцаў, што рухаецца з захаду...*

*Малады вой глядзеў на захад, дзе ў кропельках расы на траве і лістоце адбіваліся першыя сонечныя промні залаціста-чырвонага колеру. Цішыню ледзь-ледзь парушалі першыя галасы птушак.*

*Анатоль раптам заўважыў удалечыні ледзь прыкметны рух: нешта набліжалася ў напрамку паселішча правей балотнай нізіны.*

*— Што там? — запытала дзяўчына, пазіраючы то на захад, то на Анатоля.*

*— Там, на даляглядзе, адбіваюцца сонечныя промні на даспехах. Падаецца мне, што гэта варожае войска, пра якое ўчора гаварыў Мікіта, — насцярожана сказаў Анатоль і пераклаў дзіду ў правую руку, узняў яе ўверх над галавой. — Будзем пільна сачыць. Магчыма, гэта ворагі, якія вырашылі заваяваць наша паселішча... Калі што, трэба будзе тэрмінова папярэдзіць людзей...*

*...Невядомае войска прыпынілася ў нізіне непадалёку ад пагорка. Баявыя шыхты прынялі больш пагрозлівыя абрысы. Было невядома, што чакаць ад чужынцаў?*

*Праз некаторы час ад агульнай масы аддзяліліся тры вершнікі, якія пачалі набліжацца да пагорка.*

*Калі вершнікі спыніліся, адзін з іх, багацей чым іншыя апрануты і добра ўзброены, праз талмачоў уступіў у размову з маладым воем. Дзяўчына стаяла побач, па-ранейшаму абапіраючыся рукою на шаблю, што паблісвала пад ранішнім сонцам...*

*... — Мы шукаем новыя землі для нашага старажытнага роду, мы вам не ворагі. Калі дамовімся — то будзем суседзямі... — Чужынец у багатым адзенні гаварыў голасна, з сур'ёзным выразам твару, на якім адбілася моцная стомленнасць. Увесь гэты час малады вой трымаў дзіду ў правай руцэ вострым канцом угору і ўважліва слухаў чужынца. На яго твары не тарганулася ні адзін мускул.*

*Па ўсім было відаць, што войска не жадае вайны: людзі ў баявых даспехах у пошуках прыстанішча рухаюцца па зямлі з мірам.*

*Вастрыё дзіды Анатоля блішчэла на фоне блакітнага неба, серабром пералівалася ў святле летняга ранку. Невядомае войска чакала мірных перамоў. І ў іх, так было наканавана лёсам, павінны былі прыняць удзел малады вой з дзяўчынаю.*

***

У марозным паветры стаяла цішыня навагодняй ночы. У блізкіх вёсках дзенідзе блішчэлі жоўтымі агеньчыкамі вокны дамоў. Новы год паступова набіраў ходу.

— Нешта незразумелае адбылося з намі, ці гэта пасля шампанскага? Я бачыла дзіўны сон пра мінуўшчыну, дзе мы былі галоўнымі дзеючымі асобамі... містыка ды і толькі... — са здзіўленнем, нават страхам прагаварыла Надзея, моцна трымаючы Анатоля за руку. — Ты што на гэта скажаш?..

— Мы знаходзімся пасярод Літвінскага поля. Ужо ўчора ўвечары тут пачалося нешта невытлумачальнае: я праваліўся ў пастку на ўскрайку. Лічу, што і ўчарашняе, і тое, што адбылося з намі цяпер, — гэта рэха нашай зямлі, рэха гістарычнага мінулага, напамін пра падзеі, якія тут адбываліся. Мы мала ведаем гісторыю свайго краю. Таму, пэўна, Літвінскае поле напомніла нам яе. Відаць, прыйшоў час. А на твае словы скажу, што я таксама бачыў такі ж сон. — Анатоль пацёр пальчаткай твар, расправіў вусы, з усмешкай паглядзеў на дзяўчыну: — Вось бачыш, якія прыгоды напаткалі нас у Навагоднюю ноч. Калі б прадчувала, што так адбудзецца, дык наўрад ці выйшла б з хаты. Але не бойся, пакуль мы разам...

— Пэўна, усё роўна пайшла б, бо хто звяртае ўвагу на прадчуванні.

У гэты момант нібыта маланкай асляпіла абодвух, Анатоль і Надзея ізноў страцілі адчуванне рэальнасці...

...Анатоль нібыта прачнуўся пасля таго, як праваліўся ў глыбокі сон. Але як можна заснуць на марозе, застаючыся стаяць на нагах.

Хлопец, апрытомнеўшы, не пабачыў побач дзяўчыну. Ён крутануўся, але яе не было. Крыкнуў: — Надзея, ты дзе?!.

Марозная цішыня нібыта варухнулася, адгукнулася звонам у вушах.

«Літвінскае поле пасылае новы іспыт...» — падумаў Анатоль, разважаючы, што рабіць далей. Раптам ён пачуў знаёмы голас з боку поля, ад таго самага месца, дзе ён увечары праваліўся ў яміну-пастку...

Напрамкі колькі сілы пабег ён на голас, правальваючыся па пояс у сумёты. «Мо гэта поле такім чынам папярэджвае аб нечым важным альбо перасцерагае,» — думаў хлопец.

Навокал стаяла такая цішыня, нібыта паветра наструнілася, насцярожылася ў чаканні нейкай асаблівай падзеі, ад якой будзе залежыць лёс усёй краіны, а то і ўвогуле ўсяго сусвету...

— Анатоль!.. — пачуўся перапужаны голас Надзеі амаль што побач. — Анатоль, ты дзе?!.

Дзяўчына апынулася ў той жа пастцы, што і яе сябар, і аніяк не магла з яе выбрацца.

— Ты як тут апынулася? — прыглушана запытаў Анатоль, падпаўзаючы да дзяўчыны, нібыта па тонкім лёдзе да палонкі. — Нешта з намі адбылося на ружовай паласе снегу. Мы разам апынуліся ў іншым часе: сталі ўдзельнікамі гістарычных падзей! — узбуджана гаварыў хлопец, дацягваючыся ўжо да рукі Надзеі.

Нарэшце яны апынуліся побач. Вываляныя ў зямлі і снезе, маладыя людзі цёмнымі плямамі чарнелі сярод белага Літвінскага поля, што звінела спакоем у марознай цішы.

— Там, унізе, нешта знаходзіцца. Я правалілася ў нейкае скляпенне, але ўдалося затрымацца, канчаткова не рухнуць у бездань. І хустка мая там засталася... — дзяўчына са страхам прытулілася да Анатоля.

— Зараз я дастану, пачакай, крыху аддыхаюся... — хлопец на хвіліну прыціх.

— Не ўсё так проста ў гэтым жыцці, Надзея! — сказаў роздумна праз які час. — Зразумела адно: нешта дзіўнае, невытлумачальнае адбываецца тут і цяпер. Я пайду прынясу якую жардзіну на ўсялякі выпадак, а ты пачакай хвіліну-другую. Калі раптам правалюся, дык падасі мне. — Анатоль пайшоў у бок лясной пасадкі, зламаў і прыцягнуў да яміны тонкую бярэзінку. — Цяпер мы ўзброены, — усміхнуўся ён. — Во, навагоднія прыгоды! Каб толькі хутчэй выбрацца на дарогу, бо не май месяц.

— Я ўжо супакоілася, хаця, прызнацца, вельмі страшна было, калі ружовая паласа на снезе пацягнула мяне за сабой. А наперад сябе я бачыла шэра-ружовую постаць. Падумала была, што гэта ты, ап'янеўшы, пайшоў куды вочы бачаць, вырашыла дагнаць і павярнуць дадому. Хаця ўсё, ты ж сам бачыў, пачалося з яркага ўсплеску святла.

Ямінай-пасткай, упэўніўся Анатоль, стаў нейкі стары склеп з абваліўшымся верхам — пэўна, дашчэнту згнілі бярвёны, на якіх ён трымаўся. Унізе хлопец намацаў вялікі цяжкі скрутак, які аказаўся скураным мяшком, пацiху вывалак

яго на паверхню. А яшчэ адшукаў Надзеіну пуховую хустку, за што дзяўчына была яму асабліва ўдзячная.

Не звяртаючы ўвагу на мароз, узбуджаныя, стомленыя ад прыгод і бяссоння, Анатоль з Надзеяй асцярожна развязалі мяшок. Раптам бліснулі металічныя дэталі зброі: там былі дзве багата аздобленыя золатам і серабром шаблі і два пісталеты. Знайшлася ў скураным мяху і важкая металічная скрынка ды яшчэ нейкая драбяза.

— Што будзем рабіць з гэтым скарбам? — усхвалявана запытала Надзея. — Гэта рэчы не шэраговага воіна.

— Занясём да дзеда. Іншага варыянта няма. Ды і пакуль цёмна, ніхто нас не пабачыць, — прапанаваў Анатоль.

— А мне што рабіць? — запытала дзяўчына. — Я хачу дахаты. Бацькі будуць хвалявацца.

— Я правяду цябе дамоў пазней, думаю, да світання паспеем, — супакоіў Анатоль. — Альбо пераначуеш у каго з сябровак..

...Раптам знізу, з яміны-пасткі, бліснула святло, нібыта нехта там, у скляпенні, уключыў моцны ліхтар.

Успышка святла прымусіла хлопца з дзяўчынаю аслупянець. А з-пад снегу павольна выплыў невялічкі ружова-блакітны шар, які паціху павялічваўся ў памерах, падымаючыся ў начное неба, дзе неўзабаве завіс, засвяціўся над Літвінскім полем. Нечакана нешта скрыгатнула і шар міргнуў, ледзь чутна выбухнуў, асляпляльна асвяціўшы наваколле ружова-блакітным святлом. Пасля ператварыўся ў ружова-блакітнага вершніка, які з узнятым мячом нячутна паімчаўся на захад, паступова страчваючы свае абрысы.

— Пагоня!.. — толькі і змог вымавіць Анатоль, сціскаючы Надзею за плечы і адчуваючы яе ўзбуджанасць.

***

З узыходам сонца, калі ўжо добра развіднела і пачаў адлік часу новы год, дзед Васіль пайшоў у хлеў да каровы: трэба было даць ёй сена, напаіць. Для гаспадара гэта даўно стала звыклым.

Наваколле сцішылася пад бялюткім снегам, які сляпіў старэчыя вочы. Пачынаўся першы дзень новага года, новага тысячагоддзя...

Васіль, як і кожны дзень, адчыніў дзверы ў хлеў, паклаў карове сена, паставіў на зэдлік вядро з вадою, а сам выйшаў на гарод, глянуў у бок суседняй вёскі, на захад. Ён зранку меў даўнюю звычку глядзець у той бок, дзе заходзіла сонца, дзе жыў старэйшы сын з унукамі. Раптам мужчыне падалося, што высока ў небе мільганула над полем выява ружова-блакітнага вершніка. Ён пранёсся ў тым жа напрамку. Як і мінулай раніцай слалася на яго шляху ружовая сцежка. Дзед ажно закашляўся ад здзіўлення. Вершнік з высока ўзнятым мячом пранёсся нібы павеў ветру, як празрыстая аблачына, пакінуўшы ледзь прыкметны ружаваты след. Менавіта такі мінулым ранкам бачыў дзед на ста-

рым Літвінскім полі. «Усё некалі вяртаецца...» — падумаў ён. Былі ў свае часы і ў яго спраўныя коні, але каб такія — дзе там.

Вярнуўшыся ў хату, дзед Васіль расказаў старой пра каляровае дзіва, што зноў убачылася яму.

— Ты ўжо зусім здурэў ад свайго курыва! — адмахнулася тая, перастаўляючы на прыпечку чыгуны.

Першы дзень новага тысячагоддзя толькі пачынаўся, сонечным святлом заглядаючы ў вокны векавой хаты. Гаспадар прысеў на лаву ля акна (любімае месца), закурыў, паглыбіўся ў свае старэчыя думкі.

У куце каля дзвярэй стаялі загорнутыя ў зеленаватую тканіну, падобную да скуры, старадаўнія рэчы, прынесеныя пад раніцу ўнукам.

*2018 г.*



# Вінцэсь Мудроў

празаік. Аўтар кніг прозы: «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

# У Вільні

Пасля трэцяй «пары» Мішку перахапіў на інстытуцкім калідоры куратар і папрасіў адведаць аднагрупніка, які трэці дзень не прыходзіў на заняткі. І хаця Мішка меў іншыя планы, аднак мусіў, не заходзячы да дому, ехаць у перапоўненым аўтобусе на другі канец горада. Лёшка Рындзюк, так звалі аднагрупніка, здымаў пакой у прыватным сектары. Некалі Мішка да яго заходзіў, ды гэта даўно было, яшчэ на першым курсе. Адно і запомніў, што на хаце былі сінія аканіцы. Па тых аканіцах і знайшоў Лёшкава жытло, тры ці нават чатыры разы абышоўшы Трэці Савецкі завулак. Да вясніц была прыбітая пакарабачаная бляха з выявай сабачай галавы. Мішка з насцярогай увайшоў на разлеглы, пасыпаны бітай цэглай двор, але сабака не падаваў знаку. Можа, акалеў, а можа яго зусім тут ніколі не было.

Дзверы адчыніў рудавалосы падшыванец, відаць, сын гаспадароў. Пачуўшы, што госцю патрэбны Аляксей Рындзюк, ён моўчкі тузануў чупрынай.

Аляксей Рындзюк ляжаў у бакавым пакойчыку, на ложку з панцырнай сеткай, і гучна хроп. Пад ложкам была разасланая газета, на якой сушыліся, рассыпаныя дробнымі камякамі, піўныя дрожджы.

«Дзе ён іх бярэ?» — паспеў падумаць Мішка, перш чым кашлянуць у жменю.

Жалезны ложак рыпнуў, Лёшка пацягнуўся і толькі тады заўважыў госця.

— О! Каго я бачу! — выгукнуў Рындзюк пасля адчайдушнага позеху. — Ці не Эдуард Ягуаравіч прыслаў?

— Ён, хто ж яшчэ, — буркнуў Мішка. Іхняга куратара звалі Эдуардам Януаравічам, але студэнты крыху падкарэктавалі імя па-бацьку.

— Захварэў? — запытаўся Мішка.

— Не зусім. Проста цяжкая паездка выдалася.

— Паездка? Куды?

— Табе скажы, а ты Ягуаравічу настукаеш.

Мішка пакрыўджана замаўчаў, памкнуўся да дзвярэй, а ўзяўшыся за дзвярную ручку, спытаў:

— А дрожджы дзе купляеце?

Убачыўшы, што госць пакрыўдзіўся, Лёшка звесіў з ложка жылістыя лыткі, выцягнуў з кішэні штаноў пачак нетутэйшых цыгарэт, працягнуў госцю. Яны зрабілі па зацяжцы, і Лёшка разам з дымам выдыхнуў:

— Літоўскія. У Вільнюс па дрожджы ездзіў.

Мішкава маці па святах пякла булкі з абаранкамі. Але закінула гэтую справу: не было дражджэй. Іх цяпер днём са свечкай не знойдзеш. «Усё з-за самагоншчыкаў. Яны дрожджы скупляюць», — казала маці. Згадаўшы матчыны словы, госць спахмурнеў.

— Самагонку гоніш?

— Нават не ўяўляю — як яе гнаць, — Лёшка, не выпускаючы з зубоў цыгарэты, нацягнуў на азадак порткі.

— А што вы з дражджамі робіце?

— Гаспадыня прадае. Цішком, вядома.

— Спекуляцыя? — голас Мішкавы набыў пагрозлівае адценне.

— А ты хацеў, каб мы дрожджы за светам набылі, на сваім гарбе, ад мянтоў хаваючыся, прывезлі і прадалі за тое, за што купілі? — Лёшка з жарсцю раздушыў у бляшанцы з-пад халвы недапалак. — У цябе, дарэчы, бацькі ёсць?

— Ёсць. А прычым тут гэта? — госць таксама здушыў цыгарэту.

— А пры тым, што жывеш у сваёй хаце на ўсім гатовым. А я без бацькі рос. І маці раз на месяц пяцёрку прышле, а бывае і не прышле. На першым курсе наогул галадаваў. І дрожджы, кажу табе, не я, а гаспадыня прадае. Ёй мараль пачытай.

Мішка пацёр лабаціну. Дарма ён, сапраўды, згадаў пра спекуляцыю. Аднагрупніку сапраўды не пазайздросціш. Бацька на цаліне загінуў. Ехаў на трактары праз замерзлую раку, а лёд трэснуў. А маці, нібыта, на інвалідную пенсію жыве.

— І што, за пакой не плаціш? — спытаў Мішка. Спытаў проста так, каб улагодзіць сітуацыю.

— Вядома, не плачу. Апошнім часам наогул на грошы ўзбіўся. Зірні, — Лёшка кіўнуў у бок вакна.

На падвоканні стаяў транзістар з выцягнутай амаль да столі антэнай.

— Ух ты, — з ліслівымі ноткамі мовіў госць, узяўшы прымач у рукі. Мішка і сам прагнуў такі набыць, але маці не давала грошай, ды і ў продажы іх не было.

— «ВЭФ-Спідола-10». Экспартны варыянт, — паведаміў Лёшка, прыпаліўшы новую цыгарэту.

Госць агледзеў транзістар з усіх бакоў. Пра экспартны варыянт Рындзюк, зразумела, загнуў. Але ўсё адно рэч файная.

— У Вільнюсе купіў?

— Там, вядома. У нас транзістараў наогул у продажы няма.

— Шкада толькі — далёка ехаць да таго Вільнюса, — Лёшка ўключыў прыймач. Гучала перадача з цыклу «Ленінскі ўніверсітэт мільёнаў».

— Ды што там далёкага... У суботу звечара залазіш у цягнік, раніцай ужо там. Дзень ходзіш па крамах, увечары зноў лезеш у вагон і дасвеццем убіваешся ў хату. Сёрбнуў гарбаты — і на заняткі выправіўся.

— А чаму цябе два дні не было? — Мішка ссунуў, а потым зноў выцягнуў антэну.

— Гаспадыня папрасіла сыну куртку набыць. Усю ноч на вакзале кантаваўся, а зранку на кірмаш пабег. Ён у іх там а пятай гадзіне адчыняецца. Толькі па-цёмнаму і прадаюць. А прымяраюць што, дык газеты паляць. І азіраюцца, бо можа міліцыя наскочыць. Так што, лічы, двое сутак не спаў.

Мішка крутнуў ручку настройкі. Загучала перадача «Распавядаюць ветэраны».

— А ты хоць быў у Вільнюсе? — запытаўся Лёшка.

— Не даводзілася, — уздыхнуў госць.

— Дзіўны горад. Касцёл на касцёле. І навошта ім столькі? — Лёшка спехам дасмактаў цыгарэту. — Што ты слухаеш, далібог, — узяўшы прыймач, Рындзюк пераключыў дыяпазоны і прастора напоўнілася зычным голасам нейкай польскай спявачкі. Песня была тэмпавая і запрашала зараз жа пусціцца ў скокі.

— Хелена Майданец. Заўсёды гэтым часам Варшаву слухаю, — паведаміў шчаслівы ўладальнік «Спідолы» і, адчыніўшы дзверы, крыкнуў: — Пеця!

У дзвярной пройме ўзнік той самы рудавалосы, стрыжаны пад бобрык хлопец.

— Куртка падышла? — Лёшка нацягнуў праз галаў кашулю.

— Падышла, — адказаў падшыванец.

— А што больш за ўсё ў Літве спадабалася?

— Лядай! — выгукнуў Пеця і прычыніў дзверы.

— Сын гаспадыні. Увішны хлопец. Цэлы год прасіў, каб я яго ў Вільнюс узяў. Нарэшце, улетку з'ездзілі.

— А што такое «лядай»? — Мішка прыцішыў галасістую польку.

— Марозіва па-літоўску.

— А ты ведаеш літоўскую мову? — у Мішкавым голасе прагучала лёгкая паніка.

— Ведаць — не ведаю, але прадавачцы сказаць сёе-тое магу. Літоўцы расейцаў не надта любяць, таму даводзіцца па-іхняму шпрэхаць.

— А як да беларусаў ставяцца? — перабіў Мішка.

— Для іх што расеец, што беларус — адна халера. Але варта пару словаў завярнуць па-літоўску — і да цябе ўжо іншае стаўленне. Скажам, драджэй па дваццаць пачак даюць. А мне трэба мінімум шэсьдзясят. Скажаш: «Прашаў мелес. Трысдяшымт пакяту». Яна і сыпане. Гадзінку паблукаеш, яшчэ трыццаць пачак дасць. А некаторым нашым, якія другім разам чаргу займаюць, могуць і не даць. Там, дарэчы, адны бульбашы таўкуцца. Толькі аднойчы літоўца бачыў. Гэта ён мне і напісаў на цыгарэтным пачку — што трэба казаць прадавачцы.

— Дык цяжка цягнуць столькі.

— А ты думаў... Пачкі, праўда, не такія вялікія, як у нас, ды ўсё адно: валачэш, і рукі адрываюцца. І пруся з гарадской ускраіны. Там у іх драджжавы завод, а пры ім крама.

Транзістар каротка затрашчаў, заспяваў прыемным барытонам.

— Ежы Паломскі, — Лёшка паддаў гучнасці. Ён, падобна, ведаў па галасах усіх польскіх выканаўцаў. — Наступным заездам магу і цябе ўзяць.

Лёшка, нібыта нешта прыгадаўшы, выставіў угору палец: — Зараз чымсьці пачастую, — Рындзюк выбег з пакою і неўзабаве паўстаў са скібкай чорнага хлеба.

— Ды я не галодны, — прагугніў госць.

— Смаката! Літоўскі хлеб. У нас такога зроду не выпекуць. Хоць і еду нагружаны, абавязкова бохан прыхопліваю.

Хлеб і сапраўды смакаваў. І галавакружна пах кменам.

— Ну, едзем? Ці ты Ягуаравіча баішся?

Такое пытанне пакрыўдзіла госця. Ён перастаў жаваць, працягнуў аднагрупніку руку, і Лёшка ляпнуў па ёй далонню.

Людзей у вагоне як завязаць.

«За каўбасой едуць», — прамармытаў Лёшка, прабіраючыся па праходзе. Прабіўшыся ў канец вагона, з краканнем узлезлі на верхнія паліцы. Мішка хацеў узяць пасцель, але спадарожнік паведаміў, што студэнты мусяць спаць на голых дошках, зняў швэдар, скамячыў і, паклаўшы пад клуб, тут жа засоп, тыцнуўшыся носам у перабойку. Звыкся спаць у цягніках без сенніка. Мішка таксама павярнуўся тварам да перабойкі і адчуў, што задыхаецца. Ён кульнуўся на спіну, расшпіліў гузікі на кашулі, суцішыўся ў паставе нябожчыка. Вагонныя дзверы сюд-туд адчыняліся, краналіся пяткі і, дыхнуўшы пахам прыбіральні, з грукатам зачыняліся.

«Дарма назваў Рындзюка спекулянтам, — падумаў Мішка, мружачыся на лямпачку, якая кволілася на стале, — пакуль да Вільнюса даедзеш — памерці можна ад задухі».

Цягнік скрануўся з месца, набраў хуткасць і дыхаць стала лягчэй. Але ўзнікла новая праблема: з ваконнай шчыліны пачаў дзьмуць струмок халоднага паветра, і давялося прыціснуць да шчыліны палітон.

На доле дзве пасажыркі нявызначанага веку суцішна перамаўляліся. У аднной быў голас па-старэчы шапялявы, а ў другой па-маладому гамзаты і размаўляла яна на трасянцы.

— А «доктарская» ў іх прадаецца?

— Прадаецца. І «доктарская», і «кракаўская», і мясныя рулеты выкідваюць. Але што прыдумалі: ад раніцы штосьці прададуць, а потым здымаюць з прылаўкаў. А ўвечары, як мы з'язджаем, зноў прадаюць. Для сваіх толькі.

— Што робяць, паскуды. Жывуць за наш кошт, і яшчэ каўбасу хаваюць.

— Страшэнныя нацыяналісты. Спытаеш што ў прадаўшчыцы, а яна табе палітоўску. А пацікавішся на вуліцы — як прайсці да вакзала? — а яны ў другі бок пакажуць. У Вільнюсе, дзякуй богу, нашых многа. А заедзь у Каўнас — там наогул рускага слова не пачуеш. З маёй працы туды ездзілі, так нічога і не купілі.

«А чаго прэшся да тых нацыяналістаў? Вунь, літоўцы да нас не ездзяць і выдатна сябе пачуваюць», — з гэтаю думкаю Мішка заплюшчыў вочы, намагаючыся заснуць, ды як заснеш, калі вагонныя дзверы безупынку грукалі, ды так, што дрыжэла перабойка.

Тужліва тахкалі колы, квола свяціла лямпачка пад столлю, панылыя думкі лезлі ў галаву. Мішка згадаў, як пару гадоў таму маці ездзіла ў Вільнюс — у іх на заводзе арганізавалі выправу па славутых вільнюскіх мясцінах. Увечары ён мусіў сустрэць аўтобус, каб дапамагчы данесці сумкі, бо маці мерылася набыць у літоўскай сталіцы якіх харчоў. А дзявятай гадзіне вечара блакітны «Лаз» спыніўся каля будынка заводакіраўніцтва. Мішка падышоў да пярэдніх дзвярэй, але тыя чамусьці адчыніліся толькі напалову. Відаць, іх нехта трымаў. За пыльнымі аўтобуснымі шыбамі варушыліся цёмныя постаці, чуліся

жаночы віскат і глухія мужчынскія мацюгі. Неўзабаве дзверы адчыніліся напоўніцу, з іх спачатку пасыпаліся пустыя бутэлькі, а потым выкуліўся ўпіты дзядзька. Згубіўшы белы капронавы капялюш, дзядзька прабег па інерцыі некалькі метраў і зарыўся лысай галавой ў кветнік. Следам за ім з аўтобуса пнуўся выйсці чарнавалосы мацак у падзёртай на пупе нейлонавай кашулі. Аднак мацака трымалі за шыю, а той, барвовы ад натугі, вырываўся, і слаў праклёны на адрас лысага дзядзькі.

«Нап'юцца, тады біцца пачынаюць», — прамовіла маці калі вылезла з аўтобуса. Біліся, як высветлілася, майстар механічнага цэха з начальнікам аддзела тэхнічнага кантролю. Надоечы ў цэху адбыўся партсход, на якім абмяркоўвалі заяву майстра на ўступленне ў партыю, а начальнік АТК заявіў, што майстар развёўся з жонкай, не выпісваў газет, і заяву адклалі ў бок. Вось пакрыўджаны майстар і даў волю эмоцыям.

Дома Мішка з бацькам разбіралі хатулі з прысмакамі. Ніякіх славутых мясцінаў экскурсанты, вядома ж, не наведвалі. Увесь час сноўдалі па крамах ды лаяліся з іншымі пакупнікамі. Пры гэтым матчына сяброўка, з якой разам працавалі, атрымала пустой сумкай па галаве. «Маня ўсю ноч фрызуру рабіла, а выйшла з крамы ўскудлачаная як баба Каргота», — са смяшком выдала маці. «А навошта бохан хлеба везла?» — спытаў бацька. «Пакаштуй, і ўсе пытанні знікнуць», — матчын голас, што гучаў у свядомасці, заглушыў басавіты гудок цеплавоза. Вагон пачало кідаць у бакі, і Мішка схапіўся рукой за край паліцы. Пасажыркі на доле аціхлі, адно дзверы па-ранейшаму гучна грукалі, і водар прыбіральні па-ранейшаму казытаў ноздры.

«Білася Маня, відаць, не з літоўкай, а з такой жа экскурсанткай, толькі з іншага аўтобуса», — падумаў Мішка, прыслухоўваючыся да перастуку вагонных колаў. Перастук рабіўся ўсё больш павольным: цягнік пад'язджаў да станцыі. Што думаюць беларусы пра літоўцаў растлумачыла цётка з ніжняй паліцы. А што думаюць літоўцы пра беларусаў? А што яны могуць думаць, убачыўшы расхлістаных цётак у чарзе па каўбасу. А зрабі літоўка заўвагу — адразу нацыяналісткай назавуць. У нас затое аніводнага нацыяналіста. Адно называемся беларусамі, а беларускага — анічога за душой. У школе родную літаратуру вывучалі. Такое ўражанне, што хрэстаматыі нейкая сволач складала. Напхалі туды такіх твораў, ад якіх млосна робіцца. Прачытае вучань Глебку з Лыньковым — і да канца дзён сваіх не возьме ў рукі беларускую кніжку. І Рындзюк беларускага слова гідзіцца. Кажа, што гэта мова затурканых сялянаў, і яе не варта адраджаць. І што калі ў інстытуце і з'явіцца сапраўдны беларус, яго вомігам на ўлік паставяць. Нездарма ж на курсе стукач ёсць. Вучыцца ў паралельнай групе.

Пройма ад вакна краналася плечука, напорліва лезла за каршэнь. Небарака скурчыўся, накрыўся палітонам, а на галаў уздзеў пустую сумку, якую ўзяў у дарогу.

— Ну як, спекулянт, выспаўся? — запытаўся Лёшка, калі дарэшты акалелы напарнік споўз з верхняй паліцы.

Замест адказу напарнік памацаў правы клуб.

— Косткі баляць? Я звычайна швэдар пад клуб падкладаю.

Пасажыркі на доле здалі пасцелі і пілі гарбату. У вагоне гарэла святло, а за вокнамі панаваў шары прыцемак. Мішка хацеў замовіць шклянку гарбаты, але Лёшка сказаў, што падсілкуюцца ў вакзальным буфеце.

... У буфеце яны ўзялі па тры сасіскі з гарчыцай і па кубку кавы з трыма тонкімі пляйстрамі сыру.

— Бачыш розніцу? Кава ў кубку, і кубак на сподку. Як у лепшых дамах Ландону. А на мінскім вакзале замест кавы жалудовую бурду падаюць у мутнай шклянцы.

«У нас кубкі ў першы ж дзень пакрадуць. Разам са сподкамі», — з гэтаю думкаю Мішка налёг на сасіскі. Тыя проста раставалі ў роце. Даўно такіх не каштаваў. Кава таксама смакавала і, галоўнае, надта прыемна пахла.

А вось будынак вакзала не ўразіў. Лёшка казаў, што ў Вільнюсе ўсё старое ды забытковае, а перад вачыма паўстала тыповая савецкая спаруда. Хацеў сказаць пра тое напарніку, аднак Лёшка ўжо бег да тралейбуса, які стаяў на прывакзальным пляцы.

У тралейбусе, як і ў вагоне, поўна народу. Аднак лунаюць зусім іншыя пахі: таннага «шыпру», тытунёвага дыму і гарэлачнага перагару. «Як і ў нас», — падумаў Мішка, але тут з дынаміка пачулася «Кітас «Летува», і Мішка ўвабраў галаў у плечы. Усё ж такі дзіўна і нават страшнавата чуць незнаёмую гаворку. Дзве кабеты за спінай аб нечым гучна перамаўляліся па-свойму. Мішка думаў, што яны гамоняць па-літоўску, а аказалася, што па-польску. Гэтую мову ён крыху ведаў: набываў у шапіку часопіс «Пшыязнь» і чытаў са слоўнікам. Адна з кабет, ад якой перла часныком, распавядала сяброўцы, як надоечы да яе прыязджаў стрыечны брат з Беластоку і, набыўшы пяць залатых пярсцёнкаў, прас і стабілізатар для тэлевізара, таго ж дня з'ехаў дадому.

За шыбай, у ранішнім паўзмроку, узнікла штосьці падобнае на кардонку з-пад абутку з кароткім надпісам «Lietuva» на фасадзе. З выгляду, кінатэатр. Мішка зацята глядзеў у вокны ў памкненні пабачыць старыя будынкі, але шыбы запатнелі і праз іх ужо нічога не было бачна.

Ехалі даволі доўга. У празрыстых пісягах, што пакрэслілі шыбы, мільгацелі каменныя дамы, потым драўляныя — з абавязковым высокім мезанінам, — нарэшце паплылі стаўбуры каранастых хвояў, якія падступалі да дарогі.

Яны вылезлі з тралейбуса на канцавым прыпынку, і Лёшка незадаволена прамармытаў:

— Ужо стаяць, гады.

Наперадзе, у мышастым прыцемку, дыміў высокім комінам завод, а перад ім, прыляпіўшыся да цаглянага муру, стаяла нехлямяжая будова з вузкім, як амбразура, вакном. Пад вакном чарнеў людскі збой. Людзі, праўда, не стаялі, а сядзелі. Здалёк Мішка не зразумеў — на чым яны сядзяць, а калі падышлі бліжэй, угледзеў пад азадкамі счарнелыя скрыні з-пад піва. Чарга нагадвала тую, якая звычайна таўклася ля пункта здачы шклатары. У Міш-

кавым двары быў такі пункт, і там ад самага ранку народ сядзеў на такіх жа хісткіх скрынях.

Чарга гаманіла па-расейску. Лёшка ўкінуў у рот цыгарэту, чыркнуў запалкай, і тут яго нехта аклікнуў. Высокі чувак у целагрэйцы стаяў перад самым акенцам і махаў рукой. Лёшка падышоў да знаёмца, парукаўся, прапанаваў цыгарэту.

— З Маладзечна малец. Каторы раз сустракаю, — Лёшка захлынуўся цыгарэтным дымам, закашляўся, і напарнік пастукаў яму кулаком па спіне. — Усе нашы. Літоўцаў няма.

Землякі, што сядзелі на хісткіх скрынях, пажадліва пазіраючы на акенца, выклікалі ў Мішкі глухое спачуванне. Ды і як ім не паспачуваць, калі небаракі прыехалі з-за свету набыць пару кіло дражджэй. Але неўзабаве спачуванне змянілася палкім абурэннем. Уласна, хто гэтыя людзі? Спекулянты. Прададуць дэфіцыт у тры разы даражэй.

— Слухай, а з чаго робяць дрожджы? — спытаў нечакана для самога сябе Мішка.

— З адыходаў цукровай вытворчасці, — напарнік з неспакоем глянуў на гадзіннік. Крама павінна ўжо была працаваць, а акенца ўсё не адчынялася.

— А чаму іх няма ў продажы?

— Каб самагонку не гналі. Пачнуць гнаць, і хто тады будзе «чарніла» жлукціць? Дзяржава вялікіх грошай не далічыцца.

Чым падабаўся Мішку напарнік, дык гэта тым, што меў просты адказ на любое, нават самае складанае пытанне.

— Дзіўна: у Літве ёсць дрожджы, а ў нас няма...

— Літва калісьці мела незалежнасць, і дражджэй там, думаю, было пад завязку. Не дай іх цяпер літоўцам — пачнуць думаць: як аднавіць... — чаго літоўцы захочуць аднавіць Лёшка сказаць не паспеў, бо акенца з грукатам адчынілася, і ўсе ўскочылі на ногі. Лёшка пашыбаваў да акенца, зірнуў паўзверх людскіх галоў, выглядаючы прадавачку.

— Літоўка! — з панікай выгукнуў Лёшка, калі вярнуўся ў канец чаргі. Ён сцішыў голас, каб не пачулі людзі. — Па дваццаць пачак даюць. Мінулы раз полька прадавала. Станеш другім разам у чаргу, потым трэцім — і возьмеш колькі душа пажадае. А гэтая ніколі не дасць. «Вас ушэ обслушывала», — перадражніў Лёшка прадавачку і смачна плюнуў пад ногі.

Чарга была даволі вялікай ды і рухалася паволі, бо пакупнікі атрымлівалі дваццаць пачак, прасілі яшчэ, а нічога не атрымаўшы, адыходзілі ўбок і пачыналі лаяцца на літоўцаў.

— Двідзяшымт, — прамовіў Мішка — тое мудрагелістае слова падказаў напарнік, — і даўганосая, з фрызурай, падобнай на атамны грыб, прадавачка з уздыхам сыпанула ў разнасцежаную сумку дваццаць пачкаў дражджэй. Пачкі былі маленькія, па сто грамаў вагі.

Мішка хуценька адышоў ад акенца і толькі краем вуха чуў, як сябар нешта казаў прадавачцы па-літоўску, а тая трэсла атамным грыбам і гукала: «Сле-

дуюшчый». Кроў апаліла твар. Мішку стала раптам сорамна — і за сябе, і за сваіх землякоў. Ён нават пашкадаваў, што прыпёрся ў Вільнюс.

Тыя, хто атаварыўся, збіліся ў кучу. «Сволачы, няшчасных дражджэй шкадуюць», — гучала ў натоўпе.

— Дрэнь справа, — здалёк выгукнуў Лёшка, трымаючы сумку мезеным пальцам, — мне трэба тры разы па столькі.

Хлопцы ўкінулі ў рот па цыгарэце, выпусцілі дым у кірунку людскога збою. Народу ў чарзе паменела, але пакуль палілі, новая партыя жанчын з пустымі сумкамі ды авоськамі выкулілася з тралейбуса ды кінулася за дэфіцытам. Ім насустрач, у бок тралейбуснага прыпынку, клыпаў, прыпадаючы на левую нагу, сівенькі дзядок. Параўняўшыся з хлопцамі, дзядок чыркнуў пальцамі па далоні, просячы агню, і Лёшка з імпэтам выцягнуў запалкі.

— А вы тутэйшы?

Дзядок моўчкі кіўнуў, рушыў да тралейбуса, і Рындзюк схапіў яго за рукаво. Так яны і шлі, пад ручку, метраў пяцьдзясят: Лёшка нешта казаў, а дзядок адмоўна, як тая прадавачка, трос галавой ды паказваў рукой на тралейбус. Нарэшце Рындзюк дастаў з кішэні грошы, — і жыхар тутэйшых мясцін, павагаўшыся, павярнуў назад.

Хвілін праз дваццаць дзядок з Лёшкам адвалілі ад акенца і тутэйшы жыхар з адчаем ляпнуў далонямі па клубах. Ад прыпынку ад'язджаў чарговы тралейбус.

— Не хвалюйцеся, зараз яшчэ пад'едзе, — задышліва выгукнуў Лёшка, цягнучы пацяжэлую сумку.

— Ды ў мяне нумарок у паліклініку, а я з вамі важдаюся, — пасля такіх слоў Лёшка запабежліва працягнуў дзеду пачак цыгарэт.

— А вы беларусы? — тутэйшы гаманіў з ледзь прыкметным акцэнтам.

— Беларусы, — з годнасцю выдаў Мішка, прыўзняўшы грудзіну.

— У нас тут шмат беларусаў жыве, — дзядок прыпаліў ад падстаўленай Лёшкам запалкі. — Дзіўны народ. Дома па-простаму размаўляюць, маладыя і польскай мовы не ведаюць, а ў пашпартах скрозь палякамі запісаліся. У Вільнюсе беларусамі быць не надта прэстыжна. Ведаеце, як вас да вайны называлі? Гудасы! А «гуда» па-нашаму «пудзіла». Перад самай вайной, калі нас Масква захапіла, Палецкіс прапанаваў казаць не «гудас», а «балтарусіс», каб беларусы не крыўдавалі.

— А вы, літоўцы, бачыце розніцу паміж намі ды расейцамі? — пацікавіўся Мішка.

— Як жа... бачым. Беларусы — белыя, бо адранку мыюцца, а русы нямытыя ходзяць.

Мішка з Лёшкам пераглянуліся. Показка ім не спадабаліся.

— І даўно тут жывяце? — змяніў Лёшка тэму гаворкі.

— Даўнавата. Раней у цэнтры жыў, на Вакечу. Зараз у той кватэры сын з сям'ёй атабарыўся. Цяпер вось тут, у старой габрэйскай хаце век дажываю. Сам я з Біржаю. У мяне там вятрак быў і вялікая гаспадарка. А ў саракавым годзе, яшчэ да камуністаў, кінуў усё, наладаваў два вазы майна і ў Вільнюс выправіўся.

За спінамі зашамацеў коламі тралейбус. Дзед адкінуў недапалак, валюхаста патупаў на прыпынак, а следам за ім рушылі і хлопцы.

— Колькі яму даў? — спытаў Мішка, залазячы ў тралейбус.

— Юбілейны рубель. Будзе хоць з чым дахаты ехаць, — Лёшка страсянуў цяжкой сумкай.

Хлопцы плюхнуліся на задняе сядзенне.

— Чуў, якія показкі пра беларусаў распавядаюць? — прасіпеў Мішка.

— Цішэй абурайся, — такім жа незадаволеным сіпам адказаў напарнік, — ну мыемся раніцою... што тут крыўднага. Да таго ж, не яны да нас прыехалі, а мы да іх. Думаеш, прыемна лабусам у чэргах з бульбашамі таўпехацца.

Тралейбус ізноў прывёз іх на вакзал.

— Можа табе крыху адсыпаць? — спытаў Лёшка, запіхваючы сумку ў ячэйку вакзальнай багажні.

— Мне і столькі хопіць, — мармытнуў Мішка. — Усё адно маці прадаваць дрожджы не будзе. Пакіне сабе колькі, а астатняе суседкам раздасць.

— Ведаеш, і мая маці ніколі б спекуляцыяй не займалася, — Лёшка ляпнуў дзверцамі ячэйкі. Нажывацца такім чынам — не ў традыцыях беларусаў. І жабраваць — не наша традыцыя, — Лёшка знянацку загаварыў напышлівай мовай. — Я пазалетась ва Украіну ездзіў, дык там не паспееш на вуліцу выйсці, як тут жа жабрачкі рукі цягнуць: «Да-айтэ копійочку. Дытына голодна». Так што і ў нас ёсць станоўчыя рысы характару.

Мішка наставіў на сябра цікаўныя вочы:

— А дзе твая гаспадыня дрожджы прадае?

— Вядома ж, не на кірмашы. Заганяе гуртам прафесійным самагоншчыкам.

— А чаму самагоншчыкі самі ў Вільнюс не едуць?

— Ага. Так ім і сказалі — дзе дрожджы дастаём.

Скочыўшы з вакзальных прыступкаў, яны пайшлі няспешным крокам па вуліцы, якая бегла ўздоўж чыгункі, а потым павярнулі налева. Брукаванка збягала долу, а ўсутыч да яе падступалі шэрыя ды жоўтыя камяніцы. Горад, які ўяўляўся прывідам з размытымі відарысамі, набыў дакладнасць ліній. Мішку здавён вабіла даўніна, а ў Вільнюсе яна паўстала ва ўсёй сваёй велічы. Праходзячы міма старога, дарэшты пашарпанага муру, Мішка нават правёў па ім пальцамі, адчуваючы, што кожная цагліна — гэта маленькі фрагмент вялікай гісторыі. Лёшка між тым ішоў па бруку з гіморай стомленага заўсёдніка на твары, усім сваім выглядам дэманструючы, што ўсё тут, пачынаючы ад дамоў і заканчваючы выбітым каменем у брукаванцы, яму да болю знаёма.

— А вунь Вострая Брама, — Лёшка спатыкнуўся на выбоіне і ціха вылаяўся.

У канцы вуліцы стаяла белая спаруда з шырокай брамай.

— Там, усярэдзіне, ікона выстаўлена. Старая вельмі. Цёткі вакол яе вокраччу поўзаюць.

Яны падышлі бліжэй, і Мішка ўбачыў бабцю, якая, укленчыўшы, цалавала мур. Сэрца крануў лёгкі халадок.

— Пайшлі, і не тое пабачыш, — Лёшка падштурхнуў сябра ў спіну.

Калі прамінулі браму, праваруч намалявалася высокая галерэя. Вялізныя лукаватыя атворы прымушалі задзерці галаву, каб іх агледзець, а ля падножжа, на бруку, сядзелі жабракі ўперамешку з гандляркамі, якія прадавалі абразкі ды мініяцюрныя ўкрыжаванні. Брукаванка пад нагамі злёгку загула. Не старая яшчэ цётка-гандлярка штосьці сказала па-польску, а заўважыўшы непаразуменне на іх тварах, прамовіла па-расейку:

— Можаце зайсці, якраз імша заканчваецца.

У касцёле панаваў лёгкі змрок, і дзесьці ў глыбіні цьмяна бліскалі агеньчыкі. Мішка зірнуў угору і сэрца схаладнела. Адтуль, з вышыні, на яго пагрозліва глядзелі святыя апосталы. Падлога пад нагамі зноўку загула, а потым задрыжэла. Гэта зайграў арган. Пры гэтым гук, здавалася, ішоў аднекуль з долу, з глухіх касцельных лёхаў. Усе наўкол — і старыя, і маладыя — укленчылі, і Мішка з Лёшкам, увабраўшы галовы ў плечы, сталі прабірацца да выхаду.

Выкуліўшыся з касцёла, хлопцы прагна ўдыхнулі паветра, агледзеліся, і Мішка набыў у гандляркі, што запрашала зайсці ў касцёл, алавянае ўкрыжаванне.

— На памяць пра Вільнюс, — стоена прашаптаў ён сябру.

Яны рушылі пакручастай вуліцай.

— У царкве пару разоў быў, а ў касцёле ўпершыню, — Мішка ўважліва разглядаў Хрыстуса — то з адлегласці выцягнутай рукі, то падносячы да самага носа.

— Дарэчы, тут побач і царква ёсць. Можам паглядзець.

На царкоўным цвінтары таксама сядзелі жабрачкі, і нейкая цётухна ў чорных апранахах — відаць, манашка, — на чыстай расейскай мове нешта апавядала двум па-моднаму апраненым дзяўчынёхам.

— Апошнім умярцвілі Яўстафія — павесілі на тым жа дубе, што і Антонія з Іаанам.

— Пра каго гэта яна? — пацікавіўся Мішка.

— Пра царкоўных пакутнікаў. Пацярпелі, немаведама ў якім стагоддзі, за веру. Тады ўсе былі паганцамі, а гэтыя прынялі хрысціянства — паганцы іх і павесілі.

Мішка ўжо ўзыходзіў на аточаны жабракамі ганак, але сябар выдыхнуў у спіну:

— У царкву не пайду. Там напаўзвар'яцелыя цёткі адразу прычэпяцца: «Чаго ты тут ходзіш?.. Чаму нос задзёр?»

Мішка агледзеў жоўтыя, злёгку пашарпаныя сцены, і пабег за сябрам, пару разоў азірнуўшыся. Ад модных дзяўчынёх цяжка было адарваць вочы.

Пакручастая вуліца вывела на невялічкі пляц. На пляцы стаяў яшчэ адзін касцёл, высокія крыжы якога праціналі шэрае неба. У касцёле якраз абудзіўся варган, і Мішку карцела зайсці ды паглядзець канец імшы, бо першым разам нічога не ўбачыў, ды Лёшка пастукаў пальцам па гадзінніку.

— Будзем бегаць па касцёлах каўбаса скончыцца. Цэлы цягнік каўбаснікаў прыехаў. Так што варушыся. Аж за рэчку пойдзем. Ведаю адну краму — там бульбашоў дакладна няма.

Людзей за каўбасой, аднак, сабралася больш, чым па дрожджы. Прычым, тут таўкліся і бульбашы, і лабусы, і ў краме ўвесь час усчыналіся сваркі. Паперадзе стаялі дзве літоўкі, якія ўголас — то па-свойму, то па-расейску, — каментавалі сітуацыю. Нечакана да літовак падышла цыбатая кабета з ускудлачанымі валасамі і, убіўшы між імі руку, абаперлася на вітрыну. «Жэншчына, уйдітэ», — гамузам выдыхнулі літоўкі, на што цыба рашуча адказала: «Я занімала вочарацьь». Мішка па голасе пазнаў кабету, якая ехала на ніжняй паліцы.

— Яшчэ трохі, і мяне б умярцвілі, як таго Яўстафія, — прамовіў Лёшка, пхаючы ў палатняную торбу палку доктарскай каўбасы. За каўбасой бедалагі адстаялі амаль гадзіну.

Пасля крамнай задухі добра дыхалася. Мішка шырокім крокам шыбаваў па Горкіо гатве, круціў галавой, і кожнага разу позірк ягоны натыкаўся на вежу з цёмна-чырвонай цэглы, якая стаяла на гары.

— Вежа Гедыміна, — патлумачыў сябрук, але Мішка і без яго ведаў — што гэта за будова. Шмат разоў бачыў на фотаздымках.

— А наверх пускаюць?

— Пускаюць, аднак за ўваход плаціць трэба.

— Цікава б зірнуць з верхатуры на горад.

— Збіраешся з каўбасой на вежу перціся?

— І папруся, — гарачліва выпаліў Мішка, і цяпер ужо Лёшку давялося подскакам бегчы за сябрам.

Панарама горада ўражвала: спічакі касцёлаў, што праціналі шэрае неба, цёмныя хрыбецiны дахаў, якія тое неба трымалі, маленькая, бурага адцення рачулка, якая вужакай агінала замкавую гару, і шырокая рака, у якую тая ўпадала — усё лагодзіла зрок.

— Класна... — пралепятаў Мішка, зірнуўшы на сябра. Той не адказаў. Быў незадаволены, што прайшлося ўзняцца на вежу ды плаціць дзесяць капеек.

— У цэнтры аніводнага новага будынка, — выдаў Мішка, спрабуючы разгаварыць сябра. — На беразе ракі, праўда, штосьці новае будуюць.

— Палац спорту, — буркнуў Лёшка.

— Уяўляеш, што б было, калі б Вільнюс стаў нашым абласным цэнтрам?

— Уяўляю, — адгукнуўся, памаўчаўшы, Лёшка, — гістарычны цэнтр бы знеслі і забудавалі пяціпавярховікамі з сілікатнай цэглы.

— Я і кажу — чаму ў нас усё не так, як у літоўцаў?

— А што не так?

— Ды хаця б тое, што літоўцы размаўляюць на роднай мове, а мы альбо па-расейску гамонім, альбо на трасянцы лупім.

— Таму што яны нацыя, а мы... — Лёшка задумаўся, вызначаючы — хто такія беларусы і, не знайшоўшы дакладнага вызначэння, паведаміў: папросту людзі, якія жывуць у Беларусі. Як, скажам, кубанцы на Кубані. Мая гаспадыня родам з Краснадара. Спытай — хто яна? — і тая адкажа, рукі ў бокі ўзяўшы: «Казачка!» А падап'е, пачынае па-свойму балаболіць. Не зразумееш, што за мова — ці то ўкраінская, ці то расейская.

— Ну дык гэта Кубань. Вобласць Расеі. А ў нас жа асобная рэспубліка.

— Абвясцілі здуру тую рэспубліку, а цяпер пакутуюць, ствараючы наяўнасць нацыянальнай культуры і мовы. Дыктар на тэлевізіі навіны па-беларуску прачытаў, выйшаў са студыі — і тут жа на мову забыўся. Актор спектакль адыграў, за кулісы выйшаў — і на мову забыўся. І так паўсюдна.

— А я вось, насуперак дыктарам ды акцёрам, буду на ёй размаўляць. І на кулісах, і за кулісамі. Падвучу толькі крыху.

— А навошта жылы цягнуць. Пачынай зараз, — Лёнька выцягнуў цыгарэты, ды згадаў, што на вежы паліць забаронена, пхнуў назад у кішэнь. — Аднак улічы — будзеш мець праблемы. Думаеш, дарма ў нас на курсе стукач завёўся? А можа і не адзін. Адсочваюць настроі ў студэнцкім асяродку. Партыя стварае гістарычную супольнасць — савецкі народ. А ты што, вырашыў беларускую мову вярнуць? У нас не Літва — адразу ж па грыбах дадуць.

— А я ўсё адно буду размаўляць, — з упартасцю ў голасе выгукнуў Мішка. — Трэба даказаць тым жа літоўцам, што беларусы не толькі ў чэргах могуць ціскацца, але і на штосьці іншае здольныя.

— На што, напрыклад?

Мішка прамаўчаў.

— Як надумаеш — скажаш, — з усмешкай выдаў Рындзюк і ўздыхнуў.

Са столі вакзальнай пачакальні цадзілася кволае святло, ад якога цягнула на сон. Паветра навылёт працінаў пах кавы, — у дальнім канцы пачакальні месціўся буфет, — і цяжкі каўбасны смурод. Нацягаўшыся за дзень, Мішка з Лёшкам сядзелі на мулкіх лавах, жавалі чорны хлеб, які раз-пораз адломвалі ад прыхаваных у сумках боханаў, і слухалі двух цётак, якія займалі суседнюю лаву. Цёткі трасяначнай мовай апавядалі пра нейкую сваю сяброўку, якая з'ездзіла ў Вільню, зрабіла сабе андуляцыю, — хлопцы так і не зразумелі што гэта такое, — і цяпер хадзіла па Лынтупах, нос задзёршы. Тым часам цёткі таксама задзерлі насы, а вызначыўшы — адкуль пахне кавай, — падаліся да буфета. На іх месцы селі два старых фацэты ў шыкоўных, заходняга крою капелюшах з высокім верхам. У гэткіх капелюшах хадзілі шпіёны, якіх паказвалі ў кіно, і Мішка з Лёшкам міжволі наструніліся. «Шпіёны» былі падобныя адно на другога — няйначай, браты, — і размаўлялі па-польску. Але дзіўная рэч: адзін з іх гаманіў зразумелай мовай, а што казаў другі — цяжка было зразумець.

— Колькі часу? — спытаў Мішка па-беларуску, ушчыкнуўшы каліва мякішу.

Знянацку паляк, які казаў незразумелай мовай, працяў яго дапытлівым позіркам:

— Беларусы? — стары фацэт зняў фетравы капялюш, агаліўшы чырвоную лысіну.

— Беларусы! — разам адказалі хлопцы.

— Першы раз сустракаю ў Вільне маладзёнаў, якія не забыліся на родную мову, — паляк прамаўляў па-беларуску, але з нейкім дзіўным акцэнтам і, згадваючы штосьці, памружыўся на цьмяныя лямпы на століі: — «Я мужык-беларус, — пан сахі і касы; цёмен сам, белы вус, пядзі дзве валасы».

— А вы з Беларусі? — пацікавіўся Мішка.

Лысы дзядзька з усмешкай глянуў на напарніка.

— Ды не, братка, ва Ўроцлаве жыву.

— А адкуль нашу мову ведаеце?

— Нарадзіўся тут, непадалёку, і пару гадоў у беларускую школку хадзіў, — апавядальнік упрыкмет пажвавеў. — Жылі каля літоўскай мяжы, і бацька панадзіўся пшэмыт праз мяжу перакідваць, — дзядзька на момант задумаўся, зірнуў на брата: — Як «пшэмыт» па-беларуску? — Кантрабанда, — прашаптаў братан. — Вось-вось... панадзіўся кантрабанду ў Літву перакідваць. Памежнік быў знаёмы, аднагодак з суседняй вёскі. З яго дапамогай тавараабмен і наладзілі. Што літоўцам перадавалі — ужо не згадаю, а з літоўскага боку мяшкі мультану кідалі. Памятаеш, бацька па святах турэцкі мультан паліў? — мімаходзь запытаўся гаваркі дзядзька ў братана, і той моўчкі кіўнуў. — Карацей, ababіў наш бацька на тым пшэмыце залатоўку і купіў хату на Антокалі. Цяпер у ёй літоўцы жывуць, — дзядзька аціх, і Мішка заўважыў суворую складку між броваў. Жыхар Уроцлава вылаяўся па-польску на адрас літоўцаў, і напарнік тыцнуў яго локцем пад драбы.

Пад столлю загуло і прастору прарэзаў голас вакзальнай дыспетчаркі, якая — спачатку па-літоўску, затым па-расейску — абвясціла: «Хуткі цягнік Ленінград — Варшава прыязджае на першую каляіну першай платформы».

Старыя фацэты падняліся на ногі.

— Ну, бывайце, беларусы, — гаваркі дзядзька нацубіў капялюш на самыя бровы. — А на развітанне скажу тое, што чуў ад бацькі: нічога з беларускай мовы не атрымаецца. А калі нешта пачне атрымлівацца — адразу ж прыдушаць.

— Чуў, што сказаў разумны чалавек? — прамармытаў Лёшка, кіўнуўшы ў бок уроцлаўца, які з паважным выглядам, следам за братам, выходзіў з пачакальні.

Мішка прамаўчаў у адказ. Сядзеў, анямелы, і думаў пра сваё.

Неадольныя думкі не адпускалі Мішку і пазней, у цягніку, калі ён ляжаў на верхняй паліцы. Хлопцу падалося, што свет навокал стаў іншым і ўсё ў ім, нават цемра за вакном, напоўнілася таемным сэнсам. Скронь казытала халодная дуйка, вагон кідала ў бакі, дзынкала лыжка ў шклянцы з недапітай гарбатай, але Мішка ўсяго гэтага не заўважаў. Там, на мулкай паліцы, была перагорнутая першая старонка жыцця. Перад вачыма паўстала новая старонка, у сэрцы нарадзіліся новыя надзеі, і новыя песні напоўнілі слых. З чаго пачаць новую старонку? Відаць, з таго, што ён прачытае ўсю беларускую класіку. Потым... маракуючы — што ён зробіць потым, Мішка крутнуўся на бок. Нешта муляла драбы. Хлопец пхнуў руку ў кішэнь пінжака і намацаў укрыжаванне. Мішка паставіў алавянага Хрыстуса на палічку для ручніка і заплюшчыў вочы. Цягнік набліжаўся да станцыі, і па купэ папаўзлі, спачатку хутка, затым паволі, квадраты асветленага вакна. Святло краналася ўкрыжавання, рабіла яго жывым, і мажная цётка, што прабіралася да выхаду, пабачыўшы Хрыстуса, выпусціла з рук валізу і павольна не да месца ўрачыста перажагналася.



# Элка Няголава

паэтка, выдавец, перакладчык. Старшыня «Славянскай літаратурна-мастацкай акадэміі». Аўтар паэтычных кніг: «Я не Папялушка», «Нулявая група», «Дэльфіны на сушы», Правапіс надзеі», «Пяты сезон», «Белы цягнік», «Мы», «Каштан на далоні» і інш. Лаўрэат шматлікіх нацыянальных і міжнародных прэмій. У тым ліку прэміі Хрыста Боцева і «Залаты пегас». Жыве ў Варне.

# Райскія яблыкі

## Галюцынацыі

*«Свеча горела на столе...*
*Свеча горела...»*
**Б. Пастэрнак**

Калі прыход радка чакаю, —
як тайны знак,
з цвінтарнай цемры вынікае
сам Пастэрнак.

Ён бача свечкі мільгаценне
у зрэнках Бога,
і як танцуюць жарсна цені
агню сляпога...

З'яўленне снегу ён адчуе
за момант блізкі...
І Дух анёла, што начуе
у хмарах нізкіх.

Глядзім маўкліва вочы ў вочы —
нам слоў не трэба.
Гучыць радок яго прарочы
малітвай з неба.

Я сплю ці не. Не разумею...
Працяг аслеплы.
Звініць манетамі завея, —
у кайстры ветру.

Бяссонны месяц зоркі пасвіць —
пастух старэчы.
Пакуль на свечцы — зніч нязгасны —
вартуе вечар.

І плачу я, бо не паспела
прыйсці на свет...
Ад снегападу белы-белы
увесь Сусвет.

Мы разышліся. Ў сэрцы сцюжа.
Жыць далей як?..
А снег над вершам стылым тужыць,
як Пастэрнак...

## Наўслед

*К. А.*

А крыўда застанецца толькі ценем,
Як кроў пасля арлінага абеду.
У час злавесны вораназацьмення
Яго задача — лёт трымаць па следу.

У нашых зрэнках — сонечнае ззянне,
Бо нехта сонца нашага чакае.
А ўсё астатняе — бясконцае змаганне
Святла і цемры на парозе рая.

## Райскія яблыкі

Райскія яблыкі. Заміж рая.
Сумныя погляды — людзей і анёлаў.
Андрэеў дзень — збялеў дазвання.
Серафімы — высокіх рангаў.
А чалавек згубіў да нябёсаў пашану.
А чалавек — фігура плакатная.
А на плакаце — каханне й смага.
Ды снежная роўнядзь бязмежная.
Верш, напісаны атрамантам белым,
Наспех, з памылкамі грубымі.
Цішыня — нібы перад агульнымі ўцёкамі...
Чалавецтва, спыніся, ты заблудзілася!
Светлы рай на Усходзе — вядома ўсім.
Снежныя анёлы адтуль родам.
Райскія яблыкі. Рвалі іх смелыя.
Носіць пекла сваё кожны з нас у сабе...

## Элегія пра белыя кашулі

А ўсё таму, што шыю да світанку
Я белыя кашулі ваяводзе...

Благія сны ў чарзе стаяць на ганку,
Каб у бяссонне трапіць пры нагодзе.

Які ад калыханак будзе толк,
Калі заклёны шэпчаш апантана...
За мною ходзіць, як сабака, воўк,
А маладзік на небе — рванай ранай.

Ды дзень чарговы бачны ўжо ў вакне,
Шле ў тэлефон мільён паведамленняў,
І штосьці ў сэрца ўпырсквае ён мне
З нядаўніх міжнародных пагадненняў...

Вяроўка для бялізны ляжа ў стол
Без сціраных кашуль перад заходам...
О, Божа, колькі хлопцаў навакол!
Ды сярод іх не відна ваяводы!

## Нераўнавага

Мне ў сэрца нешта вострае ўвайшло,
Як быцца між аблокаў птушку збілі.
Паранена адно яе крыло,
Другое за дваіх губляе сілы.

## Памежнае кладзішча

Там за мяжою — родныя магілы.
Вар'яцкія бар'еры — на мяжы.
Памежнік — вецер весні стылы —
Капаецца ў душы, бы ў багажы.

Што ён шукае? Мы ж не гандляры.
«Адкуль цяжар?» — яму не зразумела.
Мы ў душах нашых носім камяні,
Каб пахаваць пад імі сваё цела.

На гэта месца нашы дзеці зноў
Ад шчасця захмялелыя прыйдуць.
Мужчынамі — як несмяротны Йоў,
І Яну, як ікону, зберагуць.

Як Йову Бакланджы, ім хопіць сілы
Стаяць заўсёды толькі на сваім.
Ад спёкі перасохлыя магілы
Яны пальюць бальзамам дарагім.

## Армянскія вочы

Любоў мая першая... Даўняя-даўняя згадка
Прачнулася ў мелодыі вальса, знаёмай да болю.
Душа мая — клетка, свабода — над безданню кладка,
І клавішы плакалі, штосьці шапталі бемолі.

Ён быў музыкантам — хлапчук закаханы, падлетак,
І ўсё не рашаўся сказаць нешта важнае, быў сарамлівы.
Ў вачах яго чорных не бачна ніякіх сакрэтаў,
Ён штосьці шаптаў мне і быў, нібы вальс той, цнатлівы.

А вочы ягоныя — чорныя клавішы на фартэп'яна,
Самота такая ў іх, быццам малітва бемоляў.
П'яніла мелодыя і цверазіла прызнанне.
Душа мая з клеткі замкнёнай ляцела на волю.

А вальс вар'яцеў, прабіраючы цела да края,
Планета кружылася. Мары лунал шчасліва.
У вальсе кружылася ўсё. А зямля стала раем.
Мы дзеці, падлеткі, і мне імпануе твая баязлівасць.

Мелодыя вальса была мне мілей за прызнанне.
Даруй мне, хлапчук, што я музыку болей кахала.
Планета кружылася, доўжачы наша спатканне.
Чайкоўскі сышоў за кулісы, і клавішы засумавалі.

Ў армянскіх вачах было столькі тугі і пакуты!
А дзень быў празрысты, як мёдам набраклыя соты.
А гукі ўсё крапалі з неба, бы з боскае лютні,
Кружылася ў вальсе планета, трапляючы ў ноты.

## Чужына

У гэтым сусвеце з дамамі парожнімі,
дзе цішыня звечарэла пад клёнамі,
імя маё хтосьці прашаптаў асцярожна,
і ўсе светлафоры сталі зялёнымі...

На чамадане наклейкі не месяцца.
Толькі вось сам чалавек непрытулены.
Пад пінжаком старамодным і цесным
Крылы тапырацца горбам намуленым.

Ездзіць з дудой ён па беламу свету,
Толькі паўсюль яго музыка лішняя.
Стаў ён даўно чалавекам планеты,
Ды занудзіўся па дому пад вішнямі.

Што яго клікала ў далі прынадныя
Ад берагоў, куды зноўку вяртаецца,
Там апавіты лазой вінаградная
Дом, дзе, як ружа, душа распускаецца?

Не забываў ён Радзіму ніколі,
І Беланогу — дзяўчыну прыўкрасную.
Так і жыве, з неспатоленай доляй,
Толькі дуда спарахнела ад часу...

## Фотапогляд з Рожэна

Напэўна, што мой род калісьці
Пайшоў ад белых рожэнскіх вышынь,
Я ў белае паверыла прачыста,
Мой шлях, як рэчка горная, бяжыць.
Звышхуткасць часу — гэта ява дзён!
Ад Рожэна пачатак мне відзён,
І нельга аніяк змяніць таго!
З вяршыні гэтай бачу ўвесь абсяг,
Мой слаўны Добрыч і Дуная сцяг.
А побач невідушчых крочыць раць,
Каб зло вайны ў курганах пахаваць...
Ды пад зямлёй гісторыі не спіцца,
Спакою не прыносіць страшны сон,
Ёй хочацца у Рожэне маліцца
Пад цудатворнай покуццю з ікон.
Пакліканыя спевам срэбразвонным
З усіх святых Балгарыі куткоў
Прыйшлі сюды прыгожыя мадонны,
Каб вышыць на сцягах нашых ільвоў.

**Пераклад з балгарскай мовы Эдуарда Акуліна.**

# ВЕРАСЕНЬ

## КРЫТЫКА

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

## Э С Э

васіль дранько-майсюк юры несцярэнка
уладзімір сіўчыкаў алесь бяляцкі
тамара аўсяннікава сяргей чыгрын
яна будовіч эдуард дубянецкі
анатоль трафімчык



# Васіль Дранько-Майсюк

драматург, рэжысёр, акцёр, эсэіст. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Працаваў у беларускіх тэатрах (РТБД, ТЮГ). Жыў у Маскве, дзе выкладаў акцёрскае майстэрства ды іграў у тэатры «Снарк». На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя М. Горкага ідзе яго п'еса «Пясняр», прысвечаная Уладзіміру Мулявіну. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

# Паўлюк Трус і яго марсіянскі страх перад рэчаіснасцю...

Паўлюка Труса абвінавачвалі ў перайманнях, празмерных наследваннях, творчай несамастойнасці. Шаноўныя крытыкі (ад Антона Адамовіча да Міхала Піотуховіча і Анатоля Клышкі) не стамляліся пералічваць імёны класікаў, чыімі творамі ўзбагачаўся Трус.

Аднаго толькі паэта ў гэтым спісе чамусьці абміналі — Якуба Коласа. А менавіта Коласава любоў да медытатыўнай засяроджанасці, адзіноты і сузіральнасці, як у жыцці так і ў літаратуры, была блізкая Паўлюку Трусу. Героі Якуба Коласа (ды і сам пісьменнік) пазбягалі шуму, людской калатнечы, адно з іх асноўных жаданняў — уцячы ў райскую цішыню дубоў і аддацца марам-летуценням.

Паўлюк Трус, можна сказаць, выйшаў з класічнага апавядання свайго настаўніка «У старых дубах».

У гэтым празаічным цудзе пастушок Базыль «пазіраў, як бегалі дробныя хвалі, як звівалася ў вадзе доўгая раска /.../ Базылю здавалася, што ён чуе спевы гэтай цішыні. Доўга ён прыслухоўваўся, але спевы былі нейкія невясёлыя, і яму стала маркотна: усё ішло, здавалася яму, сваёю дарогаю і жыло сваім жыццём, сярод якога ён пачуў сябе чужым».

Многія героі Паўлюка Труса з такой жа апантанай зачараванасцю ўзіраюцца ў чорныя хвалі, адчуваюць сябе чужымі ды імкнуцца на самым дне ўгледзіць «цёмны свой адбітак», які пакрыты «зялёнаю цінаю» (з верша «Жыцьцё — глыбінь!..» / Паўлюк Трус. Ветры буйныя. Менск, 1927); мараць самазакалыхацца, паглядаючы за тым, як «На дне сінеючае твані / Лілеі вецер варушыў...» (з паэмы «Цыганка» / там жа); пераўвасобіцца ў смутнаглядную сасонку, што «глядзелася... у люстэрка сіняе вады. / Глядзела ў смутным задуменьні, /Аб шчасьці марыла на дне... / А вочы плакалі ў адценьні, / Блукалі вобразам у сьне...» («Сасна» / там жа).

Паэта зацягвае, гіпнатызуе бязмежна-касмічнае дно. Там ён можа сустрэцца з самымі рознымі фантастычнымі і часцей змрочна-сімвалічнымі вобразамі. «У прадоньні жвіру...» герой бачыць цені: «Гэта людзі / Зьбіраюць сьлёзы ў прыпол, / Пакуль іх песьня не разбудзіць, / Не раскалыша цемень-дол!» («Сасна» / там жа).

Непрыкаяныя цені — безумоўны вобраз беларусаў, чые заўсёдна сляпыя вочы «Шукалі вобмацкам далін, / Шукалі шчасьця апаноўчы / У песьнях-повеях калін» (там жа).

Невідушчых беларусаў можа выратаваць толькі галоўны герой (правобраз Паўлюка Труса), якому перадае сваю ліру міфічны лірнік (падобны матыў адлюстроўваецца ўва многіх вершах паэта). Лірнік загадвае героюператвараць чароўнымі зыкамі ліры бязмэтныя сляпыя цені ў паўнакроўную нацыю.

Падкрэслена песенная, па-народнаму журботная паэзія Труса (якая эстэтычна вельмі паўплывала і на Петруся Броўку і на Адама Русака з Паўлюком Пранузам) мела сваіх шматлікіх прыхільнікаў, але не ў атачэнні гарадскіх эстэтаў, а сярод простых сялян, якія зачытваліся не эксперыментальнымі, востра-авангарднымі, палемічнымі паэмамі Уладзіміра Дубоўкі альбо лексічна-ускладненымі нервовымі вершамі Язэпа Пушчы (ужо не кажучы пра багемна-эстэцкіх Тодара Кляшторнага ці Валерыя Маракова), а менавіта вонкава простым і быццам бы такім немудрагелістым Паўлюком Трусам. Дарэчы, калі Трус памёр і ў Доме пісьменніка было развітанне, то Максім Гарэцкі быў вельмі здзіўлены, ён пісаў, што ні да воднага беларускага пісьменніка не прыходзіла развітацца такая вялікая колькасць простага люду.

Папулярнасць у паэта была вялікая.

Але Паўлюка Труса не вельмі радаваў поспех.

Страшная сляпая беларуская рэальнасць, якой ён спрабаваў надаць рысы нацыянальнай відушчасці, на самай справе вельмі яго палохала.

І дастаткова часта героі вершаў і паэм Паўлюка Труса імкнуцца хаця б на кароткі час схавацца ад яе ў выратоўчы сон, бо, кажучы словамі Лірыка з Дубоўкавай паэмы «І пурпуровых ветразей узвівы»: «У нашы дні і радасці і гора, у нашы дні руін і будаўніцтва часінай хочацца мне адпачынку...»

Паўлюк Трус, які, дзеля заробку і падтрымання сям'і, вымушаны быў ледзве не штодзень пісаць дзясяткі антырэлігійных, антыкулацкіх, калгасных, пракамсамольскіх і ўльтрапіянерскіх дрындушак, вельмі стамляўся ад крыклівага рытму сваёй эпохі, таму можна толькі ўявіць, з якой бязмежнай творчай радасцю ў любую вольную хвіліну ён апынаўся ў фантастычна-журботнай, міжчасавай-сомнамбулічнай і цалкам выдуманай, Беларусі-сне, дзе плывуць, бы ў нейкім тумане прывідныя жабракі-музыкі, непрыкаяныя дзяўчыны заручаюцца з возерам, а «пад гарой, / Пры слупавой дарозе, / Разьбітай ліраю / Скрыпяць даўно вазы...» (верш «У полі» / там жа).

Часам, Трус (вядомы сваімі рэзкімі перападамі настрою ад вялікага суму да беспрычынна-рэзкай радасці) дазваляў сабе іронію над сваімі агітацыйнымі дрындушкамі.

Гаворка вядзецца пра верш «Здарэнне з піянерам у лагерах». Пачатак яго для Труса амаль класічны. Тут, вядома ж, ёсць рачное «бяздонне», над якім «косы... распусціў аер». Гэтае, любімае па іншых творах Паўлюка, містычнае дно навявае, як вядома, сон: «Заснуў, і сніцца піянеру: / Паўзе далінаю туман, / А у тумане цёмна-шэрым / На Марс імчыцца эраплан. / І вось насустрач піянеру — / Дзікар планетнае красы, / Спужаўся хлопца, не паверыў... / Аж дыбам сталі валасы» (Паўлюк Трус. Выбранае. Мінск, 1958). Іронія ў тым, што звычайны піянер, які не паспеў яшчэ зрабіць нічога кепскага, ужо сам па сабе ўспрымаецца марсіянінам страшным монстрам. Адзін толькі выгляд хлопчыка можа выклікаць панічны настрой.

Падобнае (магчыма не такое вострае) марсіянскае ўспрыманне савецкай рэчаіснасці было блізкае і самому Паўлюку Трусу.

У адрозненні ад беларускіх паэтаў дарэвалюцыйнага часу, якія з рознай ступенню назойлівасці заклікалі абудзіцца ад сну, для героя нашага артыкула сон — з'ява цалкам выратоўчая і жаданая. Наколькі Якуб Колас (з яго цвёрдым перакананнем: чалавек здрадзіць, а прырода — не) абагаўляў беларускія лясы, палі, рэкі, настолькі ж для Паўлюка Труса сон — гэта адзіная магчымая зона камфорту і непадманнага ўтулу. Для паэта было б сапраўднае свята, каб гэты стан доўжыўся вечна.

У адрозненне, скажам, ад персанажаў з драматургічных паэм Янкі Купалы, героі Паўлюка Труса самі марань, як мага хутчэй аддацца ў абдымкі Марфея. Нагадаем, што, напрыклад у Купалаўскім «Сне на кургане» — першым беларускім самнамбулічна-экспрэсіяністычным творы, цалкам пазбаўленым ад прыкрага рэалізу, галоўны герой Сам з ван-гогаўскай апантанасцю хоча вырвацца з палону сну, але яму гэта не ўдаецца.

Паўлюк Трус не толькі першым сярод нашых пісьменнікаў апяваў гаючыя ўласцівасці сну, але і таксама быў першым, хто апісаў у паэме «Дзесяты падмурак» зараджэнне БССР праз прызму містычна-галюцынагеннага снабачання.

Паэма «Дзесяты падмурак» у гэтым плане ўнікальная.

Назіраць за стварэннем Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, не выходзячы са стану сну — такога яшчэ не рабіў ніводзін айчынны літаратар.

Дзіўна тое, што многія беларускія савецкія крытыкі і палітычныя дзеячы не ганілі, а наадварот хвалілі яго паэму.

Літаратуразнаўца Лукаш Бэндэ з неўласцівым яму захапленнем зазначаў, што: «П. Трус «Дзесятым падмуркам» стаў на шлях пролетарскай літаратуры, паказаў найлепшы ўзор для свайго часу...» (Л. Бэндэ. Творчасьць Паўлюка Труса (Папярэдні агляд) / Паўлюк Трус. Выбраныя вершы. Менск, 1931).

За два гады да гэтага Сакратар ЦК КП(б)Б тав. Гамарнік на XII з'ездзе камуністычнай партыі Беларусі казаў: «Мне думаецца, што гэты тон [паэмы — В. Д.-М.] сугучны настроям усяго партыйнага зьезду...» (Проф. М. Піотуховіч. Да характарыстыкі літаратурнай спадчыны П. Труса. / П. Трус. Збор твораў. Мінск, 1934).

Крытык Васіль Барысенка пісаў: «...Трус адным з першых у беларускай паэзіі, выражаючы рэволюцыйныя імкненьні працоўных, вітаў шырокае наступленьне соцыялізма на векавую адсталасьць Беларусі...» (В. Барысенка. Паўлюк Трус / П. Трус. Вершы і паэмы. Мінск, 1940).

Літаратурны работнік Іосіф Жыдовіч адзначыў, што «Ярка і поўнакроўна раскрыўся паэтычны талент П. Труса ў мастацка паўнацэннай, рэалістычнай паэме «Дзесяты падмурак» /.../ Паэма сведчыла аб... паглыбленні яго сувязі з жыццём, з імкненнямі і спадзяваннямі совецкіх людзей...» (І. Жыдовіч. Паўлюк Трус. / Паўлюк Трус. Выбраныя творы. Мінск, 1953).

Паводле ж паэта Рыгора Няхая: «Дзесяты падмурак» — гэта... вечны помнік яго ўсхваляванай ліры. Гэтая лірычная паэма напісана ў сімвалічным плане...»

товых і культурніцкіх мерапрыемстваў, якія наведалі мільёны гледачоў, дый цяпер на ёй праводзіцца каля 320 адметных відовішчаў штогод, а гэта значыць ледзь не штодня.

Грамадскі цэнтр «MSG» адкрылі ў 1879 годзе, праз 11 гадоў грунтоўна рэканструявалі, а ў 1925 годзе ўвогуле зруйнавалі і ўзвялі на яго месцы новы комплекс.

Шматпавярховы будынак цяперашняй, самай знакамітай арэны ў свеце, адной са славутасцяў Вялікага Яблыка ўзведзена ў 1968 годзе на новым месцы, на Манхэтане, па-над Пенсільванскім чыгуначным вакзалам.

З таго часу «Гардэн» лічыцца дамашняй пляцоўкай такіх монстраў як «Нью-Ёрк Нікс» («New York Knicks») з Нацыянальнай баскетбольнай асацыяцыі і «Нью-Ёрк Рэйнджарс» («New York Rangers») з Нацыянальнай хакейнай лігі. Цягам многіх гадоў на гэтай арэне праводзяцца матчы ўсіх зорак НХЛ і НБА, фіналы Кубка Стэнлі, самыя значныя баксёрскія двубоі, а таксама феерычныя спектаклі, канцэрты і разнастайныя шоу кшталту тэатральна-спартыўнага рэслінга.

Акрамя галоўнай арэны, якая разлічана на 20 000 гледачоў, у комплекс уваходзяць выставачны цэнтр і тэатральная зала «The Hulu Theatre».

Менавіта ў той зале на 5600 крэслаў чакала мяне дзея, мяркую, не горшая за баскетбол, шанаваны мною з часоў школьніцтва.

Мая дачушка Алеся і яе сяброўка Ірына Храпава (цяпер з прэзідэнцкім прозвішчам Назарбаева(!) паводле мужа-ўзбека) родам з Баранавічаў, студэнткі факультэта Міжнароднага бізнэс-адміністравання Школы Стэрна (Leonard N. Stern School of Business), аднаго з 16 падраздзяленняў Нью-Ёркскага ўніверсітэта (New York University), прывялі мяне на ўрачыстую выпускную вечарыну сваіх старэйшых таварышаў па alma mater, дамініканца Вілмара (Wilmer) і індусаў Кунала (Kunal) з Сурабам (Saurabh).

У зале прагучаў старадаўні і вечна малады студэнцкі гімн «Gaudeamus» і рэктарская прамова. Энергічна, весела і артыстычна павіншаваў прафесуру і выпускнікоў, а найперш сваіх суайчыннікаў, новаспечаны ўніверсітэцкі прафесар, прэм'ер-міністр Канады Джасцін Трудо (Justin Pierre James Trudeau). Пад апладысменты аўдыторыі — лектараў і выкладчыкаў, бацькоў і сяброў, жаніхоў і нявест — на сцэну адзін за адным падымаліся ўсе 450 (!) уганараваных дыпломамі выпускнікоў, каб павітаць залу, паціснуць руку рэктару дый абняць любімых настаўнікаў. А сярод учорашніх студэнтаў былі, зразумела, не толькі амерыканцы і канадцы, але і маладзёны з усяго свету — аўстралійцы, брытанцы, індусы, іспанцы, кітайцы, мексіканцы, немцы, нігерыйцы, паўднёвакарэйцы, украінцы, японцы...

Свята маладых людзей у традыцыйных для Нью-Ёркскага ўніверсітэта бэзавых мантыях вылілася на вуліцы і авеню, дзе былі шматлікія фотасесіі з сябрамі, сваякамі і былымі ўжо выкладчыкамі, кіданне ўгару квадратных акадэмічных шапачак, віншаванні зусім незнаёмых мінакоў, якія пазней гучалі і ў рэстаранах, стэйк-хаўсах ды пабах.

Навучанне зусім не таннае, але студэнты гатовыя былі пераадольваць усе складанасці і перашкоды. Адна з выпускніц тры гады лётала па суботах на заняткі ў Нью-Ёрк з Маямі (Miami), што ў штаце Фларыда (Florida)! Акрамя ведаў і дыпломаў выпускнікі, прынамсі факультэта Міжнароднага бізнэс-адміністравання, напрацавалі карысныя сувязі і знаёмствы па ўсім свеце (выязныя школы-семінары праходзілі ў Вялікабрытаніі, Іспаніі, Намібіі, Сінгапуры і ў іншых краінах), зарабілі рэзюмэ, якія гарантуюць годныя заробкі і кар'ерны рост, а часам і падвысілі кваліфікацыю як Вілмар, які раней скончыў бакалаўрыят ў не менш прэстыжным Калумбійскім універсітэце (Columbia University).

Дамініканец развітаўся з сябрынаю ў рэстаране «Renessanse» раней за ўсіх, бо, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемаў анкалагічна хворых, падахвоціўся на наступную раніцу ўзяць удзел у міжнародным масавым паўмарафоне.

## Крайслер-білдынг

З вокнаў першай кватэры, у якой пасялілася ў Нью-Ёрку дачушка Алеся, быў відаць знакаміты «Крайслер-білдынг» («Chrysler Building»). Яна часам дасылала мне фотаздымкі-краявіды з гэтым адметным і зграбным хмарачосам, які дагэтуль уважаю за найпрыгажэйшы ў амерыканскім мегаполісе.

У далёкім 1928 годзе былы сенатар Уільям Рэйнальдсан саступіў праект, які распрацаваў яму дойлід Уільям Ван Ален (William van Alen), аўтапрамыслоўцу Уолтару Персі Крайслеру (Walter Percy Chrysler) пад штаб-кватэру ягонай

*Манхэтан з Эмпайр-Стэйт- Білдынга*



кампаніі. Надзвычай амбітны і фанабэрысты Крайслер узяў за мэту ўзвесці на Манхэтане, на рагу 42-й вуліцы і Лексінгтон-авеню (Lexington Avenue) самы высокі будынак у свеце. Хмарачос з каменю, сталі, бетону і мармуру ён уяўляў грандыёзным прыжыццёвым помнікам самому сабе.

Аўтамабільны магнат аднаасобна фінансаваў будаўніцтва, а таму правы на велічны будынак у стылі ар-дэко з «дыямантавай» каронай пераходзілі ягоным сынам. Спецыяльна для Крайслера-старэйшага на падвоблачных паверхах збудавалі вялізны офіс, апартаменты і сталовую, але апафеозам сталася прыбіральня на самым версе будынка, адкуль гаспадар мог бы «пасылаць лайно на Генры Форда і ўвесь астатні свет».

Праекціроўшчыкі і будаўнікі «Крайслер-білдынг» жорстка канкуравалі з калегамі, якія адначасна ўзводзілі будынак «Уол-стрыт, 40» («40 Wall Street»), знаны сёння і як «Трамп-білдынг» («The Trump Building»), бо ў 1996 годзе яго набыў цяперашні амерыканскі прэзідэнт.

У фінале «крайслераўцы» патаемна ад канкурэнтаў паднялі на верхатуру шпіль, які змантавалі і ўсталявалі ўсяго за паўтары гадзіны, і будынак у 77 паверхаў сягнуў вышыні ў 320 метраў! Але Уолтар Крайслер аказаўся не толькі невымерна пыхлівым, але і падспудным ды сквапным, бо не выплаціў ганарар свайму цёзку, архітэктару Уолтару Ван Алену.

У статусе самага высокага ў свеце будынка «Крайслер-білдынг» прабыў усяго толькі адзінаццаць месяцаў, а эстафету ў яго пераняў «Эмпайр Стэйт Білдынг» («Empire State Building»).

У сярэдзіне 1950-х гадоў «Chrysler Corporation» прадала прадмет свайго гонару, але новыя гаспадары захавалі адвечную назву будынка.

Відаць тую вежу і з узбярэжнай у Нью-Джэрсі, дзе жыве Алеся цяпер, хоць і стаіць ганарлівая «красуня Манхэтана» на ўсходнім беразе самага дарагога вострава ў свеце.

## Самы беларускі

Як гэта ні дзіўна, але самы беларускі скульптурны помнік тут — польскі!

Спадзяваўся я, што ўбачу ў Нью-Ёрку ў Араў-парку бюст Янкі Купалы аўтарства Анатоля Анікейчыка, які быў усталяваны яшчэ ў 1973 годзе. Але аказалася, што стаіць ён не ў горадзе, як пазначана ў нашых энцыклапедыях, а ў штаце Нью-Ёрк, і ехаць да яго на машыне трэба было б больш за дзве гадзіны!

Не зусім у мегаполісе, а дакладней — па-за ягонай адміністрацыйнай мяжою, якая праходзіць па рацэ Гудзон, у Нью-Джэрсі ўсталяваны і помнік, на п'едэстале якога выбіты лаканічны надпіс па-польску — «Katyn 1940». Скульптурная фігура на ім — гэта польскі вайсковец (пра што адназначна сведчыць ягоная форма і канфедэратка), у спіну якому ўсаджваецца чырвонаармейскі штык.

Помнік гэты нездарма стаіць на ўзбярэжнай горада Нью-Джэрсі — менавіта тут кампактна пражывае даволі значная польская дыяспара, а палякі ўмеюць ушаноўваць сваіх герояў і пакутнікаў.

Прычым тут беларусы? Ды проста многія тысячы іх служылі, як, да прыкладу, будучы выдатны празаік Янка Брыль, у польскім войску. Шмат хто з іх патрапіў у палон і ў выніку «вызвольнага» паходу Чырвонай арміі напачатку другой сусветнай вайны, а пасля быў закатаваны і расстраляны пад Смаленскам пры вёсцы Катынь.

Магу з пэўнасцю казаць пра гэта, бо на свае вочы бачыў і мемарыял у Медным, што пад расійскім горадам Цвер. На персанальных шыльдачках ахвяраў там безліч прозвішчаў, распаўсюджаных і сёння ў заходнебеларускіх рэгіёнах. Адных толькі Адамчыкаў налічыў я пад два дзясяткі! Ляжаць у цвярской зямлі і некалькі Літвіноў. Пажыццёвым лёсам, ушанаваннем іх памяці апекаваўся ў свой час і іх цёзка па прозвішчы Генрык Літвін, гісторык і дыпламат, які працаваў у польскім пасольстве ў Маскве, калі ўзводзіўся мемарыял «Меднае».

З вялікім сябрам Беларусі, продкі якога пасля паўстання Кастуся Каліноўскага мусілі шукаць паратунку і прытулку ў цэнтральнай Польшчы, гаварыў я і пра скрушную мясціну пад горадам Цвер, і пра невыпадковасць сугучча назоваў мемарыялаў у Катыні і ў Хатыні, і пра знакавы кінафільм Анджэя Вайды, і пра месца нашай жалобы і смутку Курапаты пры мінскай кружной дарозе, калі спадар Літвін быў у Мінску за амбасадара Польшчы ў Беларусі...

Нью-Джэрсі ўваходзіць у гіганцкую агламерацыю Босваш: ланцужок гарадоў, якія цягнецца на паўночным усходзе ўздоўж атлантычнага ўзбярэжжа Злучаных Штатаў ад Бостана да Вашынгтона. Ходзяць чуткі, што ўлады Нью-Джэрсі намерваюцца знесці помнік ахвярам палітычных рэпрэсій, палеглых у Катынскім лесе. Нашчадкі і суайчыннікі забітых бачаць у тым намеры «руку Масквы», якой недаспадобы любыя згадкі пра яе жахлівыя злачынствы. Апалагеты постсавецкай імперыі намагаюцца навязаць мінакам думку, што помнік на ўзбярэжнай Гудзона — не дужа эстэтычны і невысокай мастацкай вартасці.

Але помнік той надзвычай выразны, зразумелы кожнаму паляку, кожнаму дасведчанаму беларусу, усім амерыканцам і іх гасцям, абазнаным у гісторыі другой сусветнай вайны, усім, хто шануе ідэалы свабоды, дэмакратыі і справядлівасці.

## Будынак імперскага штата

У сярэдзіне сямідзясятых гадоў, у падлеткава-юначым узросце займаўся ў Мастацкай вучэльні, гартаў у яе бібліятэцы альбомы па сусветнаму мастацтву, а ў тым ліку і па сучасным дойлідстве кшталту грунтоўнага тома «эфэргэшнага» немца Юргена Ёдзіке «Гісторыя сучаснай архітэктуры. Сінтэз формы, функцыі і канструкцыі».

Захапляўся шэдэўрамі са шкла, са сталі і бетону ды са скрухаю ўсведамляў, што аніколі не пабачыць мне ўвачавідкі ні лонданскі Крышталь-палас Джозафа Пакстана, ні парыжскую вежу Густава Эйфеля, ні пенсільванскі дом над вадаспадам Франка Лойда Райта...

Але мінуліся дзесяцігоддзі, апусцілася «жалезная» заслона і пашчасціла пабываць у дзясятках бліжніх і дальніх краін, пабачыць і барселонскі храм Саграда Фамілія Антоніа Гаўдзі, і рымскі вакзал Тэрміні калектыва італьянскіх дойлідаў, і стакгольмскую гарадскую бібліятэку Эрыка Гунара Асплунда, і хельсінкскі Алімпійскі стадыён Тойва Янці і Вілха Рэвела.


*Сусветны гандлёвы цэнтр*

Натуральна, фігураваў у тым, перакладзеным з нямецкай мовы альбоме, у раздзеле, прысвечаным архітэктуры ЗША, і славуты Эмпайр-Стэйт-Білдынг (Empire State Building), убачыць які на свае вочы, а тым болей — падняцца на яго, калісь і не спадзяваўся! А таму калі дачка Алеся прапанавала на выбар тры адметныя хмарачосы, адразу і адназначна абраў яго.

Нацыянальны гістарычны помнік ЗША ў стылі ар-дэко, 103-павярховы хмарачос на нью-ёркскай Пятай авеню (Fifth Avenue), які лічыцца самым каларытным і знакамітым, доўгі час быў і самым высокім у свеце будынкам. Узведзены са сталі, алюмінію, граніту, бетону і абліцаваны вапняком, ён сягае вышыні 373,1 метра, а са шпілем — 443,2 метра!

Назву сваю атрымаў ён ад ужытковага наймення штата Нью-Ёрк як «імперскага», а таму перакласці яе можна было б як «Будынак імперскага штата». Асноўным праекціроўшчыкам хмарачоса быў дойлід Уільям Лэмб, а збудавалі яго ўсяго за 410 дзён у 1930—1931 гадах. Адкрыццё ягонае прыпала на часы «Вялікай дэпрэсіі», доўгі час многія офісы ў ім пуставалі, а праз тое меў ён і назву «Пусты-стэйт-білдынг» (Empty State Building). Цяпер у вежы каля тысячы офісаў на дваццаць адну тысячу супрацоўнікаў, што робіць будынак другім па колькасці офісных клеркаў пасля Пентагона (Pentagon) — штаб-кватэры Міністэрства абароны ЗША.

У будынку працуюць ажно 73 ліфты, хаця ахвотныя могуць адлічыць 1860 крокаў па лесвічных маршах, каб патрапіць на 102 паверх. Ледзь не кожны турыст у Нью-Ёрку лічыць за абавязак, не раўнуючы што той Кінг-Конг, падняцца на 80-ы, а потым і на 86-ы паверхі, дзе маюцца закрытая і адкрытая аглядныя пляцоўкі, з якіх можна палюбавацца не толькі на Манхэтан, на Гудзон і на Іст-Рывер, але і практычна на ўвесь мегаполіс.

Мне з Алесяю давялося прычэкваць сонечнага надвор'я, бо дажджлівым ці нават пахмурным днём уздымацца на хмарачос не мае сэнсу.

Хол вышынёю ў трыццаць метраў уздымаецца на тры паверхі, а на сямі пано ў ім адлюстраваныя легендарныя цуды свету. На восьмым «сціпла» фігуруе сам Эмпайр-Стэйт-Білдынг! На столі ліфта, які імчыць на 80-ы паверх, усталяваны кінаэкран, на якім падчас пад'ёму можна пабачыць усе этапы грандыёзнай будоўлі. Натуральна, хацелася займець на незашклёнай пляцоўцы 86-га паверха і агульны памятны фотаздымак. Яшчэ раз пераканаліся, што ахвотна і хораша здымаюць маладыя азіяты, можа, праз тое, што спрактыкаваныя, абазнаныя ў найноўшай электроннай тэхніцы ды розных гаджэтах.

«ESB» — гэта, аказалася, яшчэ і гіганцкая індустрыя: месцяцца там абсерваторыя, дызайн-студыі, шматлікія кавярні і сувенірныя крамы...

Зразумела, можна пабачыць знакаміты хмарачос амаль што з усіх пунктаў мегаполіса.

Вельмі выйгрышна выглядае ён вечарамі з рознымі па колерах падсветкамі ў гонар слаўных падзей. Да прыкладу, пурпурова-залатой, у колерах дома Віндзораў была падсветка падчас юбілеяў Яе Вялікасці Каралевы Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі Лізаветы ІІ. Жоўта-лімонны колер тэніснага мячыка дамінуе падчас найпрэстыжнага і найпапулярнага турніра «US Open». Чырвоны, белы і сіні колеры гараць, калі адбываецца хакейны матч з удзелам каманды «Нью-Ёрк Рэйнджарс» («New York Rangers»), а бэзавы колер асвятляе шпіль хмарачоса, калі праходзяць выпускныя вечарыны ў Нью-Ёркскім універсітэце.

## Лёгкія Манхэтана

Выхоўваўся я і ў дзіцячым кругласуткавым садку Беларускай чыгункі, які мясціўся пры Цэнтральным дзіцячым парку імя Максіма Горкага, а таму і найменне Цэнтрал-парк (Central Park) мне чымсьці роднае.

Гісторыя гэтага парка вядзецца ад 1853 года, калі ў штаце Нью-Ёрк прынялі закон выдзеліць зямлю ў цэнтры вострава Манхэтан, каб заснаваць першы амерыканскі ландшафтны парк, своеасаблівы аналаг парыжскага Булонскага лесу і лонданскага Гайд-парка. Праз пяць гадоў у конкурсе на лепшы праект перамаглі журналіст Фрэдэрык Олмстад (Frederick Law Olmsted) і англійскі архітэктар Калверт Вокс (Calvert Vaux).

З той пары «лёгкія Манхэтана», як, бывае, імянуюць парк, не раз мянялі сваё аблічча, даволі грунтоўна перабудоўваліся, зазнавалі цяжкія і лепшыя часы, але сёння гэты гіганцкі зялёны простакутнік з'яўляецца гонарам і адной з візітовак Нью-Ёрка. Размяшчаецца ён паміж 5-й і 8-й авеню, у межах 59-й і 110-й вуліц, мае ў даўжыню каля чатырох кіламетраў, а ўшыркі — каля васьмісот метраў. Плошча ягоная складае амаль што 340 гектараў. Гэта ў некалькі разоў менш за нью-ёркскі парк Пелем-Бей, што ў Бронксе, затое ў 12 разоў болей за парк майго дзяцінства!

Штогод прымае ён дзясяткі мільёнаў наведвальнікаў, якія прыходзяць на шпацыр або на фотасесіі самі ці цэлымі сем'ямі, пачытаць кнігі, газеты або агараць тэксты на сучасных гаджэтах, выгуляць сваіх улюбёнцаў, падзівіцца на экзатычныя дрэвы і хмызы, паслухаць птушыныя спевы або адпачыць актыўна на шматлікіх спартовых пляцоўках.

Маімі ўлюбёнымі сталіся покуль што тры мясціны, і дзве з іх можна назваць літаратурнымі.

Помнік Алісе (яе беларускія перакладчыкі часам імянуюць Алесяй) і іншым персанажам казачных аповесцей Льюіса Кэрала (Lewis Carroll) месціцца непадалёк ад Чарапашай сажалкі (Turtle Pond). Каб сфатаграфавацца пры гэтай шматфігурнай скульптурнай, адпаліраванай да бляску бронзавай кампазіцыі адпачыннікі, бывае, шыхтуюцца ў чарзе.

У цяністым закутку каля зноў жа бронзавага помніка Хансу Крысціяну Андэрсену (Hans Christian Andersen) — вялікі дацкі казачнік адпачывае на лаве з фаліянтам і задуменна пазірае на смелую і цікаўную качку. Дзеці і дарослыя ў пэўныя гадзіны могуць паслухаць там ягоныя творы праз адмысловую сістэму аўдыёабсталявання.

Трэцяя, «музычная» мясціна — сціплы і густоўны мемарыял Джона Ленана «Strawberry Fields», створаны з ініцыятывы і на сродкі ягонай жонкі Ёка Она ў 1985 годзе, размешчана непадалёк ад дома, у якім апошнімі гадамі жыў адзін з «бітлоў». (Ягоны забойца Марк Чапман быў, як гэта ні дзіўна, аматарам прыгожага пісьменства: зрабіўшы сваю чорную справу, ён сеў проста на тратуар і разгарнуў культавы раман «Лавец у жыце» Джэрома Дэйвіда Сэлінджара). На той алеі любяць збірацца музыкі, а граюць яны каля мазаічнага ронда «Imagine» проста на ходніку не толькі кампазіцыі легендарнай ліверп ульскай чацвёркі.

У Цэнтрал-парк, мабыць, можна прыходзіць бясконца, адкрываць для сябе ўсё новыя маршруты, дарожкі і сцяжыны, любавацца лебедзямі, качкамі і іншымі птушкамі, цешыцца тэрасе Бетасда, замку Бельведэр, эспланадзе Мол, сажалцы Харлем Мір або рукатворнаму ручаю Лох у паўночнай частцы зялёнага аазіса...

Зямля на Манхэтане несусветна дарагая, але анікому і ў голаў не йдзе пакваліцца хаця б на адзін гектар.

Пра гэта мімаволі думаецца, калі згадваеш, як увішныя і сквапныя чыноўнікі з Першамайскага райвыканкама нашай сталіцы нахрапіста праштурхоўваюць свае «інавацыі» — вядуць драпежніцкі наступ на парк Чалюскінцаў пры Дзіцячай чыгунцы, да бясконцасці «ўшчыльняюць» забудову «аздараўленчымі» і бізнэс-цэнтрамі з паркінгамі ў жылых кварталах, як паклалі яны вока і на мой двор, дрэвы ў якім яшчэ добра памятаюць Кандрата Крапіву, Алеся Адамовіча ды Генадзя Бураўкіна...

*17 траўня—5 чэрвеня 2018 года,*
*Мінск—Нью-Ёрк—Вашынгтон—Нью-Ёрк—Мінск*

**Здымкі Алесі Сіўчыкавай і з архіва аўтара.**



# Анатоль Сыс

**паэт. Аўтар кніг паэзіі: «Агмень», «Пан Лес», «Сыс», «Лён», «Alaiza», «Берагі майго юнацтва». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Гарошкаў на Гомельшчыне. Памёр у 2005 годзе.**

# Сем лістоў

***Да 60-годдзя Анатоля Сыса.***

Сем лістоў выдатнейшага беларускага паэта канца першага і пачатку другога тысячагоддзяў Анатоля Сыса ляжалі ў ягоных паперах у роднай хаце ў вёсцы Гарошкаў. Пяць з гэтых лістоў адносяцца да перыяду службы Анатоля Сыса ў войску (1983-84 г.г.). Анатоль Сыс служыў у 5-м пантонна-маставым палку Паўночнай групы войск у г. Венджыне. Два лісты і паштоўка — да 1990 і 1991 гадоў, калі паэт жыў у Менску. Лісты напісаныя па-беларуску, вайсковыя лісты — на наркамаўцы, два апошніх — на тарашкевіцы. Лісты пісаліся да родных, да маці, бацькі, брата і сясцёр. Яны напоўненыя цікавымі фактамі з вайсковага жыцця паэта. Лісты 90-х гадоў перадаюць тагачасную атмасферу татальнага эканамічнага крызісу ў Беларусі.

Толькі ў адным месцы ў лісце за 1991 г. Анатоль Сыс згадвае пра сваю творчасць: «пакрыху пішу, чытаю». Але менавіта на вайсковы перыяд прыходзіцца станаўленне Анатоля Сыса як паэта першай велічыні. Напісаная ў войску паэма «Алаіза», вершы «Мама, вышый мяне на падушцы сваёй», «Таварыш донар», іншыя «вайсковыя вершы, паказваюць, што ў творчасці паэта скончыўся перыяд юнацкага рамантызму і пачаўся новы перыяд пакутлівага асэнсавання трагізму беларускага свету.

Працэс творчасці цалкам захапляў паэта. У іншым лісце, які публікаваўся раней да А.Бяляцкага і Э.Акуліна ад 16.07.1983 г., Анатоль паведамляў: «Пішу я ў месяц тры-чатыры вершы. І толькі тады, калі мяне разрывае на кавалкі. Я кідаю ўсю службу і пішу, дзень, два, тры, магу тыдзень — у выніку гатова радкоў дзесяць. Яны мне здаюцца залатымі, але не маімі».

1990 і 1991 гады былі гадамі перыяду найвышэйшага паэтычнага ўзлёту паэта, а таксама гадамі грамадзянскай актыўнасці Анатоля Сыса. Ён з фурорам праводзіць паэтычныя вечарыны, прымеркаваныя да Дня свайго нараджэння ў 1989 і наступным 1990 гадах. Зала Дома літаратараў ледзь умяшчае ўсіх ахвочых слухачоў. У 1989 годзе, на 30-годдзе паэта, на літаратурнай вечарыне прысутнічае ягоная маці Марыя Іванаўна, якая была моцна ўражаная літаратурнай славай сына.

Ліст №3 напісаны ў гумарыстычным стылі, пералічваюцца мянушкі, прозвішчы, імёны аднавяскоўцаў і сяброў Анатоля, якіх ён вельмі любіў, пра якіх багата чаго ведаў і за жыццём якіх пільна і пачуццёва сачыў. Не дарэмна ж шмат гадоў Анатоль жыў палову часу ў Менску, а палову ў Гарошкаве, які ён любіў болей за Менск.

Спадзяюся, гэтыя лісты геніяльнага паэта Анатоля Сыса, зробяць карціну ягонага жыцця больш поўнай і зразумелай. Вялікая падзяка Тамары Ціханаўне Грыб (сястры Анатоля) за дапамогу ў падрыхтоўцы лістоў да друку.

**Алесь Бяляцкі.**

# I.

Добры дзень, мама[1], папа[2], Віця[3], Тамара[4]!

Атрымаў ад вас ліст і сёння ад Тамары віншаванне і выразку з газеты — і даю адказ.

Служба, калі можна так назваць, у мяне ідзе добра.

Справы ў нас хіляцца к вясне. Ноччу ўжо не холадна спаць, а сплю я пад дзвюма коўдрамі. У каго няма коўдры, той укрываецца шынялём. Снегу амаль няма.

Цераз якогасьці прапаршчыка Валя[5] і Коля[6] перадалі мне пасылку: кніжку, банку кансервіруваных сасісяк, многа канфет шакаладных, гадзіннік (самае галоўнае), ручку і прывітанне. Коля хутка паедзе на сесію на месяцаў, здаецца, тры. З ім збіраецца і Валя. Таму што тут абсалютна няма чаго рабіць. Курыца не пціца і Польша не заграніца.

Учора я ім напісаў пісьмо.

Мой рабочы дзень канчаецца. Пайду глядзець праграму «ЧАС». Сёння трэба падшыцца, а то зусім акабанеў, тыдні ўжо два не падшываўся. Мне засталося служыць 390 дзён. Адразу будуць пераводзіць мяне ў старыкі. Дадуць па жопе 18 раз рэмнем. Зато пасля гэтага я наогул нічога не буду рабіць, хаця і цяпер шланга даўлю. Раблю толькі сваю канкрэтную работу і займаюся сваімі справамі.

Прыйшоў ганарар 2 руб 90 кап. У «Чырвонай змене» за 3.02.83 быў мой вершык. Тамара, купі штук два часопісы «Маладосць» №1 1983 года. Там, мне напісалі з Мінску, надрукаваныя мае пародыі. Цікава якія?

Пачатак, відаць, ёсць.

Некалькі разоў друкаваўся ў газеце нашага округа. Ганарараў штосьці не чутна. Трэба кідаць пісаць у яе.

Ну, заканчваю. Як там здароўе ў бацькі?

Мама і Тамара, і Сняжанка[7](7)!

Віншую вас са святам 8-га Сакавіка! Жадаю здароўя, добрага настрою!

*(Ліст можна датаваць канцом лютага, пачаткам сакавіка 1983 г.)*

---

[1] Марыя Іванаўна (1923 — 2002).

[2] Ціхан Цярэнцьевіч (1915-1987).

[3] Віктар Сыс — родны брат Анатоля, 1955 г. н. Жыве ў г. Рэчыца.

[4] Тамара Грыб, родная сястра Анатоля, 1951 г.н. Жыве ў г. Рэчыца, глядзіць за радзіннай хатай Сысоў у в. Гарошкаў.

[5] Валянціна Алейнікава, родная сястра Анатоля, 1953 г.н. у гэты час разам з мужам, які служыў у савецкім войску, жылі ў Польшчы ў г. Ключаў (Старгард), дзе размяшчаўся савецкі аэрадром і вайсковая частка.

[6] Мікалай Іванавіч Алейнікаў, 1949 г.н., муж Валянціны.

[7] Сняжана Грыб (1974-1991 гг.), пляменніца Анатоля, дачка Тамары Грыб.



*У войску.*

## II.

Добры дзень папа, мама, Віця, Тамара!

Атрымаў ад вас ліст, адразу даю адказ. У мяне справы ідуць выдатна. Дасылаю вам фотаздымкі. Тут наш амаль увесь гаспадарчы ўзвод і наш прапаршчык, хахол, харошы дзядзька. А гэта на Дні часці я чытаю вершы.

Атрымаў ад Валі ліст. Піша, што можа ў пачатку кастрычніка прыедзе ў камандзіроўку ў Легніцу і зойдзе да мяне. Я ім ужо адпісаў. Перадала таксама разам з пасылкай (не памятаю ці пісаў я вам пра гэта) фотаздымак Сняжаны, Алесі[8] і Светы[9]. Алеська, як бабулька якая сядзіць, як баба Тацянка[10].

Засталося служыць сем месяцаў, зусім мала, куплю тут шорты, красоўкі і цэлае лета буду лынды біць, а восенню пайду на Брагідоў[11] настаўнікам, ці ў Пракісель[12].

Мне ўсё ж не верыцца, што не бяруць сюды заказных пісьмаў. Некаторым нашым шлюць цэлымі ахапкамі. Напрыклад, можна было б даслаць фотапаперы, я б тут фотаздымкаў нарабіў бы па самую дужку... Там у фотаапараце засталася плёнка. Яе трэба праявіць, калі не засвяцілі яшчэ. У шафе маёй не лазіць, кніжкі, відаць, ужо расцягнулі, замусолілі.

26 у мяне дзень нараджэння. А ў мяне няма нават грошай пачаставаць узвод. Вазьміце капіроўку, укладзіце хоць сіненькую ці зялёненькую[13], потым у звычайны ліст. І каля Пальмы[14] ўкіньце ў скрынку паштовую. Нашым даволі часта прыходзяць так.

---

[8] Алеся Алейнікава, пляменніца Анатоля, дачка сястры Валянціны.

[9] Святлана Алейнікава, пляменніца Анатоля, дачка сястры Валянціны.

[10] Баба Тацянка — суседка, жыла каля калодзежа, каля гарадзішча, насупраць хаты Сысоў. У яе хаце, звычайна, спыняліся археолагі падчас раскопак гарадзішча.

[11] Брагідоў — вёска ў Рэчыцкім раёне.

[12] Пракісель — вёска ў Рэчыцкім раёне.

[13] Сіненькая — колер купюры наміналам у 5 рублёў. Зялёненькая — колер купюры наміналам у 3 рублі.

[14] Пальма — мянушка аднавяскоўкі.

Калі Саша[15] (8) прыйдзе ў водпуск, дык скажыце яму, каб адпісаў мне. Я ў водпуск не прыйду, па-першае — не адпусцяць, а па-другое, я і сам не хачу, тут засталося ўсяго да паскі дажыць. Толькі лішнія клопаты будуць. Вы ж там і так ледзь на пенсію перабіваецеся. А машыну купляйце Віцю — «Жыгулі»! Мне ж яна і дарэмна не трэба. А пісаў я вам, што капіце мне грошы на машыну пішучую (каштуе яна рублёў 200).

Ну, пакуль!

Капайце бульбу!

*(ліст напісаны ў другой палове 1983 г.)*



*З мамай Марыяй.*

## III.

Дзень добры папа, мама, Валя, Света, Алеська!

Вось выбраўся напісаць. Зараз у клубе робім рамонт. Бібліятэку ўжо пабялілі. Масты[16] і вокны пафарбавалі. А дапамагаюць мне салдаты з каранціна, што прызваліся нядаўна, вясной. Усяго баяцца, ведама, толькі з печы пазлазілі. Першыя дні ад мяне шарахаліся, як ад генерала якога, хоць я іх амаль і не чапаў. Яны ў мяне паработаюць гадзінку, а потым культурны адпачынак: песні хорам спяваюць у некалькі галасоў, дэкламіруюць вершы і многае іншае. Асабліва ўсім падабаюцца танцы-манцы пад Алу Пугачову.

У нас цёпла, купацца можна, але няма дзе. Ёсць басейн, ды там ганяюць. Глафіра[17] спарылася, яшчэ цяпер у кальсонах ходзіць, дурная. З Глафірай вяся-

---

[15] Саша — Аляксандр Сыс, стрыечны брат Анатоля.

[16] Мост — падлога.

[17] Глафіра — выдуманы Анатолем Сысом вобраз дзяўчыны, якая часта ў ягоным уяўленні была разам з ім. Часта, як выслоўе Анатоль казаў з розных прычынаў: «Глафіра адпачывае!»

лей служыць, ведама, зямлячка, а як там бедны Коля[18] нашага свата, адзін будзе тры гады, на моры. Скажыце сватам, каб вуслалі яму клунак цыбулі і сырнік часнаку, а то цынга замучыць, як Мішу Каркадавага[19] калісь. Калі ў іх няма цыбулі і часнаку, то няхай купяць у Еўдакімчыкавай Каці[20], мы летась лазілі да яе ў клубніку, дык грады ад гэтага дабра аж распірала. Паўлік[21] жа таксама на моры, і яму вышліця ці цераз людзей перадайце, многа не трэба — хвунты два, а то ён усё роўна на віно памяняе. І што яны там работаюць? Ці блатуюць? І чорт іх ведае, а ўсё той Дзедзелеў ахвірыст[22] іх з панталыку збівае. Ета ж трэба на край свету заехалі, адных грошай на бялет паўкішэні трэба. Няхай усе іх бацькі і маткі збяруць грошай ды адправяць Любу Цугаковую[23] у разведку, можа там ужо дзе скруціліся. Як будзе ехаць у повязьдзі, то няхай грошы у калошу схавае і к назе прывяжа цюкавой аборкай на тры вузлы, а то будзе, як нам з Тамарай[24].

Напішыце ці была амністыя Пярдзілішанаму хлопцу[25].

Як там Тамарын Віця[26] з сябрам Пецькам на Байкале?

І Лісачын і Чарнашэяў[27] хлопец пайшлі ў армяю. І Моўшаў[28] з чужой маладзіцаю з'едзе да яе ў прымы ў Марымонавую Рудню[29].

У Гарошкаве, наверна, ужо кароў болей чым людзей: Шкрабчыха ды Чушчыха[30].

А калі Толік Маўшанок праўда ў прымы сабраўся, дык няхай сходзіць да Сюськавых хлопцаў[31], распытае іх, вопыту набярэццца.

У Рыбаковай Мальвіны[32] губа не дура — такую нявестку свайму лабідуду засватала! А ён як быў боўдзіла, так і застанецца. Вось пабачыце, на сваё вя-

---

[18] Мікалай Цыбульскі — брат жонкі Віктара Сыса.

[19] Міша Каркадаў — мянушка аднавяскоўца, вытворная ад імя ягонага бацькі — Аркадзь.

[20] Еўдакімчыкава Каця — жыла ў Гарошкаве, сяброўка сястры Валі.

[21] Павел Цыбульскі — яшчэ адзін брат жонкі Віктара Сыса.

[22] Анатоль ці Мікалай Дзедзелі — аднавяскоўцы.

[23] Люба Цугаковая — суседка, яе хата з левага боку ад хаты Сысоў.

[24] Тамара і Анатоль ехалі ў цягніку ў госці да сястры Валі, у Рыгу, дзе тады служыў яе муж Мікалай. Па ўспамінах Тамары, яна высыпала пад падушку манеты, каб не звінелі, укрылася спінжаком Анатоля, грошы ляжалі ў кішэні. Прачнулася раніцой — грошай няма. Скралі 45 рублёў, палову яе зарплаты. Грошы былі Анатолевы. Тамара моцна плакала.

[25] Мянушка аднавяскоўцаў.

[26] Віктар Грыб — муж Тамары, ездзіў на Байкал з сябрам на заробкі.

[27] Лісачыны, Чарнашэі — аднавяскоўцы.

[28] Моўшавы — мянушка суседзяў.

[29] Марымонава Рудня — вёска ў Гомельскім раёне.

[30] Шкрабчыха, Чушчыха — бабулі-аднавяскоўкі.

[31] Сюськавы хлопцы — мянушка суседскіх хлопцаў з абмежаванымі разумовымі здольнасцямі, якія, як згадвае Тамара Грыб, не ўмелі лічыць. Калі прасілі: Міша палічы цялят, той лічыў: белы, чорны, рабы.

[32] Рыбакова Мальвіна — суседка, нявестка бабы Тацянкі.

селле ў брачную ноч разам з хопцамі ці ў клубніку к Надзі Юравай[33] палезе, ці пойдзе калоды раскачуваць на Цыганаўку[34].

Ці выразалі Віцю залозу з вока?

Напішыце мне Анюцін і Свецін[35] адрасы.

Хто наняўся ганяць чэраду на пашу?

Як там пажывае Маня Цыпялёвая[36]?

У мяне ўшысткэ ў пажондку!

Да пабачэння.

## IV.

Добры дзень, папа, мама і Алеська!

Служба ў мяне ідзе нармальна. Амаль кожны дзень трывогі. Хаджу ў каравулы. Учора быў і якраз прыехала Валя, так што з ёй пабыў каля гадзіны. Яна перагаварыла з камандзірам палка і, наверна, Новы Год я буду сустракаць у Ключаве, за мной прыедзе Коля.

Зараз я ў ленінскім пакоі афармляю стэнд, а ўсе ў парку рыхтуюць машыны да маршу. Сёння — 22 снежня, да мяне пісьмы ідуць каля пяці дзён. Прыслаў ліст Саша, пытаецца ці заставацца на прапаршчыка. Я яму напішу, каб заставаўся на гады тры, тым больш у ГДР. Гэта не тое, што ў Польшчы.

Мне засталося 95, а час так марудна ідзе. Абрыдла гэтая армія аж спасу няма. Я б за золата ў ёй не застаўся.

На вучэнні паедзем у пачатку лютага на тыдні два.

Прыеду ад Валі, напішу больш.

Да пабачэння!

086675

П/п 86675-Ж

Сыс А.

*(ліст напісаны 22.12.1983 г.)*

## V.

Добры дзень, тата, мама, Алеська!

Урэшце выбраўся напісаць вам пісьмо. Умяне ўсё добра. Быў на Новы Год у Валі з 27 па 3. Добра адпачыў. Кватэра ў іх харошая, усё ёсць. Толькі няма куды выйсці. Побач гарадок Старгард, там няма нічога, каб паглядзець і купіць. Новы Год гулялі ў клубе. Я, як толькі прыехаў, то адразу пераапрануўся ў гражданку.

---

[33] Надзя Юрава — суседка.

[34] Цыганаўка — адзін з трох пасёлкаў, з якіх складаўся Гарошкаў. Яшчэ былі Баркі, у цэнтры вёскі — Сяло. Цыганаўка была бліжэй да вёскі Заспа.

[35] Анюта — цётка Анатоля, родная сястра маці, Света (стрыечная сястра, дачка Анюты. Яны жылі ў Бронным, Анюта з'ехала па вярбоўцы ў Северадзвінск.

[36] Маня Цыпялёвая — аднавяскоўка.

Сёння 10 студзеня. Першага лютага на месяц з паловай едзем на вучэнні «Дружба-84»[37], камандавацць будзе міністр абароны ПНР. Снега не было. Пазаўчора выпаў. Пісаць няма чаго. Служыць тут нудна, калі б не кніжкі і тэлевізар — здурнець можна.

Атрымаў ад Сашы пісьмо.

Вось і ўсё.

Да прыказа — 75!

086675

П/п 86675-Ж

*(ліст напісаны 10.01.1984 г.)*

## VI.

Ма, прывітанне!

Нарэшце вырашыў табе даць аб сабе вестку! Не пісаў таму, што няма пра што пісаць — усё па-старому. Працую, трохі пішу вершы. У 10-м нумары часопіса «Беларусь» надрукаваная мая нізка. Справіў у Доме літаратара дзень нараджэньня, як і тым годам. Раніцай, у пятніцу і днём у суботу глядзі па тэлевізіі «Літаратурную Беларусь».

Штось вырашаецца з кватэрай, але тое-сёе прасьветліцца сёньня днём 27 лістапада, а ні мэблі, ні тэлівізара, ні халадзільніка няма. Так што схадзі ў сельсавет і стань на чаргу.

Два разы быў у мяне Сяргей Заяц[38]. Мабыць Новы Год буду гуляць дома, у Гарошкаве.

Цэны растуць на вачах, таму закупляй зараз калі што вартае ёсьць. У Менску зьнікла ўсё на сьвеце.

Вышлі мне тэлефоны Валі і Тамары, бо я згубіў запісную кніжку з тэлефонамі і даўно ім не званіў.

Купіў зімовыя боты, хаця тыя яшчэ новыя — няхай будуць, а так на зіму і на восень у мяне ўсё ёсьць. Джынсы, што я купіў у Філіна[39] (2), зараз можна купіць за 250 рублёў, аддай яму грошы, бо ў мяне няма.

Прывітаньне Віцю, Тамары! Ну і пакуль!

*27.XI.90 г.* Анатоль.

---

[37] Вайсковыя вучэнні «Дружба-84» праводзіліся з удзелам савецкай арміі, войска польскага і арміі ГДР пад кіраўніцтвам генерала Эўгеніюша Мольчака. Вучэнні праходзілі з 21 лютага па 05 сакавіка 1984 г. у заходняй і паўночнай Польшчы. Падчас вучэнняў войскі фарсіравалі раку і жаўнерамі мусіў быць пабудаваны патонны мост.

[38] Сяргей Заяц — сябра Анатоля, аднавяскоўец, сусед.

[39] Філін — мянушка Івана Падгорнага, сябра Анатоля. Прапанаваў Анатолю з'ездзіць на Поўнач, па словах Тамары Грыб, для новых тэмаў у творчасці. Анатоль распавядаў ёй, што калі выйшлі з самалёта, ён пацягнуўся і ў яго ад марозу разышлася балоневая куртка. Захавалася гумарыстычная паштоўка А.Сыса да Міколы Сцепаненкі, дасланая з Цюменскай вобласці, станцыя Пантынг, не раней за 1990 г.: «Прывітаньне, Мікола! Пішу табе зь Сібіры. Насушы мне сухароў і знайдзі сала ды вышлі. Анатоль.»

## VII.

Добры дзень, мама, Тамара, Віця!

Вось вырашыў вам напісаць. У мяне ўсё добра. У кватэры пакуль не жыву[40], бо няма на чым спаць, але я ўжо знайшоў двухспальную раскладную канапу прама ў сваім доме, але забяру яе дзесьці праз паўмесяца, таму што гэты чалавек зараз у Маскве. Рамонт зроблены добра, шпалеры я купляў сам — усё выглядае вельмі прыгожа, толькі сантэхніку яшчэ трэба дарабіць.

26 у мяне дзень нараджэньня. Спраўляць, як тыя гады, ня буду, няма ахвоты, дый няма чым частаваць. Мабыць, Сяргей Заяц прыедзе.

Сёньня панядзелак. Па крыху пішу, чытаю. За суботу, нядзелю прачытаў чатыры дэтэктывы. У Менску няма зусім нічога купіць. Нават усё раптам зьнікла з гастраномаў.

Няхай Віця лядоўню перадасьць у Дом літаратара (Фрунзе 5). Можа Тамара аддасьць той тэлевізар. У мяне ёсьць тут майстры, трохі падробяць[41].

Ну пакуль!

*21.X.91 г. Менск.*

[40] Аднапакаёвую кватэру Анатоль атрымаў ад Саюза пісьменнікаў у Менску на вул. Чарвякова.

[41] Тэлевізар і лядоўня Віктарам і Тамарай былі перададзеныя Анатолю ў Менск.



# Тамара Аўсяннікава

паэтка, празаік, педагог. Аўтар кніг вершаў: «Ноты сэрца», «Лістапад гадоў», «Стромкая галінка», «Скрыжалі», кнігі прозы «Любачка». Кіраўнік літаратурнага клуба «Святліца». Нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Сяўкі на Лоеўшчыне. Жыве ў Магілёве.

# Планіда Сяргея Панізьніка

У 2019 годзе спаўняецца 60 гадоў літаратурнай дзейнасці беларускага пісьменніка Сяргея Панізьніка (псеўданім Папар). Нарадзіўся Сяргей Сцяпанавіч 10 траўня 1942 года ў вёсцы Бабышкі Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. У 1962 годзе скончыў Магілёўскую медыцынскую вучэльню (былая дарэвалюцыйная вучэльня павітухаў), у 1967 годзе — факультэт журналістыкі Львоўскай вышэйшай ваенна-палітычнай вучэльні. Працаваў у газетах «Голас Радзімы», «Вячэрні Мінск», рэдактарам на Дзяржтэлерадыё БССР, у выдавецтве «Юнацтва», у Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны, навуковым сакратаром Літаратурнага музея Янкі Купалы.

На рахунку пісьменніка больш дваццаці кніг: паэзія, пераклады, публіцыстыка. Акрамя таго, ён укладальнік некалькіх дзясяткаў кніг і зборнікаў. У перакладах Сяргея Панізьніка па-беларуску гучаць вершы замежных аўтараў. Яго творы перакладзены на англійскую, французскую, балгарскую, латышскую, чэшскую, польскую, рускую, украінскую мовы, а ў гэтым годзе і на сербскую. Да 60-годдзя творчай дзейнасці Сяргея Панізьніка ў Белградзе выдадзена кніга паэта «Вішні цвітуць» у перакладзе Даяны Лазарэвіч.

Многія вершы паэта пакладзены на музыку. А ў 2011 годзе выйшаў зборнік «Арэлі. Сяргей Панізьнік у вершах і песнях».

Пісьменнік узнагароджаны медалём Францішка Скарыны (1991), Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1990), Ордэнам Трох Зорак Латвійскай Рэспублікі (1998). Ён дыпламант Міжнарожнага літаратурнага конкурсу ЮНЭСКА «Сустрэча двух сусветаў» (1992), Ганаровы грамадзянін Асвеі (2003).

Калі мы называем імя Сяргея Панізьніка, то адразу ж усплывае імя Яўгеніі Янішчыц. Колькі гадоў прайшло, колькі ўсяго адбылося за гэты час! У Сяргея другая сям'я, а іх імёны застаюцца неразрыўнымі.

Яўгенія Янішчыц і Сяргей Панізьнік. Ці знойдзецца яшчэ пара ў літаратурным асяродку Беларусі, аб якой столькі гаварылася б, якая настолькі абрасла б міфамі і крыватолкамі? Наўрад.

Многіх цікавіць, паэты самі аб'ядналіся ў сямейны саюз, ці іх аб'ядналі, ці то быў Божы промысел. Людзі, як тыя сарокі, усюды свой нос усунуць. У таленавітых мастакоў такі ўжо лёс.

Знаёмства Сяргея і Жэні адбылося 28 ліпеня 1965 года. Праз шэсць гадоў яны ўзялі шлюб. Менш чым праз чатыры з паловай гады шлюб скасавалі. А ў сорак гадоў жыццё Жэні абарвалася. У свядомасці людзей замацавалася ўяўленне: Яе каханне да Яго было моцным, на ўсё жыццё. Пра Яго каханне да Яе мы нічога не ведаем. Яе лёс трагічны, і вінаваты Ён. У грамадстве ўтварылася два лагеры. Мы павінны помніць біблейскі запавет: «Не судзіце, да не судзімы будзеце».



На мой погляд, лёс Сяргея Панізьніка у нейкай ступені нагадвае лёс Мікалая Гумілёва. Як Гумілёў, так і Панізьнік аказаліся ў цяні сваіх знакамітых жонак, а як паэты — незаслужана на другім плане. Гумілёў і сёння застаецца мужам Ганны Ахматавай, а Панізьнік — Яўгеніі Янішчыц, што для творчага статусу аднаго і другога крыўдна, бо паэты і Гумілёў, і Панізьнік заслугоўваюць большага. Пры ўсёй трагічнасці жыцця Яўгеніі Янішчыц, творчы лёс яе — шчаслівы.

Сёння я хачу пагаварыць аб творчасці Сяргея Панізьніка, яго нядаўніх выданнях. У мяне на стале тры кнігі: «Гасцінцы з пуцявін-гасцінцаў» (2016), «Вы-

бранае : Паэзія за паўстагоддзе творчай працы» (2017) і «Аблiччы сустрэчаў» (2017). Кнігі прыстойныя, добра прадуманыя і афармленыя. Першую і другую — афармляў В. Катовіч, трэцюю — Я.Мальдзіс.

У кнізе **«Гасцінцы з пуцявін-гасцінцаў»** Сяргей Панізьнік бачыцца добрым паэтам. Паэтам, які разумее псіхалогію дзяцей рознага ўзросту, таму творы падаюцца па-рознаму, нават памер літар розны. Маю ўвагу прыцягнуў першы раздзел «Чароўныя чаравічкі» не толькі ў Веранічкі, а ва ўсіх дзетак-шкалятак». Ён разлічаны на самых маленькіх, таму лічу яго найбольш складаным для паэта. Адкрываюць кнігу і адпаведна першы раздзел «Андрэйкавы здарэнні». Андрэйка выступае ў якасці апавядальніка, які вядзе дзетак у чароўны свет паэзіі, каб ім было лягчэй у гэтым свеце пачувацца.

Кніга аздоблена малюнкамі ўнучак аўтара — Яны Янішчыц і Меланні Панізьнік. Дарагія сэрцу аўтара імёны сына, дачкі і ўнучак з'яўляюцца і ў вершах.

Паэт добра валодае словам, гукапісам. Кніга не прывязана да нейкага адпаведнага часу ці месца, каб страціць сваю актуальнасць. Яна можа многаму дзетак навучыць, таму што дае ўяўленне аб навакольным свеце, аб культуры і гісторыі Беларусі. Маленькі чытач знаёміцца з новымі словамі, з міфалогіяй — славянскай і грэчаскай.

Другая кніга **«Выбранае: Паэзія за паўстагоддзе творчай працы»**. Укладанне кнігі і прадмова Аксені Тарасевіч. Для афармлення вокладкі выкарыстаны малюнак мастака Юрася Герасіменкі-Жызнеўскага «Пан». Трэба мець добры мастацкі густ, каб з дзесяці паэтычных зборнікаў выбраць найбольш значнае і зрабіць кнігу цэласнай. І ў гэтым заслуга аўтара.

Выбранаму кожнага зборніка папярэднічае старонка, аздобленая дрэварытамі з Бібліі Францішка Скарыны, тут жа падаецца невялічкая прадмоўка, у якой тлумачыцца, пры якіх абставінах і калі быў напісаны зборнік. На наступнай старонцы — ад аднаго да трох выказванняў вядомых пісьменнікаў. Далей вершы.

Аб паэзіі Сяргея Панізьніка добра сказаў Анатоль Канапелька: «*Яго паэзія грунтуецца на фальклорнай аснове, нацыянальнай самабытнасці і еўрапейскай паэтычнай культуры. Такі сінтэз вядзе да плённых поспехаў у пошуках новай формы верша і робіць кожны твор паэта рухомым, дынамічным, наватарскім. А роднае беларускае слоўца прыгожа аздабляе яго сонечным святлом і непаўторнасцю».*

Сяргею Панізьніку падуладна Слова, з ім ён абыходзіцца пашанотна і ў той жа час разняволена. Добра знаёмыя нам словы, ён ператварае ў вобразы, прытым у вобразы адухоўленыя. Напрыклад, сінтаксічны знак шматкроп'е. Аўтар надзяляе яго адпаведнымі рысамі характару, паводзінамі. Верш цікавы з усіх бакоў: як з мастацкага, так і з тэхнічнага. Скарыстаўшы самы распаўсюджаны памер чатырохстопнага ямба, аўтар надаў яму сваё непаўторнае гучанне. Да слова шматкроп'е знайшоў складаную рыфму «кроў п'е»:

*Маўчыць крутлівае шматкроп'е:*
*з майго — як п'яўка — слова*
*кроў п'е.*

Верш астрафічны і ўспрымаецца цэласна. Яго і цытаваць трэба было б увесь. І такіх вершаў у Панізьніка многа.

Жыццё лірычнага героя прагне святла: «Падзяліць бы ўсё святло — / чарнаты каб не было...», «...Як звер, я ў чорны дзень угрызся. / Як Бог, урос я ў светлы дзень».

Планіда аўтара: «Пастэль красавіка — / на акварэлях траўня...» Фарбы няяркія, бо нарадзіўся аўтар «у разлом... сорак другога года», каб:

*...запомніць гнеў глыжоў*
*і рваць, дзе трэба, глотку,*
*бо ласка без шчыта —*
*краса без абароны...*
*Ў змаганні — правата:*
*не будзе лёс без кроны,*
*ён споўніць — да радка! —*
*што ўсім наканавана...*
*мой год — год рысака —*
*не будзе канавалам.*

Сяргей Панізьнік добра валодае тэхнікай верша, што дапамагае паэту кожны паэтычны твор зрабіць дасканалым, адметным. Змест і форма выступаюць як адзінае цэлае. Паэт клапоціцца аб архітэктоніцы верша, кампазіцыі. Карыстаючыся ў асноўным строфікай і відавочным запісам асобных слоў, літар Панізьнік дасягае сваёй мэты — чытач яго разумее.

Паэт у вершах шчыры, на здзелку з сумленнме не ідзе: «...а пісаць і прыгінацца не магу я, мой чытач». У кнізе «Выбранае» Сяргей Панізьнік выступае ў якасці і лірыка, і грамадзяніна, і змагара, і гісторыка, і фальклырыста, і проста бацькі. У вершы «Два промні», які пагладзены на музыку Міхалам Клейнэрам, паэт ускліквае:

*Што ёсць радней на гэтым свеце?*
*Мае дачушка і сынок.*

У вершы «Прымі...» паэт просіць каханую: «Прымі мяне такім, якім я сёння ёсць». Я думаю, што і мы павінны прыняць Сяргея Панізьніка такім, які ён ёсць.

У трэцюю кнігу **«Абліччы сустрэчаў»** увайшлі нататкі пра

пісьменнікаў, навукоўцаў і дзеячаў культуры, з якімі аўтар сустракаўся асабіста. І гэтыя сустрэчы цікавыя не толькі для аўтара, але і для чытача.

Адам Мальдзіс у артыкуле «Восем краін Сяргея Панізьніка», які завяршае кнігу «Абліччы сустрэчаў», называе восем абліччаў творцы: *«паэт, празаік, перакладчык, краязнавец, дабрадзей (заснаваны ім у Лявонпалі Музей радзімазнаўства ён падарыў Міёрскаму райаддзелу культуры), кінасцэнарыст,*

*песеннік і — пасол добрай волі сямі культур у Беларусі, а сваёй — у свеце».*

А стварыў Сяргея Панізьніка Львоў. Аб гэтым ён гаворыць у вершы «Мяне стварыў Альбоў». Так нашы продкі называлі ўкраінскі горад Львоў.

*...І не прыгнула булава*
*майго прызнальнага радка,*
*калі да Ратушы жыцця*
*вірлівы лёс масты паліў...*
*Нясу і ў непагадзь я сцяг*
*са словамі: «Мэ фэцыт Львіў».*



Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА

Сяргей Панізьнік, як і кожны творца, хоча паразумення: *«... лёс як плёс, на які і я сваё каменне данёс... Але галоўнае ў тым, што паэта твор — гэта яго твар, і трэба як у аблічча ўглядацца, узбагачаючыся іскрынкамі таленту. Тады і паразуменні між людзьмі паяўляюцца. А самае важнае — гэта прасвятленне, і будзем працаваць на новае пакаленне. Берагіня дапаможа!»*

Жадаю Сяргею Панізьніку здароўя, творчых набыткаў і добрых даследчыкаў, бо яго творчасць заслугоўвае ўвагі.



# Сяргей Чыгрын

паэт, гісторык, краязнавец, журналіст. Напісаў і выдаў дзясяткі гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых кніг. У тым ліку: «Слонімскія падмуркі», «Такі іх лёс», «Па слядах Купалы і Коласа», «Беларуская Беласточчына», «Хочацца дахаты», «Іншых шляхоў не было», «На радзіме Ігната Дварчаніна» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

# Браты Хлябцэвічы

## Яўген

Летам 1946 года ў Маскве, у доме № 6 па Срэценскаму бульвару раздаўся званок. У гэтым доме тады жыў вучоны сакратар бібліятэчнага інстытута Яўген Хлябцэвіч. У госці да яго з Мінска прыехаў гісторык, кандыдат сельскагаспадарчых навук Фёдар Дамінікоўскі (1905-1949). Той Фёдар Дамінікоўскі, які працаваў у Цэнтры хімічнай лабараторыі Беларускага НДІ сельскай і лясной гаспадаркі, а са жніўня 1943 года быў загадчыкам кафедры геалогіі і глебазнаўства БДУ, вучоным сакратаром савета ўніверсітэта, які даследваў гісторыю навукі і культуры Беларусі, з'яўляўся аўтарам больш як 200 артыкулаў біябібліяграфічнага слоўніка «Выдатныя дзеячы беларускай зямлі» (1945-1947 гадоў), (рукапіс захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі. — С.Ч.).

Яўген Хлябцэвіч шчыра сустрэў земляка. І Фёдар Дамінікоўскі папрасіў гаспадара падзяліцца ўспамінамі пра сустрэчы з дзеячамі беларускай культуры. Свае ўспаміны Яўген Хлябцэвіч пачаў так: «Вы хочаце пачуць расказ пра маю маладосць, пра нашу маладосць. То тады, калі я сустракаўся з Коласам, з Купалам, з Цёткай, нам было па 25-30 гадоў. Усё гэта тут у гэтых дакументах, на здымках і пісьмах. Маё дзяцінства прайшло ў канцы мінулага стагоддзя (маецца на ўвазе ў канцы XIX стагоддзя. — С.Ч.) у Жыровічах, што стаяць на беразе Шчары, недалёка ад Слоніма. І да нашых часоў захаваліся там помнікі беларускага дойліцтва. У духоўным вучылішчы мой бацька Іван Андрэевіч выкладаў арыфметыку і геаграфію. Але галоўным яго клопатам і заняткам была слынная Жыровіцкая бібліятэка. Там зберагаліся рукапісныя беларускія кнігі з адмысловымі ілюстрацыямі і летапісы. Бацька склаў падрабязны каталог, упарадкаваў і ашчадна захоўваў гэтыя скарбы. Дзе ж яны зараз знаходзяцца? Ці ўцалелі? Я падлеткам часта прыходзіў у бібліятэку і бачыў усё гэта на свае вочы. Бацька вельмі цікавіўся гісторыяй Беларусі, апантана даследаваў Жыровіцкія рукапісы. А яшчэ меў і літаратурны талент. У віленскіх часопісах друкаваў артыкулы і гістарычныя нарысы. Сям'я наша была вялікая, шэсць дзяцей. Лёс кожнага склаўся своеасабліва, але ўсіх паклікаў рэвалюцыйны час...».

Спачатку Яўген Хлябцэвіч распавёў Фёдару Дамінікоўскаму пра свайго меншага брата Уладзіміра Хлябцэвіча, які загінуў у лютым 1917 года ў Петраградзе ва ўзросце 22-х гадоў, калі ратаваў параненых людзей. Дарэчы, пасля Жыровічаў сям'я Хлябцэвічаў пераехала ў Кленікі на Беласточчыну. Пра Кленікі перад бежанствам у час Першай сусветнай вайны Уладзімір Хлябцэвіч напісаў артыкул, які быў надрукаваны, дзякуючы Віталю Скалабану і Дара-



*Яўген Хлябцэвіч. Партрэт мастака Анатоля Крывенкі, 1994 г.*

фею Фіёніку, у № 2 у 1995 годзе ў выданні «Bialoruskie Zeszyty Historyczne». 25 верасня 1915 года, пасля таго, як разам з маці і бацькам Уладзімір Хлябцэвіч падаўся з Кленікаў у бежанства, ён роднаму брату Яўгену пісаў: «Усе вёскі гарэлі пры непрысутнасці нашых людзей. Кнігі (10 скрыняў) закапаны ў вельмі надзейным месцы. Там тваё ўсё. Закапвалі я і Маліш. Твае рукапісы пра беларускіх пісьменнікаў і лісты іх тожа былі схаваныя там, у скрынях. Я ведаю дзе...» (Часопіс «Bialoruskie Zeczyty Historyczne», 1995 г., № 2(4). С. 135). Гэтыя скрыні ў вёсцы Кленікі на Беласточчыне шмат гадоў шукала настаўніца беларускай мовы і літаратуры мясцовай школы Марыя Базылюк (Марыйка — як яе ласкава называлі вяскоўцы і беларускія літаратары ў Польшчы). У гэтых скрынях захоўваецца невядомы літаратурны скарб Хлябцэвічаў. І Марыя Базылюк яго шукала, а таксама сама даследавала творчасць Яўгена Хлябцэвіча. Яна нават напісала, калі была студэнткай, магістарскую дысертацыю на тэму «Жыццё і дзейнасць Яўгена Хлябцэвіча на фоне перыяду «Нашай нівы», якая была апублікавана ў кнізе яе памяці «Марылька» (Беласток, 2011). Але так склаўся лёс, што гэтыя скрыні Марыі Базылюк знайсці не ўдалося. Яе зламала хвароба ў 1996 годзе ва ўзросце 38 гадоў.

Цікава, якія рукапісы Яўгена Хлябцэвіча ляжаць у тых скрынях? Пісьмы якіх пісьменнікаў захоўвае гэты скарб на Беласточчыне? Можа, там лісты ад Янкі Купалы, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Горкага? Ён шчыра з імі сябраваў, сустракаўся, перапісваўся. Цяпер цяжка сказаць, хто той скарб адшукае. І ці адшукаецца ён наогул. Усё ж прайшло з таго часу 104 гады.

Да сённяшніх дзён пад адну вокладку так і не сабрана, і не выдадзена спадчына Яўгена Хлябцэвіча. А напісана ім было вельмі шмат. У Коўне ў 1912 годзе выйшла з друку яго першая кніга «Бібліятэка і кааперацыя», дзе аўтар разгледзеў пытанні тэорыі і арганізацыі бібліятэчнай справы. У Пецярбургу свет пабачылі ягоныя працы «Адраджэнне беларускай народніцкай літаратуры» (1914), «Народніцкая паэзія беларусаў» (1917), у якіх малады беларускі крытык прааналізаваў вытокі і характар беларускага мастацкага слова, даў

высокую ацэнку творчым пошукам Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча. А ў маскоўскіх выдавецтвах з'явіліся яго кнігі «Масавы чытач і антырэлігійная прапаганда» (1928), «Масавы чытач і праца з кнігаю» (1936).

Яшчэ ў Пецярбургу Яўген Хлябцэвіч пасябраваў з Янкам Купалам. Песняр часта наведваў не толькі беларускія вечарынкі, але бываў і на розных рэпетыцыях. Ён удзельнічаў у рабоце беларускага студэнцкага навуковага гуртка, слухаў даклады пра Беларусь, часам чытаў свае вершы. Аднойчы Янка Купала перадаў Яўгену Хлябцэвічу верш «Прарок», прысвечаны гэтаму студэнцкаму гуртку.

Вельмі часта наш зямляк і Янка Купала гулялі па ўзбярэжжы Нявы, бывалі адзін у аднаго ў гасцях. Іх апошняя сустрэча адбылася ў 1930 годзе ў Маскве ў камуністычнай акадэміі, калі адзначаўся юбілей Купалы. Пасля трагічнай смерці народнага песняра, Яўген Хлябцэвіч быў адзін з першых, хто прыйшоў на дапамогу Уладзіславе Францаўне Луцэвіч у справе стварэння Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску. Ды і пры жыцці Янкі Купалы Яўген Хлябцэвіч рашуча выступаў у абарону песняра ад шматлікіх несправядлівых абвінавачванняў беларускай вульгарна-сацыялагічнай крытыкі 1930-х гадоў.

Пасля вайны ў беларускім друку з'явіліся ўспаміны Яўгена Хлябцэвіча пра беларускага песняра. Найперш, гэта артыкулы «Янка Купала ў Пецярбургу» («Беларусь», 1945 г., № 2), «Янка Купала на пецярбургскіх агульнаадукацыйных курсах А. С. Чарняева» («Беларусь», 1946 г., № 8), «Янка Купала і Пецярбургскі універсітэт» («Беларусь», 1947 г., № 9), «Пісьмо Янкі Купалы ў газету «Новая Русь» і ўдзел у ёй Л. М. Талстога» («Полымя», 1953 г., № 9) і іншыя.

У шчырых адносінах Яўген Хлябцэвіч быў і з Якубам Коласам. Пазнаёміўся ён з ім завочна тады, калі працаваў выкладчыкам бібліятэчнага тэхнікума ў Кіраве. Падчас Другой сусветнай вайны Яўген Хлябцэвіч выступаў з лекцыямі ў шпіталях сярод параненых. Воіны-беларусы прасілі пачытаць вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа на беларускай мове. Па дапамогу наш зямляк звярнуўся да Якуба Коласа. Народны паэт хутка адклікнуўся на просьбу Яўгена Хлябцэвіча. Яны сталі перапісвацца, і такое сяброўства працягвалася дзесяць гадоў.

Перапісваўся Яўген Хлябцэвіч і з Максімам Багдановічам. Як сцвярджаў даследчык творчасці Яўгена Хлябцэвіча Віталь Скалабан, «чатыры лісты Багдановіча да Хлябцэвіча захоўваліся напярэдадні вайны ў Акадэміі навук БССР. Мусіць, іх перадаў яшчэ ў 1920-я гады ў Інбелкульт сам адрасат Яўген Хлябцэвіч. Ці пакінуў ён копіі Багдановічавых лістоў у асабістым архіве? Адказаць на гэта пытанне пакуль цяжка...» (ЛіМ, 24 жніўня 1984 г.). А можа, копіі гэтых пісем, а таксама іншыя пісьмы Багдановіча да Хлябцэвіча ляжаць на дне тых 10 скрыняў, што закапаныя на беластоцкай зямлі?..

Яўген Хлябцэвіч нарадзіўся 6 жніўня 1884 года ў вёсцы Жыровічы Слонімскага павета. У 1897 годзе сям'я Хлябцэвічаў пераехала ў вёску Кленікі Бельскага павета, дзе Іван Хлябцэвіч стаў працаваць святаром. Тут ён арганізаваў некалькі пачатковых школ, быў загадчыкам бясплатнай народ-

най бібліятэкі. А ягоны сын Яўген Хлябцэвіч у 1900 годзе скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, а пасля Віленскую праваслаўную духоўную семінарыю. Жывучы ў Вільні, Яўген Хлябцэвіч пазнаёміўся з беларускай інтэлігенцыяй, актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальна-вызвольны рух. Падтрымліваў цесныя сувязі наш зямляк і з рэдакцыямі беларускіх газет «Наша доля» і «Наша ніва», дасылаў свае розныя допісы, многія з іх падпісваў псеўданімам Халімон з-пад пушчы. Найперш гэта былі інфармацыі на тэмы культуры і адукацыі. Вось што пісаў Халімон з-пад пушчы ў «Нашай ніве» 1 лютага 1908 года: «У вёсцы Кленікі Бельскага павета 12 студзеня быў тут сельскі сход аб бібліятэцы-чытальні імя Паўленкава. Сход шоў так, што стыд і сорам за яго ўсім мужыкам тутэйшым! І хто мог бы паверыць, што грамада сталых людзей паслухае аднаго п'янага мужыка? А гэта і зрабілася на сходзі, дзе слухалі аднаго п'янага мужыка, што даводзіў: «На што нам бібліятэка? Усе роўна кнігі не мае. Лепш куплю за 5 злотых псалтыр, дык будзе ў мяне назаўсягды!». Бібліятэка-чытальня ледзьве толькі пачала шырыць вакруг свой ясны сьвет, сеяці зерне дабра, праўды і навукі. І вось ужо людзі пачынаюць таптаць гэтую вялікую работу. Выходзіць, што гутарка п'янюгі нашым мужыкам з Клебаноў і Загадзя даражэй за дзетак, каторыя бяруць з бібліятэкі кніжкі. Зразумейце, людцы, што бібліятэка будзе для вас карысна, калі яе будзеце падтрымліваць. Цяпер усяго 500 кніжак, а трэба да іх парабіць акладкі, каб не растрэсліся і не парваліся. Вось жа і сам нябожчык Паўленкаў пакінуў пасля смерці ўсё дабро і кніжкі свае, каб даваць помач народным бібліятэкам, але з тым варункам, каб і самы мужыкі давалі крыху грошай на ўтрыманне бібліятэк. Паўленкаў дае кніг больш як на 100 рублёў, калі дадуць на бібліятэку 50 рублёў самы мужыкі».

У 1906 годзе Яўген Хлябцэвіч стаў студэнтам Юр'еўскага ўніверсітэта, а праз год перавёўся ў Пецярбургскі ўніверсітэт. Тут ён рэдагаваў «Кніжны і бібліятэчны лісток» пецярбургскай газеты «Новая Русь», дзе дапамог на яе старонках друкавацца Янку Купалу.

Будучы студэнтам, Яўген Хлябцэвіч выступаў на Першым Усерасійскім з'ездзе па бібліятэчнай справе з дакладам «Развіццё бібліятэчнай справы на Беларусі». А калі закончыў універсітэт, працаваў інструктарам Беларускага пададдзела аддзела асветы нацыянальных меншасцей Народнага камісарыята асветы РСФСР у Кіеве.

У 1919 годзе атрымаў новую пасаду — ён стаў узначальваць бібліятэчнае аддзяленне Палітычнага ўпраўлення Рэўваенсавета РСФСР, а пасля перайшоў у Народны камісарыят асветы.

З 1943 года Яўген Хлябцэвіч працаваў у Маскоўскім бібліятэчным інстытуце, шмат пісаў, абараніў кандыдацкую дысертацыю. У Маскве і пражыў ён свае апошнія гады: яго не стала ў кастрычніку 1953 года. Час прыспешвае выдаць асобнымі кнігамі працы Яўгена Хлябцэвіча па бібліятэказнаўстве, а таксама пакінутыя ім успаміны пра беларускіх пісьменнікаў і палітыкаў, якіх ён ведаў і з якімі сябраваў.

## Уладзімір



*Уладзімір Хлябцэвіч*

У Кленіках на Беласточчыне Хлябцэвічы пражылі 18 гадоў — да пачатку Першай сусветнай вайны, адкуль іх потым выгналі ў бежанства ў расійскі горад Сызрань. Дамоў Хлябцэвічы з Расіі ўжо ніколі не вярнуліся.

Побач з адукаваным бацькам Іванам Андрэевічам прайшло маленства і юнацтва самага малодшага сына Уладзіміра. Яўген Хлябцэвіч быў старэйшы за брата на 10 гадоў.

Валодзя спачатку вучыўся дома, а пасля ў гімназіі. У 1913 годзе ён скончыў гімназію. І Яўген параіў брату паступаць у Пецярбургскі ўніверсітэт. І Валодзя паступіў на фізіка-матэматычны факультэт. Там ва ўніверсітэце Яўген Хлябцэвіч знаёміць Валодзю з Браніславам Ігнатавічам Эпімах-Шыпілам. Першая сустрэча адбылася ў бібліятэцы, каля ўваходу ва ўніверсітэцкую бібліятэку, дзе Браніслаў Эпімах-Шыпіла выпісваў студэнтам чытацкія білеты. Але мала хто тады ведаў, што Браніслаў Іванавіч быў апекуном маладога Янкі Купалы, арганізатарам выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», кіраўнікам студэнцкага беларускага гуртка. Прафесар Эпімах-Шыпіла дапамагаў беларусам-студэнтам выбраць свой шлях, свой правільны шлях і абуджаў гэтых студэнтаў як беларусаў. Гэта былі незабыўныя сустрэчы і падзеі. З лёгкай рукі Браніслава Эпімах-Шыпілы Уладзімір Хлябцэвіч напісаў этнаграфічны нарыс пра сваю вёску Кленікі. Дарэчы, гэты нарыс на рускай мове друкаваўся ў выданні «Bialoruskie zeszyty historyczne» (1995, № 2(4). Ён так і называўся «Село Клєники перед беженством — во время мировой войны». А напісаўся ён аўтарам 17 верасня 1915 года.

Гэты нарыс некалі брат Валодзі Яўген Хлябцэвіч перапісаў сваёй рукой. Дзякуючы таму ён захаваўся да нашых дзён. І зберагаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.

Напачатку студзеня 1917 года Уладзімір прыехаў да бацькоў на калядныя вакацыі. А 15 студзеня зноў паехаў на вучобу ў Петраград (Пецярбург). Ды і вучыўся ўжо на 4 курсе.

У Расii ў гэты час пачынаецца Лютаўская рэвалюцыя. Не стаяў убаку ад яе і Уладзімір. На Васільеўскім востраве ў Петраградзе яшчэ грымелі выстралы. Туды на разведку быў накіраваны Уладзімір Хлябцэвіч, які дзяжурыў у Таўрычаскім палацы. Але хутка іх аўтамабіль трапіў пад абстрэл. Першай была паранена сястра міласэрнасці Алена Шуп. Хлябцэвіч хацеў ёй дапамагчы. Але кулямётная чарга смяротна параніла юнака.

Цела загінуўшага адвезлі да бацькоў у Сызрань. Яго пахавалі 19 сакавіка 1917 года ў «гарадскім садзе на Сімбірскай вуліцы» (цяпер Кузнецкі мост). На пахавіны прыйшлі каля 20 тысяч чалавек.

Пазней у Сызрані назавуць адну з вуліц імем Уладзіміра Хлябцэвіча, якая існуе і сёння. А на яго магіле ляжыць мемарыяльная пліта, якая даўно патрабуе аднаўлення.

Смерць малодшага сына Валодзі бацька Іван Андрэевіч Хлябцэвіч моцна перажываў. Ён пераехаў з горада ў вёску Абшараўка Самарскага павета Самарскай губерні Расіі. Стаў моцна хварэць. Але вёў вялікую перапіску з сябрамі і з землякамі-бежанцамі. Ён напісаў на рускай мове невялікую кніжачку (47 старонак) «Краткий биографический очерк студента В.И.Хлебцевича» і выдаў у Сызраньскай друкарні Журкіна пры фінансавай дапамозе свайго сябра Аляксея Ерамасава.

Іван Андрэевіч Хлябцэвіч пасля смерці сына Валодзі пражыў толькі два гады і памёр 25 ліпеня 1919 года ў Абшараўцы, дзе і пахаваны.

У Расійскім Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва ў Маскве (ф.539 і ф.1563) захоўваецца шмат дакументаў, звязаных і жыццём і дзейнасцю Уладзіміра Хлябцэвіча. Гэта найперш пісьмы Уладзіміра да сваіх бацькоў, братоў і сёстраў, невядомай спадарыні Вользе, пісьмы сваякоў Уладзіміра Хлябцэвіча невядомай асобе са зваротам «Верачка» ў сувязі са смерцю Уладзіміра, развітальнае пісьмо бацькі Івана Андрэевіча, пісьмо Алены Шуп (сястра міласэрнасці) Івану Андрэевічу Хлябцэвічу пра апошнія хвіліны жыцця Уладзіміра і іншыя. Ёсць у фондах і артыкулы, вершы Уладзіміра Хлябцэвіча. Захоўваюцца і тэлеграмы сваякоў і студэнтаў Петраградскага ўніверсітэта сям'і Уладзіміра Хлябцэвіча з паведамленнем пра яго смерць і са спачуваннямі. Ёсць у фондах архіва і ўспаміны Светавастокава пра Уладзіміра, артыкулы пра яго, выразкі з газет і малюнкі, бо Валодзя быў яшчэ добрым мастаком-партрэтыстам. На вялікі жаль, нікога пакуль з беларусаў гэтыя дакументы пра Уладзіміра Хлябцэвіча не зацікавілі. Ды калі і хто іх даследуе?.. На гэта пытанне сёння цяжка адказаць.



# Яна Будовіч

паэтка, крытык, парадыст. Аўтар кнігі паэзіі «Дуэль паглядаў» (2002 г.). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Дэпрэсняк як патрэба душы...

***Каліноўскі Янка. «Падслуханае сценамі шматпавярховак». Мінск, «Галіяфы», 2017.***

Бесперашкодная плынь асацыяцый па паўнаводнай рацэ свядомасці. Як звёны ланцужка, счэпленыя недакладнымі рыфмамі, адна асацыяцыя — працяг папярэдняй і, у сваю чаргу, цягне за сабой іншую. Прычым яны неверагодна нечаканыя, сувязь паміж імі непрадказальная. Вось гэта «незаезджанасць» ні вобразаў, ні рыфмаў, ні сродкаў выяўлення, а таксама свежасць, гранічная шчырасць, арыгінальнасць і робяць чытанне зборніка вершаў «Падслуханае сценамі шматпавярховак» (Мінск, «Галіяфы», 2017) хвалюючым, цікавым, запамінальным. Ператвараюць яго ў дзівоснае падарожжа ва ўласны свет:

*унутры няма надзеі*
*і ты адлятаеш на яе пошукі*
*кудысьці далёка*
*далёка назад*
*у тыя часы*
*калі спёка пачуццяў*
*яшчэ не спаліла ўнутраны сад*
*забіўшы ўсе кветкі*
*расліны*
*ўсе сэнсы*
*дэкадэнцтва*
*цяпер тваё ўлюбёнае слова*
*а раней было*
*радасць*

Аўтар, зусім юны паэт Янка Каліноўскі, увайшоў у літаратурны працэс як навальніца, адразу і ўсур'ёз: актыўна друкуецца ў перыядычных выданнях, перамагае ў літаратурных конкурсах, збірае публіку на яркія, змястоўныя выступы. І вершы пакідаюць уражанне, быццам глядзіш праз акно на вуліцу, дзе толькі што скончыўся дождж: свежая зеляніна лістоты, бліскучая ў мяккіх промнях сонца, якое грэе, а не выпальвае, блакіт нябёсаў цёплага сонечнага адцення. Магчыма, паэзія Янкі — як вяртанне да саміх сябе-ранейшых, калі ўсё адчувалася ўпершыню, з неадольнай падлеткавай прагай жыць, кахаць, пакутаваць, паміраць і ўваскрасаць... Прымаеш лірычнага героя як сябра, як alter ego. Радуешся цудоўным знаходкам, нечаканым сэнсавым адценням у знаёмым і штодзённым:

*...суцяшае, бадай, толькі тое*
*што пакуль ты губляеш веру*
*хтосьці*
*яе знаходзіць*

Кранае і захапляе тое, як перадаецца востры падлеткавы драматызм (якому ўнутры сябе самога здаецца, што ён безнадзейны, беспрасветны, непраглядны, а насамрэч дастаткова лёгкага знешняга ўздзеяння: промня сонца, краявіду з вясёлкай на даляглядзе, званка (паведамлення) ад сябра, запрашэння ў вандроўку, — каб яго змяніла бурная радасць і насалода жыццём) — праз гумар, у якім — парадаксальныя сэнсавыя спалучэнні:

*усе ведаюць*
*што памруць*
*усе танчаць*
*у прадчуванні*
<...>
*трэба з памяці сцерці гэтую ноч*
*каб заўтра зноў з асалодай памерці*
*у клюбе з назваю*
*«смак жыцця».*

Калі паспрабаваць уявіць аўтара вершаў, вымалёўваецца не хлопец ці дзяўчына, а падлетак без прыкмет гендару — сучасны хіпстар, апрануты ў джынсы, красоўкі і байку з капюшонам. З аднолькавай доляй верагоднасці гэта можа быць як доўгавалосы юнак, так і кароткастрыжаная старшакласніца. А вось пазнак душэўнага стану, найчасцей характэрнага менавіта для чалавека «складанага» пераходнага ўзросту, дастаткова: «атмасфэра / дэкадэнцтва спаду й болю / <...> істэрыя / безнадзейнага кёртыса...» «...сам сабе распавядаеш казку / пра гібель / сваіх мар», «...складу бессэнсоўны верш / пра адсутнасць настрою надзеі / і веры», «я сяджу ў пакоі / марна палю запалкі / гуляю ў абыякавасць / разрываю сябе на кавалкі / індыфэрэнтнасць — / стылёвае слова». І гэта канстатацыя выдатная фактам сваёй наяўнасці, бо лірычны герой, знаходзячыся ў палоне тугі і абыякавасці да жыцця, не проста смуткуе — дэпрэсуе — аддаецца адчаю і змрочным думкам аб бессэнсоўнасці, а скарыстоўвае гэты матэрыял, «цаглінкі» і «камяні», якія ўпалі долу, калі адбыўся чарговы акт разбурэння і смерці чагосьці надзейнага, звыклага, дарагога, для пабудовы новай «вежы» ці «палаца», стварэння ў чымсьці адноўленага, а ў чымсьці больш трывалага свету. А гэта магчыма, толькі калі ўзнімаешся панад старым, мінулым, тым, што абрушылася, але не пахавала пад руінамі, паралізаваўшы волю да жыцця, а пакінула досвед, загартоўку, дала «будаўнічы матэрыял» для новага... Менавіта стан дэпрэсіі найбольш спрыяльны для творчасці...

Дарэчы, узіраючыся ў сябе, даследуючы і вывучаючы ўласны ўнутраны свет, калі пры гэтым, канешне, на ўласным мікракосме не зацыклівацца, можна рабіць цудоўныя адкрыцці. Хоць усе мы (кожны — мікракосм з уласнымі ўнутранымі асаблівасцямі, праблемамі, цыкламі і законамі) розныя і ўнікальныя, але па аднолькавым законе рухаемся ў агульнай прасторы-макракосме:

*...побач ходзяць людзі*
*і кожны зь іх*
*плянэта*
*са сваёю фаўнай і флёрай*
*са сваёю марай*
*і сваім сонцам*
<...>
*у кожнай*
*ёсць выбітнае жыццё*
*якое жыве трывожна*
*змагаючыся за існаванне*
*дай сваёй плянэце шанец*
*каб увесь наш зямны сьвет ператварыўся*
*ў маленькую галяктыку*
*у якой нараджаецца танец*
*сямі мільярдаў*
*плянэт-людзей.*

Дзіця свайго часу — XXI стагоддзя, Янка Каліноўскі мае і ўсе яго характэрныя рысы: інстаграмнае і ў нейкай ступені хаатычнае мысленне, фрагментарнасць карціны свету, адсутнасць спробаў гарманізаваць і прывесці да ладу бязладнае, хаатычнае наваколле, наяўнасць імкнення (падсвядомага, канешне) наадварот, разгайдаць яго яшчэ больш: вось, маўляў, як я пакутую, глядзіце, як мне кепска і балюча!!! Але ёсць тое, што адразу падкупляе. Дакладней, няма таго, што ўжо неймаверна надакучыла на старонках друку: таннага пафасу і «красавання» перад чытачом як перад люстэркам. Пра якія б высокія матэрыі не ішла гаворка ў вершах Янкі, аўтар разважае не як дыктар савецкага радыё (вельмі многія сучасныя творцы, прычым не толькі тыя, каму за пяцьдзясят — шэсцьдзясят, але і маладыя, грашаць гэтым), а размаўляе з чытачом на роўных, як блізкі і зразумелы суразмоўца:

*паспрабавала*
*падабраць сынонім да слова*
*жыццё*
*якія б адмысловыя*
*думкі не прыходзілі ў галаву*
*галоўнае адкрыццё —*
*найлепшы сынонім*
*тваё імя.*

Можна мільён разоў клясціся ў каханні ці крычаць на ўвесь сусвет, б'ючы сябе ў грудзі: люблю-люблю-люблю!!!, а тут — пра каханне — без гучных слоў і плаксівых фраз, пераканаўча і шчыра. Але найбольш уражвае, як малады творца гаворыць пра Айчыну, — як пра частку ўласнага свету, як пра найвышэйшую каштоўнасць у сістэме каардынат існавання:

*сказалі «напішы пра Беларусь».*
*я не бяруся*
*адкрываць Амерыку...*
<...> *ужо апетыя раны,*
*што пакінула на нашым сэрцы*
*бязлітасная гісторыя.*
<...> *але каму патрэбна тая правільнасць,*
*тая змушаная выкшталцонасць,*
*калі ўся маёмасць*
*маёй краіны —*
*прабітае сэрца і Вольная Воля?!*
<...> *Божа,*
*калі ты ёсць,*
*захавай Беларушчыну.*

(верш надрукаваны ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» № 22 за 8 чэрвеня 2018).

Мяркую, што менавіта для захавання Беларушчыны Бог, калі Ён ёсць, і пасылае на нашу зямлю такія чыстыя, чулыя і таленавітыя душы. Яны прыходзяць нібыта зніадкуль і запальваюць уласным гарэннем іншых, і гэты працэс — непарыўны, вечны (пра што і сведчыць *бязлітасная гісторыя*), як сама Беларусь.




# Эдуард Дубянецкі

**паэт, эсэіст, крытык, гісторык, культуролаг. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар кніг паэзіі: «Душы маёй няскончаны палёт» (2011 г.) і «Покліч самотнага неба» (2013 г.), энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі, культуралогіі і беларусазнаўству, а таксама серыі навукова-папулярных выданняў пра асветнікаў Беларусі. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.**

# І словамі ствараючы сусвет...

***Сіўчанка Галіна. Зоў звычаю: Вершы. — Мінск: Медысонт, 2018. — 100 с.***

Бадай, з часоў антычнасці ў паэзіі вядомы своеасаблівы падзел на два галоўныя тыпы паэтаў. Калі першыя з іх спрабавалі ў празрыста-ясных вершаваных радках адлюстраваць найперш уласныя эмоцыі ды перажыванні, то другія, наадварот, імкнуліся як мага глыбей спасцінуць (Су)свет, у выніку чаго нярэдка «нараджаліся» вершы па-філасофску заглыбленыя, складаныя, а часам і наўпрост цьмяныя. Калі галоўнай стыхіяй першых было лірычнае пачуццё, і іх прынята называць лірыкамі, то ў другіх — філасофскае здумленне, і іх мы ўмоўна называем філосафамі ці метафізікамі. Таленавітых паэтаў абодвух тыпаў ва ўсе эпохі было нямала (хаця колькасна заўжды пераважалі лірыкі), аднак толькі самым геніяльным з іх удавалася больш-менш гарманічна спалучыць ва ўласнай творчасці абодва пачаткі — пачуццёвы і інтэлектуальны.

У сучасны перыяд у айчыннай паэзіі таксама ёсць яскравыя прадстаўнікі абодвух плыняў — лірычнай і метафізічнай. І да апошняй з іх, пакуль зусім нешматлікай, бясспрэчна належыць маладая паэтка Галіна Сіўчанка, якая летась выдала сваю дэбютную кнігу «Зоў звычаю». Гэтая кніга адразу звярнулася на сябе ўвагу часткі чытачоў іліткрытыкаў, і нават ужо атрымала адпаведную прэмію «Дэбют». Дык чым жа адметны гэты невялікі па аб'ёме паэтычны зборнік, у чым заключаюцца вартасці і недахопы змешчаных у іх васьмі дзясяткаў вершаў, размеркаваных па чатырох раздзелах з назвамі «Выспа», «Пярэспа», «Звычай» і «Галасы». Пры першым беглым знаёмстве з кнігай найперш кідаюцца ў вочы наступныя рэчы: — адсутнасць знакаў прыпынку ў трох раздзелах і іх наяўнасць у раздзеле «Звычай»; — астрафічная будова абсалютнай большасці вершаў (за выключэннем падзелу на строфы літаральна некалькіх вершаў); — вялікая колькасць аўтарскіх неалагізмаў — г.з новатвораў накшталт выспакой, выспаходня, паветраварот, прасамота, словажаць, імглебен, жыццяроўнядзь, часазлом, веляболь, судзяніца, слававір, сузор-гара і г.д.; — наяўнасць у многіх творах непасрэднага ці ўскоснага ўплыву (найперш у інтанацыях, рытміцы і будове сказаў) улюбёнага аўтаркай рускага паэта, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Іосіфа Бродскага.

У сувязі з апошнім фактам хочацца адразу сказаць, што Галіна Сіўчанка, спрабуючы пэўным чынам пераняць і творча развіць лепшыя бакі творчасці паэта-набеліста (роздумнасць, філасофская засяроджанасць, інтэлектуальная насычанасць, антыпафаснасць), усё ж такі не змагла пазбегнуць і некаторых відавочных хібаў ягонай вершатворчасці (шматслоўнасць, надзвычайная сінтаксічна-граматычная ўскладнёнасць, пэўная аднастайнасць і нават манатоннасць інтанацыі). Паказальна, што цэлы раздзел «Звычай» мае на ўвазе не нейкія беларускія звычаі, як магло б падацца на першы погляд, а ўяўляе

сабой спробу паэткі па-новамуператлумачыць/перастварыць вядомыя вершы Бродскага, аддаць даніну памяці ягонай неардынарнай асобе.

У якасці падобнай штучна-цьмянай вершатворчасці Г.Сіўчанка можна прывесці фрагмент з яе верша, створанага пад відавочным уздзеяннем Бродскага:

*У затоцы адбіўся скрыўлены час, што зьвёў нас.*
*Я пакінула голас ахвярай сталічнаму тлуму*
*і вярнулася ў задзьвярымную бессэнсоўнасць,*
*абцяжараная і адораная эргасумам.*

Аднак нягледзячы на вялікі ўплыў своеасаблівай «бродска-маніі» на многіх айчынных паэтаў маладога і сярэдняга пакаленняў, аўтарка ўсё ж актыўна шукае свой адметны паэтычны голас, свой непаўторны творчы шлях. І трэба аддаць належнае Галіне Сіўчанка, што ў многіх вершах ёй сапраўды ўдаецца намацаць сваю паэтычную сцяжыну і стварыць арыгінальны мастацкі прадукт. Гэта найлепш адчуваецца ў тых творах, дзе яна ў рэчышчы філасофска-арыентаванай паэзіі выходзіць на шлях пазнання Сусвету і самапазнання, у выніку чаго ўзнікаюць неардынарныя вершы накшталт наступнага:

*зямлю ўбірае ноч адценьнямі узвору*
*над рукавамі рэк плыве аброчны дым*
*і мысьль імкне праз час скараючы прастору*
*і боскае сьвятло здаецца нутраным*
*...............................*
*і зерне слоў маіх што мае дамалоцца*
*чакае вечны рух у жорнах залатых*

Аб метафізічным кірунку паэзіі Г.Сіўчанкаі яскрава сведчыць павышаная ўвага аўтаркі да фундаментальных філасофскіх праблем — прыроды і чалавека, Бога і д'ябла, жыцця і смерці, веры і бязвер'я, росквіту і заняпаду, часу і прасторы. Таму й невыпадкова, што ў многіх вершах сустракаюцца такія паказальныя словы і словазлучэнні, як быццё, сусвет, вечнасць, боскае святло, тысячавокія багі, вечны рух, скрозь надчассе, выспа небыцця, боскае люстра, вечны спакой і г.д. Акрамя таго, у яе вершах нярэдка заўважаецца спроба нейкім чароўным чынам спалучыць мінулае і будучыню, паколькі мінулае з'яўляецца жыццёва неабходным духоўным апірышчам паэткі, а будучыня — сферай рэалізацыі яе інтэлектуальных і духоўных памкненняў, здзяйснення раней задуманага і прамоўленага:

*калі я дыхаю ці размаўляю*
*заўжды ў мінулае хачу вярнуцца*
*ў глыбокае мінулае — на ўскраі*
*зь якога прагнуць змыслы разгарнуцца*
*............................................*
*заўжды крычу у будучыню нема*
*калі я дыхаю ці размаўляю*

Пры ўважлівым чытанні кнігі заўважаецца, што сучаснае жыццё-быццё нашу паэтку ў прынцыпе не задавальняе, бо яно не стварае ёй належных умоў для маральна-духоўнага і творчага самаразвіцця. Таму выглядае цалкам заканамерным яе больш ці менш прыхаванае жаданне некуды адсюль сысці, збегчы, сплыць дзеля таго, каб дакрануцца (хаця б у марах і думах) да нейкага нязведанага, але такога прыцягальнага іншабыцця. І зусім невыпадкова, што ўжо першы верш зборніка заканчваецца красамоўнымі словамі — «ціха ўцячы ў адгэтуліну быцця». А ў іншых вершах сустракаюцца, напрыклад, яшчэ і такія паказальныя ў дадзеным кантэксце радкі, як «я цягнуся да сьціпласьці сон-берагоў», альбо «паўночнай дарогай дайду надаўгод / да зморшчанай выдмы пярэспы». Замест сённяшняга недасканалага свету Галіна Сіўчанка нястомна імкнецца стварыць свой больш утульны і прывабны...слоўны сусвет:

*...мне ня высьніць спакой безь цябе*
*мне начэй ня выспаць*
*мне чуваць перасьпевы жыцьця ў маладым трысьці*
*гэта я спакушаю найлепшую ў сьвеце выспу*
*непаўторным сусьветам із слоў ува мне прарасьці*

Адным з галоўных матываў кнігі з'яўляецца няспынны рух-падарожжа, які найчасцей набывае, як ні дзіўна, форму плавання. Таму нярэдка аўтарка з замілаваннем згадвае як малую (рака, возера, балота), так і вялікую ваду (мора, акіян). Адметна, што гэтыя рэальныя або ўяўныя плаванні могуць мець не толькі гарызантальны (удалеч), але й вертыкальны кірунак (уверх). У сувязі з пільнай увагай Г.Сіўчанка да воднай стыхіі чытача ўжо не павінны асабліва здзіўляць радкі накшталт наступных: «мы да Бога хутчэй дабіраемся ўплаў»; «разарваўшы з полем супол я па ніці плыла да вусця»; «і ворахам дзікім тлее мысьль ува мне // пра тое, як сплыць у халодны сусьвет адной». Нездарма, відаць, і на вокладку кнігі змешчана выява нейкага возера (мора?) і выспы пасярод яго.

Бадай, галоўным недахопам паэтычнай творчасці Галіны Сіўчанка з'яўляецца, на мой погляд, празмерная сінтаксічна-стылявая, граматычная і лексічная ўскладнёнасць многіх вершаў, а таксама заўважная цьмянасць, няўцямнасць і (за)блытанасць некаторых з іх. Сапраўды, асобныя вершы вызначаюцца відавочнай «неканвенцыйнасцю» — г.зн. немагчымасцю іх разумення і адэкватнага вытлумачэння звычайным чытачом, бо застаецца невядомым, які сэнс укладвала ў канкрэтныя словы, фразы і вобразы сама аўтарка. Гэтая неканвенцыйнасць абумоўлена тым, што зборнік перанасычаны шматлікімі тэрмінамі з філасофіі і іншых гуманітарных навук, надзвычай рэдкімі і складанымі словамі й словазлучэннямі, вялікай колькасцю незвычайных неалагізмаў, а таксама ўтрымлівае мноства незразумелых большасці чытачоў алюзій, прамых ці прыхаваных цытат і дзіўных вобразаў, якія вельмі цяжка візуальна ўявіць. Іначай кажучы, вершы паэткі хутчэй за ўсё прызначаны для вузкага кола яе асабістых прыхільнікаў, сяброў і купкі айчынных інтэлектуалаў пераважна (пост)мадэрнісцкага кірунку.

Вось, скажам, толькі адзін тыповы для кнігі «Зоў звычаю» прыклад вышэйназванай (звыш)складанасці, якая, на мой погляд, мяжуе ледзь не з рознай няўцямнасцю, бессэнсоўнасцю і ў цэлым нагадвае нейкае дзіўнае трызненне (тут міжвольна прыгадваюцца словы Бэлы Ахмадулінай пра «высокую степень безумства»):

*ты вярнуўся сюды па сьлед безугасным бясьсьледзьдзем зморан*
*сьлед пад крокі слаў блаславеньні у глухім сухалеглым хрусьце*
*ты ня зраніў маўчаньне словам і ня выкляў спусьцелы сьцёран*
*разарваўшы з полем супол я па ніці плыла да вусьця*

Разумею, што падобныя адмоўныя рысы вершаў Г.Сіўчанка ў кагосьці, наадварот, могуць выклікаць (ды й выклікаюць!) ухвалу і нават захапленне. Звычайна такая спецыфічная «ура-рэакцыя» заўважаецца з боку, так бы мовіць, найбольш «прасунутых» айчынных пісьменнікаў-інтэлектуалаў, якім вельмі падабаюцца такія адмысловыя «гульні розуму». Мне ж як чытачу і рэцэнзенту вершы накшталт вышэйпрыведзенага падаюцца занадта штучнымі, адмыслова выробленымі (а не напісанымі ў час натхнення!), рацыянальна-халоднымі і цяжкімі для ўспрымання, непрыгожымі і прэтэнцыёзнымі, у якіх відавочна не хапае вольнага паэтычнага паветра і пры чытанні якіх ледзь не праз слова ты, так бы мовіць, спатыкаешся, і ў цябе пачынае заплятацца язык. І ўсё гэта з'яўляецца поўнай супрацьлегласцю аднаму з найлепшых, на маю думку, вызначэнняў сапраўднай паэзіі, якое больш чым паўтара стагоддзя таму назад даў выдатны амерыканскі паэт Эдгар Алан По. Ён у сваім эсэ «Паэтычны прынцып» слушна сцвярджаў, што паэзія — гэта «стварэнне прыгожага з дапамогай рытму», прычым адзіным яе суддзёй з'яўляецца густ.

Акрамя таго, у рэцэнзуемай кнізе сустракаецца нямала вершаў, у якіх відавочна парушаны вельмі важны для паэзіі прынцып т.зв. «эўфоніі» — мілагучнасці. Гэтую эўфонію парушаюць у першую чаргу непажаданы збег у слове ці ў словазлучэнні адразу некалькіх галосных (аднагалоссе, альбо шатус) і/ці некалькіх зычных гукаў. Любы паэт, які клапоціцца аб тым, як яго вершы будуць успрымаць чытачы і літкрытыкі, павінен рабіць усё магчымае, каб не дапускаць немілагучных выказванняў ці хаця б максімальна мінімізаваць іх. Але ж Галіна Сіўчанка ў сваёй дэбютнай кнізе дапусціла, на жаль, нямала такіх «праколаў», якія безумоўна пагоршылі мастацкую вартасць асобных вершаў. У якасці прыкладаў шатуса можна прывесці наступныя словазлучэнні, у якіх выкарыстоўваюцца запар па тры ці нават чатыры галосныя гукі: «на яе адраджэньне»; «не маё — / яе»; «ты — рэшата / я — абручык». А што датычыць зычных, то гэтыя гукі таксама часам «збягаюцца» ў даволі вялікай колькасці: «суўзьнясеньне»; «паўнаводзьдзем»; «безугасным бясьсьледзьдзем зморан»; «нязьменнасьць усіх зьмяненьняў»; «вечнасьць зьнявольваць». У цэлым, калі б такіх з'яў не было, то вершы аўтаркі загучалі б нашмат больш мілагучна, лёгка, натуральна і музычна/меладычна выразна. І тут міжволі прыходзіць думка аб тым, што, відаць, сучасная паэтка-мадэрністка ў свой час не звярнула ўвагі

ці проста забылася на наступныя красамоўныя словы адной з найлепшых беларускіх паэтэс Наталлі Арсенневай: «Наша ж мова — цудоўная, спеўная...».

І на заканчэнне не магу не сказаць яшчэ пра адзін даволі істотны непрыемны факт. Ён заключаецца ў тым, што ў зборніку адсутнічае...анатацыя, а гэта, на маю думку, проста недапушчальна для любой кнігі любога аўтара. Такая прыкрая сітуацыя сведчыць найперш пра відавочную недапрацоўку як самой аўтаркі, так і яе рэдактара (хаця апошняга ў кнізе таксама чамусьці не было!), карэктара і адказнага работніка выдавецтва. Акрамя таго, рэцэнзуемае выданне не мае ніякіх звестак пра аўтара, тады як апошнія заўжды з'яўляюцца дастаткова важнымі, паколькі дазваляюць уявіць жыццёвы шлях паэта і разам з тым лепш зразумець вытокі ягонай творчасці.

Тым не менш, нягледзячы на выяўленыя хібы і недахопы, як для паэта-дэбютанта кніга Галіны Сіўчанка ў цэлым атрымалася дастаткова арыгінальнай, змястоўнай і па-свойму цікавай. Яе выхад безумоўна надасць пэўны пазітыўны імпульс для далейшага развіцця беларускай інтэлектуальнай паэзіі і прывабіць у суполку айчынных паэтаў-метафізікаў новых захопленых творцаў. Аднак у той жа час відавочна, што наперадзе ў аўтаркі яшчэ шмат працы па паглыбленні і ўдасканаленні свайго паэтычнага мыслення/маўлення і па назапашванні жыццёвага і творчага вопыту, які б пазней дазволіў «выліцца» ў яскрава-прыцягальныя, нязмушана-натуральныя, мілагучныя і амаль бездакорныя вершаваныя радкі. І калі ж гэта, спадзяюся, урэшце адбудзецца, тады кола ўдзячных чытачоў паэткі заўважна пашырыцца, на яе звернуць больш пільную ўвагу аўтарытэтныя літаратурныя крытыкі, у выніку чаго яна ў перспектыве атрымае шанец заняць пачэснае месца ў першых шэрагах беларускіх паэтаў новай генерацыі.



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.

# Пасыльная з ніадкуль...

***Эспіноса А. Р. Колер крылаў: паэзія і проза. Мінск: Кнігазбор, 2019.***

На шматзорным небе беларускай паэзіі з'явілася яшчэ адно імя — маладой паэткі Анхелы Эспіносы Руіс. Не толькі, дарэчы, паэткі. Але тое, што беларускай — ніякіх сумненняў. Да таго ж яна сама — дзяўчына, як жа лепей сказаць, іспанскага паходжання — у гэтым неаднаразова прызнаецца на працягу новай, ужо высока (і справядліва!) ацэненай (прэміяй Міхася Стральцова, 2019) кнізе. Да прыкладу: «Бывае. Мяне пытаюць, як я стала беларускай літаратаркай. Не тое, каб штодня, але раз на тыдзень — пэўна. ...Я адказваю па-рознаму» (с. 203). Але, заўважым, як вынікае з кантэксту, заўсёды станоўча. Самаідэнтыфікацыя адназначная і непахісная.

А. Эспіноса, паводле яе асабістага адказу, «прыйшла з ніадкуль» — гэтак а(на)фарыстычна сцвярджаецца ў адным, даволі праграмным для яе творчасці вершы:

*Я прыйшла з ніадкуль — ні з таго, ні з сяго,*
*Цёплым брызам паўднёвага краю.*
*«Ты чыя?» — кажуць мне. Я прыйшла з ніадкуль,*
*І са слоў помню толькі «кахаю».*
*<...>*
*Я прыйшла з ніадкуль — толькі не выкідай,*
*Я магу і ў кішэню схавацца. («Я прыйшла з ніадкуль»,* с. 104—105)

Але ж, так і хочацца сказаць, прыйшла! *Дайшла да Беларусі!* Не даклыпала, як гэта робіцца ў дыскурсах, пра якія не будзем згадваць, каб не нанесці нікому шкоды.

Прычым па літаратурных здабытках (не такіх, да слова, і бедных для багдановічаўскага ўзросту) можна сканструяваць той шлях (гл. хаця б: вышэйназваны верш, а перадусім сабраныя ў адзін раздзел эсэістычна-публіцыстычныя калонкі, друкаваныя на працягу гадоў трох у «Маладосці», — «Арпеджыа душы, альбо Мой першы кантакт з Беларуссю» (с. 129—130), «Прыкметы, што ў вас расце маленькі дзівак» (с. 145—147), «Новая мова — новае жыццё» (с. 161—164) — і інш.). Некаму *мінскі напрамак* А. Эспіносы падасца даволі гладкім. Жыла-была сабе ў сонечнай краіне дзяўчынка. Неяк ёй адчулася, што яна самотная. Прыродная чуллівасць прысутнічала адпачаткова. Гэта ў суме спарадзіла паэтку (гл., напрыклад, с. 142—143).

Такая гісторыя звычайная. Таму збольшага зразумелая ўсім. Але ж! Калі мець на ўвазе, у **які** бок паэтка вырашыла *пайсці і не вярнуцца*, дык адразу яе сцежка ператвараецца ў *шлях-360*. Цярністы. Тым не менш іншага да астралу хіба няма.

Таму біяграфія А. Эспіносы, раскрытая ёй самой, мае бакі і тыповыя, і індывідуальныя — як сапраўдны твор мастацтва. На сваім прыкладзе яна рас-

кладае гэта па палічках. Так, у адным пасажы вылучае эвентуальна агульныя для многіх «прыкметы, што ў вас расце маленькі дзівак» (с. 145—146). Затое ў другім — асэнсоўвае асабістыя асаблівасці («Ідыёты», с. 148—151).

Прычым у раскрыцці абодвух бакоў паэтка гранічна шчырая — як у сваім жыцці. Месцамі такая адкрытасць даходзіць да мяжы эксгібіцыянізму. Але не дзеля яго як самамэты. Хутчэй таму, што ў свеце існуе шмат праблем. Некаторыя з іх слаба артыкулююцца. Напрыклад, распавядаецца наступнае: «...Я выбрала шлях адрозны ад мацярынства. Я заўжды ведала, што не жадаю мець сваіх дзяцей, і што стаць маці была б вельмі дрэнная думка ў маім выпадку (калі-небудзь магу распавесці, чаму)» (с. 166).

Аўтарка тлумачыць, што ў свой час «прыняла, напэўна, самае важнае рашэнне ў маім жыцці: пачала жыць без сораму» (с. 163). Тым не менш, як відаць у тым ліку з толькі што прыведзенай цытаты, А. Эспіноса не пераходзіць тую мяжу. Да таго ж мастак, які не спіць у творцы нават пры напісанні публіцыстычных тэкстаў, не дае збіцца на журналісцкую рыторыку.

Побач са шчырасцю як канцэптуальнай рысай асобы і творчасці А. Эспіносы знаходзіцца гуманізм — па магчымасці ўсеабдымны і глыбокі:

«...Трэба падысці да чалавека. Да сэрца. Да душы. Калі ты зразумееш, што чалавек перад табой, альбо за камп'ютарам, альбо недасяжна-далёка — адзіны, унікальны і варты павагі, усё іншае прыйдзе натуральна. <...>

*Кожны чалавек нараджаецца пад сваёй асаблівай зоркаю. Вы гэта ведаеце, дарагія чытачы. Сябры. Таму будзьце добрымі: не давайце светлай зорцы стаць цяжкім крыжам»* (с. 170).

Крыху наіўна, канечне. Тым не менш не пагадзіцца нельга. Да таго ж — успомніўшы тынянаўскі мэсыдж, паводле якога эмацыйны творца мае права на банальнасць.

Зрэшты, гуманізм А. Эспіносы лёгка звяраецца з чалавечалюбнымі гадзіннікамі сусветнай літаратуры. У дадзеным выпадку як не ўспомніць таго ж Курта Вонегута: «Привет, малыши. Добро пожаловать на нашу землю. Тут жарко летом, холодно зимой. Она круглая, влажная и многолюдная. Проживете вы на ней самое большее лет до ста. И я знаю только один закон, дети мои: НАДО БЫТЬ ДОБРЫМ, ЧЕРТ ПОДЕРИ!»

Увогуле відаць, асабліва па «калоначнай» прозе А. Эспіносы, што вучылася яна на лепшай сусветнай літаратуры. Што праўда, гэта не выстаўляецца, за выключэннем выпадкаў неабходных, і праходзіць па тэкстах рэмінісцэнтна. Хорхэ Луіс Борхес, Рэй Брэдберы, Фёдар Дастаеўскі ды іншыя адчуваюцца як настаўнікі. Улюбёнцам — Антуану дэ Сент-Экзюперы і Рабіндранату Тагору — прысвечаны асобныя калонкі. У той жа час прозвішчамі беларускіх аўтараў — ад Францішка Багушэвіча да Міхася Стральцова — нібы завяршаецца пазначэнне каардынат пісьменніцкага жыцця гэтай незвычайнай аўтаркі: «Толькі глыбока самотны чалавек можа напісаць «Былога донжуана». Толькі ў вельмі самотнага іншага чалавека можа пачацца нервовы крызіс пры чытанні

таго ж «Былога донжуана». Не ад таго, што Стральцоў экстрасэнс, які вандруе праз час і прастору і напісаў для яго гэты твор. А ад прасцейшага шоку: нехта разумее. Нехта іншы быў самотны» (с. 161).

Пашыраецца шэраг літаратурных настаўнікаў праз прадстаўленыя пераклады вершаў. Не будзе ж перакладчык па сваёй волі браць для перастварэння нелюбімых паэтаў? Геаграфічна яны адносяцца да розных бакоў / частак свету:

Еўропа (Федэрыка Гарсія Лорка, Луіс Сэрнуда — было б дзіўна, каб адсутнічалі іспанцы, хаця яны і не дамінуюць; Збігнеў Герберт, Ярамір Ногавіца),

Азія (Чыка Сагава, згаданы Р. Тагор і ўраджэнец Далёкага Усхода Святаслаў Логінаў),

абедзьве паловы Амерыкі (Пабла Неруда, Боб Дылан).

Але ёсць і тое, што перакладзеных і не толькі паэтаў аб'ядноўвае. Як бы гэта танчэй сфармуляваць? Можа, інтэлектуальны гуманізм? Ён — тоесны і агульны, як неба (кантаўскае, калі нехта не зразумеў), у самых розных паэтаў. Што ў Багдановіча, што ў Тагора. Ажно да пераклічкі ў матывах:

*О сябар мой,*
*У часу тонкай сетцы*
*Ў палоне я — ляцім, а месяц свеціць,*
*Дарогу асвятляе нам,*
*І час мне шэпча ў вуха, «не аддам»...* (с. 217)

Свайго роду адгалінаваннем гуманістычнага вектара творчасці А. Эспіносы з'яўляецца тэма кахання. Яна скразная для любога фармату аўтаркі. Канечне, найперш для лірыкі (пра яе пазней). Але важнае месца займае і ў празаічнай (?) публіцыстыцы. Тэма асэнсоўваецца як на сваім прыкладзе, так і на прыкладзе іншых людзей. Стасоўна сябе дазваляецца іронія (рыса, якая заўсёды падкрэслівае высокія здольнасці творцы і каталізуе сімпатыі чытача): «...Нядаўна кінула ў меру перспектыўнага жаніха, які мяне нават не біў» (с. 165). Спецыяльна працытавалі гэту фразу яшчэ з адной прычыны: адчуйце, наколькі па-беларуску іранізуецца!

А. Эспіноса не малюе аўтапартрэт адно ружовымі фарбамі. Яна раскрывае і неадназначнасць сваёй творчай натуры, яе супярэчлівыя бакі. Так, з аднаго боку, піша, што любіць «кнігі трохі мацней, чым людзей» (с. 165). З іншага боку, маем прызнанне: «З цягам часу я зразумела, што магу аддаваць сябе: абдымкі, пацалункі (нават гэтак! — А. Т.), добрыя словы ў цяжкі час. Я ўжо шосты год з'яўляюся донарам і здаю кроў рэгулярна. А няўжо не прыгожа думаць, што сэрца незнаёмца б'ецца тваёй крывёй?» (с. 191). Такі вось гуманізм, любоў, каханне. У тэорыі і на практыцы. Натуральна, і ў творчасці. Часцей гуманітарыі толькі ёю і абмяжоўваюцца. Як бы гэта не было прыкра.

Іншая справа, што другім бокам пісьменніцкага праяўлення шчырасці з'яўляецца так званы кіч. Любыя добрыя зацемкі, пункціры, запісы (ці то а ля Брыль, ці то А. Эспіноса) не могуць абысціся без моманту кічу. Без яго гэты

літаратурны жанр дэгуманізуецца інтэнсіўней, чым любы іншы. Галоўнае, каб кіч не дамінаваў і не выступаў «у авангардзе». Кажучы кундэраўскай алегорыяй, неабходна, каб сляза кічу не апераджала слязу «чыстага» гуманізму і міласэрнасці і была вынікам апошняй, але не прычынай. Паслухаем непасрэдна Мілана Кундэру (у перакладзе Ніны Шульгіной):

«В империи кича властвует диктатура сердца.

Чувство, которое порождает кич, должно быть, без сомнения, таким, чтобы его могло разделить великое множество. Кич поэтому не может строиться на необычной ситуации, он держится на основных образах, запечатленных в людской памяти: неблагодарная дочь, заброшенный отец, дети, бегущие по газону, преданная родина, воспоминание о первой любви.

Кич вызывает две слезы растроганности, набегающие одна за другой. Первая слеза говорит: Как это прекрасно — дети, бегущие по газону!

Вторая слеза говорит: Как это прекрасно умилиться вместе со всем человечеством при виде детей, бегущих по газону! Лишь эта вторая слеза делает кич кичем.

Братство всех людей на земле можно будет основать только на киче».

Ён і толькі ён — гуманізм — у аснове нешматлікіх апавяданняў аўтаркі. Іх у кнізе адно тры. Але яны дазваляюць зразумець, што і ў гэтым фармаце А. Эспіноса, як некалі казалі, працуе на высокім узроўні. У адрозненне ад яе калоначных твораў, якія месцамі грашаць шматслоўнасцю або паўторамі (дзеля надання стылю размоўнасці, таму не палічым гэта хібам), мастацкая проза падаецца выверанай і нават выпакутаванай ці як мінімум «выэмпатаванай». Вось праз адзін дзень раскрываецца свет абмежаванай у фізічных магчымасцях дзяўчыны (да болю рэалістычнае апавяданне «Шпацыр»). Вось фантасмагарычная навелка «Лісты з новага сусвету» — як метафарычны штрых з жыцця неардынарнай дзяўчыны, якая вырашаецца на сваю «нармалізацыю». Дарэчы, пасля знаёмства з калоначнай прозай (якая ідзе пасля апавяданняў) становіцца ясна, што прататыпам галоўнай гераіні ў «Лістах...» з'яўляецца сама аўтарка. Такім чынам яна асэнсоўвае: а што было б тады, калі б яна пазбавілася крылаў. NB пераклічка з назвай кнігі відавочная. Пры гэтым (аўтар ці гераіня?) прыходзіць да пэўнай высновы: «Адэля ўсміхнулася. Жыццё наладжвалася. «Вось яно — шчасце. Праўда ж?»» (с. 126). Аднак апошняе перапытванне ў форме сумневу ўказвае, што шчасце якраз не ў трывіяльных каштоўнасцях. Ці, калі казаць па-куляшоўску, «спакойнага шчасця не зычу нікому».

Калі ў названых двух апавяданнях адбываецца асэнсаванне індывідуальных лёсаў, дык у караценькім, двухстаронкавым «Піры» прапануецца формула, якую можна і варта (!) прымяняць фактычна да любой вайны, да любога чалавечазабойчага канфлікту. Праз жаночую прызму такія падзеі не з'яўляюцца правільнымі (пасля творчасці Святланы Алексіевіч — асабліва пасля яе — і гэта тэза не гучыць арыгінальна, але не менш востра). У той жа час палітыкі

іх ператвараюць у свята. І гэта яшчэ болей жахліва. Жаночая прырода абураецца, паўстае супраць пераможнага шабашу. Аднак гэты парыў жорстка перарываецца, прычым са згоды натоўпу. «...Вар'ятка. Людзям цяпер патрэбны спакой. Галоўнае — мы перамаглі. Вайны няма і не будзе» (с. 115), — гучыць як рэзюмэ ў заключэнне голас караля. Разам з тым становіцца зразумела, што ператварэнне трагедыі ў свята — гэта першы крок да яе паўтарэння. Таму і фабула гэтага твора паўтараецца (як у літаратуры, так і жыцці) з часоў Старажытнай Грэцыі, з гісторыі і культуры якой і ўзяты матэрыял для апавядання. Таму і вечна (?) быць актуальным антымілітарысцкім ідэям у выкананні прыгожай паловы чалавецтва (Нобель 2015 г. таму пэўнае пацверджанне).

Усё ж галоўнае пакліканне А. Эспіносы — паэтычнае. Вершы складаюць без малога палову аб'ёму кнігі. Гэта калі браць матэматычны разлік. У душы, думаецца-адчуваецца, прапорцыі лірыкі яшчэ большыя.

У новую кнігу ўвайшлі вершы як з папярэдніх зборнікаў (іх было ажно чатыры), так і новыя. Прасочваецца творчая эвалюцыя: з кожнага наступнага зборніка адбіралася твораў усё больш і больш. Аднак сам голас гучання не змяняе. Хіба толькі, што заканамерна, набывае ўпэўненасці. І голас гэты — еўрапейскі. Хоць і з (усходне)славянскім акцэнтам.

Тая еўрапейскасць ужо ў факце, што паэтычны фармат А. Эспіносы схіляецца да верлібраў. Асабліва так было на пачатку яе паэтычнага шляху:

*Каханку мой!*
*Твае рукі належаць будучыні,*
*А я належу тваім рукам.*
*Я адчуваю твае ласкі і адраджаюся*
*У табе. Ты — маё жыццё.*
*Твае рукі — мой першы кантакт са смерцю.* («Мой каханак», с. 8)

Канечне, прыналежнасць да (заходне)еўрапейскай школы можна давесці шляхам літаратуразнаўчага аналізу. Але — дастаткова і ўзроўню адчування, якое спараджаецца вершамі.

Пры ўсім пры гэтым беларускія матывы — дзе-нідзе ў адкрытую — прысутнічаюць рэгулярна. Яны зродненыя з паэткай — пачынаючы з «Бездапаможнасці» («На смерць Рыгора Барадуліна»). Тым не менш цікавей іх спатыкаць там, дзе яны не вытыркаюцца:

*Раней мы з табою над небам жылі,*
*Аблокаў не зналі з табою.*
*З касмічнае цемры сышлі мы, калі*
*Ударыў Пярун над зямлёю.*
(«Раней мы з табою над небам жылі...», с. 19)

У дадзеным вершы наяўнасць рытму і рыфмы — ужо некаторы паказчык усходнеславянскай паэзіі, якая па-ранейшаму цвёрда трымаецца гэтых элементаў паэтыкі. Плюс наяўнасць сярод матываў аўтэнтычнага язычніцкага бога. Але найбольш уразіла форма прыметніка «касмічнае», якая паводле лі-

таратурнай нормы мела б канчатак «-ай». Ужытая ж флексія захавалася або ў паэзіі, або ў дыялектнай мове. Значыць, А. Эспіноса сапраўды плавае ў натуральнай, а не скаванай абцугамі ўнармаванасці, моўнай стыхіі. Дарэчы, гэта не адзінае таму пацверджанне. На такой мове нават можна вучыцца.

У рыфмаваных вершах беларускі паэтычны акцэнт значна мацнейшы, выразнейшы. Напрыклад:

*Я табе падару свае крылы,*
*Я йду пешшу — ляці сам да неба,*
*І жыві без цяжараў, мой мілы,*
*Без цябе мне нічога не трэба.* («Бяскрылле», с. 96)

Разам з тым узнікае небяспека перайманця шаблонаў. Як у выпадку з рыфмай «неба — трэба». Увогуле рыфмы ў вершах кнігі даволі традыцыйныя, шмат бедных, аднародных і нават банальных (накшталт «зноў — любоў», с. 49, 106).

У той жа час менавіта праз тэхніку рымізацыі ўвідавочніваецца беларускамоўна-версіфікатарская эвалюцыя аўтаркі. Вось прыклады ўдалага спалучэння формы і зместу з апошніх двух паэтычных раздзелаў кнігі:

*Але я не памерла. Не памру,*
*Пакуль не дакранулася да зор:*
*Дацягваюцца крылы ўжо ўгару,*
*Высокі падхапіў мяне віхор.*
(«Тым, хто толькі цяпер пачаў дыхаць», с. 80)
*Пакуль чуваць гітары плач так горкі,*
*І не астынуць попел і любоў.*
*Пакуль шчэ ззяюць над зямлёю зоркі,*
*Вяртай дадому, be my homeward dove.*
(«Я існую? Хіба што напалову...», с. 107)

Зрэшты, нічога грэшнага ў тэхнічных агрэхах няма. Тым болей што яны не нівелююць аўтэнтычнага стылю аўтаркі. Думаецца, пра яго можна казаць на аснове разгледжанай кнігі. Стылю, у якім спалучаецца ўзвышаная сонечнасць і тэмпераментнасць з плаўнапявучасцю прыземленай беларускамоўнай стыхіі.

Гэтакі аксюмаронны сімбіёз, несумненна, не мог не сказацца на вобразнасці. Хаця б дзеля яе варта аматарам паэзіі ўзяць у рукі выданне. Недзе яна — з ухілам у пірынейскае пульсаванне, дзесьці — па-палеску вільготніцца. Параўнаем дзеля прыкладу суседнія вершы:

*Тваё голае імя*
*У рацэ*
*Маёй крыві*
*Плыве бясспынна:*
*Да кончыкаў пальцаў*
*І назад да паўмёртвага сэрца,*
*І дорыць мне жыццё.* (с. 100)

*Я буду коўдру ткаць шаршаткаю нядолі*
*Тваёй. Пад навальніцай прамокну я да ніткі,*
*Буду чакаць трывожна, як ільвіца ў няволі,*
*Дзіцячымі рукамі хачу надзею выткаць.* («Надзею выткаць». С. 101)

Паэзія А. Эспіносы мае шэраг устойлівых матываў. Гэта — таксама адзнака стылю. Неба і звязаныя з ім з'явы, элементы цялеснасці, розныя пачуцці... Здавалася б, *усё чалавечае*, што можа знайсці таксама ў многіх іншых аўтараў. Тым не менш з іншымі зблытаць было б цяжка, напрыклад, наступныя радкі:

*Ты мне яшчэ баліш, мая надзея:*
*І паміраць не застаецца сіл,*
*Няхай з табой мы толькі зорны пыл,*
*Ты мне яшчэ баліш, мая надзея.*
*Ты ёсць паўсюль, мой вечны небасхіл,*
*А сэрца плача, галава сівее,*
*Ты мне яшчэ баліш, мая надзея,*
*І паміраць не застаецца сіл.* («Тры трыялеты», с. 97)

У «Колеры крылаў» А. Эспіноса галоўным чынам гаворыць пра сябе, асэнсоўвае сваю індывідуальнасць. Але разам з тым яе лірычны аналіз будзе пасаваць многім:

*Я існую? Хіба што напалову,*
*Мяне так пазбягае цеплыня...*
*Я лёгкі подых паўшаптанай мовы,*
*Яна гучыць: астатняе — хлусня.*
(«Я існую? Хіба што напалову...», с. 107)

Таму лірыка гэтай паэткі можа разлічваць на ўпадабанне шырокага кола чытачоў.

Сярод шматлікіх прызнанняў таксама знаходзім наступнае: «...Маё імя, Анхела, мае значэнне «пасыльная». А я першая «Анхела» ў сям'і» (с. 141). Няма сумнення, што наша пасыльная з добрымі весткамі. Доказам таму — кніга, дзе, апроч усяго, змешчана просьба:

*Я ніхто, я нішто... Я прыйшла з ніадкуль.*
*Я прыйшла — ты дазволь мне застацца.*
(«Я прыйшла з ніадкуль», с.105)

Гэты зварот — кожнаму з нас. Але пры ўмове, што ён ужо там, куды толькі-толькі прыйшла з сонечнай краіны падарожніца, госця (гл. пачатак гэтай рэцэнзіі). Прыйшла, каб стаць с-падарожніцай, таварышкай (таму і зварот абраны ад першай асобы да *сардэчнага* ты). Які адказ атрымае(цца)? Не ў сэнсе станоўчасці / адмоўнасці, — наколькі ён будзе гучны і цвёрды. Гэта залежыць ад гаспадароў.

